Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**М.А. Даніловіч**

# ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

***Дапаможнік***
*па спецкурсах*
«Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны»,
«Праблемы беларускай дыялектнай фразеалогіі»;
*па курсе*
«Беларуская дыялекталогія»
для студэнтаў спецыяльнасці
1-21 05 01 – Беларуская філалогія

Гродна
ГрДУ імя Я.Купалы
2008

УДК 81'28:811.161.3(476.6)
ББК 81.411.3
Д18

Рэцэнзенты:
*Рагаўцоў В.І.,* загадчык кафедры беларускай мовы,
доктар філалагічных навук, прафесар
(Установа адукацыі «Магілёўскі дзяржаўны універсітэт
імя А.А.Куляшова»);

*Лепешаў І.Я.,* доктар філалагічных навук, прафесар.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта
ГрДУ імя Я. Купалы.

**Даніловіч, М. А.**

Д18 Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны : дапам. / М.А.Даніловіч. – Гродна: ГрДУ, 2008. – 227 с.
ISBN 978-985-515-093-1

Упершыню разглядаюцца формы, напрамкі і змест лінгвістычнага краязнаўства. Аналізуюцца дасягненні дзяржаўнага (навуковага) лінгвістычнага краязнаўства Гродзеншчыны. Прапануецца методыка арганізацыі лінгвакраязнаўчай працы ў школе. Змяшчаюцца заданні і практыкаванні, скіраваныя на сістэматызаванае вывучэнне рэгіянальных адметнасцей гаворак Гродзеншчыны. Адрасаваны студэнтам спецыяльнасці «Беларуская філалогія». Можа быць карысны навукоўцам, аспірантам, магістрантам, выкладчыкам, настаўнікам школ і ліцэяў.

**УДК 81'28:811.161.3(476.6)**
**ББК 81.411.3**



**ISBN 978-985-515-093-1**

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*Астр.* – Астравецкі раён
*Ашм.* – Ашмянскі раён
*Бераст.* – Бераставіцкі раён
*Ваўк.* – Ваўкавыскі раён
*Воран.* – Воранаўскі раён
*Ганц.* – Ганцавіцкі раён
*Гродз.* – Гродзенскі раён
*Дзятл.* – Дзятлаўскі раён
*Жыт.* – Жыткавіцкі раён
*Зэльв.* – Зэльвенскі раён
*Іўеў.* – Іўеўскі раён
*Карэл.* – Карэліцкі раён
*Лід.* – Лідскі раён
*Маст.* – Мастоўскі раён
*Навагр.* – Навагрудскі раён
*Петр.* – Петрыкаўскі раён
*Свісл.* – Свіслацкі раён
*Сл.* – Слонімскі раён
*Смарг.* – Смаргонскі раён
*Шчуч.* – Шчучынскі раён

# УСТУП

Беларускае краязнаўства мае даўнія традыцыі. У XIX ст. абудзілася незвычайная цікавасць да гісторыі, культуры, быту беларускага народа як з боку тутэйшых даследчыкаў, так і з боку інтэлігенцыі Расіі і Польшчы. Была разгорнута маштабная збіральніцкая дзейнасць, у выніку якой сабраны шматлікі рэгіянальны матэрыял, апублікавана мноства фактаграфічных прац і навуковых апісанняў.

Асабліва плённа беларускае краязнаўства развівалася ў пачатку XX ст. пасля бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 г., што абумоўлена нацыянальным уздымам, выкліканым утварэннем БССР. Яно было досыць арганізаваным і ўсяляк падтрымлівалася дзяржаўнымі структурамі. У лістападзе 1924 г. адбылася I Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, у 1926 г. – I Усебеларускі краязнаўчы з'езд, у 1927 г. – II з'езд краязнаўцаў Беларусі, у 1929 г. – II Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя. Да пачатку 1930 г. у тагачаснай БССР (яна была тэрытарыяльна значна меншай за сучасную Беларусь, бо заходняя частка ўваходзіла ў склад Польшчы) налічваліся 333 краязнаўчыя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі 10500 членаў [25, с. 24]. З 1925 г. выходзіў спецыяльны краязнаўчы часопіс «Наш край». Праводзілася інтэнсіўная праца ў розных галінах краязнаўства, у тым ліку і лінгвістычнага. Так, да пачатку 1927 г. у Цэнтральнае бюро краязнаўства БССР было даслана з розных мясцін 87230 картак з дыялектнымі словамі, 9632 фальклорныя запісы і інш.

Аднак у пачатку 30-х гадоў краязнаўчая справа была рэзка абмежавана. Тагачасныя прадстаўнікі дзяржаўнай камуністычнай наменклатуры ўбачылі, што масавае і ўсебаковае вывучэнне роднага краю тоіць у сабе сур'ёзную небяспеку афіцыйнай ідэалогіі, бо, насуперак ёй, раскрывае вочы на сапраўдную гісторыю, выхоўвае пашану да сваёй малой радзімы, пачуццё ўласнай годнасці.

У канцы студзеня 1930 г. адбылася III Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, на якой была абвешчана пераарыентацыя краязнаўчага руху. У рашэннях канферэнцыі адзначалася: «Краязнаўчая праца толькі тады будзе карыснай, калі яна будзе дапамагаць сацыялістычнаму будаўніцтву найбольш поўна абслугоўваць патрабаванні нашага часу» [43, с. 3]. Заклікалася мабілізаваць краязнаўчыя арганізацыі вакол канкрэтных задач партыі: выканання прамфінплана, разгортвання спаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізацыі вытворчасці, абмену практыкай, вынаходніцтва, політэхнізацыі школы і г. д.

Рабіліся актыўныя дзеянні па згортванні краязнаўчага руху. Так, з лістапада 1930 г. часопіс «Наш край» стаў выходзіць пад назвай «Савецкая краіна», а ў 1933 г. наогул перастаў выдавацца. Было распушчана Цэнтральнае бюро краязнаўства, кіраўніцтва краязнаўчай працай узяў на сябе Народны камісарыят асветы. Народны камісарыят асветы СССР выдаў дырэктыўнае пісьмо «Аб пастаноўцы і арганізацыі краязнаўчай працы» ад 25 красавіка 1938 г., у якім гаварылася, што няма ніякай неабходнасці ствараць спецыяльныя і асобныя краязнаўчыя арганізацыі, што ўсю краязнаўчую працу дастаткова праводзіць пад навукова-метадычным кіраўніцтвам мясцовых краязнаўчых музеяў [24, с. 14].

Аматарскае краязнаўства «заглохла» цалкам, захавалася ў асноўным дзяржаўнае краязнаўства, але развівалася яно аднабакова. Заахвочвалася праца ваенна-патрыятычнага характару, прычым дазвалялася вывучаць нядаўнюю гісторыю: факты апошніх войнаў, рэвалюцый, партыйных з'ездаў, а таксама жыццё і дзейнасць партыйных і савецкіх работнікаў. Такія раздзелы краязнаўства, як гістарычнае, літаратурнае, фальклорнае, этнаграфічнае і пад., развіваліся нераўнамерна, у залежнасці ад таго, у якой ступені яны адпавядаюць афіцыйным палітычным устаноўкам. Лінгвістычнае краязнаўства не прапагандавалася наогул: па сваёй сутнасці яно супярэчыла бальшавіцкім планам, паводле якіх беларускай і іншым нацыянальным мовам (акрамя рускай) было запланавана знікнуць. Нават сам тэрмін «лінгвістычнае краязнаўства» ў тагачасных даведніках адшукаць немагчыма.

Яшчэ горшыя ўмовы для свайго развіцця мела тады краязнаўства Гродзеншчыны. Афіцыйныя колы Польшчы, у складзе якой знаходзілася Заходняя Беларусь, не былі зацікаўлены ў разгортванні краязнаўчай працы. Актыўна праводзілася паланізацыя краю. У такіх умовах асноўныя сілы заходнебеларускай інтэлігенцыі былі задзейнічаны ў нацыянальна-вызваленчым руху.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны назіралася значнае ажыўленне краязнаўчага руху. Асаблівае месца адводзілася школьнаму краязнаўству. Выкарыстоўваліся разнастайныя формы і метады краязнаўчай працы ў школе, скіраваныя перш за ўсё на ваенна-патрыятычнае выхаванне вучняў.

Разгарнулася вывучэнне беларускіх гаворак. Інтэнсіўнае абследаванне іх праводзілася ў канцы 40-х і ў 50-я гады ў сувязі са стварэннем дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Збіраннем фактычнага матэрыялу для атласа былі ахоплены вучоныя, выкладчыкі ВНУ, студэнты, настаўнікі і інш. больш чым у 1200 населеных пунктах Беларусі. Развіццю лінгвістычнага краязнаўства

спрыяла і тое, што ў 1952 г. быў адноўлены Інстытут мовазнаўства АН БССР, у межах якога створаны сектар дыялекталогіі. Ён стаў ініцыятарам і каардынатарам навуковай дыялекталагічнай працы ў Беларусі і яе рэгіёнах. Гэтую функцыю ён (цяпер Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы) выконвае і сёння.

За апошняе паўстагоддзе лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны атрымала значныя набыткі. Сабрана шмат фактаў дыялектнай мовы. Наспела неабходнасць іх абагульнення і сістэмнага асэнсавання.

*Лінгвістычнае краязнаўства* – раздзел агульнага краязнаўства, у задачу якога ўваходзіць вывучэнне на навуковай аснове моўных фактаў пэўнага рэгіёна (вёскі, сельсавета, раёна, вобласці і г.д.), як правіла, прадстаўнікамі гэтага рэгіёна.

Паводле форм правядзення лінгвістычнае краязнаўства падзяляецца на дзяржаўнае (навуковае), грамадскае (аматарскае) і школьнае.

*Дзяржаўнае* краязнаўства ажыццяўляецца спецыялістамі дзяржаўных устаноў: вучонымі навукова-даследчых інстытутаў, выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў, супрацоўнікамі архіваў, бібліятэк, музеяў і інш. Вывучэнне гаворак у гэтым выпадку ажыццяўляецца на прафесійнай аснове, з’яўляецца працоўным абавязкам даследчыкаў.

*Грамадскае* краязнаўства знаходзіць сваё ўвасабленне ў дзейнасці мясцовага насельніцтва: краязнаўцаў-аматараў, членаў аматарскіх клубаў і аб’яднанняў, прадстаўнікоў народных музеяў і г.д. Краязнаўства для іх не з’яўляецца прафесійнай неабходнасцю, а выступае як захапленне, занятак па інтарэсах у вольны ад работы час.

Спецыфіка *школьнага* краязнаўства ў тым, што яно скіравана на вывучэнне роднай гаворкі сіламі вучняў і настаўнікаў. Мэта яго пераважна адукацыйна-выхаваўчая. Сабраны вучнямі моўны матэрыял выкарыстоўваецца на ўроках і ў пазакласнай працы па мове.

Вылучэнне трох форм лінгвістычнага краязнаўства ў пэўнай ступені ўмоўнае і адноснае, таму што ўсе яны маюць аднолькавую мэту – вывучэнне народных гаворак.

Напрамкі лінгвакраязнаўчай дзейнасці самыя розныя. Найбольш пашыраныя сярод іх наступныя: 1) збіранне і апісанне дыялектнай лексікі і фразеалогіі; 2) збіранне і апісанне анамастычных назваў, у першую чаргу тапонімаў і антрапонімаў; 3) вывучэнне фанетычных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцей гаворкі; 4) вывучэнне біяграфіі і творчай спадчыны знакамітых землякоў-мовазнаўцаў, збіральнікаў моўных скарбаў, якія займаліся даследаваннем мясцовых гаворак.

У сферу краязнаўства могуць уваходзіць і такія пытанні, як вывучэнне моўных фактаў у гістарычным аспекце, этымалагічны аналіз слоў і фразеалагізмаў, лексічныя і фразеалагічныя запазычанні, міжмоўныя кантакты, сацыялінгвістычная характарыстыка гаворак і інш.

«Лінгвістычнае краязнаўства Гродзеншчыны» – дапаможнік па аднайменным спецкурсе, які з'яўляецца дадатковай дысцыплінай да асноўных мовазнаўчых курсаў, у першую чаргу да курса «Беларуская дыялекталогія». Неабходнасць яго дыктуецца патрэбамі агульналінгвістычнай падрыхтоўкі спецыяліста-філолага і падрыхтоўкі настаўніка беларускай мовы для пэўнага рэгіёна.

Выкладанне спецкурса садзейнічае больш глыбокаму засваенню навуковых ведаў пра такую першасную форму нацыянальнай мовы, як дыялектная, і тым самым спрыяе вывучэнню сучаснай літаратурнай мовы і яе гісторыі. З другога боку, ён мае непасрэдную практычную накіраванасць. Многія выпускнікі-філолагі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта размяркоўваюцца працаваць настаўнікамі ў сельскую мясцовасць Гродзенскай вобласці, дзе пануе мясцовы дыялект. Веданне сістэмы гаворак садзейнічае павышэнню прафесійнай падрыхтоўкі настаўніка, што адпаведным чынам адбіваецца і на якасці навучальна-выхаваўчай працы ў школе. Дапаможнік арыентуе студэнтаў на засваенне сутнасці лінгвістычнага краязнаўства, яго асноўных формаў і напрамкаў. Ён змяшчае кола пытанняў пра дасягненні і набыткі дзяржаўнага (навуковага) лінгвістычнага краязнаўства Гродзеншчыны, а таксама пра методыку правядзення школьнага лінгвістычнага краязнаўства.

Дапаможнік можна таксама выкарыстаць ў спецкурсе «Праблемы беларускай дыялектнай фразеалогіі» і на занятках па курсе «Беларуская дыялекталогія» пры вывучэнні такіх пытанняў, як лексіка і фразеалогія дыялектнай мовы, асаблівасці паўднёва-заходняга дыялекту, гродзенска-баранавіцкай групы гаворак, сярэднебеларускіх гаворак, дыялектных зон і інш.

У дапаможніку даецца сістэма практыкаванняў. Яны маюць не толькі дыдактычную, але і навуковую каштоўнасць, бо ўключаюць у сябе сказы і тэксты, запісаныя непасрэдна ад інфармантаў у апошнія дваццаць пяць гадоў і адлюстроўваюць сучасны стан гаворак Гродзеншчыны. Па тэхнічных прычынах пісьмовае афармленне дыялектнага маўлення ажыццяўляецца спрошчанай транскрыпцыяй.

# Раздзел 1
# ДЗЯРЖАЎНАЕ ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

## *1.1. Збіранне і слоўнікавае апісанне лексікі*

У першай палове XX ст. палітычныя абставіны не спрыялі развіццю беларускай лінгвістычнай навукі і, у прыватнасці, вывучэнню гаворак Гродзеншчыны. Войны, рэвалюцыі ставілі перад грамадствам на першы план іншыя задачы. Толькі ў 20-я гады ў БССР вялася актыўная праца па вывучэнні рэгіянальнай лексікі і стварэнні абласных слоўнікаў, але ў Заходняй Беларусі, якая тады знаходзілася ў складзе Польшчы, гэтага не было ў сувязі з палітыкай паланізацыі краю.

Актывізацыя лексікаграфічнай працы на Гродзеншчыне пачынаецца ў 50-я гады, што звязана з агульнай тэндэнцыяй развіцця дыялектнай лексікаграфіі ў Беларусі. Гэтаму ўдзялялася ўвага з боку дзяржаўных навуковых устаноў. У 1955 г. адбылася рэспубліканская дыялекталагічная нарада, на якой прынята праграма па рэгіянальнай беларускай лексікаграфіі, распрацаваная ў сектары дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР. Арганізацыйнымі цэнтрамі слоўнікавай працы вызначаны кафедры беларускай мовы ВНУ. Створана Інструкцыя па збіранні матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў у трох выпусках [23], дзякуючы якой мэтанакіравана пачала даследавацца лексіка пэўных рэгіёнаў.

Першым лексічным слоўнікам гаворак Гродзеншчыны можна лічыць дадатак у манаграфіі Т.Ф.Сцяшковіч «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР» [61]. Слоўнік адносна невялікі – больш за 1 тысячу слоў. Аўтар ставіла задачу даць толькі ілюстрацыю слоўнікавага складу гаворак Ваўкавышчыны. Перавага аддадзена словам малавядомым ці невядомым у літаратурнай мове, а таксама новым словам, якія ўвайшлі ў слоўнік гаворак пасля ўз'яднання заходніх абласцей Беларусі ў адзіную рэспубліку: *выхват* 'чапяла', *горба* 'куча', *дзепутат* 'дэпутат', *забраня* 'сход'.

У 1970 г. апублікаваны «Дыялектны слоўнік» П.У.Сцяцко [53]. Гэта слоўнік дыферэнцыйны, у яго ўключаны словы, якія на той час не былі ўласцівы літаратурнай мове. Аб'ём слоўніка – 2500 лексічных адзінак, сабраных у 16 населеных пунктах Зэльвенскага

раёна (другое, дапоўненае, выданне слоўніка (каля 3000 адзінак) датуецца 2005 годам [60]).

Слоўнік змяшчае дыялектызмы розных тыпаў, сярод якіх самымі шматлікімі з'яўляюцца ўласналексічныя – адрозніваюцца ад суадноснага літаратурнага адпаведніка каранёвай марфемай або зусім не маюць літаратурнага адпаведніка (этнаграфічныя дыялектызмы). Яны належаць да шматлікіх тэматычных груп, сярод якіх найбольш тыповыя наступныя:

– назвы гаспадарчых пабудоў і іх частак: *пацёс* – столь, *стэпцы* – сходы на ганку, *чапільня* – страха на слупах, пад якой захоўваецца сена;

– назвы транспартных сродкаў і іх частак: *драпчак* – від брычкі, *крывулі* – павозка для вывазу лесу, *люшня* – падпорка ў возе (ад восі да ручкі);

– назвы посуду, мэблі і іншых гаспадарчых прылад: *козуб* – кубачак з асінавай кары для ягад, *баса* – вялікая кадушка на сечку і збожжа, *галька* – сподняя спадніца з карункамі ўнізе;

– назы страў і харчовых прадуктаў: *ламанцы* – печыва з пшанічнай мукі накшталт пячэння, *салёнікі* – бульба, звараная ачышчанай, *адваронікі* – бульба, звараная ў «мундзірах».

Нямала ў слоўніку лексем, якія гучаннем супадаюць з літаратурнымі словамі, але маюць іншае значэнне: *звон* – частка драўлянага вобада ў коле воза, *ліхі* – левы, адваротны бок тканіны або адзення, *дубальтоўка* – вялікая суконная хустка.

Значную групу складаюць словы, якія супадаюць з літаратурнымі адпаведнікамі коранем, але адрозніваюцца суфіксамі і прыстаўкамі: *вясняны* – вясновы, *пялюшка* – пялёнка, *замежак* – узмежак.

Падаюцца таксама словы з нерэгулярнымі фанетычнымі асаблівасцямі: *егдзіць* – ездзіць, *клусты* – тлусты, *клыбаць* – клыпаць.

У слоўнік трапіла нямала запазычаных слоў, актыўна ўжывальных у гаворках Зэльвеншчыны. Сярод іх найбольш паланізмаў – каля 150 адзінак: дэнтка – камера веласіпеда, *цвічыць* – муштраваць, адукоўваць, *ясёнка* – дэмісезоннае паліто. Сустракаюцца таксама русізмы: *бясстыднік* – бессаромнік, *дасада* – прыкрасць, *скварэчніца* – шпакоўня.

Шэраг слоў можна аднесці да «гаваркіх», вобразна-яркіх, арыгінальных, якія ўпрыгожваюць лексічны склад гаворак і беларускай мовы ў цэлым: *высцежыцца* – накіравацца, выправіцца ў дарогу, *выдзірак* – першы раз апрацаванае поле, *занядзеляваць* – застацца на нядзелю.

Наступным крокам у развіцці лексікаграфіі Гродзеншчыны сталі слоўнікі, якія ахопліваюць значна большую лінгвагеаграфічную тэрыторыю. У 1972 г. апублікаваны «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т.Ф.Сцяшковіч [62]. Слоўнік змяшчае каля 10000 слоў, сабраных на працягу двух дзесяцігоддзяў ва ўсіх раёнах Гродзенскай вобласці. Праца набліжаецца да адносна поўнага тыпу слоўніка, паколькі ўключае ў сябе словы і агульнанародныя, і рэгіянальныя. Напрыклад, побач з мясцовымі словамі падаюцца такія агульнапашыраныя адзінкі, як *вада, бяроза, дождж, дом, лес, хлеб, яма*. Мэтазгоднасць слоўніка такога тыпу абгрунтоўваецца тым, што ён «дасць больш-менш дакладнае ўяўленне аб лексічных асаблівасцях аднаго з асноўных дыялектаў беларускай мовы, дазволіць у больш шырокім плане выявіць дыялектную дыферэнцыяцыю лексікі і будзе адпавядаць задачам вывучэння складаных узаемаадносін літаратурнай мовы і дыялектаў на лексічным узроўні» [62, с. 3]. Недыферэнцыйны падбор фактычнага матэрыялу садзейнічаў уключэнню ў слоўнік лексем рознай якасці: старых (*дзевятнік*), новых (*сельсавет, камсамол, цілівізар*), запазычаных з суседніх моў (*блэнд, гвязда, дзагарак, нажачоны, танчыць*).

Акрамя асноўнай лексічнай часткі, у слоўніку змешчаны дадатак, у які ўключана больш за 1400 прыказак, прымавак, фразеалагізмаў.

Хоць праца Т.Ф.Сцяшковіч значнага аб'ёму, але яна адлюстроўвае толькі частку лексічнага складу гаворак. Невыпадкова загаловак яе фармулюецца як матэрыялы да слоўніка. Аўтарка і надалей працягвала актыўна даследаваць лексічныя рэсурсы паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі. Вынікам яе нястомнай збіральніцкай дзейнасці стаў «Слоўнік Гродзенскай вобласці» [64], які ўключае ў сябе каля 8000 лексічных слоўнікавых артыкулаў. Пры ўкладанні слоўніка даследчыца пайшла па шляху дыферэнцыяцыі фактычнага матэрыялу. За межамі яго аказалася агульнанародная лексіка, нарматыўная ў літаратурнай мове. Аб'ектам увагі сталі толькі лексічныя дыялектызмы розных тыпаў. Упершыню ў навуковы ўжытак уведзена шмат дыялектных слоў і выразаў: *артоліс* – араты, *гусёлка* – даглядчыца гусей, *кляцва* – журавіны, *буслова рэпа* – раска.

У слоўніку нямала старажытных слоў, якія зафіксаваны ў помніках старабеларускага пісьменства: *гатавізна* – грошы (плата за зямлю), *мацярызна* – спадчына па маці, *бацькавізна* – спадчына па бацьку.

Парадак будовы слоўнікавых артыкулаў традыцыйны: загаловачнае слова, граматычныя і стылістычныя паметы, тлумачэнне значэння, ілюстрацыйны матэрыял, пашпартызацыя. Новым можна лічыць тое, што ў адным артыкуле (хоць і непаслядоўна) даюцца разам лексічныя варыянты: *абувакі, абуванне* – абутак, *курчанё, курчо, курчук* – кураня, *фасалявене, фасоліска, фасольнік* – сцяблы фасолі.

«Слоўнік Гродзенскай вобласці» нельга назваць чыста лексічным, бо ў ім распрацоўваюцца яшчэ і іншыя адзінкі: пад агульным загалоўкам «Народная фразеалогія» даюцца раздзелы «Фразеалагізмы», «Прыказкі і прымаўкі», «Загадкі».

Абодва слоўнікі Т.Ф.Сцяшковіч – вялікі ўклад у распрацоўку беларускай рэгіянальнай лексікаграфіі. Яны з дастатковай паўнатой адлюстроўваюць аснову, ядро лексікі гаворак Гродзеншчыны і маюць важнае значэнне для лінгвістыкі.

У 70 – 80-х гадах акрэслілася тэндэнцыя да стварэння адносна поўных слоўнікаў пэўных рэгіёнаў. Выйшлі ў свет пяцітомныя «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» [51] і «Тураўскі слоўнік» [66]. Першае з названых выданняў, падрыхтаванае калектыўнымі намаганнямі беларускіх, літоўскіх і польскіх даследчыкаў, уключае ў сябе матэрыял вялікага арэала паўночна-заходняй дыялектнай зоны беларускіх гаворак, якія выходзяць і за межы Беларусі на тэрыторыю Польшчы, Літвы, Латвіі. Гродзеншчына ў гэтую зону ўваходзіць цалкам, таму ў слоўніку знайшлі сваё месца словы з усіх раёнаў Гродзенскай вобласці. Ён «самы багаты па колькасці растлумачаных у ім рэестравых лексічных адзінак з усіх апублікаваных да гэтага часу беларускіх дыялектных слоўнікаў» [30, с. 73]. Аб'ём слоўніка – 38000 адзінак.

Укладальнікі слоўніка адмовіліся ад прынцыпу дыферэнцыйнасці, паколькі гэты прынцып «супярэчыць сістэмнаму характару дыялектнай лексікі» [36, с. 9]. Тут распрацаваны агульнанародныя і рэгіянальныя словы актыўнага і пасіўнага ўжытку, прыналежныя да самых розных тэматычных пластоў лексікі. Вельмі шырока пададзена народная тэрміналогія, фразеалагізмы, прыказкі, іншыя ўстойлівыя спалучэнні.

Фанетычныя, акцэнтныя, марфалагічныя, часам словаўтваральныя варыянты групуюцца ў адным слоўнікавым артыкуле, што дазваляе бачыць іх адметнасць у абследаваных рэгіёнах, напрыклад:

*багульнік, багуднік, багоўнік;*
*бурбалкі, бурбалткі, бурбалькі, бурболкі, бурбулкі;*
*гадзюка, гадзюга, гадюка, гадзюк.*

Даецца разгорнутая семантычная характарыстыка слова, раскрываюцца яго прамыя і пераносныя значэнні і адценні значэнняў, паказваюцца аманімічныя адносіны.

Запазычанні з польскай, балтыйскіх і іншых моў параўноўваюцца з іх этымонамі ў мове-крыніцы:

БОМБАЛЬ м. Пухір. *Бомбаль выскачыць на пяце, як націснеш абуям ці апарыш.* Мсцібава Ваўк.; *параўн.* літ. *bumbulas* 'тж'.

Багатым з'яўляецца ілюстрацыйны матэрыял, які выступае не толькі ўзорам выкарыстання слова, але часта ўтрымлівае каштоўныя этнаграфічныя звесткі. Параўн. прыклады да слоў *поліўка* і *смык* 'прымітыўная барана': *Хлеп пячэш, бярэш рошчыну, заліваяш вадою з грыбамі, туды лісток цыбулі і варыш – гэта поліўка.* Жодзішкі Смарг.; *Смык рабілі так: рашчэпіць ёлку сукаватую, чатыры палавінкі нада збіць, запрэхчы каня і пацягаць.* Граўжышкі Ашм.

«Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» можна расцэньваць не толькі як важнае дасягненне лінгвістыкі, але і як значны набытак беларускай культуры ў цэлым.

У пачатку 80-х гадоў кафедра беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы па прапанове Інстытута мовазнаўства АН БССР акрэсліла тэму навуковага даследавання «Слоўнік навагрудскіх гаворак Гродзенскай вобласці». У задачу даследавання ўваходзіла шырокае экспедыцыйнае вывучэнне гаворак асноўных населеных пунктаў Навагрудскага раёна і сумежных з ім тэрыторый Карэліцкага і Дзятлаўскага раёнаў. На аснове сабранага матэрыялу планавалася стварыць адносна поўны слоўнік гаворак Навагрудчыны [17].

Тэрыторыя Навагрудчыны выбрана невыпадкова. Навагрудак – старажытны ўсходнеславянскі горад. У Іпацьеўскім летапісе ён упамінаецца пад 1252 г., а першае пасяленне на яго месцы ўзнікла ў канцы X ст. Багатая гісторыя Навагрудка знайшла свой адбітак у фарміраванні і развіцці этнадыялектнага аблічча гэтага рэгіёна.

Даследаванне навагрудскіх гаворак распачата ў 1983 г. На працягу дзесяці гадоў кожнае лета ў пэўныя населеныя пункты прыязджалі выкладчыкі і студэнты універсітэта для збору дыялектнага матэрыялу. Былі вывучаны гаворкі такіх вёсак, як Нягневічы, Харосіца, Роскаш, Купіск, Кашалёва, Вераскава, Валеўка, Ятра,

Ваўкавічы, Гарадзечна, Гнесічы, Зенявічы, Уселюб, Ацмінава, Шчорсы, Гаравічы, Брольнікі і інш.

Збіральніцкая праца не абмяжоўвалася толькі складаннем дыялекталагічнай картатэкі Навагрудчыны. Паралельна працягвалася далейшае папаўненне яшчэ раней заснаванай картатэкі гаворак Гродзенскай вобласці.

На пэўным этапе абставіны вымусілі працу над слоўнікам Навагрудчыны часова прыпыніць і з большай увагай заняцца картатэкай Гродзеншчыны. Папярэдні агляд яе паказаў, што з усіх раёнаў Гродзенскай вобласці сабрана шмат новага арыгінальнага матэрыялу, які заслугоўвае лексікаграфічнай апрацоўкі і апублікавання ў выглядзе слоўніка. Непазбежна ўзнікла пытанне пра тып слоўніка. Паколькі асноўны лексічны склад гаворак Гродзеншчыны ўжо зафіксаваны ў слоўніках П.У.Сцяцко і Т.Ф.Сцяшковіч, было вырашана спыніцца на тыпе дыферэнцыйнага слоўніка. Пры яго ўкладанні праводзілася двайная дыферэнцыяцыя фактычнага матэрыялу. Спачатку выбракоўваліся словы, вядомыя літаратурнай мове. Затым адсейваліся лексічныя адзінкі, ужо зафіксаваныя ў папярэдніх слоўніках Гродзеншчыны. Такім чынам, аб'ектам лексікаграфічнай распрацоўкі сталі толькі тыя дыялектызмы, якія адсутнічаюць у ранейшых лексікаграфічных выданнях з гаворак Гродзеншчыны або семантычна не супадаюць з адпаведнымі лексемамі, змешчанымі ў папярэдніх публікацыях.

Складаннем слоўніка займаўся калектыў выкладчыкаў кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства ГрДУ. Выдадзены «Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» ў 1999 годзе [52]. У ім змешчана 2020 рэестравых адзінак, якія належаць да розных тэматычных пластоў лексікі. Адметнасць слоўніку надае пераважная колькасць слоў з эмацыйна-экспрэсіўнай афарбоўкай. Гэта ў многім звязана з прынцыпам адбору фактычнага матэрыялу. Як ужо адзначалася, адсейвалася тое, што ёсць у папярэдніх слоўніках. А там многа намінацыйных адзінак, якія збіральніку найперш кідаюцца ў вочы, бо, можна сказаць, ляжаць на паверхні гаворкі. Для «Слоўніка рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» засталося тое, што не было заўважана папярэднікамі. Гэта ў многіх выпадках эмацыйна афарбаваныя словы, якія часта вузкарэгіянальныя. Выкарыстоўваюцца такія словы для характарыстыкі разнастайных якасцей асобы, напрыклад фізічнага стану: *звіхнік* – чалавек, у якога вывіхнута нага, *клюкач* – насаты чалавек, насаль, *штэльба* – кульгавая жанчына; знешняга выгляду: *вылупак* – зяркаты чалавек,

*спірдон* – мужчына малога росту, *стамболь* – мужчына высокага росту; прафесійных і разумовых здольнасцей: *абламоха* – няўмека, *лабідуда* – неразумны чалавек, *павалечына* – марудны; грамадскіх паводзін: *выдзір* – сварлівы мужчына, *з'ядуха* – сварлівая жанчына, *катламыйніца* – жанчына, якая любіць абгаворваць іншых.

Многія характарыстычныя словы можна аб'яднаць ў прадстаўнічыя сінанімічныя рады. Так, са значэннем 'неахайны чалавек (мужчына або жанчына)' у слоўніку падаюцца такія словы: *аблэхач, галах, галуза, грамзоля, загілда, калмыга, калпекша, калэмша, кацман, качалэха, кулёма, кучма, лабайда, лахамэйжа, лытман, мэгда, расамаха, растармэха, растрапэйла, рахэля, салоха, сарма, хоўра, швэпля* і інш.

У слоўніку таксама нямала агульнаўжывальных слоў, якія ў гаворках Гродзеншчыны пашырылі сваю семантыку і выкарыстоўваюцца яшчэ з іншым, дыялектным, значэннем: *борух* – нязграбны мужчына, *бубен* – галава, *бязмен* – някемлівы, нездагадлівы чалавек, *вецер* – ветраны, непастаянны чалавек, *дзік* – дзікун, дзіклівы чалавек, *заварат* – гультай, *зыркі* – гарачы, страсны, палкі хто-н., *кідкі* – жвавы.

Многія словы з'яўляюцца назвамі мясцовых прадметаў і з'яў і таму не маюць у літаратурнай мове лексічных адпаведнікаў. Для прыкладу можна назваць наступныя этнаграфічныя дыялектызмы: *бухты* – воз для перавозкі сена, *забойня* – вялікая кадушка ці скрыня пудоў на 100, *плавун* – кошык для лоўлі рыбы, *судзенік* – вялікі плецены кош з накрыўкай, у якім захоўваюць мяса, каўбасы.

Слоўнік высока ацэнены ў друку. Матэрыялы яго «не проста адлюстроўваюць невычэрпнае лексічнае багацце роднай мовы, яе самабытнасць, старажытнасць і непаўторнасць. Яны даюць лінгвістам выключна каштоўны матэрыял для разнастайных фанетыка-граматычных даследаванняў унутранай структуры беларускай дыялектнай мовы» [39, с. 306]; «Думаецца, добры прыклад гарадзенцаў актывізуе выкладчыкаў беларускамоўных кафедраў іншых ВНУ Беларусі да падобнай працы, каб папоўніць нашу агульнанацыянальную лексічную скарбонку новымі залацінкамі роднай мовы з розных куткоў нашай любай Бацькаўшчыны» [39, с. 308].

Слоўнікам, які адлюстроўвае лексіку аднаго адміністрацыйнага раёна, стала кніга А.П.Цыхуна «Скарбы народнай мовы», выдадзеная Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы ў 1993 годзе [70]. Матэрыялы да яго аўтар пачаў збіраць яшчэ ў 1939 – 1940 гадах, але асноўная частка была запісана ў паслява-

енны час на тэрыторыі сучаснага Гродзенскага раёна. Змест кнігі складаюць рэгіянальная лексіка (да 10 тысяч лексем), каля 1 тысячы ўстойлівых выслоўяў, а таксама назвы населеных пунктаў і мікратапонімы Гродзенскага раёна.

У слоўнік уключаны лексемы, што адсутнічаюць у літаратурнай мове або адрозніваюцца ад літаратурных формай ці значэннем. Такі прынцып укладання дазволіў сабраць разам многа арыгінальных, часта малавядомых дыялектызмаў. Сярод іх шмат вобразных, гаваркіх і экспрэсіўна афарбаваных адзінак, нарыклад: *аблахманіцца* – абадрацца, знасіць вопратку, *жалопкаць* – прагна піць, *скудлаваць* – замучыць, затармасіць, *сухавейка* – бяссмертнік, *цветабой* – пара цвіцення раслін.

Большасць лексем, што знайшлі месца ў слоўніку, маюць адпаведнікі ў літаратурнай мове і нярэдка выглядаюць больш прывабнымі, чым літаратурныя: *абойчык* – ключыца, *селька* – мансарда, *зімагор* – бабыль, *слухаўкі* – навушнікі.

Лексіку нацыянальнай мовы ўзбагачаюць словы, для якіх няма ў літаратурнай мове эквівалентаў. Гэта дэталізаваныя назвы прадметаў, з'яў, а таксама этнаграфічныя дыялектызмы – словы, што называюць мясцовыя прадметы, бытаванне якіх абмежавана пэўнай тэрыторыяй: *боўт* – шост, якім наганяюць рыбу, *вымаклі* – пасевы, якія загінулі ад празмернай вільгаці, *зліпак* – хлеб з клейкім мякішам, *злядаваць* – пакласці на воз бервяно пры дапамозе ляды, *зубаць* – правяраць яйка на моц лёгкім пастукваннем аб зубы, *крышыны* – астаткі ў дзежцы пасля хлебнага квасу, *ляваш* – далёкія ад сядзібы палеткі ворнай зямлі, на якія не далі гною, *скляпіцца* – пакрыцца тонкім лядком, *брылік* – посуд, сплецены з саломы і лазы для вымярэння і рассявання збожжа, *калач* – круглая палка, падвешаная на шыю карове, якая б'е па нагах і не дае хутка бегаць.

Шырока пададзена ў слоўніку спецыяльная лексіка, звязаная з народнай гаспадаркай, прафесіямі, рознымі галінамі ведаў, напрыклад батанікай: *дзевяціранка, жыватабольнік, сухадрэўка*, заалогіяй: *аціца, ведзьма, дзяргаўка, крумкі*, медыцынай: *завалкі, задратаваць*, астраноміяй: *воз, сіцечка*, кулінарыяй: *лазанкі, квaснік, сампорык*, сталяркай, бандаркай: *закладнік, дупёлка, задзёрыч*, ткацтвам, прадзівам, шыццём: *кабылка, стрыца, стаўбуноўка*, плытагонствам: *згон, гарно, цаль* і інш.

З асаблівай увагай А.П.Цыхун ставіцца да абрадавай лексікі – назваў святаў, гульняў, забаваў, забабонаў і да т.п. Пры тлумачэнні

яе часам выходзіць за межы чыста лінгвістычных стэрэатыпаў, уносіць у дэфініцыю элементы энцыклапедычнага апісання:

Адбіяна, ж. Звычай у час танцаў: хлопец падыходзіць да пары танцораў, пляскае ў далоні, кажучы «Адбіяна»; танцор павінен быў затрымацца і аддаць сваю партнёрку, а сам выйсці з кола (быў пашыраны да 1939 года і з'яўляўся прычынай для абразы і боек).

Незвычайнасць слоўніка ў тым, што ён ствараўся на працягу доўгага часу – паўстагоддзя. Шмат якія словы, запісаныя ў мінулым, сёння ў гаворках выкарыстоўваюцца пасіўна, а некаторыя цалкам выйшлі з ужытку. Дзякуючы працы А.П.Цыхуна, яны не згубіліся ў стыхіі часу, дайшлі да нас у выглядзе лексічных помнікаў: *залёга* – не выплачаны ў тэрмін падатак, *каток* – узятае без дазволу гаспадара збожжа, *квэстар* – жабрак, які хадзіў па людзях з бібліяй, *комшч* – звязак анучаў, якім у курнай хаце затыкалі адтуліны для дыму, *устэрня* – вялікі будынак у панскім маёнтку, у якім жылі парабкі, *цукернік* – прадавец цукерак.

У слоўніку нямала запазычанняў з іншых моў, пераважна з польскай, нямецкай, яўрэйскай, літоўскай: *адвэнт* – вялікі пост у католікаў перад калядамі, *гнэмбіць* – мучыць, катаваць, здзекавацца, *кольчыкі* – завушніцы, *гельд* – грошы, *фах* – спецыяльнасць, прафесія, *хала* – здобная булка, якую пяклі яўрэі на свята.

Ілюстрацыйная частка слоўніка паказвае жыццё слова ў кантэксце, у стыхіі народнай гаворкі з яе спецыфічна-непаўторным сінтаксісам, фанетычнымі і граматычнымі адметнасцямі. Аўтар слоўніка імкнуўся падабраць з ліку запісаных такія сказы, якія не толькі ілюструюць сэнс і ўжываннне слова, але і раскрываюць асаблівасці маралі, быту, матэрыяльнай і духоўнай культуры мясцовага насельніцтва. Некалькі ілюстрацыйных прыкладаў: *Калі не дасі сляпому жабраку, та табе самой земкачэ [вочы] выпра; Наш тато заўсёды аходжваўсо да цямна, а вечарам плёў кошыкі, альбо вязаў волак.* Многія з іх аздоблены прыказкамі, фразеалагізмамі, загадкамі, народнымі прыкметамі, урыўкамі песень: *Хлеп, як ляпняк, але, як кажуць, хлеп ні нявеста, які ўдоўсо, такі і з'есца; Гэ, гэты чалавек пражыў свой век крэнтам-бэнтам, хіба ш што ён рабіў?*

Слоўнік А.П.Цыхуна «Скарбы народнай мовы», створаны не вучоным, а краязнаўцам-аматарам, адзін з найлепшых у беларускай дыялектнай лексікаграфіі. Пра гэта пісалася ў беларускім друку [14]. Стварэнне слоўніка Ніл Гілевіч ахарактарызаваў як «навуковы і патрыятычны подзвіг настаўніка» [11].

Прыкметную ролю ў развіцці дыялектнай лексікаграфіі Гродзеншчыны адыгралі асобныя падборкі мясцовых слоў, апублікаваныя ў дыялекталагічных зборніках. Пачынаючы з 1975 г., Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі падрыхтаваў і выдаў дзевяць такіх зборнікаў [22]. Гэтыя працы вызначаюцца высокім навуковым узроўнем, таму што большасць аўтараў (пераважна навукоўцаў, радзей – студэнтаў ці аматараў слова) далі апісаннне лексікі сваёй роднай гаворкі, якую ведаюць дасканала як ніхто іншы. З Гродзенскай вобласці ў зборніках фігуруюць матэрыялы гаворак такіх раёнаў, як Астравецкі (В.Л.Авілава, І.Б.Мятліцкая), Гродзенскі (М.А.Даніловіч, Я.М.Рамановіч, А.П.Цыхун, Г.А.Цыхун), Дзятлаўскі (Г.М.Аляксейчык), Зэльвенскі (П.У.Сцяцко), Карэліцкі (І.І.Крамко, Я.І.Крамко), Навагрудскі (Г.М.Аляксейчык, А.М.Булыка, А.К.Усціновіч), Слонімскі (І.А.Карней, І.П.Чыгрын), Шчучынскі (І.Я.Лепешаў).

Падобнага тыпу падборкі апублікаваны таксама ў іншых навуковых зборніках і альманахах, дзе лексіку Астравецкага і Смаргонскага раёнаў распрацавала Н.К.Памецька [44], [45], Зэльвенскага раёна – П.У.Сцяцко [55].

Агляд лексікаграфіі Гродзеншчыны XX ст. дае падставу гаварыць і пра яе бліжэйшыя перспектывы ў XXI ст. У агульных рысах можна адзначыць наступнае. Вымагае сваёй канчатковай рэалізацыі праект слоўніка Навагрудчыны. З 17 раёнаў Гродзенскай вобласці толькі па двух раёнах (Зэльвенскім і Гродзенскім) створаны дыялектныя слоўнікі. Гаворкі астатніх раёнаў яшчэ чакаюць сваіх лексікографаў. Пакуль няма ў Беларусі слоўніка аднаго населенага пункта, слоўніка адной асобы. Толькі пачала разгортвацца праца па складанні абласных тэматычных слоўнікаў. З цягам часу акрэсляцца і іншыя праблемы, якія запатрабуюць мабілізацыі новых навуковых сіл.

## *1.2. Тэарэтычнае вывучэнне лексікі*

Сістэмнае вывучэнне лексікі гаворак Гродзеншчыны пачалося ў 60-я гады XX ст. Першым грунтоўным даследаваннем стала манаграфія П.У.Сцяцко, якая складаецца з дзвюх частак-кніг: «Народная лексіка» (1970) [57], «Народная лексіка і словаўтварэнне» (1972) [58].

У першай кнізе і ў большай частцы другой кнігі аналізуюцца словы ў складзе прадметна-тэматычных груп лексікі гаворак Зэльвеншчыны. Гэта назвы ежы і пітва, адзення і яго частак, бялізны, абутку і яго частак, пабудоў, посуду, прыладаў працы, транспартных сродкаў і інш. Матэрыялам даследавання паслужылі запісы, зробленыя аўтарам у 1950 – 1960 гадах.

Кожнаму слову прысвячаецца асобны слоўнікавы артыкул. Даецца тлумачэнне, ілюстрацыйныя прыклады ўжывання, паходжанне слова (спрадвечнае ці запазычанае), паказваецца, як яно ўтварылася, ці функцыянуе ў іншых беларускіх гаворках і літаратурнай мове. Беларускія словы параўноўваюцца з адпаведнікамі ў рускай, украінскай, польскай, чэшскай, балгарскай, сербскахарвацкай, славенскай, славацкай, лужыцкай мовах, напрыклад:

Бохан м. *Яг бало то ўсё дома пяклі хлеп, боханаў с п'яць ці боляй у печыві*. Гр.

– Руск. дыял. (заходн.) *бохан, боханец* – 'коровай хлеба, буkатка, коврига' (Даль, І, 120); *бохан* – 'каравай хлеба' (СРНГ, III, 139); укр. *бухан, буханець* – 'бохан'; польск. *bochenek, bochen* – тс., чэшск. *bochnik* – тс.

Я.Карскі лічыць гэта слова запазычаным з польскай мовы, дзе *bochen* ад нямецк. *Bache*. А.Брукнер разглядае слова *bochen* як новае ў польскай мове, якое паходзіць ад старога *bochnek* (як *tanc* ад *taniec*), якія з нямецк. *fochenz (e)* < лац. *focacia* ад *focus* – 'агонь' (Брукн., 33). Ф.Слаўскі і М.Фасмер адносяць гэта слова да сярэдневерхненямецкага *vochenz (e)* – 'белы хлеб, род выпечкі' (Сл., І, 38, Фасм., І, 254).

У другой частцы кнігі «Народная лексіка і словаўтварэнне» разглядаецца лексіка паводле паходжання, адносін яе да літаратурнай мовы, актыўнасці і пасіўнасці ўжывання, праводзіцца словаўтваральны аналіз прадметна-бытавой лексікі.

Паводле паходжання ў зэльвенскіх гаворках найбольш слоў спрадвечнабеларускіх: праславянскіх, усходнеславянскіх і ўласнабеларускіх.

П.У.Сцяцко падлічыў, што сярод прааналізаваных адзінак праславянская лексіка складае да 19 %: *абора, абраз, адрына, века, гануча, грэбень, гумно, гушча, дзяжа, збан, кашуля, малодзіва, скрыня, смак, стайня, трыбух, хлеў, цадзілак, чаравік, шкло* і інш.

На долю ўсходнеславянскай лексікі прыпадае 15 % слоў: *аглобля, акраец, апалонік, дрывотнік, дымар, дзяркач, засаўка, зносак, кашэль, кужаль, поклад, прысмакі, саладуха, слон, трыножкі* і інш.

Самая шматлікая група ўласнабеларускай лексікі – да 30 %: *асушак, веснiцы, вушак, газа, даёнка, закутак, запалкі, зацірка, зрэб'е, кужаль, нішчымніца, папруга, прыпол, седала, церніца* і інш.

Значную групу ўтвараюць запазычаныя словы – да 28 % ад разгледжаных адзінак. Сярод іх больш за ўсё паланізмаў і германізмаў. Аўтар у агульным плане расказвае пра экстралінгвістычныя фактары пранікнення слоў з польскай і нямецкай моў. Паказвае фанетычныя і словаўтваральныя прыкметы паланізмаў: *мондры, мэнка, свядка, гапа, мэтар, памоцны, локяць, тлустасць, тачыдла, ратунак, тапарыска, дванаста, спронжка, ясёнка, магерка, вален, карковіна, трускаўкі, шчыпер, пастронкі, ровар, дэнтка, апона, столак, жалязка* і інш.

Сярод германізмаў прыводзяцца такія прыклады: *гіцаль, лэхі, капота, кляпа, гаплюк, коц, гармушка, шмалец, брушка, ляк, рондаль, баса, ланцуг, шопа, кульба, стальвага* і інш.

Згадваюцца таксама запазычанні з іншых моў: а) цюркізмы: *аршын, батлажка, бязмен, каптан, каўган, майдан, торба, штаны, ясек*; б) літуанізмы: *паршук, скаба, бонда, мянця, сверан*; в) галіцызмы: *камузэлька, капуза, шалік, антуляжы, барэлка, манёж, лісапед*; г) лацінізмы: *кашуля, капа, цыбуля, капуста, пэндзаль*; д) грэцызмы: *сачык, аладка, гурок, канапа, папер, палаткі, каморка*; е) русізмы: *палушубак, пахлёбка, прыколка, часы, крыльцо*; ё) італізмы: *манкет, сандаль, шкарпетка, цырата, бурак, агрэст*; ж) англіцызмы: *пінджак, швэдра* і інш.

Параўноўваючы лексіку Зэльвеншчыны з адпаведнікамі літаратурнай мовы, П.У.Сцяцко прыйшоў да высновы, што каля чвэрці разгледжаных слоў неўласцівы літаратурнай мове. Асобная частка дыялектных слоў адрозніваецца ад літаратурных адпаведнікаў фармальнымі паказчыкамі ці семантычна. Вылучаны і паказаны наступныя тыпы лексічных дыялектызмаў:

1. Уласналексічныя: *стэпцы* 'сходкі на ганку', *паніва* 'патэльня', *гака* 'матыка', *кулька* 'дужка на кассі', *кляпа* 'штрыфель, борт', *вятроўкі* 'басаножкі', *пошва* 'навалачка', *асмалёнкі* 'бульба з прыгаркамі', *аполец* 'вялікі кусок сала'.

2. Семантычныя: *каза* 'мерка – тры збітыя ў форме літары А калы', *галька* 'сподняя спадніца', *градка* 'паліца', *клешня* 'штаніна', *шыйка* 'горлачка ў бутэльцы'.

3. Лексічна-словаўтваральныя: *лупавіны* 'лупіны', *вяшак* 'вешалка', *падчаровак* 'падчарэўе', *сітняк* 'сітніца'.

4. Лексічна-фанетычныя: *ложка* – лыжка, *валянкі* – валёнкі, *сяльнік* – сяннік, *пальто* – паліто, *сакера* – сякера, *швэдар* – світэр, *жолуб* – жолаб.

У кнізе разглядаецца лексіка пасіўнага выкарыстання. Аўтар падзяляе яе па ступені ўстарэласці на дзве групы:

1. Словы малазразумелыя для сярэдняга пакалення і незразумелыя для малодшага пакалення: *барэлка* 'бочачка', *баса* 'вялікая кадушка', *бірулька* 'зашпілька', *капуза* 'шапка', *кунады* 'бульба', *макотра* 'вялікая гліняная міска', *праўшняк* 'вушак', *селядоўка* 'бочка', *ярмолка* 'шапка'.

2. Словы, зразумелыя сярэдняму і малодшаму пакаленню, але рэдкаўжывальныя: *апоркі, лапці, плятняк, памяльнік, хадак, бязмен, кросны, верацяно, калаўродак, матавідла, ступа, цапідла, намэдрыкі.*

Разглядаюцца экстралінгвістычныя і чыста лінгвістычныя прычыны старэння слоў.

Асобны раздзел кнігі «Народная лексіка і словаўтварэнне» прысвечаны апісанню спосабаў утварэння слоў у дыялектнай мове. Асаблівая ўвага ўдзяляецца ўтварэнню асабовых назоўнікаў. Аўтар заўважае, што ў пераважнай большасці гаворкам уласцівы тыя самыя словаўтваральныя тыпы, што і літаратурнай мове. У манаграфіі звяртаецца ўвага галоўным чынам на спецыфічныя словаўтваральныя тыпы, уласцівыя гаворкам Зэльвеншчыны і некаторым іншым гаворкам Беларусі.

Апошняе трыццацігоддзе актыўна вядзецца вывучэнне слоўнікавага складу беларускай дыялектнай мовы. На матэрыяле гаворак розных рэгіёнаў праведзены сістэмны аналіз такіх тэматычных груп, як ганчарная (П.А.Міхайлаў), жывёлагадоўчая (В.В.Шур) лексіка, назвы адзення і абутку (А.С.Сакалоўская), ежы (Г.Ф.Вештарт), транспартных сродкаў (В.Д.Старычонак), ацэначныя назвы асобы (М.Н.Крыўко) і інш.

Асобнае вывучэнне некаторых пластоў лексікі Гродзеншчыны знайшло адлюстраванне ў артыкулах і кандыдацкіх дысертацыях Г.М.Аляксейчык, С.Г.Сячэйкі, А.І.Кавальчук, Ж.М.Буглак і інш.

Кандыдацкая дысертацыя Г.М.Аляксейчык – «Найменні зямельных участкаў у гаворках Навагрудчыны» (1986) [1]. Аснову даследавання складаюць лексічныя факты, сабраныя аўтарам у 50 населеных пунктах Навагрудчыны на працягу 1965 – 1980 гадоў. Прааналізавана 278 земляробчых тэрмінаў і іх варыянтаў.

Праведзена класіфікацыя слоў паводле значэння. У першай главе «Назвы зямельных участкаў па характары іх глебы» вылуча-

ны лексічна-семантычныя групы тэрмінаў, значэнне якіх заснавана на розных прыметах:

а) колеру глебы: *сіняк, чарназем, жаўцяк*;

б) структуры і складу глебы: *пяшчаніца, глінішча, глеістая, падзол, жвірчата*;

в) урадлівасці-неўрадлівасці глебы: *пустальга, няўдоба*.

У другой главе класіфікуюцца назвы, якія адпавядаюць зямельным участкам па характары іх апрацоўкі:

а) участкам на месцы рашчышчанага лесу, кустоў, балота і інш.: *выцерабак, пасека, выдзерак, раскарчоўка, копань*;

б) неапрацаваным участкам: *залеж, цалік, аблога, пустыр*;

в) незахопленых плугам палоскам зямлі: *узрэх, агрэх, цалік, промах*;

г) апрацаваным зямельным участкам, якія можна падрыхтаваць да сяўбы: *ворная, ралля, зябліва, папар*;

д) асобным часткам апрацаванай зямлі: *загон, гоні, шнур, палоска*.

Вылучаюцца і характарызуюцца розныя тыпы варыянтаў прааналізаваных назваў.

Даецца лінгвагеаграфічная характарыстыка назваў. Па ступені распаўсюджанасці на тэрыторыі Навагрудчыны яны дзеляцца на чатыры групы: 1) тэрміны шырокага распаўсюджання; 2) менш распаўсюджаныя словы, якія характарызуюцца арэалам сярэдняй велічыні; 3) назвы вузкай лакалізацыі, вядомыя ў некалькіх ці адным населеным пункце; 4) уласна навагрудскія лексемы, не адзначаныя ў іншых беларускіх гаворках: *пустальга, мялец, вагашка, пялека, займо*.

Разглядаюцца земляробчыя тэрміны і ў адносінах да лексікі літаратурнай мовы, выяўляюцца іх фармальныя і семантычныя асаблівасці.

Звяртаецца ўвага на паходжанне слоў. Аўтар прыходзіць да высновы, што даследаваны пласт земляробчай тэрміналогіі амаль поўнасцю належыць да спрадвечнабеларускай лексікі. Словы іншамоўнага паходжання – адзінкавыя: *атор, жвір, дзірван, пялека* (балтызмы), *шнур, цындра* (германізмы).

Тэматычнае аб'яднанне назваў адзення даследуецца ў дысертацыі С.Г.Сячэйкі «Намінацыі адзення ў гаворках Гродзеншчыны (семантычная і словаўтваральная структура, паходжанне)» (2000) [65]. На матэрыяле дыялектных слоўнікаў Гродзеншчыны выяўлены 302 намінацыі адзення. Згрупаваны яны ў чатыры тэматычныя разрады:

1. Родавыя намінацыі адзення: *апраніся, апранка, вопратка, парціна, рызы, справункі, старызна, талмуды, убранне.*

2. Супольныя намінацыі мужчынскага і жаночага адзення: *ватоўка, жалетка, спанцэрка, казыятка, бурка, жупан, ярмак, ясёнка, лапсярдак, сярмяга, сардачок, паўкажушак, капота.*

3. Намінацыі мужчынскага адзення: *бекеш, зіпун, бравэрка, ганавіцы, гаці, майткі, аблавуха, кубанка, фрэнч, шарак, бінжак, марынарка.*

4. Намінацыі жаночага адзення: *бялёўка, фарблёнка, лавічанка, фалдаванка, фальбанка, гафрыроўка, галька, сподня, дубальтоўка, пухоўка, абхіначка.*

Кожны разрад у сваю чаргу падзяляецца на тэматычныя групы. Напрыклад, у адносінах да жаночага адзення вылучаюцца найменні: а) пояснога адзення (спадніц і фартухоў); б) асноўнага плечавога адзення (сукенак і блузак); в) безрукаўнага адзення; г) верхняга плечавога адзення; д) галаўных убораў (хустак, чапцоў, вясельных галаўных убораў).

Параўнанне дыялектнага матэрыялу з літаратурным паказала, што большасць даследаваных намінацый адзення – дыялектныя словы. Толькі 35 % лексем знайшлі сваё адлюстраванне ў слоўніках беларускай літаратурнай мовы, прычым пэўная частка іх зафіксавана з паметамі «размоўнае» ці «абласное». У літаратурных слоўніках найбольш адлюстраваны найменні мужчынскага адзення (47 %). Сярод намінацый жаночага адзення толькі 25 % адзінак вядомы і ў літаратурнай мове. С.Г.Сячэйка тлумачыць гэтую диспрапорцыю экстралінгвістычнымі фактарамі, у прыватнасці, большым развіццём і разнастайнасцю жаночай моды.

У дысертацыі значная ўвага надаецца такому пытанню, як паходжанне намінацый. Вельмі часта розныя віды адзення запазычваліся ад іншых народаў разам з назвамі. Сярод запазычанняў пераважаюць паланізмы: *пёнтры, харангелка, брынды, брындзялі, трэмзлі, курта, ясёнка, дзянкі, халька, райстопы, марынарка, кумпялёўка, фуражэрка, рагатоўка, фічкі, галька, сукенка, пранжэлька, блюзэчка, матыначка, нажутка, венгерка, хуста, газуфка, шаліноўка.*

Значную частку складаюць запазычанні з такіх моў:

французскай: *ратэнда, тужурка, шынэль, галіфэ, клёш, сюртук, кепка, капішон, жакет, карсэт, блюзка;*

нямецкай: *шматы, мантэль, футра, райтузы, галстук, мундзір, кофта, фартух, шарф;*

цюркскіх: *балахан, бурнос, дэля, кафтан, халат, чуйка, ярмяк, джырабы, тулуп, штаны, каўпак, ярмолка, башлык, шаравары, папаха*;

рускай: *палшубак, рубашка, пярчатка, самадзелы, кубанка, матроска*;

венгерскай: *бекеш, магерка, бунда*;

лацінскай: *кашуля, капялюш, барэт, капуза, бравэрка, вэлюм*;

італьянскай: *жупан, шкарпэтка, фуфайка, кальсоны, касцюм*;

англійскай: *світар, пінжак, трусы, фрэнч, нактайза*;

яўрэйскай: *талмуды, лапсярдак*;

грэцкай: *зіпун*.

Значнае месца ў дысертацыі займаюць пытанні словаўтварэння. Паказваюцца прадуктыўныя і непрадуктыўныя спосабы, тыпы і сродкі ўтварэння намінацый адзення.

У дысертацыі А.І.Кавальчук «Апелятыўная лексіка з семантыкай персанальнасці ў гаворках Гродзеншчыны» (2002) [26] аналізуецца агульнаасабовая субстантыўная лексіка. Даследавана каля 900 лексем, выпісаных з дыялектных лексікаграфічных крыніц. Аб'ектам увагі сталі найменні асобы паводле: а) узросту і полу: *дзятва, бахурня, падшпарак, семнастоўка, хлапчак, дзяўчук*; б) фізічнага стану: *хваравека, каніско, камляк, чыкілда, гарбель, глушак, слепандзя, манька*; в) вонкавага выгляду: *брында, дзяргач, губар, хударба, брында, аброслік*; г) роднасці і сваяцтва: *мамуся, сыновец, хрышчоны, браценік, братова*.

Разглядаюцца спосабы ўтварэння слоў. Робіцца вывад, што найбольш прадуктыўным спосабам утварэння назваў асобы ў гаворках Гродзеншчыны з'яўляецца марфемнае ўтварэнне, асабліва суфіксацыя: *хлапчак, сядзяк, лупач, кірнач, бахурня, завінятка, крывяндзя, аблезлік, хлапчук, худэба, сухаян*.

Другой па ступені прадуктыўнасці выступае семантычная дэрывацыя. Срод семантычных пераасэнсаванняў найбольш шматлікімі з'яўляюцца метафарычныя: *вогір, павук, кузака, карчак, качолка, старызна, баравік, абэржа, галавень, асмалёнак, басэтля, труба*. Некаторыя назвы ўзніклі ў выніку метанімічных і сінекдахічных пераносаў: *чарноцце, шалоха, рохля, лупа, шчэрба, бэбах*.

Асабовыя намінацыі ў гаворках вызначаюцца багатай сінаніміяй. Разнастайныя і шматлікія сінанімічныя рады утвараюць назвы паводле фізічнага стану і вонкавага выгляду. Напрыклад, сінанімічны рад са значэннем 'неахайны чалавек' складаецца больш як з 50 лексем: *аблэхач, апоўзіна, замурзанец, калмыга, брында, атымач, сарма, растрэпаніца, хоўра, рохля, чуперадла, аброслік, кучма* і інш.

раны ён на аснове запісаў пераважна са Стаўбцоўскага і Слуцкага раёнаў, мае 2012 артыкулаў разам з 721 адсылкай. Пэўная частка фразеалагізмаў запісана і на Гродзеншчыне, найбольш у Навагрудскім і Слонімскім раёнах.

Першай спробай складання дыялектнага фразеалагічнага слоўніка Гродзеншчыны з'яўляецца дадатак у «Слоўніку Гродзенскай вобласці» (1983) Т.Ф.Сцяшковіч [64] пад назвай «Фразеалагізмы». Пабудаваны ён у адпаведнасці з выпрацаванымі на той час правіламі фразеаграфіі. Фразеалагізмы падаюцца ў алфавітным парадку і суправаджаюцца тлумачэнем значэння, ілюстрацыйным прыкладам, пашпартызацыяй, часам стылістычнымі паметамі:

САЛЯВЫ МЕХ іран. Нязграбны, нядужы чалавек. С паўв'ярсты н'и прайшоў, а ўжо засопс'а, н'а быў бы то сал'авы м'ех. Валеўка Навагр.

У слоўніку распрацавана ўсяго 647 адзінак. Сярод іх уласна дыялектных фразеалагізмаў – 330, напрыклад: *абы ногі, біць як дурны ў дзверы, вырабляцца з скуры, давесці да вушэй, званіць зубамі, на ўсеньку покалатку*; дыялектных варыянтаў агульнанародных фразеалагізмаў – 102: *бібікі абіваць, вады ў лыжцы не замуціць, вачэй не злажыць, выкінуць з думкі, даць у костку, замаўляць зубы*; агульнанародных фразеалагізмаў, вядомых з такім афармленнем і значэннем літаратурнай мове – 190: *апускаць рукі, бокам выйсці, вешаць нос, гарой стаяць, даць перцу, з усіх ног, лезці ў вочы, піва не зварыш, як на падбор*. 25 адзінак уключаны выпадкова, яны не маюць цэласнага значэння і да катэгорыі фразеалагізмаў не адносяцца: *адбіць ахвоту, глупства гарадзіць (плесці), гора гараваць, з'есці кальво, ні толку ні парадку*.

Згаданыя фразеалагічныя слоўнікі аб'ядноўвае тое, што ў іх змешчана не выключна дыялектная фразеалогія, а так званая народная – і рэгіянальная, і агульнаўжывальная (літаратурная), якая мае дыялектныя вытокі.

Наступны этап у развіцці беларускай дыялектнай фразеаграфіі – стварэнне даведнікаў рэгіянальнай фразеалогіі. Праца І.Я.Лепешава над двухтомным літаратурным «Фразеалагічным слоўнікам беларускай мовы. У 2 т.» (1993) дазволіла гэтаму навукоўцу паралельна стварыць дыялектны слоўнік новага тыпу – дыферэнцыйны. У кнігу І.Я.Лепешава «З народнай фразеалогіі» (1991) [32] уключана (пераважна з Гродзеншчыны і Віцебшчыны) каля 700 фразеалагізмаў, невядомых літаратурнай мове, а таксама не адзначаных у раней-

шых дыялектных слоўніках іншых аўтараў. Кніга пабудавана з выкарыстаннем апошніх дасягненняў фразеалагічнай навукі. Шырока паказана варыянтнасць фразеалагізмаў, даецца іх дакладная граматычная кваліфікацыя, спалучальнасць са словамі кантэксту, стылістычная і семантычная характарыстыка. Прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял, які пацвярджае навуковую інфармацыю пра фразеалагізм і дае поўнае ўяўленне пра функцыянаванне яго ў маўленні. Элементам некаторых слоўнікавых артыкулаў выступае кароткая этымалагічная даведка: каля 80 фразеалагізмаў атрымалі рэальна-гістарычны каментарый. Напрыклад, узнікненне фразеалагізма *на скарб панства* 'ў глум, безвынікова; упустую, дарэмна (пайсці, рабіць і пад.)' этымалагізуецца так: «Выраз склаўся на аснове польскага састаўнога тэрміна Skarb panstwa 'дзяржаўнае казначэйства' як іранічная рэакцыя заходнебеларускага сялянства на штрафныя квіткі, што выдаваліся секвестратарамі пры грашовым ці іншым спагнанні за нядоімкі, недазволенае рыбалоўства, збіранне ў лесе грыбоў, ягад і пад.'». Істотным элементам слоўнікавага артыкула з'яўляецца супастаўленне загаловачнага фразеалагізма з яго літаратурным адпаведнікам ці з выразам, зафіксаваным у іншых фразеаграфічных працах, зборніках або ў творах пісьменнікаў. Яно дазволіла, па-першае, пакінуць за межамі слоўніка тыя выразы, якія ўжо дзе-небудзь апублікаваны, па-другое, паказаць фармальную ці семантычную адметнасць фразеалагізмаў у параўнанні з тымі, якія ўжо зафіксаваны ў іншых крыніцах. Строгая і паслядоўная дыферэнцыяцыя фактычнага матэрыялу спрыяла таму, што ў слоўнік трапіла шмат арыгінальных фразеалагічных адзінак, якія можна лічыць рэзервам беларускай літаратурнай мовы, крыніцай яе ўзбагачэння, напрыклад: *адным куском удавіцца* 'цвёрда пільнавацца аднаго каго-, чаго-н.', *Богу маліцца* на каго, на што 'занадта шанаваць каго-, што-н., пакланяцца каму-, чаму-н.', *горла смаляное* ў каго 'хто-н. беспрабудны п'яніца', *на вушах стаяць* 'вельмі сваволіць, дурэць, рабіць што захочацца', *пер'ечка абіраць* каля каго 'вельмі дагаджаць каму-н., далікатна ставіцца да каго-н.', *пускаць пад ногі* што 'не зважаць на што-н., не трывожыцца, не задумвацца над чым-н., не надаваць значэння чаму-н.', *рэдзьку драць* 'сварыцца'.

Прыкладна на такіх прынцыпах грунтуецца і «Слоўнік дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» (2000) М.А.Даніловіча [16]. У слоўнік уключаны фразеалагізмы, сабраныя аўтарам на працягу 20 гадоў (з 1980 па 2000) ва ўсіх раёнах Гродзенскай вобласці і част-

кова памежных раёнах іншых абласцей (напрыклад, Баранавіцкім, Валожынскім). У працэсе сістэматызацыі сабранага матэрыялу перад аўтарам непазбежна ўзнікала пытанне пра тып слоўніка. Была аддадзена перавага дыферэнцыйнаму тыпу слоўніка. Аб'ектам апісання сталі фразеалагічныя адзінствы і зрашчэнні дыялектнага характару. Галоўны прынцып адбору фразеалагізмаў – адсутнасць іх у літаратурнай мове. Пад увагу ўзяты адзінкі, якіх няма ў «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І.Я.Лепешава – найбольш поўным даведніку літаратурнай фразеалогіі. З фармальна-семантычнага боку яны дзеляцца на тры дыялектныя разрады: а) уласнафразеалагічныя дыялектызмы, яны не маюць адпаведнікаў з такім лексічным складам і структурай, з такой унутранай формай у літаратурнай мове: *легчы ў карыта і чакаць пакуль свінні з'ядуць* 'не праяўляць настойлівасці, не прыкладваць намаганняў для ажыццяўлення чаго-н., займаць пазіцыю чакання'; б) разнастайныя рэгіянальныя варыянты агульнанародных фразеалагізмаў: *скеліць зубы, лезці смаліцай у вочы, жабу на языку не спячэш, ні ў зуб нагой ні ў рыла лапцем*; в) фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы – адзінкі з іншым, чым у літаратурнай мове, значэннем: *душой загавець* 'стаць бяздушным, неспагадлівым, абыякавым'.

Дыферэнцыяцыя фактычнага матэрыялу праведзена не толькі на фоне фразеалогіі літаратурнай мовы. Не падпалі пад слоўнікавае апісанне і тыя рэгіянальныя звароты, якія ўжо адлюстраваны ў іншых беларускіх дыялектных фразеалагічных слоўніках. Такім чынам, слоўнік увабраў у сябе сучасную дыялектную фразеалогію гаворак Гродзеншчыны і ў цэлым не паўтарыў інфармацыю папярэдніх спецыяльных фразеаграфічных выданняў.

Аб'ём слоўніка – 2167 слоўнікавых артыкулаў. Сістэма афармлення слоўнікавага артыкула прыкладна такая, як і ў кнізе І.Я.Лепешава «З народнай фразеалогіі». Пэўную адметнасць мае даведкавая частка, калі даюцца кароткія этымалагічныя звесткі пра фразеалагізм, тлумачацца запазычаныя словы-кампаненты, паказваецца іх графічнае абазначэнне і семантыка ў мове-крыніцы, раскрываецца сэнс ці спосаб утварэння дыялектных, устарэлых, этымалагічна цьмяных, аказіянальных слоў, якія сталі кампанентамі фразеалагізмаў. Гэта часткова надае слоўніку характар этымалагічнага даведніка, напрыклад:

Хадзіць АД ГАРОДА (-У) ДА ПІЛАТА (-У) (ДА ПЛОТА). Неадабр. Без справы, без мэты (хадзіць). *Як некалі жыла Таліха?.. Ні глядзела сваёй работы. Устаніць, карову выведзіць,*

*печы ні цэпліць, а пайшла па вёсца на цэлы дзень. Вось і казалі на яе: ходзіць ад гарода да пілата.* Косцевічы Астр. *За цэлы дзень нічога не зрабіла, хадзіла ад гарода да плота.* Ляпёшкі Іўеў. *Што ты ходзіш ат пілата да гарода?!* Вялікія Сіранкі Астр. *Сходзі ты бульбы набяры, што ты ходзіш цэлы дзень ад пілату да гароду.* Падольцы Астр.[1] Фразеалагізм утварыўся на аснове біблейскага сюжэту, у якім паказаны безвыніковыя хаджэнні Ісуса Хрыста ад цара Іудэі Ірада да вярхоўнага суддзі Пілата, пераасэнсаваннем слоў польскай мовы *Herod* (Ірад) і *Piłat* (Пілат), якія на падставе знешняга падабенства трансфармаваліся ў беларускія словы *гарод* і *плот*.

У развіцці дыялектнай фразеаграфіі Гродзеншчыны пэўную ролю адыгралі змешчаныя ў перыядычным друку і навуковых зборніках фразеалагічныя падборкі. Так, праз часопіс «Полымя», перш чым пабачыць свет, фрагментарна прайшлі апрабацыю некаторыя вышэй памянёныя слоўнікі. З фразеалогіі Гродзеншчыны на старонках часопіса апублікаваны падборкі П.У.Сцяцко «З народнай гаворкі» (1966, № 8), «Народная фразеалогія» (1967, № 2), М.А.Даніловіча «З фразеалагічных россыпаў» (1990, № 1), «Фразеалагічная мазаіка» (1995, № 2), «Сказаў як звязаў» (1996, № 1), «У слоўнік фразеалогіі» (1996, № 10), «Язык як перац, слова як соль» (1998, № 2).

Пэўны ўклад у развіццё фактаграфічнай базы фразеалагізмаў унесла беларуская дыялектная лексікаграфія. Складальнікі лексічных слоўнікаў, аддаючы асноўную ўвагу слову, не маглі абысці і фразеалогію, якая грунтуецца на словах, выкарыстоўвае іх у якасці структурных кампанентаў фразеалагізмаў. Размяшчаюцца фразеалагізмы ў такіх слоўніках рознымі спосабамі, пераважна як дадатак да асноўнай, лексічнай, часткі слоўнікавага артыкула.

Такім чынам, у беларускай дыялектаграфіі фразеалогія Гродзеншчыны распрацавана някепска. Фразеаграфія іншых рэгіёнаў Беларусі (асабліва Віцебшчыны і Брэстчыны) значна адстае ў гэтым плане як па колькасці сабранага матэрыялу, так і па колькасці выдадзеных слоўнікаў і даведнікаў.

Узнікае пытанне: што далей, якія перспектывы збіральніцкай справы ў сферы фразеалогіі? Памылковым было б меркаванне, што ў гаворках ужо адшукалі ўсё, і збіральніку моўных скарбаў на Гродзеншчыне няма чаго рабіць. На самай справе гаворкі захоўваюць яшчэ мноства фразеалагізмаў, як вузкарэгіянальных, так і адносна шырокага арэалу, яшчэ не заўважаных даследчыкамі. Выяўленне і слоўнікавае спарадкаванне іх застаецца актуальнай задачай.

Другі надзённы кірунак дыялектнай фразеаграфіі – выяўленне фразеалагізмаў у пісьмовых крыніцах, дзе выразы спецыяльна не абазначаюцца. Да такіх крыніц адносяцца ў першую чаргу сказы-ілюстрацыі да слоў ў дыялектных лексічных слоўніках. Ілюстрацыйны матэрыял тоіць у сабе шмат спецыяльна не вылучаных фразеалагізмаў. Напрыклад, у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» такія «выпадковыя» фразеалагізмы складаюць 63 % з усіх 2000 заўважаных у слоўніку фразеалагічных выразаў, у слоўніку А.П.Цыхуна «Скарбы народнай мовы» – 50 % з 343 адзінак.

Яшчэ адной шчодрай пісьмовай крыніцай фразеалогіі выступаюць зборы фальклорных твораў. За апошнія два стагоддзі апублікавана вялікая колькасць аўтэнтычных тэкстаў вуснай народнай творчасці, запісаных у розных кутках Беларусі, у тым ліку і на Гродзеншчыне. Гэтыя тэксты «аздоблены» фразеалагізмамі, якія бытуюць ў жывой дыялектнай мове. Беларуская фальклорная фразеалогія чакае свайго сур'ёзнага даследчыка.

Такім чынам, слоўнікавае апісанне фразеалогіі Гродзеншчыны мае значныя дасягненні, але яна сабрана яшчэ далёка не поўна. Перад даследчыкамі вялікае поле дзейнасці ў выяўленні і апублікаванні фразеалагічнага матэрыялу. Далейшая праца ў гэтым кірунку будзе спрыяць стварэнню фактаграфічнай базы адносна поўнага фразеалагічнага слоўніка Гродзеншчыны і адносна поўнага слоўніка беларускай нацыянальнай фразеалогіі.

## *1.6. Тэарэтычнае вывучэнне фразеалогіі*

Праблемамі тэарэтычнай распрацоўкі беларускай дыялектнай фразеалогіі займаліся такія вучоныя, як Ф.М.Янкоўскі, А.С.Аксамітаў, У.І.Коваль, М.А.Даніловіч. У гэтым кірунку фразеалогія Гродзеншчыны найбольш адлюстравана ў працах М.А.Даніловіча. Яго артыкулы, доктарская манаграфія «Беларуская дыялектная фразеалогія і яе лексічная аснова» [12] напісаны пераважна на фразеалагічным матэрыяле, сабраным у розных рэгіёнах Гродзенскай вобласці, і прысвечаны такім важным пытанням, як аб'ём і межы, тыпалогія, лексічны склад дыялектных фразеалагізмаў.

Праблема аб'ёму і межаў дыялектнай фразеалогіі ў лінгвістыцы адназначна не вырашана. Існуюць два падыходы да вызначэння дыялектнай фразеалогіі. Адзін з іх, дыферэнцыйны, абмяжоўвае дыялектную фразеалогію выразамі лакальнага бытавання, якія не ўваходзяць у склад літаратурнай мовы. Другі, недыферэнцыйны, прадугледжвае ўсю фразеалогію дыялекту, незалежна ад яе тэрытарыяльнай пашыранасці і наяўнасці ці адсутнасці ў літаратурнай мове. Тэрмін «дыялектная фразеалогія» ў дачыненні да аб'ёму фразеалагізмаў, якія акрэсліваецца паводле недыферэнцыйнага прынцыпу, не зусім правамерны. У гэтым выпадку належнымі будуць тэрміны «фразеалогія гаворкі», «фразеалогія дыялекту», «фразеалогія дыялектнай мовы».

Паводле тэрытарыяльнай пашыранасці і адносін да літаратурнай мовы фразеалогію дыялектнай мовы можна падзяліць на пяць груп: 1) фразеалагізмы, вядомыя ўсім дыялектам і літаратурнай мове; 2) тэрытарыяльна абмежаваныя фразеалагізмы, уласцівыя і літаратурнай мове; 3) тэрытарыяльна неабмежаваныя фразеалагізмы, адсутныя ў літаратурнай мове; 4) фразеалагізмы, якія ўжываюцца ў асобных гаворках і не ўваходзяць у фразеалагічны склад літаратурнай мовы; 5) дыялектныя варыянты агульнанародных фразеалагізмаў.

Фразеалагізмы першай групы не могуць адносіцца да катэгорыі дыялектных. Гэта агульнанародная фразеалогія, вядомая і зразумелая ўсім, хто гаворыць па-беларуску. Фразеалагізмы другой групы таксама няма падстаў адносіць да ліку дыялектных, яны «могуць быць (але не абавязкова) дыялектызмамі толькі паводле свайго паходжання, але не паводле ўжывання» (Ф.П.Філін). Па традыцыі, якая склалася ў лексікалогіі, фразеалагізмы трэцяй групы звычайна адносяць да агульнанародных фразеалагізмаў. Такі класіфікацыйны падыход да фразеалогіі (і лексікі) ў наш час устарэў і патрабуе ўдакладнення. Тэрмін «агульнанародны» можа дастасоўвацца да моўных адзінак, ужывальных ва ўсёй нацыянальнай мове, у яе не толькі дыялектнай, але і літаратурнай разнавіднасцях. Таму фразеалагізмы трэцяй групы павінны падпадаць пад азначэнне агульнадыялектных, а не агульнанародных. Фразеалагізмы чацвёртай групы без усякіх агаворак адносяцца да разраду дыялектных. Фразеалагізмы пятай групы выступаюць фармальнымі ці семантычнымі варыянтамі агульнанародных фразеалагізмаў і ўключаюцца ў сферу дыялектнай фразеалогіі, з'яўляюцца аб'ектам яе вывучэння. Такім чынам, асноўным паказ-

чыкам «дыялектнасці» фразеалагізма лічыцца пашыранасць яго на дыялектнай тэрыторыі і адсутнасць у літаратурнай мове.

Дыялектную фразеалогію часам абмяжоўваюць толькі тымі выразамі, у складзе якіх маецца дыялектнае слова ці дыялектнае значэнне слова. Гэта памылковы пункт гледжання. Пераважная большасць дыялектных фразеалагізмаў – гэта ўтварэнні з агульнанародных слоў, вядомых і гаворкам, і літаратурнай мове.

Пры параўнані дыялектных фразеалагізмаў з літаратурнымі адпаведнікамі паміж імі выяўляюцца адрозненні, на падставе якіх можна вылучыць пэўныя тыпы фразеалагічных дыялектызмаў.

Тыпалогія фразеалагічных дыялектызмаў выглядае наступным чынам:

1. Фразеалагічна-фанетычныя дыялектызмы – фразеалагізмы, што бытуюць на пэўнай тэрыторыі і пры тоеснасці значэння адрозніваюцца ад літаратурных фразеалагізмаў асобнымі гукамі (*у каршэль* – у каршэнь), месцам націску ў кампанентах (*падняць рýку* на каго – падняць рукý) ці тым і другім адначасова (*вецяр гуляя ў кішанях* – вецер гуляе ў кішэнях).

Гукавое адрозненне кампанентаў выклікана рознымі прычынамі. Найбольш значнай з іх выступае ўплыў фанетычнай сістэмы гаворкі. Фанетычныя заканамернасці ў галіне галосных і зычных гукаў праяўляюцца ў канкрэтных словах. Стаўшы кампанентамі фразеалагізма і ў той ці іншай ступені дэактуалізаваўшыся семантычна, словы працягваюць выконваць функцыю носьбітаў дыялектных фанетычных з'яў.

Фразеалагічна-фанетычныя дыялектызмы, зафіксаваныя на Гродзеншчыне, увабралі ў сябе фанетычныя рысы паўднёва-заходняга дыялекту, лакальныя асаблівасці гродзенска-баранавіцкіх і часткова сярэднебеларускіх (Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі раёны) гаворак, напрыклад: няпоўнае недысіміляцыйнае аканне: *ліхо ні бярэ, на ўсё горло, ні село ні пало*; недысіміляцыйнае яканне: *абоя рабоя, курыная сляпата, сякунда ў сякунду*; няўстойлівае ўжыванне прыстаўных зычных гукаў: *ачыма свяціць, ушам ні верыць, гостры на язык, лезці ў вочы*; адсутнасць падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы: *выносіць смецця з хаты, пускаць карэня, як свіня ў апяльсінах*.

Асобную групу складаюць фразеалагічна-фанетычныя дыялектызмы, структурным кампанентам якіх з'яўляецца слова не з заканамернай, а індывідуальнай, як правіла, толькі яму ўласцівай фанетычнай адметнасцю. Яно і па-за фразеалагізмам ужываецца ў

якасці самастойнай адзінкі, выступае элементам лексічнай сістэмы гаворкі і кваліфікуецца як лексічна-фанетычны дыялектызм: *хоць сакеру вешай, ледва ногі цягаць, хоць голкі збірай.*

Спецыфічную групу складаюць фразеалагічна-фанетычныя дыялектызмы, гукавыя адрозненні якіх з'яўляюцца ўнутрыфразеалагічным утварэннем і, як правіла, не выходзяць за яго межы: *бімбікі біць* – бібікі біць, *ців**у**н на язык* – ціпун на язык.

Акцэнталагічныя асаблівасці фразеалагічна-фанетычных дыялектызмаў праяўляюцца ў кампанентах, прататыпамі якіх выступаюць словы, што належаць да дыялектных лексічна-акцэнталагічных і марфалагічна-акцэнталагічных груп: *віла́мі па вадзе пісана* – вілами па вадзе пісана, *скура́ гарыць*– ску́ра гарыць.

У дыялектызмах акцэнтна-фанетычнага тыпу кампаненты характарызуюцца іншым націскам і гукам (гукамі) адначасова. Змяненне месца націску звычайна цягне за сабой змяненне якасці гука. Звязана гэта пераважна з законамі акання і якання, уласцівымі гаворкам і беларускай мове ў цэлым: *ні з то́га ні з сёга* – ні з таго ні з сяго, *хоць махало́м махай* – хоць махалам махай.

2. Фразеалагічна-словаўтваральныя дыялектызмы адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў марфемна-словаўтваральнай структурай асобных кампанентаў: *касцей не пабярэш* – касцей не збярэш. Абавязковай прыметай фразеалагічна-словаўтваральнага дыялектызма з'яўляецца супадзенне яго семантыкі з семантыкай літаратурнай адзінкі параўнання. Фразеалагічна-словаўтваральныя дыялектызмы з'яўляюцца рэгіянальнымі варыянтамі, у якіх наяўнасць іншай марфемы не ўплывае на семантычную тоеснасць фразеалагізма: *закусіць язык* – прыкусіць язык 'раптоўна замоўкнуць, устрымаўшыся ад размовы'.

Марфемныя адрозненні фразеалагічна-словаўтваральных дыялектызмаў у асноўным звязаны з прэфіксальнымі і суфіксальнымі асаблівасцямі і закранаюць, як правіла, нейкі адзін кампанент, часцей дзеяслоўны і назоўнікавы: *датрымаць слова* – стрымаць слова, *на курачай ножцы* – на курынай ножцы, *узяць зверхнасць* – узяць верх.

Пашыранымі з'яўляюцца фразеалагізмы з дэмінутыўнымі назоўнікавымі кампанентамі. Ужыванне дэмінутываў у дыялектных і літаратурных фразеалагізмах не вызначаецца рэгулярнасцю, бо яны спараджаюцца не сістэмнымі адносінамі, а самім узусам. У цэлым можна толькі канстатаваць некаторую перавагу

дыялектнай фразеалогіі над літаратурнай у выкарыстанні суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі, параўн.: *душачку труціць, залатыя ручкі, з жабіны прыгаршчыкі, ножкі біць, пад мушкай, як маслачкам па душы*. Аднак разыходжанні канкрэтных фразеалагізмаў нестабільныя: тое, што ёсць у гаворках, з цягам часу можа стаць набыткам і літаратурнай мовы.

Радзей адрознівальным фармальным паказчыкам фразеалагічна-словаўтваральных дыялектызмаў выступаюць прыметнік і прыслоўе: *курачая галава* – курыная галава, *богава кароўка* – божая кароўка, *не ўсе ўдому* – не ўсе дома, *валасы дыбака сталі* – валасы дыбам сталі. Удзел астатніх часцін мовы ў гэтых адносінах вельмі нязначны.

3. Фразеалагічна-марфалагічныя дыялектызмы супадаюць з адпаведнымі літаратурнымі эквівалентамі семантычна, але маюць разыходжанні граматычнага парадку – адметную марфалагічную форму аднаго ці некалькіх кампанентаў. Фразеалагічна-марфалагічныя дыялектызмы трэба адрозніваць ад парадыгматычных форм зменных фразеалагізмаў. Парадыгматычная форма выступае элементам граматычнай катэгорыі і захоўвае ўласцівае ёй значэнне. Яна абумоўлена знешнімі сувязямі фразеалагізма са словамі кантэксту. Так, *казіная ножка* 'самаробная цыгарка' і *казіныя ножкі* 'самаробныя цыгаркі' – гэта дзве лікавыя формы назоўнікавага фразеалагізма, з якіх першая афармляе значэнне адзінкавасці, а другая – значэнне множнасці. Фразеалагізм можа рэалізаваць таксама формы і значэнні ўскосных склонаў: *казінай ножкі, казінай ножцы, казіную ножку, казінай ножкай, па казінай ножцы*.

Фармальнае разыходжанне фразеалагічна-марфалагічнага дыялектызма і яго літаратурнага адпаведніка мае зусім іншы характар: паміж імі ўстанаўліваюцца адносіны варыянтнасці, калі абодва варыянты не залежаць ад кантэксту, не абумоўлены знешнімі структурнымі сувязямі. Параўн.: *Я яму ні веру, у яго на вярбе груша расце* (Кронькі Шчуч.); *Дык жа гэты дзед – вядомы на ўсю акругу манюка Навум Бублік. У яго на вярбе грушы растуць...* (Р.Хацкевіч).

Развіваюцца фразеалагічна-марфалагічныя дыялектызмы праз кампаненты, якія генетычна адносяцца да зменных часцін мовы, у першую чаргу назоўніка, прыметніка, дзеяслова. Назоўнікавы кампанент надае фразеалагізму дыялектную адметнасць праз формы роду, ліку, склону.

Родавыя несупадзенні праяўляюцца ў тым, што кампанент-назоўнік выкарыстаны з іншай, чым у літаратурным фразеалагізме, формай роду (*вомегай вылазіць* – вомегам вылазіць).

Лікавыя формы выяўляюцца ў такіх суадносінах дыялектнага і літаратурнага адпаведнікаў: а) адзіночны – множны лік (*канец з канцом зводзіць* – канцы з канцамі зводзіць); б) множны – адзіночны лік (*чэрці ногі зломяць* – чорт нагу зломіць). Іншая лікавая форма можа быць выклікана агульнамоўнымі магчымасцямі або дыялектнымі асаблівасцямі лексікі, а таксама ўплывам кантактных моў: *зуб з'еў* – зубы з'еў, *няпоўныя вочы* – няпоўнае вока, *духі вон* – дух вон, *як мыш на крупу* – як мыш на крупы.

Склонавыя формы назоўнікавага кампанента ў фразеалагічна-марфалагічных дыялектызмах абазначаны іншымі, чым у літаратурнай мове, канчаткамі, выкарыстанне іх выклікана перш за ўсё марфалагічнай сістэмай дыялекту, якой уласцівы спецыфічны набор флексійных марфем: *на тандэта, акуні вудзіць, абіваць баке, як вока ў лобі, носу не ўбіць, на край света.*

Асаблівасці кампанента-прыметніка ў фразеалагічна-марфалагічных дыялектызмах вызначаюцца марфалагічнай сістэмай гаворак у флексійным абазначэнні яго склонавых форм: *на скору руку, як горка рэдзька.* Родавыя і лікавыя змяненні формы прыметнікавага кампанента вымагаюцца адпаведнымі змяненнямі граматычна галоўнага кампанента: *на горка яблыка* – на горкі яблык, *цыганскія поты* – цыганскі пот.

Фразеалагізмы, дыялектны характар якіх выяўляецца праз дзеяслоўны кампанент, адрозніваюцца ад літаратурных: 1) рэгіянальнымі фарматывамі гэтага кампанента: *мала не будзіць, хоць вады напіса, чорт нося*; 2) агульнамоўнымі канчаткамі і формамі кампанента ў межах адной граматычнай парадыгмы. Сярод адрозненняў другога тыпу найбольш пашыранымі з'яўляюцца наступныя: а) зваротная – незваротная форма (*галавой налажыцца* – галавой налажыць, *і кот не валяўся* – і кот не валяў); б) інфінітыў – форма 2 асобы будучага простага часу (*да Масквы ракам не пераставіць* – да Масквы ракам не пераставіш, *на валовой скуры не спісаць* – на валовай скуры не спішаш); в) розныя часавыя формы (*дзе наша не прападае* – дзе наша не прападала, дзе сеў там і злезеш – дзе сядзеш там і злезеш); г) неаднолькавае флексійнае афармленне загаднага ладу, розныя ладавыя суадносіны (*хоць выкруці* – хоць выкручвай, *на валовай скуры не спісаў бы* – на валовай скуры не спішаш); д) разыходжанні ў формах ліку (*чорт*

*жэніцца* – чэрці жэняцца, *шарык за ролік зайшоў* – шарыкі за ролікі зайшлі).

4. Фразеалагічна-сінтаксічныя дыялектызмы ілюструюць змяненне сінтаксічнай структуры фразеалагізма: *чуць на свет* – чуць свет. Наяўнасць іх – вынік сінтаксічнай варыянтнасці фразеалагізмаў.

Істотным паказчыкам дыялектнага і літаратурнага сінтаксічных варыянтаў фразеалагізма з'яўляецца адзінства іх семантыкі і спалучальнасці. Пры адсутнасці такіх характарыстык гаворку трэба весці не пра варыянты, а пра асобныя фразеалагізмы.

Дыялектныя сінтаксічныя змяненні назіраюцца часцей у тых фразеалагізмах, што маюць структуру словазлучэння, г.зн. пабудаваны па правілах падпарадкавальнай сувязі кампанентаў. Сінтаксічныя разыходжанні фразеалагізмаў з падпарадкавальнай сувяззю кіравання ці сканавага прымыкання размяркоўваюцца наступным чынам: а) несупадзенне склонавай формы залежнага кампанента (*біць языком аб зубы* – біць язык аб зубы, *брыдзіць свет* – брыдзіць светам); б) несупадзенне склонавай формы залежнага кампанента і прыназоўніка (*пайсці да галавы па розум* – пайсці ў галаву па розум, *плячысты ў жываце* – плячысты на жывот); в) наяўнасць і адсутнасць прыназоўніка пры супадзенні граматычнай формы залежнага кампанента (*ад'яда ад сэрца* – ад'яда сэрца, *кранцца розуму* – кранцца з розуму); г) наяўнасць і адсутнасць прыназоўніка пры несупадзенні граматычнай формы залежнага кампанента (*вочы ў кол паставіць* – вочы калом паставіць, *лезці раней бацькі ў пекла* – лезці раней за бацьку ў пекла); д) несупадзенне прыназоўнікаў (*выцягнуцца на нітку* – выцягнуцца ў нітку, *не чуць ног перад сабой* – не чуць ног пад сабой).

У фразеалагізмах з сувяззю дапасавання асноўныя граматычныя пераўтварэнні зыходзяць ад граматычна галоўнага кампанента-назоўніка, да якога прыпадабняецца залежны азначальны кампанент (*не на сваіх нагах* – не сваімі нагамі, *па свіных галасах* – у свіныя галасы, *поўнай губой* – на поўную губу).

У фразеалагізмах са структурай сказа назіраюцца выпадкі сінтаксічнай трансфармацыі, якая закранае кампаненты, суадносныя з галоўнымі або з дадзенымі членамі (*як вада змыла* – як вадой змыла, *як рак за гарой свісне* – як рак на гары свісне).

Фразеалагічна-сінтаксічныя дыялектызмы са структурай спалучэння слоў (у іх нельга вызначыць граматычна галоўны і граматычна залежны кампаненты) выяўляюць такія сінтаксічныя

асаблівасці: а) іншую злучнікавую ці бяззлучнікавую сувязь кампанентаў, іншыя сродкі (злучнікі) яе рэалізацыі (*без роду без плоду* – ні роду ні плоду, *ці кіем ці палкай* – не кіем дык (то) палкай); б) іншыя склонавыя і прыназоўнікава-склонавыя формы кампанентаў (*ні да ладу ні да складу* – ні ў лад ні ў склад, *фігай ні да носа* – без фігі ні да носа).

Сінтаксічныя асаблівасці агульнанароднага фразеалагізма ў гаворках могуць быць звязаны з парадкам размяшчэння яго кампанентаў. Дыялектна-літаратурныя несупадзенні назіраюцца ў фразеалагізмах са стандартным парадкам кампанентаў: *з квасу на хлеб* – з хлеба на квас, *пень цераз калоду* – цераз пень калоду, *хваробы з трасцаю* – трасцу з хваробаю.

5. Фразеалагічна-лексічныя дыялектызмы, захоўваючы адзінства значэння, адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў асобнымі словамі-кампанентамі. Звычайна не супадае адзін (*рукі апалі* – рукі апусціліся), радзей – два кампаненты (*варонам фігі паказваць* – вераб'ям дулі паказваць). У адзінкавых выпадках кампаненты суадносяцца як слова і аналітычная канструкцыя (*жывот прысох да хрыбятняй косці* – жывот прысох да хрыбетніка).

У дыялектна-літаратурныя варыянтныя адносіны ўступаюць фразеалагізмы двух тыпаў: а) якія на літаратурным узроўні не набылі лексічнай варыянтнасці – іх разнавіднасці сустракаюцца толькі ў гаворках (*рак на языку не спячэцца* – жаба на языку не спячэцца); б) якія ў літаратурнай мове маюць два ці больш варыянтаў – працяг іх варыянтнасці выяўляецца і ў дыялекце (*выйсці* (*выпасці*) *з галавы* – вылецець (выскачыць) з галавы). Варыянтны рад ствараюць найперш фразеалагічныя адзінствы, радзей вар'іруюцца кампаненты нематываваных фразеалагізмаў. Некаторыя фразеалагізмы характарызуюцца значнай варыянтаўтваральнай актыўнасцю. Іх варыянтны рад можа налічваць каля дзесятка адзінак. У цэлым варыянтнасць фразеалогіі гаворак багацейшая за варыянтнасць літаратурнай фразеалогіі.

Існаванне фразеалагічна-лексічных дыялектызмаў абумоўлена: 1) незалежным, паралельным развіццём тыпалагічна падобных выразаў (*на адзін глэм* (*глык*) – на адзін зуб (гам)); 2) утварэннем адменніка на аснове аднаго інварыянта; пры гэтым назіраюцца два віды замены лексічных кампанентаў: ненаўмысная, выкліканая сістэмнымі магчымасцямі лексікі (*зачапляць за жывое* – закранаць за жывое), і наўмысная, мэта якой – ажыўленне вобразнай асновы, узмацненне эмацыянальна-экспрэсіўнай (звычайна адмоўнай)

афарбоўкі фразеалагізма (*уваліць* (*увярнуць*) *у косці* – даць у косці); 3) уздзеяннем дыялектнай лексічнай нормы (*жуйку жаваць* – жвачку жаваць); 4) уплывам іншамоўных сістэм (*як курыца пазурамі* – як курыца лапай, *на вес золата* – на вагу золата, *даць фэёру* – даць жару); 5) працэсамі нераўнамернай архаізацыі лексікі ў дыялектнай і літаратурнай мовах (*глузды адсохлі* – мазгі адсохлі); 6) кантамінаваным зліццём элементаў двух фразеалагізмаў (*дацца ў косці* = дацца ў знакі + уесціся ў косці).

Кампаненты фразеалагічна-лексічных дыялектызмаў і іх літаратурных адпаведнікаў на ўзроўні слоў свабоднага ўжывання выяўляюць такія сэнсавыя адносіны: 1) маюць сінанімічныя значэнні (*замаўляць зубы* – загаворваць зубы); 2) належаць да аднаго семантычнага поля (*як на шпільках* – як на іголках); 3) не маюць сінанімічнай блізкасці ці тэматычнага адзінства, іх збліжэнне грунтуецца на асацыятыўных сувязях (*як у бубен бубнець* – як у бубен біць); 4) уступаюць у рода-відавыя (гіпера-гіпанімічныя) сэнсавыя адносіны (*і мязенцам не паварушыць* – і пальцам не паварушыць); 5) з'яўляюцца элементамі сінекдахічнай замены назвы цэлага назвай часткі ці наадварот: *зрэнкі на лоб лезуць* – вочы на лоб лезуць; 6) звязаны паводле метанімічных працэсаў, калі словы збліжаюцца па сумежнасці названых імі прадметаў (*з адной мукі* – з аднаго цеста). З шасці паказаных вышэй тыпаў адносін паміж фразеалагічнымі кампанентамі найбольш пашыраны два першыя, яны выяўлены ў 80 % фразеалагічна-лексічных дыялектызмаў.

Варыянтныя кампаненты фразеалагізмаў суадносяцца з рознымі часцінамі мовы, аднак пераважаюць назоўнікавыя і дзеяслоўныя кампаненты: яны ўдзельнічаюць ва ўтварэнні 88 % фразеалагічна-лексічных дыялектызмаў. Варыянтаўтваральнай прадуктыўнасцю характарызуюцца высокачастотныя словы, якія з'яўляюцца традыцыйнымі, вядомымі з даўніх часоў. Сярод назоўнікаў гэта саматызмы, назвы жывёл, раслін, прадуктаў харчавання, хвароб, адзення, мер, прадметаў, рэчаў, рэчываў, прыладаў, прыстасаванняў і інш.

6. Канструкцыйна-колькасныя фразеалагічныя дыялектызмы – гэта выразы, якія бытуюць на пэўнай тэрыторыі і адрозніваюцца ад літаратурных фразеалагізмаў пры тоеснасці значэння колькасцю кампанентаў. Неаднолькавая колькасць кампанентаў вызначае і адрозненні сінтаксічнай канструкцыі, мадэлі фразеалагізма: *як языком злізала* – як карова языком злізала, *сушыць зубы на сонцы* – сушыць зубы.

Фразеалагізмы з пункту гледжання часавай іерархіі іх канструкцыйна-колькасных варыянтаў можна падзяліць на тры тыпы: а) у якіх абодва варыянты ўзніклі адначасова; б) у якіх першасным выступае «даўжэйшы» варыянт; в) у якіх першасным з'яўляецца варыянт з меншай колькасцю кампанентаў.

Фразеалагізмы першага тыпу з моманту свайго зараджэння набываюць рэальныя або патэнцыяльныя магчымасці ўжывацца ў поўным і няпоўным выглядзе. Адзін з кампанентаў такіх фразеалагізмаў з'яўляецца факультатыўным, наяўнасць ці адсутнасць якога ніякім чынам не ўплывае на вобразнае і рэальнае значэнне фразеалагізма. Пад рэгулярную факультатыўнасць падпадае канкрэтная група слоў. Гэта пераважна лічэбнік *адзін*, займеннікі *сам, самы, свой, сябе, той, ты, увесь*, прыметнікі, якія маюць у сваёй семантыцы колькасны элемент (цэлы, апошні і інш.), ці іншыя кампаненты, верагоднасць якіх матывуецца індывідуальнай вобразнасцю фразеалагізма: *<адзін> вецер у галаве, цягнуць <апошнія> жылы, адрэзаная <ад бохана> луста.*

З'ява факультатыўнасці кампанентаў фразеалагізмаў у дыялектах і ў літаратурнай мове праяўляецца аднолькавым чынам. Назіраюцца толькі нязначныя адрозненні інвентарызацыйнага характару, калі ў літаратурнай мове не ўсе пазіцыі варыянтнай парадыгмы фразеалагізма бываюць запоўненымі. Дыялектны варыянт дыялектызмам называецца ў пэўнай ступені ўмоўна, толькі на той падставе, што ён не выяўлены ў літаратурнай мове. У любы час ён можа стаць і літаратурным, прычым не столькі коштам запазычвання з гаворак, колькі праз рэалізацыю ўласнафразеалагічнага патэнцыялу.

Фразеалагізмы другога тыпу колькасную варыянтнасць развілі ў выніку скарачэння свайго кампанентнага складу. Неабходна адзначыць агульную для дыялектаў і літаратурнай мовы тэндэнцыю ўдасканалення знешняй формы фразеалагізма праз скарачэнне. Прыярытэтная роля ў вызваленні ад другарадных кампанентаў належыць літаратурнай фразеалогіі. Фразеалогія гаворак побач з абноўленымі формамі можа захоўваць розныя ранейшыя варыянты, нават сінтаксічныя канструкцыі на стадыі іх фразеалагізацыі. Чым большы аб'ём фразеалагізма, тым хутчэй ён паддаецца скарачэнню. Апускацца можа не толькі асобнае слова, але і цэлы сінтаксічны фрагмент. У асноўным жа скарачаюцца найменш важкія ў сэнсавым плане кампаненты, гэта злучнік *як*, часціцы *аж*, і, словы *быццам, відаць, хіба, мусіць,*

*ці* і інш.: *<як> раз плюнуць, <аж> гарыць у руках, <і> лыка не вяжа, <хіба> з неба зваліўся.* Колькасныя змяненні могуць адбывацца і ў фразеалагізмах, якія, здавалася б, дасягнулі аптымальнай структуры, што выклікана прынцыпам моўнай эканоміі. Некаторыя фразеалагізмы скарачаюцца на той падставе, што ў іх склад уваходзіць вульгарнае слова, не адпаведнае эстэтычнай норме: *язык <...> паляцець можа.* Тым больш падобныя змяненні ўласцівы фразеалагізмам, якія пранікаюць ці праніклі ў літаратурную мову: *без мыла <...> лезці.*

Канструкцыйна-колькасныя фразеалагічныя дыялектызмы, звязаныя з працэсамі скарачэння, паводле наяўнасці – адсутнасці аднаго з кампанентаў (генетычна паўназначнага слова) падзяляюцца на дзве групы: 1) якія ў параўнанні з літаратурнымі адпаведнікамі набылі скарочаны выгляд (*вочы пазычыць* – у сабакі вочы пазычыць); 2) якія, наадварот, маюць поўную форму, у той час як літаратурны адпаведнік функцыянуе толькі ў скарочаным выглядзе: *нага за нагу чапляецца* – нага за нагу.

Фразеалагізмы трэцяга тыпу ілюструюць працэс разгортвання сваёй знешняй формы. Ускладняцца дадатковым лексічным матэрыялам могуць або асобныя часткі фразеалагізма (ад варот паварот – *ад чужых варот правы паварот*), або фразеалагізм цалкам (ні рыба ні мяса – *ні рыба ні мяса, а чарвівы грыб*).

Часцей разгортваецца ўвесь фразеалагізм: асобным словам, прыназоўнікава-назоўнікавай формай, словазлучэннем, прэдыкатыўнай канструкцыяй і інш. Дадатковая частка звязваецца з асноўнай пры дапамозе злучнікаў ці бяззлучнікавай сувяззю. Найбольш прадуктыўнай выступае злучнікавая сувязь, злучальная ці падпарадкавальная.

Злучальная сувязь ажыццяўляецца праз злучальныя злучнікі, з якіх пераважнай актыўнасцю вызначаецца спалучальны злучнік *і* (*ды, дый, да, а*): валасы дыбам сталі – *валасы дыбам сталі ды вушы звялі*, сем бочак арыштантаў – *сем бочак арыштантаў і ўсе няпоўныя.* Абодва кампаненты бінарнай канструкцыі могуць мець аднатыповую структуру: свет не бачыў – *свет не бачыў і людзі не чулі.* Злучнік *і*, ужываючыся пры кожнай частцы фразеалагізма, выступае як паўторны: чорт не брат – *і чорт не брат і свіння не сястра.* Адзіночны злучнік *і* далучанай часткі ўключаецца ў ланцужок паўторнага злучніка, калі апошні ёсць у зыходным варыянце, а фразеалагізм набывае трохчленную структуру: і хочацца і колецца – *і хочацца і колецца і мамка не веліць.*

Падобным чынам функцыянуе і паўторны злучнік *ні – ні*, калі двухчленная фразеалагічная канструкцыя дапаўняецца яшчэ адной часткай: ні да танца ні да ружанца – *ні да танца ні да ружанца ні свенты Божа спеваць*. Часам адбываецца спалучэнне гэтага злучніка з адзіночным злучнікам *і*, які, звязваючы апошні структурны кампанент з папярэднім, узмацняе сінтаксічную завершанасць фразеалагізма, пабудаванага па структуры аднародных членаў сказа: ні сват ні брат – *ні сват ні брат і ні хроснік*.

Сярод злучальных больш-менш рэгулярна выкарыстоўваецца яшчэ і супраціўны злучнік *а*. Далучаная пры дапамозе яго частка ўносіць у вобразную аснову элемент адмаўлення, неадпаведнасці, супрацьпастаўлення, кантрасту, і гэтым самым узмацняецца эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка фразеалагізма: адзін Бог ведае – *адзін Бог ведае, а не мы грэшныя*, ні тое ні сёе – *ні тое ні сёе, а звычайнае*.

З дапамогай падпарадкавальнай сувязі фразеалагізм разгортваецца сінтаксічнай канструкцыяй, якая мае структуру дададнага сказа (дададнай часткі). Часцей выкарыстоўваецца дададная параўнальная частка, у ролі якой можа выступаць і кампаратыўны фразеалагізм: малоць языком – *малоць языком як сабака* (*сука*) *хвастом*. Сустракаюцца фразеалагізмы, ускладненыя дададнай акалічнаснай часткай з граматычным значэннем умовы: раз плюнуць – *раз плюнуць калі сліна ёсць*. Дададныя часткі з іншымі граматычнымі значэннямі (напрыклад, прасторавым, часавым, мэтавым, азначальным) заўважаны ў адзінкавых фразеалагізмах: супраць ліха на ўзгорачку – *проці ліха на ўзгорачку дзе пень на калоду брэша*, (пайсці) у свет – (пайсці) *у свет дзе людзей нет*.

Значнае месца пры колькасным павелічэнні кампанентаў належыць бяззлучнікавай сувязі. Яна аб'ядноўвае аднафункцыянальныя і рознафункцыянальныя сінтаксічныя часткі. Аднафункцыянальныя часткі не звязаны адносінамі дэтэрмінацыі, другая з іх звычайна выступае поўным структурным дублікатам зыходнай: на пень брахаць – *на пень брахаць на калоду тукаць*. Незакрытая структура фразеалагізмаў гэтага тыпу дае магчымасць далейшага іх разгортвання ў больш складаныя, трохчленныя адзінкі: кату па пяту – *кату па пяту пчале па крыле сабаку па хвост*, соль у вочы – *соль у вочы дзяркач у зубы таўкач у плечы*. Рознафункцыянальныя часткі з'яўляюцца нераўнапраўнымі, узаемаабумоўленымі: няма дурных – *няма дурных усе пажаніліся*, папраў казе хвост – *папраў казе хвост у яе набаку*.

Тэндэнцыя да павелічэння колькасці кампанентаў стымулюецца імкненнем узмацніць экспрэсію, неабходнасцю актуалізаваць, удакладніць унутраную форму фразеалагізма.

7. Фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы пры фармальным супадзенні з літаратурнымі адзінкамі параўнання адрозніваюцца ад іх адценнямі значэння, значэннямі, аб'ёмам значэнняў.

Паказчыкамі адценняў значэння выступаюць асобныя семы, якасныя і колькасныя суадносіны якіх надаюць дыялектнаму значэнню пэўную адметнасць: *дух забівае* 'цяжка дыхаецца ад празмернай фізічнай нагрузкі' – 'цяжка дыхаецца ад хвалявання, перажывання' (пры параўнанні першым даецца дыялектнае, другім – літаратурнае значэнне), *сушыць зубы* 'смяяцца, рагатаць часта без прычыны' – 'смяяцца, рагатаць'.

Тыповым праяўленнем семантычных адрозненняў выступаюць неаднолькавыя значэнні фразеалагізма ў дыялекце і літаратурнай мове: *жывот на нос лезе* 'хто-н. вельмі тоўсты, пузаты' – 'хто-н. у стане цяжарнасці'. Асобныя фразеалагізмы развілі значэнні супрацьлеглага зместу: *як рублём падарыў* 'нядобразычліва, злосна (паглядзеў на каго-н.)' – 'вельмі ласкава, прыхільна, добразычліва'.

Звычайна той самы фразеалагізм у літаратурнай мове мае большую колькасць значэнняў, чым у канкрэтнай гаворцы. Калі ж браць дыялектную мову ў цэлым, то полісемія ў ёй багацейшая за кошт сумарнай колькасці фразеалагічна-семантычных дыялектызмаў са шматлікіх рэгіёнаў Беларусі.

У полісемічных фразеалагізмаў, як правіла, адно значэнне бывае агульнаўжывальным і супадае з літаратурным, а іншыя з'яўляюцца дыялектнымі. Часам усе значэнні фразеалагічна-семантычнага дыялектызма ў канкрэтнай гаворцы маюць дыялектны характар.

Некаторыя фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы суадносяцца з паняццямі, якія ў фразеалагічнай сістэме літаратурнай мовы не былі актуалізаваны або падвергліся архаізацыі і таму не атрымалі моўнага абазначэння. Такія фразеалагізмы маюць непаўторную пазнавальна-інфармацыйную каштоўнасць, выступаюць незаменнымі сродкамі фразеалагічнага адлюстравання з'яў рэчаіснасці. Так, гаворкі захавалі ўстарэлае для літаратурнай мовы значэнне 'вельмі дружна, у поўнай згодзе' фразеалагізма *адным духам*, на аснове якога ўтварылася прыслоўе адзінадушна: *Та, бало, грызьліся, як сабакі, а ціпер жывуць адным духам*. Бершты Шчуч.;

*Іх і вадой ні разальеш, яны адным духам столькі гадоў пражылі.* Галынка Зэльв. Страчанымі для літаратурнай мовы з'яўляюцца значэнні і наступных фразеалагізмаў: *мець на воку* 'сачыць, назіраць, трымаць пад наглядам каго-н.', *па самае горла* 'сытна, уволю (наесціся)', *хвастом накрыцца* 'ўпасці мёртвым, забітым (пра звера пасля стрэлу паляўнічага)', *як з неба спаў* 'у самы час прыйшоў', *як піць даць* 'вельмі лёгка, хутка (зрабіць што-н.)'.

Дыялектны і агульнаўжывальны семантычныя варыянты выступаюць значэннямі аднаго полісемічнага фразеалагізма. Існуе некалькі шляхоў і спосабаў семантычнай дэрывацыі фразеалагізмаў:

а. Паўторная метафарызацыя свабоднага словазлучэння, на аснове якога ўтварыўся фразеалагізм з першым значэннем. Напрыклад, выраз *падняць вочы* з агульнаўжывальнай сememай 'глянуць на каго-н., на што-н.' развіў у гаворках яшчэ адно значэнне 'акрыяць, павесялець (пасля хваробы)'. Фарміраванне яго зусім не звязана з першым значэннем, абодва яны не знаходзяцца паміж сабой у адносінах ўтваральнага і вытворнага, таму што ўзніклі паралельна, на аснове пачарговага метафарычнага пераасэнсавання таго самага словазлучэння.

б. Утварэнне новага значэння шляхам пераносу назвы на іншыя з'явы рэчаіснасці, параўн.: *курыная слепата* 'хвароба вачэй' – 'чалавек, які не бачыць, не заўважае чаго-н.'; *сваім ходам* 'пешшу (ісці)' – 'самастойна, выкарыстоўваючы свае магчымасці, на сваім транспарце (ісці, ехаць, дабірацца)'.

в. Развіццё значэння шляхам змянення сінтаксічнай функцыі фразеалагізма. Рэгулярнае ўжыванне фразеалагізма ў іншай сінтаксічнай функцыі прыводзіць да ўтварэння катэгарыяльнай полісеміі: *кату на адзін зуб* 'вельмі мала (ежы)' і 'вельмі малы (кавалак, порцыя ежы)' (першае значэнне – адвербіяльнае, другое – ад'ектыўнае).

г. Утварэнне значэння праз змяненне спалучальнасці фразеалагізма са словамі кантэксту. Гэта датычыць перш за ўсё валентна абмежаваных прыслоўных фразеалагізмаў, якія рэалізуюць сваё значэнне толькі з пэўнымі словамі-суправаджальнікамі. Як толькі фразеалагізм падобнага тыпу пачынае спалучацца са словамі іншай семантычнай групы, то набывае новае значэнне: *як дым* (пагода) 'выдатная, цудоўная' – (ісці, бегчы) 'вельмі хутка', (расці, развівацца) 'вельмі добра, спорна', (сляпы) 'зусім', (лезці) 'назойліва'.

Развіццё фразеалагічна-семантычных дыялектызмаў можа быць звязана не толькі з полісеміяй, але і з аманіміяй. Працэсы полісемантызацыі і аманімізацыі па сваёй сутнасці з'яўляюцца агульнымі для дыялектнай і літаратурнай фразеалогіі. Заўважаюцца толькі некаторыя асаблівасці развіцця семантыкі фразеалагізмаў у дыялектнай мове. Некадыфікаванасць дыялектнай нормы, выключна вусны характар дыялектнага маўлення надае большую рухомасць, пэўную дыфузнасць фразеалагічнаму значэнню. Гэта прыводзіць да ўтварэння аказіянальных семантычных варыянтаў: *біць у званы* 'пляткарыць, распускаць плёткі', *даць пытлю* 'кінуцца наўцёкі, імкліва ўцякаць'. Нярэдка адбываецца «міграцыя», пранікненне значэння аднаго фразеалагізма ў другі, падобны да першага кампанентным складам: *адным духам* 'невядома чым, нічога не еўшы (жыць)' (параўн. *святым духам*). Дыялектнай асаблівасцю з'яўляецца і тое, што новае значэнне можа ўтварацца на аснове семантычнай актуалізацыі аднаго з кампанентаў фразеалагізма: *ветрам падшыты* 'легкадумны, пусты, ветраны', *зводзіць са свету* 'падманваць, хлусіць, гаварыць няпраўду'.

8. Уласнафразеалагічныя дыялектызмы супрацьстаяць іншым тыпам фразеалагічных дыялектызмаў, што ўступаюць з літаратурнымі адпаведнікамі ў варыянтныя адносіны, бо вызначаюцца непаўторнасцю ўнутранай формы, своеасаблівасцю структурна-кампанентнага складу.

Пры вызначэнні ўласнафразеалагічных дыялектызмаў пад увагу бяруцца наступныя адносіны дыялектна-літаратурных адпаведнікаў: 1) тоеснасць (сінанімічнасць) значэнняў (*праз чужыя вочы на свет глядзець* – жыць чужым розумам 'не мець самастойнай думкі, прытрымлівацца чужых поглядаў'); 2) несупадзенне ўнутранай формы (*мёд з малаком* – кроў з малаком); 3) прыналежнасць да аднаго граматычнага разраду (назоўнікавыя: *воўчае горла* – зямля ненаедная; дзеяслоўныя: *дастаць з губ* – сарваць з языка); 4) аднолькавыя спалучальныя магчымасці (*як салаўю свісток* (патрэбны) – (патрэбны) як у мосце дзірка). Адны ўласнафразеалагічныя дыялектызмы з'яўляюцца эквівалентнымі, абазначаюць паняцці, якія ў літаратурнай мове перадаюцца іншымі фразеалагізмамі, другія не маюць літаратурных эквівалентаў.

Эквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы выражаюць самыя розныя колькасныя суадносіны з літаратурнымі адпаведнікамі. Сустракаюцца мінімальныя пары, у якіх з абодвух бакоў у наяўнасці толькі па адным фразеалагізме. Нярэдка дыялек-

тызму адпавядае некалькі літаратурных выразаў. Ёсць паралелі і адваротнага характару. Аднак часцей і ў дыялектнай, і ў літаратурнай мовах тое самае паняцце перадаецца некалькімі сінанімічнымі фразеалагізмамі: *служка ў лапцях, спадручная сякерка* – старшы куды пашлюць, хто куды пашле. Багатымі і разнастайнымі з'яўляюцца групы фразеалагізмаў, звязаных з характарыстыкай чалавека. Для абслугоўвання розных сфер чалавечага быцця ў беларускай дыялектнай мове існуе вялікая колькасць не асвоеных літаратурнай мовай уласнафразеалагічных дыялектызмаў.

Параўнанне дыялектных і літаратурных фразеалагізмаў адной семантычнай групы паказвае, што ў ёй дыялектызмы з розных гаворак амаль заўсёды колькасна пераважаюць над літаратурнымі адзінкамі. Для абазначэння некаторых паняццяў колькасць фразеалагічных дыялектызмаў у шмат разоў большая. У гэтым выпадку можна гаварыць пра дыялектны характар самой семантычнай мадэлі ў межах нацыянальнай фразеалогіі. Яскравым прыкладам з'яўляецца паняцце 'кепскі чалавек', рэалізаванае экспрэсіўнымі выразамі, якія ў фалькларыстыцы атрымалі назву «абзыванні». У дыялекталагічных крыніцах зафіксавана больш за 100 фразеалагізмаў такога тыпу, напрыклад: *гадасць паршывая, жаба карэлая, казёл някуты, перагрызак сабачы, сабача печань, свіння няскрэбаная, чортаў дух, чортаў кум*.

Шматлікасць эквівалентных уласнафразеалагічных дыялектызмаў дазваляе гаварыць аб вялікай фразеаўтваральнай актыўнасці дыялектнай мовы. Узбагачэнне сінанімічных радоў эквівалентных фразеалагізмаў выклікана не патрэбамі намінацыі. Можна вылучыць тры асноўныя прычыны ўтварэння фразеалагізмаў: 1) імкненне абазначыць і ахарактарызаваць той самы прадмет нетрадыцыйнымі сродкамі; 2) імкненне замяніць словы і выразы, якія абуджаюць непрыемныя ці непажаданыя ўяўленні і асацыяцыі, эўфемічнымі спалучэннямі; 3) імкненне замяніць натуральнае абазначэнне прадмета экспрэсіўна зніжаным, дысфемічным. Абсалютная большасць фразеалагічных утварэнняў дыктуецца першай прычынай. Жывая дыялектная мова знаходзіцца ў няспынным руху, выяўляе тэндэнцыю да абнаўлення сваіх рэсурсаў.

Безэквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы можна падзяліць на суб'ектныя і аб'ектныя. Першыя маюць антрапацэнтрычную накіраванасць, другія семантычна накіраваны на прадметы і з'явы, якія існуюць па-за чалавекам і незалежна ад чалавека.

Безэквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы з суб'ектным значэннем складаюць адносна невялікую частку ўсёй суб'ектнай дыялектнай фразеалогіі. Як правіла, яны з'яўляюцца адзінкавымі, пазбаўленымі сінанімічных адносін з іншымі выразамі: *знайсці грыба* 'стукнуцца нагою (аб камень, аб корань, палку ці інш.)', *колы заскварыць* 'трапіць пад аўтамабіль ці іншы транспарт'. Толькі нямногія фразеалагізмы на міждыялектным узроўні можна аб'яднаць у сінанімічныя рады, колькасны склад якіх бывае невялікім – ад дзвюх да некалькіх адзінак.

Спецыфіка безэквівалентных суб'ектных уласнафразеалагічных дыялектызмаў нярэдка заключаецца ў тым, што яны называюць з'явы менш значныя, другарадныя, нерэгулярныя: *салёнікі студзіць* 'цалавацца', *смерць у вочы глянула* 'каго-н. сутаргава страсянула'. Адзінкавасць фразеалагічных найменняў можа быць выклікана этнаграфічнымі рэаліямі, звязанымі з асаблівасцямі мясцовага быту, матэрыяльнай і духоўнай культуры, працоўных працэсаў, абрадавых дзеянняў і інш.: *сопуху цалаваць* 'сядзець на печы каля коміна'. Семантычная непаўторнасць уласнафразеалагічнага дыялектызма часта зыходзіць ад таго, што ён мае вузейшае, больш канкрэтнае значэнне, чым літаратурная адзінка параўнання: (дажыць, даседзець) *да сівой касы* 'пастарэць у дзеўках' – *да сівых валасоў* 'да старэчага ўзросту, да глыбокай старасці'.

Безэквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы з аб'ектным значэннем адносна нешматлікія, але яны значна пераўзыходзяць аб'ектную фразеалогію літаратурнай мовы і колькасна, і тэматычнай разгалінаванасцю.

Калі у сферы лексікі безэквівалентнасць лексічных дыялектызмаў часта выклікана з'явамі этнаграфічнага характару, асаблівасцямі быту, матэрыяльнай і духоўнай культуры рэгіёну, то ў сферы фразеалогіі этнаграфічны фактар развіцця дыялектнай семантыкі вельмі нязначны. Безэквівалентныя ўласнафразеалагічныя дыялектызмы звычайна адпавядаюць рэаліям агульнавядомым, распаўсюджанне якіх не абмежавана пэўнай тэрыторыяй. Адсутнасць адпаведных ім фразеалагізмаў у літаратурнай мове тлумачыцца найперш станам развіцця літаратурнай фразеалогіі на пэўным гістарычным адрэзку, а таксама спецыфікай дыялектнай фразеалогіі ў межах адной нацыянальнай мовы.

Можна вылучыць найбольш тыповыя тэматычныя групы безэквівалентнай аб'ектнай фразеалогіі: 1) сельскагаспадарчая (*аж вока рве* 'вельмі яркая, сакаўная (зеляніна, рунь)');

2) метэаралагічная (*Бог палаткі змёў* ‘выпаў апошні снег’); 3) прадметна-бытавая (*хоць бацьку роднага рэж* ‘зусім тупы, ненавостраны (нож)’). Многія безэквівалентныя дыялектызмы маюць валентна абмежаванае значэнне меры і ступені, колькасці, часу, якое рэалізуецца толькі пры пэўных словах-суправаджальніках: (водкі) *па калодкі*, (праўда) *як вош кашляе*, (набудзе) *як у сабакі кілбаса на шыі*.

9. Камбінаваныя фразеалагічныя дыялектызмы спалучаюць у сабе асаблівасці некалькіх тыпаў. Напрыклад, дыялектызм *пальцы ў зубы не кладзі* адрозніваецца ад літаратурнага адпаведніка *палец у рот не кладзі* і марфалагічнай формай кампанента (*пальцы – палец*), і асобным кампанентам (*зубы – рот*), з’яўляючыся адначасова і фразеалагічна-марфалагічным, і фразеалагічна-лексічным дыялектызмам.

Можна вылучыць дзесяткі камбінацый, у якіх канцэнтруюцца ўласцівасці двух, трох, радзей чатырох відаў дыялектызмаў. Не ўсе фразеалагічныя дыялектызмы знаходзяць сваё праяўленне ў групах камбінацый. Так, уласнафразеалагічныя і фразеалагічна-семантычныя дыялектызмы з-за сваёй спецыфікі не могуць перасякацца з іншымі дыялектызмамі.

Дыялектная фразеалогія Гродзеншчыны даследавана і з боку яе лексічнага складу.

Найбольш прадуктыўна пры ўтварэнні фразеалагізмаў выкарыстоўваецца агульнаўжывальная лексіка. Прыкладна 80 % дыялектных фразеалагізмаў складаюцца цалкам з агульнанародных слоў. Тэарэтычна любое паўназначнае слова можа рэалізавацца ў якасці фразеалагічнага кампанента, аднак на практыцы далёка не ўсе агульнанародныя словы аднолькава выкарыстоўваюцца ў фразеалагізмах. З экстралінгвістычнага боку фразеаўтваральная прадуктыўнасць слова залежыць ад актуальнасці абазначанай ім з’явы. Перавагу маюць групы канкрэтных назоўнікаў, якія абазначаюць часткі цела чалавека і матэрыяльныя аб’екты, нешматлікімі з’яўляюцца асабовыя і абстрактныя назоўнікі. Тлумачыцца гэта механізмам стварэння вобразнасці, якая выступае асновай фарміравання і жыцця фразеалагізмаў. «Сіла вобраза – у яго канкрэтнасці» (В.М.Макіенка). Фразеалагізмы маюць пераважна антрапацэнтрычную адрасаванасць і фарміруюцца праз вобразныя пераносы з нечалавечых сфер – свету жывёл, раслін, бытавых, геаграфічных аб’ектаў і інш. Зразумела, і колькасць слоў, адпаведных гэтым сферам, пераважае ў кампанентным складзе фразеалагізмаў.

Абслугоўваюцца фразеалагізмы звычайна традыцыйнымі словамі. Ядро фразеалагічных кампанентаў утвараюць лексічныя адзінкі, якія складаюць аснову слоўніка беларускай нацыянальнай мовы. Фразеаўтваральныя магчымасці слова залежаць ад месца яго ў адносінах да цэнтра лексічна-семантычнай групы (ЛСГ). Найбольшая фразеаўтваральная прадуктыўнасць у тых слоў, якія з'яўляюцца дамінантай ЛСГ. Актыўна праяўляюць сябе пры ўтварэнні фразеалагізмаў мнагазначныя словы, напрыклад: *душа, зямля, свет, браць, ведаць, даць, ісці, насіць*. Высокай фразеаўтваральнай прадуктыўнасцю характарызуюцца словы, надзеленыя сімвалічным значэннем. Фразеаўтваральны патэнцыял слова павялічваецца і з узрастаннем частотнасці яго выкарыстання.

Лексіка абмежаванага выкарыстання – гэта лексічныя дыялектызмы (і спрадвечнабеларускія, і запазычанні, якія не атрымалі агульнанароднага пашырэння), словы пасіўнага ўжывання, а таксама кампаненты, што не ўжываюцца па-за межамі фразеалагізмаў. Як фразеаўтваральны сродак яна значна ўступае ў колькасных адносінах агульнаўжывальнай лексіцы, сустракаецца прыкладна толькі ў 20 % дыялектных фразеалагізмаў, але тым не менш заслугоўвае асаблівай увагі, бо ў многім вызначае спецыфіку дыялектнай фразеалогіі.

Дыялектная лексіка знайшла сваё адлюстраванне больш як у 13 % дыялектных фразеалагізмаў. Іх кампанентная структура звычайна мае часткова дыялектнае напаўненне: лексічным дыялектызмам бывае, як правіла, толькі адзін кампанент (*гадам у вочы дзыгаць, даць па пыцках*).

Наяўнасць і асаблівасці лексічных дыялектызмаў у фармальнай структуры фразеалагізмаў абумоўлены спецыфікай лексічнай сістэмы гаворак, якая забяспечвае фразеалагізмы сваім «будаўнічым матэрыялам». Фразеаўтваральным кампанентам выступаюць лексічныя дыялектызмы розных вядомых у навуцы тыпаў. Ізаглоса фразеалагізма з лексічным дыялектызмам звычайна супадае з ізаглосай самога дыялектызма. Напрыклад, *бусел* у беларускіх гаворках называецца па-рознаму: у паўночна-заходніх – *бацян*, у віцебска-магілёўскіх – *буцян*, у брэсцка-пінскіх – *бусько*, у іншых – *бусел*. Гэтыя адрозненні знайшлі адбітак і ў мясцовых варыянтах фразеалагізмаў: *бацян рэпу пасеяў, буцян рэпу пасеяў, бусько рэпу пасеяў, бусел рэпу пасеяў*. Фразеалагізм з вузкарэгіянальным дыялектызмам таксама з'яўляецца вузкарэгіянальным. Наадварот, шырэйшыя геаграфічныя межы функцыянавання слова вызначаюць і шырэйшае бытаванне фразеалагізма з гэтым словам.

Дыялектызм з высокім фразеаўтваральным патэнцыялам можа выкарыстоўвацца ў цэлай групе фразеалагізмаў. Прыкладам з'яўляецца слова *грыб* 'губа' (часцей у множным ліку), распаўсюджанае пераважна ва ўсходняй частцы беларускамоўнага арэалу: *атвесіць свой грып, грыб задраць, грыб тоўст да кішка тонка, грыбы атвесіць (развесіць), грыбы закапыліць, грыбы замамыліць, грыбы надзьмуць, грыбы распусціць, грыбы рэзаць, грыбы складаць, даць па грыбам, надуць грыбы, раздуць грыбы, растапырваць грыбы, цераз грыб не пераплюне.*

Лексічныя дыялектызмы сустракаюцца ў фразеалагізмах дзвюх разнавіднасцей: а) рэгіянальных, невядомых літаратурнай мове; б) агульнанародных, рэалізаваных у выглядзе тэрытарыяльных варыянтаў.

Пад уплывам літаратурнай мовы назіраецца тэндэнцыя да выцяснення дыялектызмаў агульнаўжывальнымі словамі. У сувязі з гэтым набывае пашырэнне фразеалагічная варыянтнасць. Суіснаванне двух семантычна раўнапраўных варыянтаў нярэдка прыводзіць да іх стылістычнай дыферэнцыяцыі. Варыянт з лексічным дыялектызмам на фоне варыянта з агульнанароднымі словамі набывае большую экспрэсіўную афарбоўку. Частка дыялектызмаў атрымала незвычайнае прыцягненне да фразеалагізмаў. Яны, вобразна кажучы, быццам наэлектрызаваны фразеалагічнай энергіяй і абслугоўваюць шэраг фразеалагічных мадэлей. Да прыкладу, на Гродзеншчыне такім можна назваць дыялектызм *гарончка* 'гарачка', на Віцебшчыне – *каланіца* 'калёсная мазь': *гарончка не возьме, гарончка пагнала, гарончка яго ведае, адна каланіца, каланіца носіць, каланіца яго знае, якая каланіца* і інш.

Запазычаная лексіка пакінула прыкметны след у афармленні дыялектных фразеалагізмаў. Часцей у складзе фразеалагізмаў сустракаюцца словы тых моў, з якімі беларуская мова кантактавала непасрэдна: польскай, рускай, украінскай, балтыйскіх, нямецкай, ідыш. Найбольшае ўздзеянне на дыялектную фразеалогію аказалі польская, руская і балтыйскія мовы.

Паланізмы актыўна пранікалі ў беларускую фразеалогію на працягу апошніх чатырох стагоддзяў, што выклікана пераважна дзвюма прычынамі. Адна з іх – тэрытарыяльная блізкасць паўночна-заходніх беларускіх гаворак да спрадвечна польскіх. Другая – сацыяльна-гістарычныя і палітычныя працэсы, якія адбываліся ў гэтым рэгіёне і краіне ў цэлым.

У фразеалагізм уваходзіць звычайна толькі адзін лексічны паланізм. Астатнія кампаненты з'яўляюцца словамі спрадвечнабеларускімі.

Частотнасць польскамоўных кампанентаў у структуры фразеалагізмаў значным чынам прадвызначаецца пазафразеалагічнай сістэмай гаворак. Тыя паланізмы, што шырока выкарыстоўваюцца як словы свабоднага ўжывання, часцей сустракаюцца і ў складзе фразеалагізмаў: *велькія пацеры, як сам велькі, як свет велькі, велька штука* і інш. Паланізмы, якія нерэгулярна і лакальна выкарыстоўваюцца ў дыялекце, звычайна трапляюць у адзінкавыя выразы: *ляпаць длугім языком, пляга яго бяры*.

Асобныя паланізмы замацаваліся толькі за фразеалагізмамі і як лексемы ў гаворках не функцыянуюць, хоць у мове-крыніцы яны з'яўляюцца словамі актыўнага ўжывання: *ставіць фонфры – fafry* 'капрызы, прыхамаці', *як бэля (бэйля) – bel*a – 'цюк, стос, бервяно'.

Паводле паходжання фразеалагізмы, у структуру якіх уваходзяць паланізмы, дзеляцца на некалькі груп: 1. Запазычанні з польскай мовы: *голы як свенты турэцкі* 'вельмі бедны, не мае грошай'– *goly jak święty tyrecki*. Асобныя фразеалагізмы гэтага тыпу на беларускамоўнай глебе атрымалі семантычныя пераўтварэнні: *нябескія мігдалы* 'што-н. неверагодна смачнае' – *niebieskie migdały* 'штосьці нерэальнае, несапраўднае'. 2. Няпоўныя калькі з польскай мовы – часткова прыстасаваныя да мясцовай гаворкі фразеалагізмы, якія не страчваюць цалкам каларыту іншамоўнасці: *як аман у пацерах – jak amen w pacierzu*. 3. Спрадвечнабеларускія фразеалагізмы, перагробленыя на польскі лад. Сутнасць такога пераўтварэння ў тым, што беларускае слова-кампанент замяняецца польскім: *як серада на пятніцу → як серада на пёнтак*. 4. Фразеалагізмы, якія ўзнікалі на беларуска-польскім памежжы, на глебе беларуска-польскага двухмоўя. З пералічаных вышэй груп гэта самыя шматлікія фразеалагізмы, у якіх адзін, радзей два ці ўсе кампаненты маюць польскамоўныя рысы: *ад чшыкрульскай буры* 'з мінулых часоў', *як пан пшэнны* 'вельмі добра, у поўным дастатку, раскошна (жыць)'.

Адсутнасць умоў, якія б жывілі і падтрымлівалі польскі элемент у сучасных беларускіх гаворках, выклікае тэндэнцыю да выціснення набытых у мінулым запазычанняў. Аднак функцыянаванне лексічных паланізмаў у якасці фразеалагічных кампанентаў мае шэраг асаблівасцей: 1. Калі ў гаворцы існуюць два варыянты

фразеалагізма, у адным з якіх – паланізм, а ў другім – эквівалентнае беларускае слова, то ўжыванне апошняга варыянта становіцца больш рэгулярным: *сэрца пэнкае – сэрца разрываецца.* 2. Калі ў лексічнай сістэме гаворкі польскамоўнае слова з'яўляецца адзінай назвай пэўнага паняцця, то і ў складзе фразеалагізма яно не мае варыянтнага адпаведніка: *абіваць бонкаў* 'марна траціць час, гультаяваць' (*bąk* 'авадзень'). 3. Значнай устойлівасцю ў фразеалагізмах характарызуюцца сэнсава зацемненыя, незразумелыя польскія словы, якія не асвоены лексічнай сістэмай беларускіх гаворак, напрыклад *gnębić* 'прыгнятаць, уціскаць, праследаваць', *banialuki* 'лухта, глупства, недарэчнасць, бязглуздзіца', *fiołek* 'дзівацтва': *гнэмбіць муху* 'прыгнятаць, здзекавацца са слабейшага, малодшага', *плесці баналюкі* 'гаварыць абы-што', *фіёлкі ў галаве скачуць* 'хто-н. несур'ёзны, легкадумны, ветраны'. Гэтая, на першы погляд парадаксальная, з'ява тлумачыцца такой вызначальнай асаблівасцю фразеалагізма, як дэсемантызацыя яго кампанентаў. Актыўнасць ужывання фразеалагізмаў у многім падтрымліваецца незразумеласцю кампанента-паланізма: незразумелы – значыць незвычайны, прыцягальны, варты ўвагі. Іншамоўнае слова выконвае не сэнсаўтваральную, а ўзмацняльную, экспрэсіўную функцыю. 4. Асваенне няясных слоў-кампанентаў можа адбывацца пераасэнсаваннем іх з пункту гледжання народнай этымалогіі: *абцасам у вочы лезці* 'назойліва прыставаць, невыносна дакучаць' (*абцасам* – польск. *obcesem* 'дзёрзка, нахабна, бесцырымонна'). 5. Захаванне паланізмаў розных тыпаў можа быць выклікана версіфікацыйнымі прычынамі, у прыватнасці рыфмай: *да калёру да выбору, і на свёнткі і на пёнткі.*

Пры агульнай тэндэнцыі да выхаду паланізмаў з дыялектнай сістэмы многія з іх стала выкарыстоўваюцца ў структуры фразеалагізмаў. Гэта ў значнай ступені падтрымліваецца экспрэсіўнасцю маўлення. Ужыванне фразеалагізмаў з польскамоўнымі элементамі часта бывае не натуральна-міжвольнае, а наўмыснае, каб надаць выказванню стылістычны эфект жартаўлівасці, іранічнасці, фамільярнасці і інш.

Пэўны ўплыў на дыялектную фразеалогію аказала руская мова, што выклікана сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі працэсамі, якія адбываліся на працягу двух апошніх стагоддзяў. Уплыў гэты ў розныя часы быў неаднолькавы, залежаў ад характару міжмоўных адносін у цэлым. Небывалае пранікненне рускай мовы ва ўсе сферы назіраецца ў наш час. У выніку беларуская мова

прыкметна страчвае функцыі, неабходныя для яе натуральнага існавання і развіцця.

Узрастанне ўплыву рускай мовы на беларускую адпаведным чынам адбіваецца і на ступені пранікнення рускамоўных элементаў у кампанентную структуру фразеалагізмаў. Вылучаюцца дзве асноўныя прычыны бытавання рускамоўных элементаў у складзе фразеалагізмаў: 1) непасрэднае фразеалагічнае запазычванне з рускай мовы; 2) уплыў лексічнай сістэмы рускай мовы на кампанентную структуру фразеалагізмаў.

Сярод фразеалагічных запазычанняў нямала выразаў, якія ў абедзвюх мовах супадаюць сваім кампанентным складам: *на дарозе не валяецца – на дороге не валяется, наламаць дроў – наломать дров*. Ідэнтычнасць фармальнай структуры запазычанняў і іх этымонаў тлумачыцца наяўнасцю ў беларускай і рускай мовах аднолькавых слоў, якія сталі кампанентамі фразеалагізмаў. Такія запазычанні з лёгкасцю ўліваюцца ў гаворкі, праходзячы непрацяглы перыяд адаптавання, і ўспрымаюцца як уласныя натуральныя сродкі. Іншая справа, калі ў гаворкі трапляюць фразеалагізмы са спецыфічным для рускай мовы кампанентным складам. У такім выпадку мова-пазычальніца або калькуе іх, замяняючы неўласцівыя ёй кампаненты сваім матэрыялам, або пакідае без змен, нягледзячы на тое, што адзін ці некалькі кампанентаў фразеалагізма ўспрымаюцца як не свае, як неадпаведныя лексічнай норме. Адсутнасць калькавання можа быць выклікана некалькімі фактарамі: 1. Калькаванне рыфмаваных фразеалагізмаў прывяло б да парушэння сугучнасці, да разбурэння іх як непаўторных адзінак, таму яны запазычваюцца ў нязменным, арыгінальным выглядзе: *апяць дваццаць пяць*, (слухай) *вухам а не брухам, ні адвету ні прывету*. 2. Фразеалагізмы з цьмяным кампанентам, пранікаючы ў беларускія гаворкі, захоўваюць сваю унікальнасць, бо незразумеласць унутранай формы, этымалагічнага значэння кампанента не дазваляе падабраць да яго ў якасці замяняльніка адпаведны беларускі лексічны эквівалент: *без зазрэня совясці, без сучка без задорынкі*. 3. Адна з прычын неперакладнога засваення фразеалагізмаў – псіхалінгвістычная. Валоданне носьбітамі беларускага дыялекту рускай мовай дазваляе ім крытычна падыходзіць да міжмоўнага трансфармавання адзінак, усведамляць, што паслоўны пераклад асобных фразеалагізмаў немэтазгодны, бо можа прывесці да ненатуральных утварэнняў, якія гучаць ні па-руску, ні па-беларуску. 4. Асноўная прычына фразеалагічнага запазычвання, якая наклад-

ваецца і на папярэдне разгледжаныя, – гэта існаванне беларуска-рускага двухмоўя. Руская мова настолькі шырока і рэгулярна пачала выкарыстоўвацца ў розных сферах маўленчай дзейнасці, што беларускамоўнымі носьбітамі яна стала ўспрымацца як звычайная, паўсядзённая форма зносін.

Актыўнае пранікненне рускамоўных элементаў у фразеалогію адбываецца і пад уздзеяннем лексікі рускай мовы. Рускія словы, замацаваўшыся ў лексічнай сістэме беларускіх гаворак, аказваюць уплыў на кампанентны склад фразеалагізмаў, спараджаючы фразеалагічную варыянтнасць. Не выключаны выпадкі паралельнага ўздзеяння і фразеалагічнай, і лексічнай сістэм рускай мовы на функцыянаванне канкрэтных выразаў: *умом тронуцца, у гроб угнаць*.

Славянска-балцкія этнічныя і моўныя кантакты маюць працяглую гісторыю. Вучонымі (археолагамі, этнографамі, гісторыкамі, лінгвістамі) даказваецца існаванне шырокага балцкага масіву на карце старажытнай Усходняй Еўропы. На тэрыторыю, занятую балтамі, з даўніх часоў пачалі пранікаць славяне. Цеснае кантактаванне двух этнасаў спрыяла таму, што ў розныя гістарычныя перыяды беларускія гаворкі (пераважна ў паўночна-заходняй частцы) набылі нямала балтызмаў (часцей літуанізмаў) субстратнага, адстратнага і запазычанага характару. Несумненна, што балцкі ўплыў зведала і беларуская фразеалогія, у прыватнасці яе кампанентны склад. Налічваецца каля 100 фразеалагізмаў, у структуры якіх маюцца лексічныя элементы балтыйскага паходжання. Кампанентам-балтызмам у іх выступае звычайна адно слова, астатнія з'яўляюцца ўласнымі: *у стрымбуль пайшоў* 'тонкі і не па гадах высокі' – *стрымбуль* < літ. *strimbas* 'кветканоснае сцябло цыбулі ці іншай расліны'.

Фактычны матэрыял сведчыць, што кампанент-балтызм у абсалютнай большасці выпадкаў з'яўляецца назоўнікам. Толькі зрэдку ён належыць да разраду дзеяслоўных. Гэта тлумачыцца ўплывам на фразеалогію лексічнай сістэмы, дзе колькасць назоўнікавых запазычанняў таксама пераважае.

Прыкладна толькі шостая частка балтызмаў, засведчаных у лексічнай сістэме беларускіх гаворак, сустракаецца ў складзе фразеалагізмаў. Найбольшай фразеаўтваральнай актыўнасцю характарызуюцца назвы частак цела чалавека ці жывёлы, назвы прадметаў, рэчаў, рэчываў, прыладаў, прыстасаванняў, ландшафтных аб'ектаў і інш: *адны рэбры і пялы* 'хто-н. вельмі худы' – *пялы*

< літ. *pjaũlai* ‘косці тазабедранага сустава’, *хоць у жлукта пасадзі* ‘вельмі брудны’ – *жлукта* < літ. *žlùktas, žlùktis* ‘бочка для замочвання і запарвання бялізны’, ‘замочаная бялізна’.

Удзел балтызма ва ўтварэнні фразеалагізмаў залежыць ад традыцыі яго ўжывання і тэрытарыяльнай пашыранасці. Даўнія балтызмы, з вялікім лінгвагеаграфічным арэалам (напрыклад, *скаба, лупа, ляпа*) сустракаюцца ў многіх фразеалагізмах: *палічыць* (*пералічыць, палатаць*) *скабы* (*скабкі*), *бярэ за скабы, скабы можна перашчытаць, адны скабы асталіся, як скаба* і інш. Балтызмы вузкай лакалізацыі сустракаюцца ў адзінкавых выразах: *як шакаль* ‘вельмі (тонкі)’ – *шакаль* < літ. *šakalỹs* ‘аскепак; верацяно’; *даць у шніпас* (*у шніпары*) ‘пабіць каго-н.’ – *шніпас* (*шніпары*) < літ. *šnìpas* ‘рыла’.

У лексічнай сістэме беларускіх гаворак назіраецца паступовая архаізацыя пераважна вузкарэгіянальных балтызмаў. Старэнне і выхад з ужытку слова можа аналагічным чынам адбіцца і на фразеалагізме: яму таксама можа пагражаць знікненне. Шэраг балтызмаў, паступова выходзячы з лексічнага складу, працягвае актыўна выкарыстоўвацца ў фразеалагізмах. Гэтая з’ява ўласціва пераважна выразам, пабудаваным па прадуктыўных мадэлях, здольных утвараць незамкнёныя варыянтна-сінанімічныя рады: *задраць ногі – задраць* гегні (*гегні* < gẽgnes ‘рыбалоўная снасць з драўлянай асновай у выглядзе палазоў’).

Паслабленне актыўнасці выкарыстання вузкарэгіянальных лексічных балтызмаў прыводзіць да іх кампаратывізацыі, перараджэння ў фразеалагізмы. Прамежкавым, пераходным звяном у працэсе такога пераараджэння выступае параўнальны зварот, у якім балтызм з’яўляецца аб’ектам параўнання. Архаічныя кампаненты па прычыне сваёй незразумеласці зацямняюць кампаратыўныя адносіны элементаў параўнання, і яно з-за гэтага набывае фразеалагічныя якасці: *дымба* < літ. *dìmba – як дымба* ‘высокі хто-н.’; *лут* < літ. *lùtis – як лут* ‘тоўсты, сыты’, ‘укормлены’.

Архаічная лексіка гаворак таксама знаходзіць сваё месца ў кампанентным складзе фразеалагізмаў. У мове заўсёды існуе слой фразеалагічных адзінак, якія з пункту гледжання сінхраніі ўтрымліваюць словы, што выйшлі ці выходзяць з актыўнага ўжытку. Выклікана гэта тым, што асобныя кампаненты фразеалагізмаў адстаюць ад развіцця лексічнай і граматычнай сістэм мовы. Рэшткавыя элементы мінулых моўных сістэм могуць працяглы час захоўвацца ў фразеалагізмах, якія надоўга пераажываюць эпоху свайго ўтварэння.

Аналіз фактычнага матэрыялу з асобных гаворак паказаў, што прыкладна 2 % дыялектных фразеалагізмаў маюць у сваім складзе словы, якія для гэтых гаворак з'яўляюцца ўстарэлымі. Гэта былыя лексемы неаднолькавай ступені ўстарэласці: адны зніклі з лексічнай сістэмы даўно, другія – адносна нядаўна, трэція яшчэ знаходзяцца ў пасіўным ужыванні. Тут і праславянскія, і ўсходнеславянскія, і ўласнабеларускія, і запазычаныя словы: ***вуды*** *падцягнула* 'моцна захацелася есці', ***паветра*** *яго ведае* (*знае*) 'невядома', (браць) *у* ***палетнікі*** '(наймаць, запрашаць) тэрмінам на лета, да пакроваў', *падняць* ***бурсу*** 'крычаць, сварыцца, лаяць, вызверыцца'.

Кампанентная структура фразеалагізмаў мае непасрэдную залежнасць ад лексічнага складу гаворак. Архаізацыя лексікі ўплывае на лёс фразеалагізмаў і можа прыводзіць да наступных вынікаў: 1. Старэнне слова цягне за сабой старэнне самога фразеалагізма: *як віціна* 'вельмі здаровы, моцны хто-н.'(*віціна* – 'драўлянае пласкадоннае рачное судна з палубай і парусамі для перавозкі збожжа'), *як палаш* 'вельмі востры' (*палаш* – 'від халоднай зброі'). 2. Устарэлае слова-кампанент замяняецца сучасным словам: *глаголы чытаць* (*глаголы* – 'першая гадзіна на ютрані') – *газету* (*газеты*) *чытаць* 'галадаць (пра каня, карову)', *у летах* – у гадах, *як перст* – як палец, *аршын з шапкай* – метар з шапкай. 3. Зацемненасць семантыкі ўстарэлага слова прыводзіць яго да народнаэтымалагічнага пераасэнсавання, да «падгонкі» пад агульнавядомую, зразумелую лексічную адзінку, параўн.: *лёстачкамі душу вымаць, лёстачкамі слацца* (*лёстачкі* 'ліслівыя словы, усхваленні, кампліменты', 'падлізванне') – *ластачкамі душу вымаць, ластаўкаю слацца.* 4. Фразеалагізм працягвае ўжывацца ў нязменным выглядзе, нягледзячы на тое, што слова, якое з'яўляецца фразеалагічным кампанентам, у лексічным складзе гаворкі страцілася: ***памаракі*** *высыхаюць* 'аб частковай страце памяці', *узяць* ***троп*** 'налаўчыцца (рабіць штосьці)', ***чур чуроў*** <і ***чурочкаў*** *маіх*> 'ні ў якім выпадку', 'выказванне адмаўлення ад чаго-н.'. Выпадзенне кампанента з сістэмных сувязей і адносін прыводзіць да таго, што ён не падпадае пад ціск сучаснага лексічнага ладу мовы. Закансерваваўшыся ў межах фразеалагізма, устарэлае слова становіцца інертным да працэсаў, што адбываюцца ў пластах лексікі. Яно як бы атрымлівае новае, унутрыфразеалагічнае жыццё. Фразеалагізм ад гэтага не пераходзіць у разрад устарэлых, а часта, наадварот, становіцца больш устойлівым, паколькі архаічны кампанент надае яму своеасаблівую «экзатычнасць», узмацняе экспрэсіўнасць яго значэння.

Нярэдка фразеалагізмы выступаюць адзінымі крыніцамі, якія данеслі да нас з мінулых часоў забытыя цяпер словы, і таму маюць выключную інфармацыйную каштоўнасць: *задраць кокашы* 'ўпасці, не ўтрымаўшыся на нагах', 'ляжаць', *адкінуць какешкі* 'памерці', *на кокашы* 'сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках (сесці)' (прасл. **kokošь*, ст.-бел. *кокошъ, кокоша, кокошка* 'курыца, кураводка').

Можна прывесці яшчэ шэраг фразеалагізмаў з незразумелымі, пакуль што «нерасшыфраванымі» кампанентамі, якія чакаюць свайго вывучэння, патрабуюць спецыяльнага этымалагічнага аналізу: *адкінуць кацюты, азграком (зграком) у вочы лезці, аб цусі аб дусі, басарынкі збіраць, браць на антабы, выцягнуць цубары, даць дробзіку, жыць сваім дыем, заткнуць <сваю> пакалатку, зубы зэліць, зяліць галаву, кандубы завярнуць, макрыцы ўсе з'есць, надуць брысі, на цік не прыходзіць, прасовы соўваюць, увясці убэт, цапстрыкі злажыць, чэрці на кулачках спяць* і інш.

Аказіянальная лексіка ў структуры фразеалагізмаў – кампаненты, якія ніколі не выкарыстоўваліся і не выкарыстоўваюцца ў якасці слоў свабоднага ўжывання. Паходжанне такіх кампанентаў звязана з задачамі фразеатворчасці: ствараюцца яны спецыяльна для фразеалагізмаў у працэсе фарміравання апошніх. У навуцы падобныя кампаненты пакуль што не атрымалі тэрміналагічнага вызначэння. Найбольш яны адпавядаюць статусу аказіяналізмаў, бо ў лексічнай сістэме не з'яўляюцца узуальнымі, самастойна ўзнаўляльнымі, па-другое, функцыянуюць заўсёды ў адным і тым жа фразеалагічным кантэксце, не выходзячы за яго межы.

Узнікненне аказіянальных кампанентаў у складзе фразеалагізмаў выклікана: 1) неабходнасцю выразіць устойлівымі зваротамі пэўныя паняцці, для абазначэння якіх гаворкі не мелі фразеалагічных найменняў: *на **кепство*** 'з благім намерам', *у рот **зяваль** уехаў каму* 'хто-н. часта пазяхае'; 2) імкненнем перадаць сэнс і экспрэсію іншымі фразеалагічнымі сродкамі, пабудаванымі па вядомых структурна-сінтаксічных схемах: *заліць **слепакі*** 'ап'янець, быць п'яным', *даць у **грызла*** 'пабіць, пакараць, насварыцца на каго-н.'; 3) патрэбамі рыфмы і рытму ў структурна-кампанентнай арганізацыі фразеалагізма: *на святыя **мігды** што не бываюць нігды* 'невядома калі; ніколі', *і ў **цюці** і ў людзі* 'ўсюды ў адным і тым жа адзенні (хадзіць)'.

У абсалютнай большасці выпадкаў аказіянальным кампанентам уласцівы граматычныя паказчыкі назоўніка. Утва-

раюцца яны па вядомых словаўтваральных тыпах і мадэлях. Часцей выкарыстоўваецца марфалагічнае ўтварэнне, у межах якога прадуктыўнымі спосабамі з'яўляюцца суфіксальны і нульсуфіксальны, зрэдку – складанне: *брацца ў **дужкі**,* (ісці) *на **аглядкі**, аж **зёхат** ходзіць, на **ўмор**, ні адзыву ні **адрыгу**, надаваць* (*заехаць*) *па **мухаедах***. Сустракаюцца семантычныя аказіяналізмы. Яны маюць асобае значэнне, невядомае адпаведным словам ні ў дыялектнай, ні ў літаратурнай лексічных сістэмах, напрыклад: *халява* 'рот' – *разявіць* (*раскрыць*) *халяву*. Рэалізавалася яно аднаразова, толькі ў тых словазлучэннях, якія фразеалагізаваліся. Адпаведныя словазлучэнні маюць мэтавае прызначэнне, складаюцца спецыяльна для фарміравання фразеалагізма. Прычым іх узнікненне і пераасэнсаванне ў фразеалагізмы адбываюцца адначасова, а слова-кампанент з адметным значэннем становіцца «ўласнасцю» фразеалагічнай канструкцыі, як правіла, не выходзіць за яе межы: *апалонікі* 'вочы' – *вываліць апалонікі* 'ўважліва глядзець, угледзецца на каго-, на што-н.', *кардан* 'рука' – *трымай кардан* 'фамільярна-грубаваты прывітальны зварот пры сустрэчы з працягваннем рукі', *хлебарэзка* 'рот' – *закрыць хлебарэзку* 'замоўкнуць'.

Спосабам утварэння аказіяналізмаў, заснаваным на гульні слоў, выступае кантамінацыя, або гібрыдызацыя. Напрыклад, у выразе *трымаць у цвіку* каго 'строга выхоўваць каго-н., не дазваляць свабодна дзейнічаць' аказіяналізм *цвік* утварыўся ад дзеяслова *цвічыць* 'муштраваць, караць каго-н.'. Фармальна ён супаў з агульнанародным словам *цвік* 'металічны ці драўляны стрыжань з вастрыём на канцы...'. Супадзенне гэта не выпадковае, а наўмыснае, скіраванае на тое, каб сутыкнуць рэальнае значэнне слова *цвік* з асацыятыўным значэннем, матываваным дзеясловам *цвічыць*. Сэнсавая дваістасць кампанента *цвік* працуе на фарміраванне фразеалагічнага значэння і стварае адпаведны канататыўны эфект. Параўн. таксама: *басіны спраўляць* 'хадзіць босым', *дрожджы прадаваць* 'трэсціся ад холаду', *заліць галавешку* 'выпіць залішне спіртнога, быць п'яным', *мажджэр скруціць* 'скалечыцца, загінуць', *разіньку прадаваць* 'паводзіць сябе няўважліва, быць разявакам', *спіцы рабіць* 'спаць', *храпавік рамантаваць* 'спаць, храпці'.

Аказіянальныя кампаненты ў большасці выпадкаў маюць унутраную форму, суадносяцца, «пераклікаюцца» каранёвай марфемай ці проста спалучэннем гукаў з якім-небудзь утваральным словам або некалькімі аднакаранёвымі словамі. Унутраная матывіроўка кампанента адыгрывае важную ролю ў фарміраванні вобразнай

асновы ўсяго фразеалагізма, у станаўленні фразеалагічнага значэння і захаванні яго празрыстасці. Асабліва маюць патрэбу ў ёй «мінімальныя адзінкі фразеалогіі» (П.А.Лекант) – прыназоўнікава-іменныя канструкцыі, у якіх іменны кампанент выступае асноўным выразнікам унутранай формы фразеалагізма: *на бадзякі* '(пайсці) да суседзяў прабавіць вольны час у размовах', *на пакацістую* 'без меры (гуляць)', *на ўскармлёнкі* 'харчавацца, карміць', *у цяжку* 'цяжарная', *з пустам* 'ні з чым', *пад задзёр* 'супраць шэрсці', 'насуперак'.

Зразумеласць аказіяналізма можа дасягацца наяўнасцю яго матывацыйнай базы (аднакаранёвага кампанента) у самім фразеалагізме: *адным мірам* ***міраваны***, ***зводы*** *зводзіць*, ***налох*** *налажыць*, *трэсць* ***трахоллем***. Пазбегнуць дэматывацыі аказіяналізмаў дапамагаюць і аднакаранёвыя словы-суправаджальнікі: (буць) *у* ***бувальцах***, (дзівіцца) *у* ***дзіў***, (гнаць) *у* ***сугон***.

Унутраная форма аказіяналізма і яго прадметная суаднесенасць у многім падтрымліваюцца, «падказваюцца» самой фразеалагічнай мадэллю. Напрыклад, утварэнне *гыглы* само па сабе мае невыразную матывацыйную і сэнсавую празрыстасць. Пэўныя слоўныя абрысы са значэннем 'зубы' яно атрымлівае толькі ў фразеалагічным кантэксце *гыглы скаліць* 'смяяцца, рагатаць', які будуецца па мадэлі агульнавядомага фразеалагізма *зубы скаліць*.

У шэрагу пераважна рыфмаваных фразеалагізмаў сустракаюцца аказіянальныя кампаненты, лексічна нематываваныя. Як правіла, такія фразеалагізмы маюць двухчленную структуру, у якой адзін ці абодва сугучныя кампаненты з'яўляюцца штучнымі, пазбаўленымі якой-небудзь сэнсавай нагрузкі: *гандаль-****піндаль***, ***лядам****-градам*, ***сёлько****-только*, *ні ўгамону ні* ***ўталону***, *цішком-****нішком***, *не* ***шуні-муні***, ***шатыл-мотыл***, ***цінціль-вінціль***. У арганізацыі рыфмаваных пар лексічна-семантычныя і лагічна-сінтаксічныя сувязі адыходзяць на задні план, а на пярэднім плане аказваецца тоеснасць выражэння, якая абумоўлівае эмфатыўную экспрэсіўнасць фразеалагізма.

Незразумеласць кампанента, як правіла, не выклікае тэндэнцыі да архаізацыі фразеалагізма. Устойлівасць і актыўнасць разгледжаных фразеалагізмаў у многім падтрымліваюцца менавіта аказіянальным кампанентам, якія, функцыянуючы толькі ў рамках фразеалагізма, не звязаны ці звязаны ўскосна з працэсамі архаізацыі, што адбываюцца ў лексічнай сістэме, і якія сваёй прысутнасцю нярэдка вызначае арыгінальнасць, неардынарнасць ма-

тэрыяльнай абалонкі усяго фразеалагізма, падтрымліваючы гэтым самым яго «жывучасць».

Вылучаецца цэлая група фразеалагізмаў, у структуру якіх уваходзіць анамастычны кампанет. У шэрагу фразеалагізмаў знаходзіцца кампанент-тапонім. Часцей за ўсё ім выступае назва населенага пункта (*кудла з Ваўкавыска, як у Дуды на фэст*), зрэдку – назва іншага аб'екта (*зацягнуць на Бэнаву гару*, (аддам) *на Язапатавай даліні*). Да гэтага класа прымыкаюць фразеалагізмы з адтапанімічнымі прыметнікамі (*Магдалена галунаўская, як поп бялавіцкі*).

Выкарыстанне тапоніма ў якасці фразеаўтваральнага элемента залежыць ад гістарычнай і грамадскай важнасці адпаведнага яму аб'екта. Актыўна ўжываюцца назвы сталічных гарадоў *Вільня* і *Масква*, якія мелі выключнае значэнне ў гісторыі краіны: *аж Вільню ўбачыць* 'адчуць незадавальненне ад ужывання чаго-н. кіслага', *<аж>Вільня* (*-а,-о*) *відаць* 'вельмі кіслая (страва)', 'вельмі рэдкая (страва)', *у Вільню можна заехаць* 'вельмі тупы, ненавостраны (звычайна нож)', *як у Вільні на Кальвары* 'вельмі шумна дзе-н.', *да Масквы ракам не пераставіш* (*не пераставіць, не пераступіць*) каго 'вельмі многа', *за грош у Маскву збегае* 'вельмі дробязны ў сваёй скупасці, прагнасці, сквапнасці', *хоць у Маскву на выстаўку* 'вельмі добры, заслугоўвае самай высокай ацэнкі'. Айконім *Мінск* фігуруе ў адзінкавых фразеалагізмах: *адна нага ў Мінск, а другая ў Дзвінск* у каго 'хто-н. крываногі', *за капейку вош да Мінска пагоніць* 'вельмі прагавіты, жадлівы'. Тлумачыцца гэта тым, што сталічным Мінск стаў адносна нядаўна і роля яго пэўным чынам зацянялася на фоне саюзнага адміністрацыйнага цэнтра. Адлюстраванне назваў іншых гарадоў Беларусі абласнога і раённага ўзроўняў нязначнае: (крычыць) *аж у Крычаве чуваць* 'вельмі моцна', *гатоўка з Полацка* 'хітрун', *як Гродна* 'вельмі (стары хто-н.), вельмі (старое што-н.)' і інш. У цэлым пераважаюць у структуры фразеалагізмаў назвы вёсак і мястэчкаў, а самі фразеалагізмы характарызуюцца як вузкарэгіянальныя, прывязаныя да пэўнай мясцовасці: *Гандзя з Дубна* (*дубенска*), *як <той> воўк у Маркунях*, (парадак) *як у Адэльску, як у Біргалішкі на фэст*.

Невялікая колькасць фразеалагізмаў уключае ў сябе тапонімы, адпаведныя аб'ектам іншых дзяржаў: *на Гімалаі адправіць, ні ў міры ні ў Сібіры, папасці ў Палястыну, поўны Кітай, цуд над Віслай,* (перці) *як Сенька з Крыма.*

Асновай утварэння фразеалагізмаў з кампанентам-тапонімам выступае вобраз, звязаны з канкрэтнай падзеяй, якая адбывалася ў пэўнай мясцовасці, агульнавядомым гістарычным фактам, характэрным для нейкага населенага пункта. З усёй разнастайнасці вобразаў можна вылучыць некалькі тыповых, паводле якіх у розных гаворках узніклі свае ўласныя фразеалагізмы. Так, некаторыя з вышэйпаказаных фразеалагізмаў са словамі *Вільня* і *Масква* маюць вобраз далечыні, вялікай адлегласці. На ўяўленні пра адлегласць заснаваны і выразы *на Крычаў праз Бярдзічаў, праз Навагрудак у Бенявічы, у Вігушкі праз Дзярвенішкі.* Іх значэнне ‘кружным, неапраўдана далёкім шляхам (ісці, ехаць)’ з адценнем іранічнасці рэалізуецца ў дачыненні да таго, хто дабіраецца куды-небудзь не нацянькі, а іншай, намнога далейшай дарогай.

Пашыраным з’яўляецца вобраз таго, хто знаходзіцца ў псіхіятрычнай бальніцы ці ўцёк з яе. У якасці ўтваральнага кампанента выкарыстоўваецца назва населенага пункта, дзе знаходзіцца бальніца. Значэнне фразеалагізмаў ‘дурны, неразумны’ суправаджаецца эмацыянальна-экспрэсіўным адценнем неадабральнасці, грубасці: *з Ёдзіч, з Баяраў, ці з Монькаўцаў ці з Баяраў, як з Жодзішак, з Бялавічаў уцёк, з Навінак, з Мэштавіч уцёк.*

Са значэннямі ‘памерці’, ‘пахаваць каго-н.’ бытуюць фразеалагізмы эўфемічнага характару, у вобразную структуру якіх уваходзіць слова, што называе сядзібу па імені гаспадара ці іншую мясціну, каля якой (за якой) размешчаны могілкі: *вынесці за Бэкіша, вынесці за Бэлька, вынесці за Трышын, вынесці за Ціта, панесці пад Харытона, пайсці да Савіча пад бярозу, пайсці да Чудзілоўскага, пайсці пад Азот, пайсці пад Мазалеўскага адрыну.*

Прадуктыўную групу складаюць фразеалагізмы са значэннем якаснай характарыстыкі асобы ці яе дзеяння, пабудаваныя па вобразнай мадэлі «хто адкуль». Другім кампанентам іх выступае прыметнік, вытворны ад тапоніма: *ляйда кабузяцка, Фіт канчаніноўскі, як Круль парузоўскі, як Луца бянейска.*

Шматлікімі з’яўляюцца фразеалагізмы, у структуру якіх уваходзіць кампанент-антрапонім (ці адантрапанімічны прыметнік). Гэта вельмі разнастайныя сваім паходжаннем фразеалагізмы. Асновай іх утварэння сталі канкрэтныя выпадкі, практычны вопыт, з’явы матэрыяльнай і духоўнай культуры, гістарычныя падзеі, звязаныя з пэўнымі асобамі. Антрапонімы як фразеаўтваральныя кампаненты класіфікуюцца адпаведна іх экстралінгвістычнай крыніцы ў пэўныя тыпы.

Імёны, прозвішчы, мянушкі жыхароў мужчынскага ці жаночага полу той мясцовасці, дзе ўзніклі і бытуюць фразеалагізмы. Экстралінгвістычнай крыніцай такіх фразеалагізмаў выступае: 1) выпадак, удзельнікам якога была канкрэтная асоба: (насіцца) *як Адэля з бутэлькаю*, (прыліпнуць) *як Піліп да Каські*, (дарвацца) *як Авяр'ян да трыбуны*; 2) характарыстыка асобы: *як Кірык* 'вельмі шчаслівы', *як Машка* 'здаровая, тоўстая', *як Мірка* 'вельмі неахайны'; 3) характарыстыка асобы з указаннем месца яе жыхарства, знаходжання: *Смэрга гудзініцкая* 'неахайны', *Тубала дубраўлянскі* 'неразумны', *як косцяўскі Алюк* 'неахайны, у рваным адзенні'; 4) прадмет, прыналежны пэўнай асобе, яго стан: *як бондарава карова* 'без толку, без справы (бадзяцца)', *як саўкаў бот* 'вельмі, надзвычай (дурны)', *як шыманелевы пчолы* 'шпарка, хутка (разбегчыся, разляцецца)'. Фразеалагізмы адзначаных груп утвараюць цэлы пласт у дыялектнай мове, выступаюць прадуктам «фразеаўтваральнай стыхіі». Яны ў абсалютнай сваёй большасці застаюцца вузкарэгіянальнымі і ў перспектыве знікнуць наогул. І толькі рэдкія з іх, магчыма, «праб'юцца» ў шырокі ўжытак.

Рэлігійна-біблейскія персанажы. Біблія з'яўляецца крыніцай узнікнення шматлікіх фразеалагізмаў, у якіх знайшлі адлюстраванне імёны розных дзеючых асоб: *о Езу(-с) скрыжаваны* 'выказванне розных пачуццяў: здзіўлення, незадавальнення, абурэння і інш.', *конь пана Езуса* 'недалёкі, неразумны, тупы чалавек', *Юда скарывоцкі* 'чалавек, які зводзіць, зманьвае на нядобрае', (пара) *да Адама* 'на той свет', *як Лазар* 'вельмі хворы'. У цэлай групе фразеалагізмаў фігуруе імя нашчадка па лініі Сіма, сына Ноя, *Аўраам* (*Абрам, Абраам, Абрагам, Абраім*). Усе гэтыя фразеалагізмы звязаны з паняццем смерці: *пайсці* (*паехаць, трапіць*) *да Абрама, пайсці* (*паехаць*) *да Абрама гавечкі пасвіць, збірацца да Абраама на госці, у Абраіма на вячэры, пайсці да Абрама на піво, пайсці за Абрама замуж*. Сустракаецца нямала іншых фразеалагізмаў рэлігійна-біблейскага паходжання, кампанентамі якіх сталі імёны святых: *пайсці да святога Спаса* 'легчы адпачываць', *сядзець як Спас* 'мець усяго ў дастатку', *Павел у Пятра карону ўкраў* 'кажуць жартоўна, калі 29 чэрвеня здараецца ў посны дзень', (набожны) *як святога Юр'я* (*Юрая, Ераго, Юраго*) *конь*, (баяцца) *як свенты Міхал д'ябла*, (абстарцаваць) *як святы Міхал д'ябла*. Выключная важнасць Бібліі ў духоўным жыцці грамадства, абагульненасць і тыповасць адлюстравання ў ёй чалавечых узаемаадносін, рэгулярная паўтаральнасць сюжэтаў Святога Пісання ў індывідуальным і царкоўным богаслужэнні спрыяльна ўплываюць на развіццё

фразеалагізмаў біблейскага паходжання. Гэта назіраецца ва ўсіх народаў з развітым хрысціянствам.

Імёны гістарычных асоб, часцей за ўсё кіраўнікоў дзяржаў, палкаводцаў, палітычных дзеячаў. Так, фразеалагізм *пры пану Зыгмунду* ‘вельмі даўно’ ўвабраў у сябе імя *Зыгмунт* (*Сігізмунт, Жыгімонт*), якое ў перыяд з 1432 па 1622 год насілі аж тры вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага і адзін кароль Рэчы Паспалітай. З імем вядомага дзяржаўнага дзеяча, военачальніка, вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля польскага Сцяпана Баторыя звязаны фразеалагізм *помніць караля Батораго* (*Батуру*) ‘стары, даўні, адвечны’. Па адной з ім мадэлі пазней утварыўся фразеалагізм *цара <Мікалая> помніць*, у якім антрапанімічны кампанент называе аднаго з цароў Расійскай імперыі. Параўн. таксама: *за Мікалая* (*за Мікалаем*), *пры Ніколаеві*. Фразеалагізмы *за крулям Сасам, з крулём Сасам як елі пірог з мясам* ‘вельмі даўно’ адлюстроўваюць сляды гісторыі, калі ў Рэчы Паспалітай гаспадарыў кароль Аўгуст II Сас (з 1697 па 1733 г.). Дыялектныя фразеалагізмы напамінаюць і пра асоб, менш аддаленых у гістарычным часе: (прагнаць) *як Кутуз француза*, (глядзець) *як Ленін на буржуазію*, (ілгаць) *як Троцкі*, (планы) *як у Гітлера*.

Імёны персанажаў літаратурна-мастацкіх, літаратурна-песенных ці фальклорных твораў. Сфарміраваліся фразеалагізмы па матывах тых твораў, якія ў свой час вызначаліся шырокай папулярнасцю: *даць з-пад Мікітавага лапця агню, як збянтэжаны Саўка, як папа Карла, даставай Язэп гармонік, Марка ганяць,* (*ганяць*) *як Марку па пекле,* (*ісці*) *як Марка з пекла*.

Параўнальна нешматлікую групу складаюць фразеалагізмы, кампанентам якіх з’яўляецца назва рэлігійнага свята: (спяваць) *як воўк на Грамніцы*, (завыць) *як воўк у Піліпаўку*, (яды) *як на Дзяды* (*на Каляды, на Вялікдзень*), (наесціся) *як на Куццю*, (прыгожая) *як на Яна*, (прыбрацца) *як хата перад Тройцаю*. У аснове назваў многіх рэлігійных святаў ляжаць уласныя кананічныя імёны. У такой ролі яны страцілі функцыю асабовых імёнаў, пераасэнсаваўшыся ў анамастычныя адзінкі хрысціянскага календара, суадносныя з пэўнымі днямі года: (захацець) *на Пятра халадца*, (напіцца) *як Волесь на Міколу*, *Барыс Ганне на хлеб* (*на пірагі*) *меле*.

Клічкі жывёл займаюць нязначнае месца ў структуры фразеалагізмаў: *падаіць Лыску ды міску*, (выць) *як Фанасёва Аза*. Толькі клічка *Мурза*, якая стала выконваць абагульняльную функцыю, ужывацца са значэннем агульнага назоўніка, суадносячыся са словам *сука* (*сучка*), сустракаецца ў цэлай групе фразеалагізмаў:

*як Мурза папова*, (набрацца, назапасіць) *як Мурза блох*, (набрацца) *як Мурза маслянкі* (*жому, заціркі, кішак, костак*), (прыстаць) *як Мурза да маслянкі*, (уляпацца) *як Мурза ў зацірку*, (папасці) *як Мурза ў студню*.

У прааналізаваных фразеалагізмах уласнае імя ў многім матывуецца экстралінгвістычнымі фактарамі, суадносіцца з анамастычнымі назвамі рэальных асоб і з'яў. Сустракаецца таксама нямала фразеалагізмаў з лінгвістычнай асновай утварэння, што не маюць пазамоўнай матывацыі ці толькі ўскосна звязаны з канкрэтнымі з'явамі рэчаіснасці. Наяўнасць уласнага імя ў іх складзе выклікана найперш прычынамі, абумоўленымі рознымі механізмамі фразеатворчасці: 1) рыфмай: (аддам) *на святы Адам*, *прайсці Крым і Рым*, (харошы) *як люлька ў Адошы*, (удалося) *як той Салосе*; 2) заменай агульнага назоўніка ўласнай назвай з мэтай ажыўлення ўнутранай формы фразеалагізма: *каб яно возерам* (*Кроманню*) *стала!*, *хто* (*Яська*) *у лес, а хто* (*Манька*) *па дровы*, *як рак на гары* (*на Дамянішкаўскай гары*) *свісне*, *як у ваду* (*у Нёман*) *кануў*; 3) народнаэтымалагічным пераасэнсаваннем агульнага назоўніка: *згінь ты марне* (*Мар'я*) *прападзі*; 4) моўным каламбурам: *паехаць у Храпянё(е)ва* 'спаць пераважна з храпам', *выйсці замуж за Лапатэцкага* 'памерці', *Галадніцкі ўбіўся ў хату* 'няма чаго есці, наступіў голад', *Сасноўскі абнімае* 'хіліць на сон каго-н.', *паехаць у Ложкаўцы* 'заснуць, спаць', *у Сапуны* (*у Сапунцы*) *пайсці* 'спаць, звычайна пасопваючы'; 5) алагічным ці недэтэрмінаваным спалучэннем антрапонімаў: *Кузьма Грышку родны Фёдар, гулянчынага зяця сястры Хрысцінкі сын.*

*1. Прачытайце тэкст, знайдзіце фразеалагізмы. Зрабіце вывад пра частотнасць іх выкарыстання ў прыведзеным адрэзку маўлення.*

Было́ ле́то два́ццаць трэ́йцяго іюля. Лю́дзі зажына́лі жы́то. Не́мцы пазганя́лі ўсіх ат мало́го да вялі́каго, мушчы́н – у адно́ гумно́, жанчы́н – у друго́е. Бі́тую гадзі́ну трыма́лі людзе́й. Аччынілі дзьве́ры і страля́лі па і́х. Адна́ жанчы́на прадра́пала зямлю́ пад сьцяно́ю гумна́, вы́лязла, ду́мала, што пашкаду́юць дзяце́й. Дзе́ці крыча́лі: «Ма́мачко, ні пакіда́й на́с!» А яна́ рва́ла на сабе́ валасы́. Як пастраля́лі людзе́й, не́мцы сказа́лі ты́м, хто с фурма́нкамі, е́хаць за і́мі. Яны́ хадзі́лі па ха́тах і забіра́лі і́хія рэ́чы с куфэ́ркаў. І та́к было́ стра́шно, аш язы́к адніма́ўся. Та́то раска́зваў, яшчэ пасьце́лі былі́

нізасла́ныя. Як ця́пер, у вачо́х стаіць. Была́ ў міне́ сястра́ ста́рша на чатыры гады́. Яе́ зва́ць было́ Мару́ся. І яна́ таксама загінула. Во та́к і засталосо ат Княжаво́ццаў то́лькі бра́цка магіла. А я засталаса без ро́ду і пле́мені. Усё адно́ адалью́цца ім сьлёзы на́шы, мно́го яны́ на́м папсава́лі крыві.

*С.С.Сідорык, 1934 г. н.*
*в. Казакоўцы Маст., 2003 г.*

*2. Прачытайце тэкст, знайдзіце і выпішыце фразеалагізмы, вызначце, якія з іх агульнанародныя, а якія дыялектныя.*

І. От ціпе́р жызьнь до́брая ста́ла. Гэ́та ні та́к, як даўне́й было. Усё лю́дзі ма́юць. Я ціпе́р у саўга́сі рабо́таю. А як пачну́ ўспаміна́ць, што́ даўне́й было́, дык сьляза́ во́чы та́к і ахіне́. У ха́ці ні ўзя́ць ні да́ць, а сямья́ вялікая, ратоў мно́го, усе́ е́сьці хо́чуць. І німа́ дзе́ ўзя́ць, бо ко́лькі то́й зя́млі, што ко́т напла́каў. Ды й што́ расло́ на ёй. Бу́льба ўро́дзіць зь яйцо́, то й ґэто до́бро. Былі́ такія часы́, калі до́шч паб'е́ ўсё жы́то. Тады́ ўжэ́ галада́лі, але ш не́як жылі́, канцы́ с канца́мі зво́дзілі, перабіва́ліся. А ціпе́р ужэ́ жы́зьнь саўсім другая. О́сь як прые́дуць мае́ дзе́ткі да мяне́ са сваімі дзе́ткамі, дак ты́я разадзе́тыя што ку́клы. По́йдзяш у магазы́н зь імі бамбэ́лкаў ці пячэ́ня купіць, лю́дзі ўсё дзівяцца, якія ш харо́шыя ў мяне́ ўну́чачкі.

*М.У.Аўсейка, 1928 г. н.*
*в. Гарнастаевічы Свісл., 1993 г.*

ІІ. У на́шы гады́ тако́га ні было́. Не-не́, любы́ мо́жа сказа́ць. А за́рас разбо́ўталіся ўсе́. Ма́ці с ба́цькам ні ве́даюць, што́ для сваіх дзе́так купля́ць, а ты́я дзе́ткі на шы́ю гато́выя се́сьці, а́бы нічо́га ні рабіць. Здурэ́лі ўсе́, здурэ́ў сьве́т. Куды́ мы́ дако́цімся с такім жы́цям, аднаму́ Бо́гу вя́дома. У касьцёл ні хо́дзяць, ні мо́ляцца, адвярну́ліся ад усяго́ сьвято́га, жыву́ць а́бы дзе́нь да ве́чара, парадніліся с чо́ртам.

*К.У.Крэўская, 1924 г. н.*
*в. Дуляўшчына Маст., 1992 г.*

ІІІ. І лю́дзі тут усе́ ні такія, як у на́с. Як прыйшла́, на́ват сло́ва ні было́ с кім сказа́ць. Што́ ты, такія ганаро́выя, ста́вілі сабе ніве́дама што́. Хадзілі, задра́ўшы мазго́лу. Ні патступіцца. Гэ́та ціпе́р яны́ такія до́брыя ста́лі, хоць на хле́п нама́звай. Што адна́, што другая. Паглядзе́лі, што да міне́ ўсе́ е́дуць, і дзе́ці до́брыя, усе́

хвáляць усю́ды, і жыву́ до́бра. А яны́ сядзя́ць як крумкачы́ па сваі́х хáтах, но́са ні вы́садзяць.

*М.М.Жылінская, 1924 г. н.*
*в. Дарані Свісл., 1992 г.*

*3. Выпішыце з тэксту фразеалагічныя дыялектызмы, параўнайце іх з літаратурнымі фразеалагічнымі адпаведнікамі. Вызначце, да якога тыпу фразеалагічных дыялектызмаў яны належаць.*

I. Былá ў магазы́ні, хацéла ўну́ку равэ́рчык купі́ць, áлі дзé там – ні даступі́цца. Халéра на гэ́тых аркаго́лікаў. Купі́ла аж дзéсяць сагано́ў. А што́ рабі́ць. Бізу́яса дзéнь і но́ч, кі́даяса як му́ха ў вáру, а пры́дзя такі бы́к чухо́нскі, халéра на і́х, і яму́ ўсё што хо́чаш, а ты́ хоць пэ́нкні ат кры́ку [Суразмоўніца выцірае анучкай зэдлік, ставіць на стол слоік з малаком, запрашае]. Ешча ко́лькі хо́чаця. Стары́ мо́й наéўса, напі́ўса, сéў на трáктар і прэ́ньдзенька паляцéў. Казáла яму́: «Пражэ́нь хоць каро́ву». Але дзé там! Ні да тáнцаў ні да ружáнцаў. На рабо́ці то ён кру́ціцца – тут éсьць тут німá, а ў хáці такі завалі́ска. Ну, алé казáлі, што гэ́тыя трактары́стыя ціпéр бу́дуць гро́шы мéць, то пэ́ўне куплю́ яму́ што, а то ў чы́м у касьцéлі ў ты́м у пасьцéлі. Кажу́ яму́: «Ты́ дурны́ чы нé?!» Зы́ркня вачы́ма, здаéцца, уця́ў бы як сабáка. Але я́ ні баю́са. Наўчыцéльку ўзялá на кватэ́ру.

*Я.І.Бондзюш, 1935 г. н.*
*в. Войтаўцы Гродз., 1992 г.*

II. Што́ ш табé, мая́ ты дзéвачка, расказáць. Ёсь, што й язы́к ні паваро́чваецца гавары́ць пра ту́ю жы́сь. Мо́жа зафунду́еш які пудэ́лак цукéрак, дык скажу́... Ні трэ́ба! Сьмяю́ся. Ні люблю́ сало́ткага, раскажу́ пра го́ркая. Засталáся я рáна сірато́й. Расла́ пры цёцца, а цётка Стэ́фка ўжо ш блáгая былá бáба, нéх яé змéлька ні но́сіць. Клялá й клясьці бу́ду, хоць і ў Бо́га вéру. Гадавáлася я́ ў яé с двумá яé сынáмі. Дык як да сто́лу, дык Гэ́нюська, Бо́люська, а як да рабо́ты, дык Стáся. І жáць, і малаці́ць, і ткáць, і каро́ваў пáсьці, кармі́ць, даі́ць. І хáту апрáтаць, і звары́ць, і памы́ць. А мáтка найсьвéнша! Рабо́ты не зьлічы́ць, а як што́ зьéсьці, дык абжо́ра, прэ́ш ні ў сваé духі́. Во́н, струпáч пракля́ты. Гэ́та янá мянé тáк празывáла, бо ў мянé с дзéцтва нéйкая сы́пка былá на цéля. Дык я́ й ні нáтта су́нулася да то́га сто́лу. Хвачу́ дзé кавáлачак цішко́м, сьлёскамі зап'ю́. Тáк і вы́качалася. А тэ́рас, як я́ самá сабé хазя́йка,

жыву́ ў Ашмяне́, дык і я́ спатрэ́білася. Прыхо́дзя яна́ і бу́дзе каза́ць: «Вазьмі́ ты́ мяне́, Ста́ська, на зі́му, адно́й ску́чна». А я́ маўчу́, ты́лька мы́сьлю сама́ сабе́: «А сыны́ – Гэ́нюсь, Бо́люсь? Жыву́ць у Ла́твіі, распане́лі, а табе́ трэ́ба Ста́сі ха́ту заваліць». Паду́мала так, паду́мала, дый забра́ла. Ні кіда́ць жа адну́ стару́ю. І ні ра́зу ні ўкры́ўдзіла, а е́й не́х па́н Бу́х сьве́нты запла́ці.

*г. Ашмяны*

*4. Прачытайце тлумачэнні інфармантаў пра паходжанне асобных вузкарэгіянальных фразеалагізмаў. Вызначце пазалінгвістычную аснову ўтварэння гэтых фразеалагізмаў.*

І. Вёў чалаве́к вала́, прада́ць хацёў. Даро́га вяла́ праз ле́с. Зачыры́кала асі́на, асі́ны ш за́фша скрыпя́ць. Чалаве́ку падало́ся, што асі́на не́шта гаво́рыць. Ён і пыта́ецца ў асі́ны: «Што́, хо́чаш вала́ купі́ць?» Яна́ апя́ць зачыры́кала, зна́чыць, хо́ча. Пыта́ецца: «Куды́ яго́ падзе́ць?» Яна́ ізно́ў зачыры́кала. «А, прывяза́ць да цібе́? До́бра, прывяжу́». Прывяза́ў. Пыта́ецца: «Калі́ бу́дуць гро́шы? Дзісь? Не́? За́ўтра? До́бра, хай бу́дуць за́ўтра». Прыхо́дзіць наза́ўтра па гро́шы, а та́м німа́ нічо́га, ты́лько ро́шкі ды но́шкі засталі́ся. Што́ ш тэ́рас рабі́ць бу́дзеш? Наза́т не ве́рняш, трэ́було зра́зу ду́маць. Закірава́ўся і даха́ты пайшо́ў. Хто́ яго́ ве́дае, мо́жа, калі́ гэ́та і пра́ўда была́, бо й тэ́рас ча́ста ка́жуць: прада́ў як асі́не вала́. Прада́ў, а гро́шы нівядо́ма калі́ бу́дзеш ме́ць за гэ́та.

*Г.М.Алексеевіч, 1932 г. н.*
*в. Бастуны Воран., 1992 г.*

ІІ. На́ша ба́пка Але́ся заўсёды любі́ла ўспаміна́ці, што́ было́ ў яе́ ча́с і заўсёды гавары́ла: гарэ́ як Рыго́р, бяжы́ць як Тэ́кля на кірма́ш, ло́пнеш як васількоўска сьві́нка. Калі́ мы́ ў яе́ пыта́ліса, што́ зда́рылаcard з гэ́тай свінкай, яна́ каза́ла, што яна́ е́ла і е́ла. По́куль не ло́пнула. А ці было́ гэ́та, ніхто́ не ве́дае, німа́ ты́х, хто́ ба́чыў гэ́та. То́лькі заўсёды, калі́ ўну́кі е́лі без ме́ры, то ба́пка Але́ся каза́ла: ло́пнеце як васількоўска сьві́нка.

*А.І. Клюкач, 1933 г. н.*
*в. Галавачы Гродз., 2002 г.*

ІІІ. Яшчэ́ за саве́цкай ула́сьцю брыгадзе́р право́дзіў зьбю́рку для галасава́ня. Склі́каў усі́х. А да Качано́ўскага зайшо́ў усе́т, кап ра́зам ісьці́ ў клу́п. Ну й пача́ў Качано́ўскі зьбіра́цца, алі ш жо́нкі ні было ў хаці́. Яна́ заўсёды ра́дзіла і памага́ла яму́, бу са́м ён ні

мо́х на́ват гу́зік зашпіліць, мару́днік бы́ў такі, што сьве́т ні ба́чыў. Качано́ўскі прыму́сіў сусе́да пасабля́ць. Той пасабля́ў, а тады́ плю́нуў ды пашо́ў. А са́м Качано́ўскі дава́й галасі́ць: «Знайдзі́ маю́ жо́нку, бу на галасава́ня спазьню́ся!» Та́к і ста́лася. Ту цяпе́р, калі́ хто́ мару́днік, ка́жуць – выбіра́яся як Качано́ўскі на галасава́ня.

*І.І.Адалеўскі, 1929 г. н.*
*в. Асіпаўцы Воран., 1998 г.*

## *1.7. Структурна-тыпалагічнае вывучэнне гаворак Гродзеншчыны*

Гаворкі Гродзеншчыны характарызуюцца адносным адзінствам сваіх этнагенетычных уласцівасцей. Гэтае адзінства праяўляецца на розных іерархічных узроўнях у сістэме структурных дыялектных тыпаў. Так, на самым высокім узроўні адзінства заключаецца ў тым, што гаворкі Гродзеншчыны цалкам уваходзяць у асноўны масіў беларускай дыялектнай мовы і не перасякаюцца з масівам палескіх гаворак. У гэтым плане яны маюць агульныя рысы, вызначальныя для беларускай мовы ў цэлым, напрыклад, аканне, дзеканне і цеканне, наяўнасць зацвярдзелых зычных.

На другой, ніжэйшай, іерархічнай ступені гаворкі Гродзеншчыны не выходзяць за межы паўднёва-заходняга дыялекту, убіраюць у сябе яго агульныя рысы.

Трэцяя ступень адзінства дасягаецца тым, што Гродзеншчына знаходзіцца ў прасторы адной групы гаворак – гродзенска-баранавіцкай.

На перыферыі адзначанай структурнай сістэмы размяшчаюцца гаворкі Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў, дыялектная тэрыторыя якіх уваходзіць у склад сярэднебеларускіх гаворак, змешаных, пераходных, якія спалучаюць у сабе рысы паўднёва-заходняга і паўночна-ўсходняга дыялектаў і маюць адзінкавыя ўласныя ўтварэнні.

На чацвёртай ступені гаворкі аб'ядноўваюцца рысамі дыялектных зон (заходняй, паўночна-заходняй, цэнтральнай), якія кладуцца на лінгвістычную карту Гродзеншчыны.

І толькі на пятай, самай нізкай, ступені гаворкі выяўляюць сваю неаднастайнасць, нятоеснасць, г. зн. спецыфічныя асаблівасці лакальнага характару, выкліканыя этнагенетычнымі ці культурна-

гістарычнымі прычынамі. Гэтыя асаблівасці яшчэ недастаткова вывучаны.

Лінгвістычнае краязнаўства цікавяць у першую чаргу не агульнабеларускія моўныя з'явы, а дыялектныя асаблівасці розных структурных тыпаў гаворак, неўласцівыя беларускай літаратурнай мове. Гэта свайго роду помнікі моўнай культуры народа, якія заслугоўваюць увагі і шанавання.

### *1.7.1. Асаблівасці паўднёва-заходняга дыялекту на тэрыторыі Гродзеншчыны*

Гаворкі Гродзеншчыны ілюструюць асноўныя дыялектныя рысы паўднёва-заходняга дыялекту. Сярод іх у галіне націскнога вакалізму можна адзначыць функцыянаванне закрытых галосных |ê|, |ô|. Фанема |ê| – пярэдняга рада, сярэдне-верхняга пад'ёму, ужываецца на месцы былога ѣ. Фанема |ê| больш вузкая ў параўнанні з фанемай |э|, сваёй артыкуляцыяй набліжаецца пасля мяккіх зычных да |і|, пасля цвёрдых і зацвярдзелых – да |ы|. Больш-менш выразна фанема |ê| вымаўляецца ў паўднёвай частцы Гродзенскай вобласці (Свіслацкі, Ваўкавыскі, Слонімскі раёны). Аднак тут ужыванне яе нерэгулярнае, паралельна ў тых самых пазіцыях, у тых самых словах часта функцыянуе гук |э|: *с'э́но, цэ́лы*. Чым далей на поўнач, тым менш адчуваецца «закрытасць» |ê|, назіраецца прыкметнае выцясненне яго адкрытым |э|.

Фанема |ô| – задняга рада сярэдне-верхняга пад'ёму, рэалізуецца ў гуку, акустычна набліжаным да |у|: *вôл, ватôўка, ваўкôў*. На слых |ô| лепш адчуваецца і характарызуецца большай устойлівасцю, чым |ê|. У наш час таксама адбываецца паступовая страта |ô|, рэалізацыя ў гуку |о|.

Агульнай для паўднёва-заходняга дыялекту і гаворак Гродзеншчыны ў яго складзе з'яўляецца такая асаблівасць, як непаслядоўны пераход націскнога |э| у |о| пасля мяккіх і зацвярдзелых зычных. Адсутнасць пераходу назіраецца ў асобных словах і формах: *ав'э́с, б'э́рдо, зав'э́с, зан'э́с, раз'дз'э́р, в'э́ртк'і, сэ́п'ал', кл'э́пк'і, дал'э́ко, чаң'в'э́рты, ідз'э́м, б'арэ́м, н'ас'э́м, кл'э́пат, худэ́ба, скнэ́ра, м'э́рзлы, с'ц'э́рла, кас'йэ́, ус'э́йу, майэ́йу, твайэ́йу, свайэ́йу, майэ́, твайэ́, свайэ́, чарназ'э́м, йэс'ц'*.

У галіне ненаціскнога вакалізму яркай асаблівасцю гаворак Гродзеншчыны выступае няпоўнае недысіміляцыйнае аканне, сутнасць якога ў тым, што ў канцавым адкрытым складзе

этымалагічныя |а|, |о|, |э| захоўваюцца, адрозніваюцца, не супадаюць у гуку |а|: *рыба, мно́го, мо́рэ.* Гэтая дыялектная асаблівасць характарызуецца ўстойлівасцю. Спецыфіка яе на Гродзеншчыне – пераважнае ўжыванне канцавога |о|, які можа вымаўляцца і на месцы этымалагічнага |э|: *мо́ро, го́ро.* У асобных выпадках |о| знаходзіцца і на месцы этымалагічнага |а|: *саба́ко, та́то, па́по, ба́ц'ко, дз'а́ц'ко.*

Разнавіднасцю недысіміляцыйнага акання выступае недысіміляцыйнае яканне, пры якім этымалагічныя |а|, |о|, |э| супадаюць у гуку |а| у ненацісным становішчы пасля мяккіх зычных. Найбольш рэгулярна яно праяўляецца ў першым складзе перад націскам: *в'асна́, с'астра́, б'адо́й, в'аду́.* У іншых ненаціскных складах гук |а| рэалізуецца непаслядоўна. У адных гаворках Гродзеншчыны ён вымаўляецца выразна (*в'арац'ано́, з'ал'анава́ты, хло́п'ац, бу́с'ал, грэ́б'ан', да́л'ай, в'э́с'ало, во́з'аро*), у другіх набліжаецца да |э|, займае артыкуляцыйнае становішча паміж |а| і |э|. У шэрагу выпадкаў артыкулюецца гук |э| поўнага ўтварэння: *по́йдз'эм, бу́с'эл, с'ц'эражы́.* Ізаглосу гэтых трох з'яў акрэсліць немагчыма, паколькі яны хаатычна, нестабільна «раскіданы» па розных тэрыторыях, часам суіснуюць у адной гаворцы ці нават у маўленні адной асобы.

У сістэме рэалізацыі кансанантызму характэрная асаблівасць гаворак – абмежаванае выкарыстанне падоўжаных зычных. У інтэрвакальным становішчы на месцы старажытнага спалучэння «мяккі зычны +ь+й», як правіла, гучыць непадоўжаны зычны, што ўзнік у выніку сцяжэння падоўжанага. Схема дыяхранічнага развіцця гэтай з'явы на канкрэтным прыкладзе выглядае так: *гал'ьйо́ – гал'йо́ – гал'л'о́ – гал'о́.* Непадоўжанасць зычных – асаблівасць, стабільная і рэгулярная ў мове прадстаўнікоў розных узроставых груп: *в'ас'э́л'а, вучэ́н'а, п'ачэ́н'а, разво́дз'а, купа́н'а, нас'э́н'а, варэ́н'а, с'м'э́ц'а, в'э́ц'а, збо́жа, со́л'у, во́с'ан'у, з'э́л'ан'у, п'ац'у́, дз'эв'ац'у́, куц'а́, сва́ц'а.*

Устойлівай рысай заходняй часткі гаворак Гродзеншчыны выступае саканне – цвёрдасць зычнага гука |с| у зваротным постфіксе дзеясловаў. Сярод цвёрдых варыянтаў постфікса часцей выкарыстоўваецца -са: *вы́спаласа, нал'ата́ласа, найэ́ўса, нап'і́ўса.* Постфікс -со звычайна рэалізуецца ў пэўных граматычных умовах, калі дзеяслоў стаіць у форме прошлага часу ніякага роду ці ў безасабовай форме: *Гэто дзіця, знаяця, бегло, бегло і паваліласо* (Бабіна Гродз.). *Во так і засталосо ат Княжавоццаў, толькі брацка магіла* (Казакоўцы Маст.). Постфікс -со заўважаны і ў іншых

дзеяслоўных формах: *Ён багаты быў, да жызьні харошы быў, ні то што які там ругаўсо ці біўсо* (Зарудаўе Маст.). *Сеў на карову, а яна як панясе, алі ён удзяржаўсо* (Кавалі Бераст.). *Не знае, у чым дзело, думае, што мы весялімосо* (Талькаўцы Ваўк.). Частотнасць і разнастайнасць выкарыстання гэтага постфікса павялічваецца ў заходнім напрамку з выхадам у беларускія гаворкі Беласточчыны на тэрыторыі Польшчы.

Дыялектныя марфалагічныя асаблівасці праяўляюцца найперш у зменных часцінаў мовы. Устойлівы дыялектны характар маюць формы назоўнікаў множнага ліку. Так, назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне ўжываюцца з канчаткам -э: *бурак'э́, кавал'э́, м'ашк'э́, пн'э, ц'в'ік'э́, лас'э́, з'в'арэ́, нажэ́, кл'учэ́, бабрэ́, братэ́*. Назоўнікі ніякага роду захоўваюць старажытны канчатак -а: *с'о́ла, во́кна, аз'о́ра, бало́та, ц'ал'а́та, парас'а́та, пал'а́*.

Назоўнікі мужчынскага роду ў давальным і месным склонах маюць націскныя канчаткі -ом і -ох: *брато́м, сыно́м, като́м, гас'ц'о́м, з'ац'о́м, кн'аз'о́м; у гас'ц'о́х, у лапц'о́х, у садо́х, у л'асо́х, аб пано́х, у грыбо́х*. Зрэдку такія канчаткі адлюстроўваюцца назоўнікамі жаночага і ніякага роду, а таксама множналікавымі назоўнікамі: *дз'аўко́м, хустко́м, пал'о́м, грудз'о́м, дз'в'аро́м; аб дз'аўко́х, у хустко́х, у пал'о́х, у вушо́х, на пл'ачо́х, у дз'в'аро́х*.

Трэба заўважыць, што канчаткі -ом і -ох у гаворках усё больш набываюць архаічны характар. Пад уплывам беларускай і рускай літаратурных моў яны істотна выцясняюцца канчаткамі -ам і -ах і сёння сустракаюцца толькі ў маўленні людзей старэйшага пакалення.

У вінавальным склоне жывучай застаецца форма адушаўлёных назоўнікаў множнага ліку, аналагічная форме назоўнага склону: *пас'э́ каро́вы, стры́гл'і ав'э́чк'і, ко́рм'іц' куран'а́та, пайшо́ў па ба́бы, запрага́йц'а ко́н'і*.

У гаворках Гродзеншчыны захаваліся рэшткі клічнай формы. Яна ўтвараецца пры дапамозе канчаткаў -э (-а), -у, -о: *бра́ц'э, ко́ц'а, сы́нку, Йа́нко, ма́мо, Ва́л'о, Ма́н'э*.

Агульнай асаблівасцю паўднёва-заходняга дыялекту і гаворак Гродзеншчыны ў яго складзе з'яўляюцца рэшткі форм парнага ліку. Яны ўтвараюцца ад назоўнікаў жаночага, радзей ніякага роду ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, абодва, тры, чатыры*. Фармальны паказчык парнага ліку – канчатак -э: *дз'в'э́ наз'э́, дз'в'э́ руцэ́, тры з'ім'э́, чаты́ры ха́ц'э, або́два акн'э́*. У апошні час адзначаныя формы адчувальна прыгнятаюцца літаратурнымі формамі з канчаткам -ы(-і) (*дз'в'э рук'і, тры з'імы́*) і выходзяць з актыўнага ўжытку.

Больш устойлівымі аказаліся формы парнага ліку з канчаткамі -ыма (-іма) у некаторых назоўніках творнага склону, што абазначаюць парныя прадметы: *вачыма, пл'ачыма, дз'в'арыма, вушыма*. Пацвярджэнне гэтаму – выкарыстанне аналагічнай формы назоўнікамі іншых лексічна-семантычных груп: *грашыма, грудзі'ма, гас'ц'іма, грабл'іма, с'л'аз'іма, кас'ц'іма, чарц'іма*. Канчатак -ыма (-іма) адзначаецца нават у лічэбнікавых і займеннікавых формах: *свайіма, п'ац'іма*.

Прыметнікі (прыметнікавыя займеннікі, парадкавыя лічэбнікі) таксама ілюструюць шэраг асаблівасцей паўднёва-заходняга дыялекту. Тут у першую чаргу варта назваць сцягнуты аднаскладовы ненаціскны канчатак форм жаночага і ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах: *б'эла краска, добра дз'аўчына, в'эл'ка хата, гэтака штука, п'эрша камун'йа; смашну в'ачэру, с'ін'у хустку, нову кн'ігу; важно дз'эло, л'охко адз'эн'а, дробно нас'эн'а*.

Прыметнікі (і падобныя да іх іншыя часціны мовы) мужчынскага і ніякага роду маюць дыялектныя канчаткі ў месным склоне: пад націскам – -ом, не пад націскам – -ум: *у старом хл'ав'э, на л'іхом баку, у гн'ілом балоц'і, на сухом с'эн'і, у чом дз'эла, у том годз'і, у другом клас'і; на доўгум бродз'і, у добрум настройі, у с'ін'ум кас'ц'ум'і, у гэтум годз'і, на вашум гародз'і, на дз'ікавум пол'і, у п'эршум клас'і*.

Шэраг дыялектных асаблівасцей характэрны для дзеяслова.

Дзеясловы першай асобы множнага ліку абвеснага ладу заканчваюцца на -мо: *ідз'эмо, б'арэмо, с'п'авайамо, кажамо, с'п'імо, гл'адз'імо, крычымо*.

Формы загаднага ладу множнага ліку выступаюць з канцавым спалучэннем -мо (-ма): *к'ідаймо, заган'аймо, уц'акаймо, гл'ан'ма, с'адз'ма, к'ін'ма*.

Сінтэтычная форма будучага складанага часу, якая гістарычна ўтварылася ў выніку зліцця былога дапаможнага дзеяслова *имати* з інфінітывам асноўнага дзеяслова, пашырана ў асноўным на поўдні Гродзеншчыны: *раб'іц'іму, казац'ім'эш, дац'м'э, хавац'м'эм, п'ісац'м'эц'э, карм'іц'муц'*. У наш час яна набыла адзнакі архаічнасці, выкарыстоўваецца адносна нячаста, замяняецца сучаснай аналітычнай формай з дапаможным дзеясловам быць: *буду раб'іц', будз'эш казац'*.

Пералічаныя вышэй дыялектныя з'явы ўласцівы не толькі мове Гродзеншчыны, але і мове некаторых іншых рэгіёнаў Беларусі. Яны ўтвараюць сукупнасць вызначальных асаблівасцей

паўднёва-заходняга дыялекту, супрацьпастаўленых асаблівасцям паўночна-ўсходняга дыялекту.

*5. Выпішыце словы, у якіх адбылася замена этымалагічнага гука |ф| іншымі гукамі і спалучэннямі гукаў, растлумачце прычыну такой замены.*

1. У íх нідзé ні папéра ні валя́ецца на гу́ліцы, на асва́льце, а ў на́с і ба́нкі бітыя, бля́хі с-пат кансéрваў (*Прудзяны Шчуч.*). 2. Партвéль рабíлі с тка́нага палатна́, ру́чкі былí скру́чаныя зь ніцéй, ш шнурка́ (*Чаплі Лід.*). 3. Усяля́к было́, а́ля жылí лю́дзі, éлі зацíрку, сква́рку, карто́плю (*Віганцы Воран.*). 4. Нагатава́лі пасо́лі зь мя́сам, тады́ і ка́жа ба́цько: «Дава́й здымемо мéрку і глянімо, хто́ з на́с патаўсьцéя» (*Любча Навагр.*). 5. Упяро́т трэ́бо было́ і то́рпу самы́м капа́ць (*Кавалі Бераст.*). 6. Пайдзі зачыні шапу ў сéнях (*Асташына Навагр.*). 7. Ні выраджа́ліся гэ́так, як цяпéр, бо́сыя хадзíлі на гуля́нкі, бо тухлéй ні было́ (*Нёўда Навагр.*). 8. Ту́плі нія́к ні ку́пя (*Граўжышкі Ашм.*). 9. Ра́нілі та́м нямéцкага ахвіцэ́ра (*Ганчары Лід.*). 10. Хвамíлію яго́ ня по́мню, во, хíба Журо́ў (*Ляхавічы Зэльв.*). 11. Палатно́ самы́ тка́лі, адбéльвалі альбо́ хварбава́лі (*Пыра Гродз.*). 12. Ма́нька мнé но́вы хварту́х пашы́ла, та я́ яго злажы́ла, спаніцу чысьцéйшу (*Навікі Свісл.*). 13. На ко́нях ра́ней жа éжжалі, машы́н то не было́. Яшчэ́ до́бра было́, калí ў каго́ хвурма́нка была́ (*Суботнікі Іўеў.*). 14. Устро́яць такí по́кус: хло́пец патпа́ліць кудзéлю дзéўчыне, да ўсé яé ту́шым (*Дашкавічы Свісл.*). 15. Мая́ ты, што́ тыя гро́шы. Кама́шы на ногí яму́, сабé купí, куфа́йку яку́ю каля скацíны хадзíць. А дзéці ко́лькі ця́гнуць (*Буняны Ашм.*).

*6. Прачытайце, знайдзіце словы з дзеканнем і цеканнем. Ці праяўляецца гэты фанетычны закон у запазычаных словах? Які вывад можна зрабіць аб рэалізацыі яго ў беларускіх гаворках?*

1. У сяло́ як хто́ зая́віцца, вяду́ць да дзепута́та (*Старынцы Бераст.*). 2. На дзіскацэ́кі тыя як по́йдуць, то ўсё ка́жуць: «Ба́бушка, дзіскацэ́кі па пятна́ццаць ты́сяч сто́яць» (*Сухінічы Маст.*). 3. Вучы́ліся ў дзьвé зьмéны, і на́тто бы́ла мо́цна дзісьцíплíна (*Залацеева Зэльв.*). 4. Мацíма́ціку саўсíм лéдве цягну́ла (*Раневічы Свісл.*). 5. Але вла́сьці гасуда́рсьцьвенныя называ́лі гэ́то палíцікай (*Асташына Навагр.*). 6. А ту́та яшчэ́ чу́тка пашла́, што зьявíліся парціза́ны

(*Каліноўская Свісл.*). 7. Пазвані па ціліфо́ні і перада́й, што я́ каза́ла (*Бабіна Гродз.*). 8. Ранéй цéхнікі не было́, ну, жыцё было́ вясёлае (*Граўжышкі Ашм.*). 9. Анно́ цілівізары, больш ніякай вясёласьці ямá (*Малыя Азёркі Маст.*). 10. Кніжак ні было́, цітрáдзяў ні было́ (*Шылавічы Сл.*). 11. Ціф як узяў, так усé паўмірáлі (*Алекшыцы Бераст.*). 12. Усё жыцьцё прарабіла ў шко́лі цяхнічкай, лю́дзі мінé ўважáлі (*Адэльск Гродз.*).

*7. Прачытайце сказы, знайдзіце словы, у якіх не адбыўся гістарычны пераход націскнога гука |э| у |о|.*

1. По́тум мо́й тáто пастáвіў сваю́ хáтку на вы́гане, янá ціпéр ужэ́ зусім стáла старэ́нька, развалілася (*Крапіўніца Свісл.*). 2. Ці éсьць у цібé до́бра сакéра? Ба гэ́тай то́лькі дро́т сячы́ (*Бабіна Гродз.*). 3. Прышлі астáтнія – ізно́ў аддавáйце ўсё, што éст (*Геранёны Іўеў.*). 4. Ціпéр тáк: éст дзіця́, éст каля́сачка, éст о́тдых, éст атпачы́нак якісьці (*Перстунь Гродз.*). 5. А мо́ гро́шай табé вы́слаць, ці ў цябé яшчэ́ é? А калі é, то ко́лькі, напішы́? (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 6. Як паглядзіш на тэразьнéйшую маладзéш, то душá баліць (*Пагародна Воран.*). 7. Кéпско было́ хадзіць, далéко, ця́шко, па сьнягу́ (*Кавалі Бераст.*). 8. Пяро́т на куцю́ авéс змéлям, кісéль вару́, пячэ́нчыкі пяку́, куцю́ вару́ (*Баранавічы Карэл.*). 9. А брáт бы́ў мéншы, с тры́ццаць чацьвéртага го́да (*Малыя Азёркі Маст.*). 10. Éдзям у вéску, а брáт стаіць на ву́ліцы (*Гуды Лід.*). 11. Шчо́тка бы́ла з ру́чкай і с цьвéрдай шчаці́най (*Пляцянічы Зэльв.*). 12. Кру́цім перавéсла, вя́жам снапы́, а даро́гаю éдуць мушчы́ны па снапы́ (*Замасцяны Шчуч.*). 13. Прывéс карáфку во́ткі пéршай вы́рабы (*Гуды Лід.*). 14. Пасáтку, сасéнкі скро́сь садзіць хадзіла (*Ражкі Свісл.*). 15. Мы далíся да ксéндза, былá ў спо́вядзі янá (*Лаздуны Іўеў.*). 16. І прыязжáлі сапéры, і рвáлі гэ́ты зáмак (*Геранёны Іўеў.*). 17. У нас чáіцы над ракóй лéтаюць, ры́бу лапáюць (*Галавачы Гродз.*). 18. Былá сéньня ў крáме, купіла табé сако́лку [майку], твая́ сако́лка ўжо старáя (*Кракотка Сл.*). 19. Што ні скáжаш, ту ён усё йдзé прэ́ціў, ніко́га ні слу́хая (*Красноўцы Лід.*). 20. Задзéшава ты аддáў свайго́ баранá, рублёў двáццаць мо́г узя́ць (*Міжэвічы Сл.*). 21. Дзе чарназéм, там до́бро расьцé (*Міратычы Карэл.*).

*8. Прачытайце, вызначце тып ненаціскнога вакалізму пасля цвёрдых зычных.*

Жыцё было́ ў міне́ ця́шко. Ха́та была́ зусі́м мале́нька, а дзяце́й ажно́ дзе́вяць. Я была́ старэ́йшай, памага́ла сваі́м бацька́м не ту́лькі па хазя́йству, але́ і дзяце́й гадава́ць, е́сьці вары́ць. А быва́ло тако́й, што і е́сьці ні було́ што́. Але́ на сьвя́то, асо́бенно на Вялі́кань, було́ тро́шкі на́ват сма́шнаго са́ла. Хоць і сямья́ была́ ве́лька, але́ жылі́ дру́жно, ба́цько бы́ў рабо́чым, усё дабыва́ў у ха́ту. Ра́но ўстава́ў, по́зно кла́ўся, шкадава́ў нас. Та́к і жылі. Было́ і го́ро. У на́с памярла́ сястро́нка, як було́ ёй два́ го́да, але́ ш перажылі́ гэ́то го́ро. Ве́рылі ў Бо́га, хадзілі ў цэ́ркву, на́тто до́бро малі́ліся. У ха́ці ў на́с було́ ні гэ́дак, як за́рас. На́ват пало́ў ні було́. На ка́ждо сьвя́то жо́ўтым пясо́чкам зямлю́ высыпа́лі. Вы́шла я́ за́муш у васімна́ццаць гадо́ў. Тады́ ў ты́я га́ды і ле́пшо тро́шкі жыцьцё наста́ло. Ма́е дзе́ці ніке́пско жылі́, ні та́к, як мы́. Ужэ́ й вучы́ліся, а пато́м і дале́й па́шлі вучы́цца. Дзьве́ до́чкі ў міне́, адна́ дахто́рка, другая шва́чка. Красі́выя. Пато́м за́муш і́х аддала́. Зяці́ харо́шыя, памага́юць. І ўну́чкі е́ ўжэ́ дзяўкі́ ве́лькія. Жыву́ць дзе́ці ніке́пско ў го́радзі. Само́ гла́ўно, кап здаро́выя былі́ ўсе́. Я́ ім тро́шко пе́ньсіяй памага́ю, бо ў го́радзі цяжэ́й, чым у вёсцы. Трэ́бо ўсё купі́ць: і малако́, і сьмята́ну, і адзе́цца красі́во, бо ў лю́дзі выхо́дзяць. А ніда́ўно ста́ршуй даццэ́ апіра́цыю рабі́лі, то то́жа трэ́ба гро́шмі памахчы́. Вось та́к і жыву́ памале́ньку.

*Жанчына, 1927 г. н.*
*в. Правыя Масты Маст., 2003 г.*

*9. Выпішыце словы, у якіх няпоўнае недысіміляцыйнае аканне рэалізуецца вымаўленнем гука |о| на месцы этымалагічных галосных |а|, |э| у канцавым адкрытым складзе.*

1. Як та́то ішо́ў на вайну́, то купі́ў на́м кілё са́херу (*Калядзічы Ваўк.*). 2. Трэ́бо было́ намы́ць, навары́ць (*Корнаць Свісл.*). 3. Наза́ўтро пыта́я: «Хто́ па́сьвіў?» Я кажу́: «Я́» (*Амбілеўцы Шчуч.*). 4. А ў Ро́сьцевічах тады́ Зе́нько жы́ў (*Росцевічы Зэльв.*). 5. А па́по во́зьмя ме́лу кусо́к, рушніко́м накры́я гэ́то ўсё і хо́дзіць каля́ вако́н, каля́ дзьвярэ́й і кругóм крэ́сьцікі пі́ша (*Востухава Карэл.*). 6. У тэ́й го́т у на́с ме́ўсо бы́ў бы́ць до́бры ўраджа́й: пасо́лько, гарбузэ́, мо́рква (*Казакоўцы Маст.*). 7. Да на́с не́кі саба́ко прыбі́ўса, мо дзе́ гарацкія пакі́нулі ў ле́сі (*Падберштэ Шчуч.*). 8. От го́ро з гэ́тымі

камара́мі, німа́ спа́су ад іх ні лю́дзям, ні скаці́ні (*Бабіна Гродз.*). 9. А ў Ду́бні спрадве́ку цыбу́ля радзіла, і ціпе́р та́м мо́ро яе́ са́дзяць на прада́ня (*Харціца Маст.*). 10. Я гэ́то й са́м по́мню, гэ́то пра́ўдо (*Падбалоцце Зэльв.*).

*10. Знайдзіце словы, якія ілюструюць недысіміляцыйнае яканне ў розных ненаціскных складах.*

1. По́тым ён каза́ў зысьці́ся, а́ля бяс шлю́бу, а бяс шлю́бу я́ не пашла́ (*Вайкунцы Воран.*). 2. У мае́й ма́ткі, ты́ яе́ й ня вiдзела, дык пасьле́дні залатнічо́к з сяніка́ вы́трабушылі (*Шутавічы Смарг.*). 3. Так Ляво́н у яго́ па́рапкам бы́ў, служы́ў, зна́чыць, няўда́лы такі́ (*Монтацішкі Смарг.*). 4. Яго́ цётка пасва́тала яго́ мне́, кап я́ за яго́ ішла́ за́муш, што бу́дзя до́бро жы́цё (*Ляхавічы Зэльв.*). 5. Бываа́я, уцячо́м с ха́таў на по́ля (*Мікшавічы Воран.*). 6. Цяля́та ўсе́ здала́ і хадзіла прасіла: да́йця мне даба́ўкі (*Алешавічы Маст.*). 7. Тады́ пыта́я сы́н, чаму́ гэ́та та́к (*Любча Навагр.*). 8. Не́мяц ха́дзіў, падышо́ў да ро́ва, паглядзе́ў на ўсі́х. Ну, ду́маям, бра́ця, пастраля́я ўсі́х (*Ганчары Лід.*). 9. Малада́я пе́ршы сно́п зьвя́звая сама́ і на яго́ ве́шая пада́рка, які́ бяр́э с сабо́ю (*Клепачы Бераст.*). 10. Ужо́ праз гэ́то німа́ чаго́ гавары́ць, то́лькі ажыда́ць бу́дзям (*Бібікі Зэльв.*). 11. По́мню як сёня, як са сваім Ста́сям хадзілі за хлёбам (*Марцінавічы Зэльв.*). 12. Не́мяц закатава́ў, і ўсё сказа́лася на здаро́ўі (*Ладзенікі Навагр.*). 13. Е́дзям, а та́м яўр́эяў жану́ць (*Дабраволя Свісл.*). 14. Усё было́ кры́то сало́маю, а ве́цяр бы́ў (*Малыя Азёркі Маст.*). 15. Як шва́ǵяр паедзя за гно́ям, то працу́ю, а як пры́едзя, бягу́ памага́ць (*Малая Бераставіца Бераст.*). 16. Запрага́лі тро́я ко́няй у жняя́рку (*Ходараўцы Лід.*). 17. Куды́ ты ле́зяш? (*Вялікае Сяло Ваўк.*). 18. Кажу́ я́ кумі́шчу: пае́халі на вакза́л, купля́й мне́ бяле́т у мае́ Смурго́ні (*Крапіўна Смарг.*). 18. Мне́ цьвякі́ сы́палі на даро́гу (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 19. За́ўтра На́дзя зьбіра́яцца е́хацаць у Вяле́йку, то папрасі́ яе́, кап пярадала́ (*Гродзі Ашм.*).

*11. Прачытайце сказы і адзначце спецыфіку кансанантызму на месцы падоўжаных зычных.*

1. Канчаецца вас́эля, і трэба няве́сцы бра́цца за рабо́ту, кап унаравíць і му́жу, і сьвякру́се, і сьвёкру (*Гальшаны Ашм.*). 2. А быва́ла, пазнаёмяцца каля касьцёла і запраша́юць да сібе́ на гуля́ня (*Мігдалы Воран.*). 3. Закіпіць у чыгунку́ вада́ – кіда́еш туды́ жме́ньку

куці, жме́ньку грыбо́ў су́шаных, пакры́шыш дро́бненька мо́рквачкі, бурачко́ў, карто́пелькі (*Старое Сяло Зэльв.*). 4. По́куль ма́ма ро́бя сьняда́ня, мы́ сьпі́м, а по́тым зно́ў на рабо́ту (*Суцькава Смарг.*). 5. По́мню, мы тады́ да́лі цялу́шку і адну́ сьві́ню (*Кавалеўшчына Воран.*). 6. Уе́ тако́е паку́лю, што́ яго́ цяпе́р, як ка́жуць, і за сьве́чкай не на́йдзеш, таго́ паку́ля (*Каменка Гродз.*). 7. А адна́ ба́пка ў на́с у вёсцы – удава́, і ў яе́ забра́лі адзе́ня ку́фар (*Першамайск Шчуч.*). 8. Трэ́ба было́ хадзя́йства рабі́ць, а я́ паня́ця ні ме́ў, як плу́х дзяржа́ць (*Старынкі Шчуч.*). 9. Рабі́лі павучке́ с сало́мы, ве́шалі да сталява́ня (*Парэчча Гродз.*). 10. Яко́е та́м жы́ця было́ – адна́ мэ́нка (*Сямёнаўка Бераст.*). 11. Прыя́жджа́лі сюды́ ўсяля́кія міні́стры на палява́ня (*Рось Ваўк.*). 12. Пры́дзя хло́пяц на запыта́ня і пыта́ецца, ці по́йдзе дзе́ўка за яго́ (*Чаплі Лід.*). 13. А як про́йдзя капа́ня бу́льбы, тадэ́ трэ́м це́рніцамі, су́шым на пе́чы (*Якубаўцы Воран.*). 14. Хто́ с караўло́там, прасьні́цаю, хто́ с вышыва́ням пася́дзям на ла́вы, ро́бім рабо́ту і сьпява́ям (*Дзеткі Воран.*). 15. Гадава́нё было́ цяжо́лаё, але́ Бо́г да́ў павыраста́лі ўсе́, хло́пцы а́рміі паатслу́жвалі, пажані́ліся (*Навасёлкі Сл.*). 16. Ба́цька з ма́ткай тры́ разы́ абышлі́ круго́м вазо́ў с хле́бам і со́лю (*Жупраны Ашм.*). 17. Далі́ напраўле́ня на вучо́бу (*Мількаўшчына Гродз.*). 18. Падала́ заяўле́ня ў калхо́с, і мне́ абяшча́лі, што даду́ць кварці́ру, я́ ра́да (*Каняўцы Зэльв.*). 19. Мо́жам хава́ць сьвіню́ да го́да, а не бу́дзя са́ла, рас перабале́я на чырво́нку (*Паляцкішкі Воран.*).

*12. Знайдзіце ў сказах і тэкстах словы, якія адлюстроўваюць саканне. З дапамогай якога постфікса яно перадаецца?*

1. Туды́, за Путры́шкамі, забы́ласа, якая́ дзярэ́ўня (*Жытомля Гродз.*). 2. Сабіра́емса ўсе́ дзе́ўкі, ідзе́м на во́зера, вы́купаемса (*Парэчча Гродз.*). 3. Калі́ шла́ за́муш, я́ ме́ла васімна́ццаць гадо́ў. Пры́шоў да мі́не жа́ніх Губі́нскі, Іва́н. Прышо́ў с свата́мі. Прас тры́ нідзе́лі пажані́ліса, вянча́ліса. Пра́с два́ гады́ забра́лі Іва́на на абучэ́не і папа́ў ён пад вайну́. Забі́лі на вайне́. Удаво́й жыла́ ле́т дзе́сяць. Тады́ пасва́таўса да міне́ Сямён. Пае́халі ў сельсаве́т распіса́ліса, вянча́ліса ў цэ́ркві. Дзе́ці ў міне́ до́брыя. Вучы́ліса до́бра, памага́лі па хазя́йству (*Губінка Гродз.*). 4. Калі́ хто́ пыта́ўса, я́к куды́ дайсьці́, дык лю́дзі гаварылі, што яму́ про́ста туды́, праз мастэ́ (*Правыя Масты Маст.*). 5. І во́сь наста́ў е́нты сьвяты́ Вялька́нац, калі́ булі́ чырво́ныя я́йкі, пячо́ныя бу́лкі, калі пра́віласа імша́ ў касьцёле (*Студзенікі Свісл.*). 6. Я́ і́х ні пуска́ю на дво́р, яны́ ка́жуць:

«А ты́ баісса, ты́ ста́рша, і мы́ баімо́са! Ага́, ты́ баісса цягну́ць, а мне́ гаво́рыш, каб я́ накрыва́ласа» (*Алекшыцы Бераст.*). 7. Та́то мо́й пашо́ў на фро́нт, а ма́ма астала́са з намі́ малы́мі. Я была́ са́мая ста́ршая, трына́ццаць ро́к ме́ла. А ўжэ́ бра́т мо́й і сястра́ ме́ншыя былі́. Калі́ пры́шлі да на́с не́мцы, было стра́шна. Пыта́лі, дзе́ на́ш та́то. А ма́ма, – што памёр, і яна́ адна́ зь дзяцьмі́ астала́са. Не́мцы з на́шай вёскі ўзялі́ малады́х дзяўча́т ды паве́зьлі ў Герма́ню. Ну і міне́ забра́лі. Ма́ма, як ціпе́р по́мню, та́к ужэ пла́кала, бая́ласа, што ўжэ́ не вярну́са даха́ты. У Герма́ні мы́ прыслу́жвалі гэ́тым не́мцам, вары́лі яду́, прыбіра́лі ў ха́це. Калі што́ ні та́к, то білі на́с. Карміли на́с та́м до́бро, але я́ ўсё-ткі бая́ласа. Ну, а калі́ ва́йна ако́нчыласа, то папрыяжджа́лі мы́ ўсе́ даха́ты. Ма́мі сказа́лі, што та́ту забілі, а яна́ ні ве́рыла. Тады́ ўжэ́ зімо́й та́то мо́й вярну́ўса (*Рудаўляны Бераст.*). 8. А не́мца тады́ бая́ліса, бо не́мца ні мо́жно было́ абганя́ць. Не́мец ідзе́ – ідзі́ ззá́дзі, а яго́ не мыля́й, бо бізуно́м біліса не́мцы. Е́халі, а ко́нь бы́ў у та́та шпа́ркі такі́, ху́тка бе́гаў. І та́то ле́йца як пусьці́ў, так і дагна́ў не́мца. Ну а́лі пато́м каня́ прыдзе́ржаў. Аста́ўсо далёко, тады́ ізно́ў ле́йца пусьці́ў. Ко́нь зно́ў дагна́ў не́мца. Пато́м не́мец аглян́уўса, паглядзе́ў так на та́та. І пато́м ужэ́ трэ́ці ра́с та́то бая́ўсо даганя́ць яго́ (*Вярэйкі Ваўк.*).

*13. Выпішыце зваротныя дзеясловы і прааналізуйце марфалагічныя ўмовы выкарыстання ў іх постфікса -со.*

1. Дзя́цька патпяраза́ўсо дзя́гаю і пашо́ў па дро́вы (*Рэпля Ваўк.*). 2. У тэ́й го́т у на́с ме́ўсо бы́ў бы́ць до́бры ўраджа́й (*Казакоўцы Маст.*). 3. Зьні́шчылі касьцёл, усё, адзі́н то́лько му́р аста́ўсо (*Перстунь Гродз.*). 4. Гэ́ты сыно́к, што шафёрам ро́біць, я́ таксáмо хаце́ла кап на́тто вучы́ўсо (*Сухінічы Маст.*). 5. Мо́й умэ́нт падня́ўсо, памы́ўсо і пайшо́ў на рабо́ту (*Шчэчыцы Маст.*). 6. Як сма́льнуўсо аб дрэ́ва, аж іскры з во́ч пасы́паліса, машы́ну разьбі́ў (*Дубна Маст.*). 7. Гэта ш та́к мо́цно распы́рхаўсо, трэ́ба пайсьці́ да до́ктара, ха́й ле́каў да́сьць (*Дубна Маст.*). 8. Васіль утапі́ўсо ле́там, а Ва́нда – праз ро́к у то́й самю́ткі дзе́нь, што й ён (*Кухары Маст.*). 9. Жы́то раскарчы́ласо [разраслося] і ўзяло́со ў ко́лас (*Гольні Бераст.*). 10. Ні бы́ў бы то пячу́р [даглядчык печы ў смалакурні], заму́рзаўсо, відно́, што ла́зіў у пе́ч (*Церахавічы Свісл.*). 11. А на́м то́жа ты́х сма́каў хаце́ласо ды і е́сьці то́жа ўсё ўрэ́мя хаце́ласо (*Старына Маст.*).

*14. Вызначце дыялектную марфалагічную асаблівасць у формах назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку назоўнага і вінавальнага склонаў.*

I. 1. Я жа ш ні се́яла, се́ялі мужыке́ (*Верцялішкі Гродз.*). 2. Ну та ўжэ́ як мае́ ста́лі дзе́ці, та яны́ хадзілі пры бальшавіка́х у шко́лу, як ціпе́р ка́жуць, – бальшавіке́ (*Струга Маст.*). 3. Тады́ бялілі сарачке́, пасьцілкі, мяшке́ і радзю́гі (*Казловічы Зэльв.*). 4. Радзілася я́ ў вёсцы, мае́ бацьке́ былі́ лю́дзі про́стыя земляро́бы (*Астрына Шчуч.*). 5. А канча́ўся дзе́нь, та ба́бы даха́ты ішлі́, а мушчы́ны насілі снапэ́ і зно́сілі, ста́вілі дзісятке́ (*Замасцяны Шчуч.*). 6. Калісьці й ваўке́ былі́ гало́дныя, у са́му вёску прыхо́дзілі (*Цідовічы Гродз.*). 7. Мішу забілі нямцэ́ і сы́на яго́ забілі (*Асташына Навагр.*). 8. Тады́ ўжо́ маладо́і ша́фяркі прышпільвалі бантэ́ на кля́пу ле́тніка (*Лозкі Навагр.*). 9. Дзя́каваць Бо́гу, ні кале́камі вы́раслі, ну а ты́я, што паўміра́лі, дык тады́ дзе́ ш ты́я дахтарэ́ былі́ (*Райца Карэл.*). 10. А падрасьлі́ дзе́ці, то хло́пцаў бо́льшых у пастухе́ нале́то аддава́лі (*Райца Карэл.*). 11. Калі́ на по́ле хадзілі, бра́лі ўсягда́ абе́т с сабо́ю, і што́ астану́цца куске́ хле́ба, то пryно́сілі да дзяце́й, гавары́лі, што гэ́та за́ячы хле́п (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 12. А пе́рат пала́цам – клянэ́, каштанэ́ (*Алешавічы Маст.*). 13. Але ба́цько пра́даў два́ кажухе́, яшчэ́ там не́што і прывёс до́хтура (*Шыганы Сл.*). 14. Увайшо́ўшы ў ха́ту, малады́ с ша́фярамі садзіліся за сталэ́ (*Пасінічы Сл.*). 15. На вясе́лё ране́й рабілі вінягрэ́т, вары́лі кісе́ль, было мя́со, сяляццэ́ (*Пасінічы Сл.*). 16. Тка́лі, пра́лі, касьцюмэ́ шы́лі, спатніцы, кафтанэ́ с фальбо́нкай, с касьні́чкай. Усе́ хустке́ на вярста́т тка́лі. Ця́шко было́ жы́ць. Лы́шкі, апало́нікі, чарпаке́ рабілі са́мі, тка́лі андараке́ – такія шарсьцяны́я спатніцы. Хле́ба ні было́. Грыбэ́ зьбіра́лі, ры́бу з ко́шыкам лавілі, раке́ лавілі. Рабілі с тро́сьніку спаса́цельныя круге́, кап ні ўтапіцца. Прывя́зваліся да тро́сьніку, плывуке́ яшэ на тро́сьнік называ́лі. Парапке́ жы́лі ў па́на, ця́шка ім было́. Па грыбэ́ ні пуска́лі, а як зло́вяць, адрабіць трэ́ба (*Моцевічы Лід.*). 17. Мая́ ма́ці вы́гадавала сямёра дзяце́й. Пака́ йсьці ў шко́лу, яны́ былі́ то́лькі ў анно́й руба́шачцы, бо́сыя. Панабіва́юць гузэ́ на дварэ́. Расьлі́ сільныя, здаро́выя, нія́кіх дахтаро́ў не было́. Пато́м ста́лі право́дзіць камінэ́ ў ха́тах (*Міжэвічы Сл.*).

II. За́ўтра ўжэ́ Вяліgдзянь. Ра́ньні ён сёня. Ба́ло, на Вяліgдзянь ужэ́ я́блыні зялёныя, трава́ ве́лька, каравэ́ пасу́ць. А цяпе́р на дварэ́ яшчэ́ хо́лат, ве́цяр хало́нны, а ў цяньку́ маро́с аш за шчо́кі бя́рэ. Хо́ць со́нцо пячэ́, але́ яшчэ́ маро́с. Вясна́ до́ўгая і хало́нная, і ле́то

бýдзя халóнным, і бýдуць дажджэ́. Цяпéр ужэ́ й вяснá, і зімá, і вóсянь адзінáкавыя: хóлат, дажджэ́, зімóй сьнéгу німá. А бáло, вяснóю харашó былó: сóнцо сьвéціць, птýшкі сьпявáюць, садэ́ цьвітýць. А цяпéр ужэ́ й птýшкі ні гэ́дак сьпявáюць. Мóжа, што старáя стáла і гадэ́ ні тыя. Дóбро табé, унýчка, што ты́ ў гóрат мóжаш паéхаць, што ты́ вýчысься, што ты́ маладáя. Кап мнé тваé гадэ́, то я́ нічóго ні хацéла п, рáдавалася п, што маладáя, і вучы́лася п. Бáло, у Слóнім пяшкóм хадзілі, трынáццаць кілóметраў за двá часэ́ прайдзéш і назáт гэдыксáмо. І дóма яшчэ́ трэ́ былó ўпрáвіцца.

*А.Я.Данілюк, 1913 г. н.*
*Сурынка Сл., 1990 г.*

*15. Прааналізуйце дыялектныя канчаткі назоўнікаў множнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах.*

1. Бывáло, качаня́тка вы́гадуям, кураня́тка вы́дуць, трэ́ба былó кураня́тка пáсьвіць. А пóтым трэ́ба і курэ́й глядзéць, каб яны́ я́йка нéсьлі. А сьвіня́ якýю пры́баль давáла. Закóляш – і куньпя́к, паляндвіца, сквáрка, і кілбáс нарóбіш. У гэ́тум гóдзі парася́та дарагія (*Валеўка Навагр.*). 2. Парася́та навідóку пузáцеюць (*Касцянева Шчуч.*). 3. Пáтом арганізавáлі калхóс: забрáлі зямлю́, кóні, вазы́, плугí, гýмна (*Яруціčы Зэльв.*). 4. Гэ́та дзічы́ха бéгла, за éю – парася́тка (*Шурычы Свісл.*). 5. Усё раўнó ця́шка вёдра насíць (*Ражкі Свісл.*). 6. Прáлі аш да мáрца, а пóтым стáвілі крóсна і ткáлі (*Асіпаўцы Воран.*). 7. Стáвілі крóсна вяснóй, а катачкé нéдзя прапáлі, то прышлóся Івáну сáмай развóдзіцай аж да Бя́ліцы ісьцí за катачкáмі да мáткі (*Панямонцы Лід.*). 8. Паглядзí ў хáці на ģвазьдзé нóжна вíсяць (*Бабіна Гродз.*). 9. Ну й яшчэ́ дрóва брáлі (*Парэчча Гродз.*). 10. Гавóраць, Пакрóва – дзéўка зáмуш гатóва (*Клепачы Бераст.*). 11. Палянавáліся аччыніць варóцячка (*Цідовічы Гродз.*). 12. Што гэ́то ўжэ дзяўчáта на гарэ́ пазьбірáліся ды сьпявáюць? (*Крапіўніца Свісл.*).

*16. Знайдзіце ў сказах формы назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку давальнага і меснага склонаў, растлумачце іх дыялектны характар.*

1. Пóтым кінуў трóха рабíць я, пашóў вазíць фасмэ́тры на стáнцыю купцóм (*Дамаўцы Шчуч.*). 2. Апя́ць панóм гэ́тым

падчыня́ліся (*Лаздуны Іўеў.*). 3. Іва́н адзі́н забра́ў ха́ту, уве́сь дво́р, а брато́м сплаціў, што трэ́ба было́ (*Дашкавічы Свісл.*). 4. Трэ́бо было́ нясьці калубе́ль на плячо́х, а напярэ́дзі дзіця́ (*Струга Маст.*). 5. На стало́х заку́скі яко́й хо́чаш (*Нёўда Навагр.*). 6. Спярша́ ў Шаркіно́х было́ чатыіры ха́ты і ў Чаплёх было́ чаты́ры ха́ты (*Чаплі Лід.*). 7. З Омска на вало́х е́халі на радзі́му, усе́ хаце́лі даха́ты (*Ходараўцы Лід.*). 8. Па́сіць не было́ дзе́, ганя́лі па кусто́х. Аднаго́ ра́зу ўсе каро́ўкі па хлямво́х разышлі́ся (*Пасека Дварчаны Воран.*). 9. Пры маро́зе абува́юся ў бу́рачкі альбо́ ў вайлачко́х (*Радунь Воран.*). 10. Ну а я́к сьме́шна было́, як мы́ с хло́пцамі е́зьдзілі на раваро́х (*Маскалі Маст.*). 11. Парціза́ны гэ́тыя зь лясо́ў павыла́зілі, пачалі́ по́ўзаць па вёсках, футаро́х (*Шутавічы Смарг.*). 12. Кім я́ рабіў у калхо́зі? Усяля́кім даво́дзілася быць, у асно́ўным пры канёх (*Бялкоўшчына Смарг.*). 13. Паабдзіра́ла но́гі – у адны́х па́сках, усе́ ў струпо́х (*Кіралі Шчуч.*). 14. Спэ́нду былі́ наляце́лі няме́цкія самалёты, то мы́ пахава́ліся па кусто́х (*Пескі Маст.*). 15. Цяпе́р папраду́хі не зьбіра́юцца па вечаро́х, німа́ чаго́ пра́сьці, усе́ до́ма сядзя́ць (*Залессе Смарг.*). 16. Што́ ты́ та́м мышку́яш у сагано́х, ці ні хо́чаш чаго́ пае́сьці? (*Каробчыцы Гродз.*). 17. Сухо́тнік на дзірвано́х расьце́ (*Солы Смарг.*). 18. Па пяско́х шалюга́ [асака] расьце́, садзілі яе́, кап украпля́ла пясо́к (*Парэчча Гродз.*).

*17. Выпішыце назоўнікі множнага ліку вінавальнага склону, падкрэсліце канчаткі, параўнайце іх з адпаведнымі канчаткамі ў літаратурнай мове, растлумачце адрозненні.*

1. А ле́там бая́ліса, каб ні спалі́лі, ні зрабі́лі чаго́, та й цяга́лі ў по́ля дзе́ці (*Струга Маст.*). 2. Прыжану́ даха́ты, дзе́ці калышу́ (*Пятакі Ваўк.*). 3. Запрага́лі дво́е ко́ні, пяцігадо́вую канюшы́ну ара́ла з ма́май (*Куцэвічы Карэл.*). 4. Про́ламкі праруба́лі і шчупакі́ лаві́лі і вазі́лі (*Мсцібава Ваўк.*). 5. Мужы́к па́сьвіў ко́ні, нічо́га до́ма ні рабі́ў. А я́ і до́ма ўсё рабі́ла, і е́сьці вары́ла, і хазя́йство глядзе́ла, і дзе́ці. А по́тым яшчэ́ і за яго́ ко́ні па́сьвіла (*Сурынка Сл.*). 6. Да́ўней трэ́ба было́ па́сьціць гу́сі, аве́чкі, каро́вы (*Старая Рудня Смарг.*). 7. Пайдзі прыжэ́нь сюды́ кураня́ты (*Каробчыцы Гродз.*). 8. За́рас дзе́ці ўзро́слыя, паажэ́ньваліся. Ма́ю ціпе́р уну́кі і адну́ ўну́чку (*Адэльск Гродз.*). 9. Ме́лі каня́, каро́ву, сьві́ня, аве́чкі, ку́ры, два саба́ке, катэ́, усё хазя́йства сваё ме́лі (*Багушоўка Гродз.*). 10. Пайду́ катэ́ пакармлю́, а то й малака́ і́м улі́ць забы́лася (*Пасека Дварчаны Воран.*).

*18. Знайдзіце назоўнікі ў форме клічнага склону, абазначце іх канчаткі.*

1. До́бры дзе́нь, сы́нку! Як забра́лі цібе́ ў во́йско, то на́м ця́шка жы́іць зрабілася бісь цябе́ (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 2. Та́тку, та́тку, ідзі́ вячэ́раць. Дзе́тку, а ты́ дасі́ мне́ курэ́й? Што́ ш ты, чалаве́чку, се́яш? Братко́, да́й мне́ сваю́ адзёжу, пайду́ я́ да дзяўча́т (*Сідоркі Свісл.*). 3. Дзе́ду, дзе́ду, я́ на ва́с пад'е́ду (*Бабіна Гродз.*). 4. Мая́ ма́тка ста́ла плака́ць: «О-ёй, Сьцяпа́нко, а што́ мы́ бу́дзям рабі́ць?!» (*Вострава Зэльв.*). 5. Тако́я балаўство́, суседзе, ішо́ў тво́й хло́пяц, сяке́рай і сатну́ў маладзе́нькі дубо́к (*Цярэшкі Ваўк.*). 6. Два́ братэ́ вядуць маладу́ю ў ха́ту, а сва́т ка́жа: «Сва́цейко, галу́пко, пакажы́ ту́ю кве́тку, што́ я́ ба́чыў гэ́ты го́т уле́тку» (*Цырын Карэл.*). 7. А Міхалі́на, ся́стра мая́, та й ка́жа ма́мі: «Ма́мо, цяпе́р ужэ́ на́ша яна́ бу́дзя паслу́шнаю, бо та́то па́цяркі і ёй ку́піў» (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 8. Дзе́ці крыча́лі: «Ма́мачко, не пакіда́й на́с!» (*Казакоўцы Маст.*). 9. Іду́ дадо́му, пла́чу, а дзяўча́ты клі́чуць мяне́: «Аню́тко, Аню́тко, вярні́ся» (*Шчорсы Навагр.*). 10. Ма́нё, ля́нь, як пісар [госць на вяселлі, які дзеліць каравай] дзе́ліць карава́й (*Хамічы Зэльв.*). 11. Дава́й, ба́бу, пасе́ям пшані́цу (*Сідоркі Свісл.*). 12. До́бры дзе́нь, цётку, як ма́яцяса? (*Бабіна Гродз.*). 13. А табе́, хло́пчэ, скажу́: любі́лі мы́ адзі́н аднаго́ (*Мікшавічы Воран.*).

*19. Адзначце формы парнага ліку назоўнікаў у наступных сказах.*

1. Тры́ каро́ві па́сьвіла: сваю́, цёчыну і лясьніка́ (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 2. У ба́бы было́ чатэ́ры каро́ве, дво́е сьвіне́й бальшы́х на пудо́ў двана́ццаць, два́ццаць шту́к аве́ц (*Чураі Дзятл.*). 3. Ту́т чу́ю: шо́фяр астана́ўліваяцца і зала́зіць яшчэ́ дзьве́ ба́бі, папрасіліса да Гро́дна пад'е́хаць (*Малая Бераставіца Бераст.*). 4. У шко́лу я ту́лько дзьве́ зімé хадзіла (*Гудзевічы Маст.*). 5. Разгру́зім усю́ гэ́ту машы́ну, то́ні тры́ (*Сухінічы Маст.*). 6. У ха́тах было́ па дзьве́ ці бо́льш сям'е́, у като́рых бо́льшыя, у като́рых ме́ншыя (*Замасцяны Шчуч.*). 7. Навалачу́ два́ вядрэ́, і мне́ ця́шка, паста́ўлю, атпачыва́ю (*Кронькі Шчуч.*). 8. Зьясі́ дзьве́ яйцэ́. Дзьве́ верацяне́ напраду́ць, тады́ саўю́ць з аднае́ на друго́е – і гэ́то пачы́нак (*Міратычы Карэл.*). 9. Мы́ ш ні хо́чам гасьці́ма бы́ць (*Завельцы Астр.*). 10. Ужы́ з вушы́ма (*Старыя Смільгні Воран.*).

*20. Знайдзіце прыметнікі са сцягнутымі канчаткамі, растлумачце, як утварыліся сцягнутыя канчаткі.*

1. Ха́та ў іх была́ до́бра, і жылі́ яны́ до́бро, бо былі́ панэ́. Камо́рнік бы́ў харо́шы мушчы́на, высо́кі, стро́йны, чырво́ны, а яго́ жо́нка была́ ні натто́ кап харо́ша, мале́нька, худзе́нька і не́ка прыго́рбляна (*Сурынка Сл.*). 2. Ране́йша вайна́, ца́рска, та была́ страшне́йша, як цяпе́рашня (*Гуды Лід.*). 3. Сьпява́ем: «Мы́ дажа́лі жы́та і вы́гналі во́ўка, а ў на́шага па́на сіва гало́ўка» (*Залацеева Зэльв.*). 4. На бало́ці гэ́тум кла́лі ў та́кія сташке́, кап патсыха́ла, бо яна́ з вады́ й мо́кра (*Кавалі Бераст.*). 5. Але́ такса́ма глядзе́лі на хараство́, кап ні даўгано́са, ні гарба́та ці крыва́я (*Суботнікі Іўеў.*). 6. Ат сэ́рца ў яе́ атніма́лася пра́ва ру́ка, яна́ ні магла́ нічо́га рабіць (*Свірыды Шчуч.*). 7. Я́ ба́чыў у сусе́да то́лькі чо́рну каро́ву (*Хадзявічы Сл.*). 8. Пабе́гла з дзе́ўкамі ў сусе́дню вёску, ма́ццы нічо́га ні сказа́ла (*Янчукі Шчуч.*). 9. Патсо́хня, пасья́ перакла́двалі ў бо́льш высо́кія сташке́, бо як пакла́сьці высо́ко мо́кру, то па́дае (*Кавалі Бераст.*). 10. Прыйшла́, а яны́ якра́с стару́ сьвіню́ закало́лі (*Рудзевічы Зэльв.*). 11. Мы́ шма́т прыяжджа́ям цяпе́р на бра́цку магі́лу (*Казакоўцы Маст.*). 12. Сма́чна малачко́, і я́ спыта́ў у яе́, чаму́ каро́ва чо́рна, а малачко́ бе́ла (*Хадзявічы Сл.*).

*21. Адзначце дыялектную спецыфіку форм прыметнікаў (займеннікаў) жаночага роду роднага склону.*

1. Каля на́шае вёскі ёсьць ніве́лько го́зяро (*Хадзявічы Сл.*). 2. У гэ́ты ча́с ба́цька і ма́ці маладо́е садзіліся пад ыко́намі для благаслаўе́ньня (*Пасінічы Сл.*). 3. Бяру́ пытлёвае мукі, насыпа́ю яе́ ў вялі́ку мі́ску і даліва́ю туды́ ка́плю вады́ і ло́шкай пераме́шваю муку́ з вадо́ю ці з малако́м (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 4. Як ідзе́ маладо́і дружы́на, віта́ліся ху́стачкамі цера́с сто́л (*Лозкі Навагр.*). 5. Самапе́ру [сухая бялізна, якую нясуць мыць на рэчку] назьбіра́ю з усяе́ ха́ты, панясу́ на рэ́чку і памы́ю (*Мураваная Ашмянка Ашм.*). 6. Быва́ло, німа́ чаго́ е́сьці, ды́к мы́ сь сястро́нкаю пайдзе́м наскуба́ем яко́е лебяды́, крапіві́ маладо́е ці шча́ўя дый нава́рым (*Цяглевічы Зэльв.*). 7. Хіба ра́ньшэ каро́ва е́ла хле́п. Се́на ды сало́му пало́жым, да хало́днае вады́ нап'е́цца, ды й до́бро (*Вострухава Карэл.*).

*22. Растлумачце дыялектны характар канчаткаў прыметнікаў (займеннікаў) мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне.*

1. У каго́ старыя до́ма е́сьць, дык маладым удо́ма рабіць німа́ што́, на ўсём гато́вум сядзяць (*Востухава Карэл.*). 2. Па́ні Ёле́нска ў тако́м харо́шум хала́це, прачыта́ла запісачку, дала́ мне́ сыра гала́нскага с кака́вам, што вы ве́к не ба́чылі беларусы е́таго (*Шчорсы Навагр.*). 3. Са́м гра́ф Пато́цкі жыў у гэ́тум цаглянум пала́цы (*Рось Ваўк.*). 4. Хто́ ў до́брум жыцьці жыў, то то́й до́бро ве́дая ўсё (*Струга Маст.*). 5. Тады та́м на по́льскум языку́ вучыліся (*Перстунь Гродз.*). 6. На маладо́м быў элега́нскі касьцю́м, а на маладо́й бе́лы вэ́люм (*Лешчаняты Смарг.*). 7. Калі ле́хчы ўмітусь, то й на тако́м сло́нчыку мо́жна ўдво́х спа́ць (*Цырын Карэл.*). 8. Купіла сабе́ но́вы сьпіжа́к [каструлю з ручкай], зварыла кру́пніку ў но́вум сьпіжаку́. Усё ты любіш правава́цца, каб на сваём паста́віць (*Загор'е Карэл.*).

*23. Знайдзіце дзеясловы, якія заканчваюцца спалучэннем -мо. У якіх дзеяслоўных формах яно рэалізуецца?*

1. Гэ́так і цяпе́рака е́сьць Мастэ́ го́рат. Ту́така, дзе́ мы жывямо́, – Пра́выя Мастэ́, а на ле́вы бо́к ад на́с – Ле́вые Мастэ́ (*Правыя Масты Маст.*). 2. Да таво́ равы глыбо́кія, што мы ні пярэ́йдзямо (*Сідоркі Свісл.*). 3. Мы седзімо́ на ву́ліцы, гаварымо́, а ён ка́жа: «Ва́ля, е́сьлі ты по́йдзіш за міне́ за́муш, я прые́ду ўво́сінь да цібе́ ў сва́ты» (*Ганчары Лід.*). 4. А мы пра жызьню на́шу пагаво́рымо, а ўжо́ нагаварыўшыся, пе́сьню засьпява́ем (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 5. А даха́ты бяжымо́, ано́ кале́ні па па́льцах сту́каюць (*Залацеева Зэльв.*). 6. Быва́ло, і музыка́нты йгра́юць, гуляямо і касьцёр па́лімо, хто́ заці́рку, хто́ булён ва́рыць, бо на цэ́лы тыдзень на Кро́мань атпраўлялі (*Шчорсы Навагр.*). 7. Як по́ст, пышкі пяклі: напа́рым карто́флі, даба́вім мукі і пячымо́ (*Дакудава Лід.*). 8. Нагатава́лі пасо́лі зь мя́сам, тады і ка́жа ба́цька: «Дава́й здымемо ме́рку і гляньмо, хто́ з на́с патаўсьце́я» (*Любча Навагр*). 9. На́тта любіла вечаркі. Як пайду́ на вечаркі, і сьпява́ю. Так сьпеімо́, так прадзімо́, седзімо́ прадзімо́ ці зу́бы ро́бім. А тады дава́йце пасьпяём, так дава́йце пагуляемо тро́хі. Так яшчэ́ прыдзе като́ры хло́пец з гармо́шкай, пагра́е і пагуляемо там тро́хі. Сядзімо́ з хло́пцамі, а як завядзе́мся с като́рым, так раскіда́е на́м усю́ ту́ю рабо́ту, што́ мы ро́бім. Ужо́ ш така́я абіда, як ідзімо́ даха́ты, аш чу́ць не пла́чаш. Ну, нічо́га, наза́ўтра ізно́ў ідзімо́ (*Тарнова Лід.*). 10. А дзе́т ка́жа на Віцька́: «Па́даймо і ляжэ́мо» (*Косцевічы Ваўк.*). 11. По́йдзямо ўсе́ тро́х у сьве́т, паглядзіцё хо́ць, што́ лю́дзі ро́бяць. (*Любча Навагр.*).

*24. Выпішыце дзеясловы ў сінтэтычнай форме будучага складанага часу, растлумачце гісторыю яе ўтварэння.*

1. Гаварыі́цьму табе́ адно́, а ты́ друго́е ро́біш (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 2. Тэ́рас ме́цьме яна́ бя́ды з гэ́тым хло́пцам (*Падлабенне Гродз.*). 3. Трасьці ты́ля се́на не ме́цьмяця ча́су; Што́ хаце́цьме, то варыі́цьме (*Навасёлкі Свісл.*). 4. Наш Ге́нюсь шкадава́цьме, што не прые́хаў, як ма́ці была́ яшчэ́ жыва́я (*Міжэвічы Сл.*). 5. На́шуй каро́ве на зіму́ се́на хва́ціме е́сьці (*Ізабелін Ваўк.*). 6. Спатайка́ што́ дасі ма́цяры, ніхто́ ня ве́дацьме, то ме́нш крыі́ку бу́дзя, як мужы́к ня ве́дацьме (*Хілякі Бераст*). 7. Прыла́плю табе́ хала́цік, і насі́цьмеш за каро́вамі, гэ́то ж ні ў шко́лу (*Бабынічы Сл.*). 8. Ху́тко малы́ пла́каціме, ужо́ лу́псі дрыжа́ць у яго́ (*Калантаі Ваўк.*). 9. До́ўга жыі́цімя твая́ сьвякро́ў, лёткая яшчэ́ (*Бабынічы Сл.*). 10. І не зна́цьмуць бацьке́, куды́ падзе́лася іх Ве́рка, як яна́ з на́мі пае́хала (*Прывалка Гродз.*). 11. Дзя́цька іму́ціме шма́т дакуме́нтаў, што бы́ў на вайне́ (*Міжэрычы Сл.*). 12. Ніч́ога ня зро́біш, мая́ сьцяга́ ўжо́ така́я, што жыі́цьму адна́ (*Старыя Васілішкі Шчуч.*).

### *1.7.2. Асаблівасці гродзенска-баранавіцкай групы гаворак*

Мова Гродзеншчыны вызначаецца і шэрагам асаблівасцей, якія бытуюць пераважна ці толькі на гэтай тэрыторыі і не характэрны для іншых рэгіёнаў пашырэння паўднёва-заходняга дыялекту. Паводле гэтых асаблівасцей вылучаецца ўнутрыдыялектная група гродзенска-баранавіцкіх гаворак, для якіх характэрны такія асаблівасці.

1. Адносна паслядоўная рэалізацыя моцнага недысіміляцыйнага якання, калі этымалагічныя галосныя гукі |э|, |о|, |а| пасля мяккіх зычных супадаюць у гуку |а| не толькі ў першым складзе перад націскам, але і ў іншых ненаціскных складах: *в'арац'ано́, п'араста́н', з'ал'анава́ты, с'в'ан'ц'а́нско з'э́л'а.* Не рэалізуецца гэтая заканамернасць у канцавым адкрытым складзе. Тут у большасці гаворак, як і пасля цвёрдых зычных чуецца гук |о|: *по́л'о, нас'э́н'о, в'ас'э́л'о, шча́с'ц'о, то́йо, с'л'апо́йо, Ка́з'о.*

2. Прыстаўны гук |г|, які ўжываецца не толькі перад націскнымі пачатковымі |о|, |у|, але і перад ненаціскным |а|: *го́стры, го́с'ан', го́з'аро, гу́л'іца, гуш, гу́з'ал, гану́ча, гарэ́х, гал'э́шн'ік.*

3. Націскны канчатак -э ў формах назоўнікаў жаночага роду множнага ліку назоўна-вінавальнага склону: *дз'аўк'э́, хустк'э́, лашк'э́, м'іск'э́, каравэ́, паласк'э́, галаўк'э́, мац'арк'э́, ц'атк'э́.*

4. Постфікс -с'о ў зваротных дзеясловах: *байу́с'о, с'п'о́кс'о, захац'э́лас'о, с'м'айа́л'іс'о, зраб'ілас'о.*

5. Суфікс -ц'і ў формах інфінітыва з асновай на галосны: *хадз'іц'і, раб'іц'і, п'іса́ц'і, каза́ц'і, да́ц'і, с'п'ава́ц'і.*

6. Націскны канчатак -эм у формах дзеясловаў першай асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу першага спражэння: (*ідз'э́м, кладз'э́м, н'ас'э́м, б'арэ́м, жн'э́м*) і канчатак -ам не пад націскам (*ко́л'ам, м'э́л'ам*).

7. Канчатак -эц'а ў формах дзеясловаў другой асобы множнага ліку цяперашняга часу першага спражэння з націскам на тэматычным галосным: *н'ас'э́ц'а, ідз'э́ц'а, пас'э́ц'а, стрыжэ́ц'а, с'ачэ́ц'а.*

8. Для ўтварэння назваў, якія абазначаюць месца, плошчу, дзе расла тая ці іншая сельскагаспадарчая культура, выкарыстоўваецца суфікс -іск(о): *аўс'а́н'іско, бул'бо́в'іско, жы́тн'іско, грыча́н'іско, лубо́в'іско, луб'а́ні'ско, йачм'э́н'іско.* Зрэдку з дапамогай гэтага суфікса ўтвараюцца назоўнікі іншых тэматычных груп: а) назвы частак прыладаў працы: *тапары́ско, грабл'іско, ранкав'іско* 'ручка лапаты'; б) назвы месца, дзе што-небудзь адбывалася, знаходзілася: *агн'іско* 'месца, дзе гарэў агонь, кастрышча', *пажа́рыско* 'месца, дзе быў пажар', *ха́тн'іско* 'месца, дзе стаяла хата', *стажа́рыско* 'месца, дзе стаяў стог', *тарпан'іско* 'тарфянішча'.

*25. Знайдзіце словы з прыстаўным гукам |г|, растлумачце пазіцыю, у якой ён выкарыстоўваецца.*

1. Сво́й гузяло́к кінула, пасьля́ ма́тка забра́ла то́й гузяло́к з лахма́нікамі (*Вострава Зэльв.*). 2. Гу́ліца ад гу́лачкі – усё выгара́ла, ажно́ да магілкаў. У я́мах ляжа́лі ру́скія і крыча́лі «гура́!», «гура́!», запа́львалі ха́ты, кап прас ды́м нічо́го ні было́ відно́ (*Монькавічы Маст.*). 3. Ка́ля на́шае вёскі ёсьць няве́лькае го́зеро (*Хадзявічы Сл.*). 4. Аля ра́с у на́шай ха́це былі та́нцы, то о́то ш біліся, до́бра, го́кнаў ні пабілі (*Лушчыкі Воран.*). 5. На рэ́чку лята́юць, у ле́с, як го́сянь пры́йдзя (*Лаздуны Іўеў.*). 6. А ўдо́ма та вячэ́ру, та го́ўцы заганя́й – рабо́ты было́ ко́лькі хо́чаш (*Струга Маст.*). 7. Во́з

увяза́ў габо́ркай (*Галунавічы Іўеў.*). 8. Бра́лі ў ха́ту пат пры́печак курэ́й, прыво́дзілі каці́цца гаве́чак, парасі́ліся сьві́ня то́жа ў ха́ці (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 9. Се́ялі вясно́ю пшані́цу, рачы́ху, гавёс (*Якубаўцы Воран.*). 10. Як ішлі́ за́муш за по́льскім, мелі́ ку́фры гадзе́ньня, сво́і палатна́, гаве́чак (*Пераганцы Воран.*). 11. От мру́ць лю́дзі, штодзе́нь нябо́шчык. Та́к адмэ́нчыцца хто́ ве́ля і зно́йдзе сваю́ дзя́лку. Така́я га́мба і кво́ламу, і здаро́ваму (*Радунь Воран.*). 12. Пазьбіра́ла ўсе гану́чы і аднесла гану́чніку (*Асташа Гродз.*). 13. Адзі́н ра́с пае́хаў му́жык гара́ць са шва́грам, гара́лі, гара́лі да ве́чара (*Малая Бераставіца Бераст.*). 14. Дзе́ці гарэ́хаў назьбі́ралі мне́ ле́там (*Навікі Свісл.*). 15. Ніго́дзін сы́н ні прые́хаў на сьвя́та (*Ражкі Свісл.*). 16. Пашла́ да каваля́, нагастры́ла саке́ру (*Голдава Лід.*).

*26. Растлумачце тып ненаціскнога вакалізму пасля мяккіх зычных у канцавым адкрытым складзе.*

1. Было́ тро́ё дзяце́й, будава́лі но́ву ха́ту (*Рудзевічы Зэльв.*). 2. Было́ ў сям'і́ пяцёро дзяце́й, ды яшчэ́ ўмярло́ дво́ё (*Самуйлавічы Маст.*). 3. На вы́гані было́ ты́ля птушо́к – бага́сы. Ціпе́р німа́. Кулікі́ былі́, чы́сто с каўнярамі́ чо́рнянькімі, пе́р'ё кудлава́то (*Падбалоцце Зэльв.*). 4. Як ма́ма калі́ ку́піць паду́шачак (та́к канфе́ты называ́ліся), то для на́с гэ́то ве́лькаё сьвя́то было́ (*Гарнастаевічы Свісл.*). 5. Адна́ вы́гадавала дваі́х дзяце́й. Трэ́цяё памярло́ (*Масушыны Свісл.*). 6. Шэ́сьць нядзе́ль по́сту перат Каляда́мі: ніч́ого скаро́мнаго е́сьці нямо́жно, то́лькі се́мё таўку́ць, сялётка, ры́ба (*Востухава Карэл.*). 7. А плаці́лі за дзе́нь рабо́ты за капа́нё пісʹя́т капе́як (*Самуйлавічы Маст.*). 8. Шча́сьцё, што ко́нь пераско́чыў церас яго́ (*Шылавічы Сл.*). 9. У по́лё бацькі́ вадзі́лі, каравэ́ па́сьвілі (*Шылавічы Сл.*). 10. Іхно дзіцё лапшы́ваё, усё абля́паяцца, як е́сьць (*Лаўрыновічы Свісл.*). 11. І ён с тае́ю дзе́ўкаю ў бало́ці схава́ўсё да й жы́ў сабе́ (*Росцевічы Зэльв.*). 12. Адзе́нё сушы́лі лю́дзі, да палатно́ матыля́ласё (*Малыя Азёркі Маст.*). 13. І мы́ тагда́, пасьля́ э́тага ўсяго́, сабяро́мсё і танцу́ям, пье́м (*Калядзічы Ваук.*). 14. Мужы́к с канём у ле́сі схава́ўсё, сястра́ яго́, Анто́ся, с каро́ваю, а я́ з малы́мі дзе́цьмі ў жы́ці схава́лася (*Пруд Дзятл.*). 15. Пачала́ся гэ́та гісто́рыя с таго́, як на на́шых зе́млях прайшо́ўсё вялі́кі Напалеён са сваі́м во́йскам, каб забра́ці са́бе ўсі́х на́с (*Кватары Бераст.*). 16. Закрыва́лі пе́ч дзьве́ркамі, і та́к пякло́сё ўсё (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 17. Уся́к, дзяткі́, прыхо́дзіласё, а́лі ма́ці тва́я хі́трая была́ (*Райца Ка-*

*рэл.*). 18. Нáс завязьлí ў Сьвíслач, са Сьвíслачы тáм ужó пяшкóм да Стóкаў, тáм пачынáўсё аэрадрóм стрóіць, у Стóках (*Бібікі Зэльв.*). 19. Нáс нарадзілaсё чатырнáццаць дзяцéй (Асташына Навагр.). 20. Інцярэ́сно вéльмі звáлісё яньí, ці то рхіёлагі, ці то архіёлагі (*Любча Навагр.*). 21. У кагó бóльшая сьцяблíнка сéна, знáчыцца, у цябé бýдзя лён бóльшы, у кагó мéньшая, тóй абіжаны астáўсё (*Куцавічы Карэл.*).

*27. Вызначце канчаткі назоўнікаў жаночага роду множнага ліку ў назоўным і вінавальным склонах.*

1. Плятýць з жыта такí вянóк с каласóў, уплятáюць квяткé (*Замасцяны Шчуч.*). 2. У дзя́целіны бéлыя галаўкé, а ў канюшыны – ружóвыя, чырвóныя; Бярýць шчаткé і чэ́шуць лён (*Пацаўшчына Дзятл.*). 3. Мнóгія ні начавáлі ў дамóх, па лéсі ішлí с каравáмі, кóньмі, бу парцізáны забірáлі сьвíня, каравэ́, кóні (*Пруд Дзятл.*). 4. Гарэ́ў пáнскі маёнтэк, тáм гарэ́ла бібліятэ́ка, і мыí, дзяўкé, с пажáра выця́гвалі (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 5. Нáм па чатырнáццаць гóт былó, яшчэ дзяўчукé (*Вострава Зэльв.*). 6. Да нáс дзэ́ткі чатырмя́ машынамі прыяжжáюць: і сынóчкі, і дачýшкі, і невясткé, і зяцé (*Сухінічы Маст.*). 7. Выганя́й сваíх вавячóк, хáй вавячкé йдýць у пóля (*Куклічы Свісл.*). 8. Калíсьці на вечаркí хадзілі. Мнé былó вóсім лéт, як я́ пагнáла каравы́; Тады́ мядзьвéць як разлавáўся, узя́ў заéў тýю дачкý, аднó кастачкí засталíся (*Сідоркі Свісл.*). 9. У камóрцы стая́ў сундýк з адзéням: кажухí, сукянкí, спанíцы, галіфэ́ (*Пасінічы Сл.*). 10. Красíвыя дзяўкí, патóм зáмуш íх аддалá (*Правыя Масты Маст.*). 11. Дыванэ́ ткáлі, спадніцэ́ самадзéльскія шылі (*Паляжсын Зэльв.*). 12. Дзяшкé зьбірáюцца гýртам у ягадэ́, а то і грыбá знóйдзеш (*Вензавец Дзятл.*). 13. Рáс пашлí бабэ́ жáць жыта, ды аднá дзіця́ ў калысцы на галíну павéсіла (*Вензавец Дзятл.*).

*28. Адзначце дыялектную асаблівасць ў формах дзеясловаў абвеснага і загаднага ладу множнага ліку.*

1. Я́гат назьбірáем, нясéм у Валкавыск прадавáць (*Вялікае Сяло Ваўк.*). 2. Мы́ с табóй гэ́та да вéчара не давязéм (*Навасёлкі Ашм.*). 3. Ідзéм на вýліцу, адбярэ́м кабылíцу (*Тарнова Лід.*). 4. Нарвéм за пáзуху і ўжэ́ давóльныя плывéм назáт (*Гарнастаевічы Свісл.*). 5. Ну ідзéм мы́ дадóму, падыйшлí да рэ́кі, хацéлі памыíца, кап у хáці áдразу лéхчы спáць (*Крапіўніца Свісл.*). 6. Жнéм, жнéм.

Узнáлі міне́, што я́ сіро́та, нíгды міне́ ні вы́пусьцілі лю́дзі тáк, каб я́ ні павячэ́рала (*Паляжсын Зэльв.*). 7. Мы́ ўжо старáліся, як хле́п пячэ́м, так мáсла зьбíці (*Азёры Гродз.*). 8. Збярэ́мся ў кампáнію, набярэ́м сáла, хле́ба, пячэ́м на агні́ (*Галавічполе Шчуч.*). 9. Зусíм затаптáліся нáшы палацёры [палавікі], трэ́ба іх памы́іць, панясе́м на рэ́чку і до́бра памы́ям (*Падвялікае Дзятл.*). 10. Ве́чарам усе́нтарым [упарадкуем] се́на, прывязе́м дахáты (*Эйгерды Іўеў.*). 11. Дзíма пачáў крычáць: «Лю́дзі, ратýйця! Лю́дзі, памажэ́ця!» (*Голдава Лід.*). 12. Глядзе́ця, беражэ́ця друг дрýга (*Сухінічы Маст.*). 13. Сказáлі: ідзе́ця (*Косцевічы Ваўк.*). 14. Папе́ця сьве́жага малáка, яшчэ́ цёпленька (*Дакудава Лід.*).

*29. Знайдзіце дзеясловы ў неазначальнай форме. Параўнайце суфікс інфінітыва пры аснове на галосны з адпаведным суфіксам у літаратурнай мове.*

1. У бале́і замачы́лі бяльё мы́іці (*Заполле Маст.*). 2. Тáк і стáлі мы́ жы́іці рáзам (*Сурынка Сл.*). 3. Сь цюрмы́ выво́дзілі íх катавáці, ве́шаці гэ́тых патпо́льшчыкаў (*Канявічы Гродз.*) 4. Та ўжэ́ ш даўно́ е́та было́, зáрас усё ні ўспо́мніш, по́мню, зімо́ю, на Каля́ды, хадзíлі калядавáці (*Галавічполе Шчуч.*). 5. І мáма памярлá, аля́ мяне́ прáсьці навучы́ла, о́. Усё, усё навучы́ла: і карто́плю скрабáці, і вары́іці (*Каменка Гродз.*). 6. Да Навáгрутка то́лькі за патрэ́бай яко́й пад’е́хаці трэ́ба (*Любча Навагр.*). 7. Мáці ш мая́ мáці, ты́ ў нáс ні бу́дзеш жы́іці. У нáс німá дзіця́ці, німá што́ рабíці (*Голдава Лід.*). 8. Трэ́ба ўсё купíці, малако́ і сьмятáну, і адзе́ца красíво (*Правыя Масты Маст.*). 9. Начáў нáс лавíці (*Дружная Ваўк.*). 10. Ахо́та ўзнáці, я́к там жыве́ нáша Гáля (*Каралін Зэльв.*). 11. Ні хаце́лі мяне́ брáці, але мáці стáла плáкаці, прасíці. І тáк пачáла працавáці на заво́дзі (*Малыя Сцяпанішкі Маст.*). 12. Пайшо́ў дзет у сільсаве́т жо́нку абвіня́ці, у сільсаве́ці прысудзíлі жо́нку цалавáці (*Парэчча Дзятл.*). 13. У ле́с прышло́са занясьці то́е, што пасьпе́лі схапíці (*Коматава Гродз.*). 14. Ці мясо́ ты́лько калí на нядзе́лю тро́хі мо́жно было́ паўзірáцца ці пакаштавáці (*Квасоўка Гродз.*). 15. Сказáў [доктар], што нáда здáці і гэ́ту [карову]. Тáк я́ перажывáла, хаце́ла падзяржáці (*Ліцвінкі Гродз.*). 16. Калі я́ яшчэ́ маладáя былá, то тады́ пе́сьні дýжа до́брыя былí, я́ й самá сíльна сьпявáці любíла (*Малая Бераставіца Бераст.*).

*30. Прачытайце сказы. Знайдзіце назоўнікі з суфіксам -іск-. У якіх групах лексікі ён выкарыстоўваецца?*

1. Сёньня но́чай на аўся́ніско дзікі прыхо́дзілі, ду́малі, што авёс яшчэ́ расьце́ (*Маркішы Гродз.*). 2. Як ячме́нь убра́лі, астало́ся ячме́ніска (*Кіралі Шчуч.*). 3. Каро́ў па гаро́хавіску ганя́лі, па ём жы́та пато́м се́ялі (*Пацаўшчына Дзятл.*). 4. Я па картафля́ніску пасу́ ко́ней (*Амбілеўцы Шчуч.*). 5. На́та до́бра намалацілі, бо на бульбя́ніску расло́ (*Старынкі Шчуч.*). 6. Яго́ было́ назьві́ско Залятьі́нскі (*Стральцы Маст.*). 7. Тапары́ско да саке́ры трэ́ба зрабіць, бо гэ́то злама́лася (*Мсцібава Ваўк.*). 8. Пасьля́ ве́лькага пажа́ру, як ле́с згарэ́ў, агні́ска астае́цца (*Вялікія Баяры Шчуч.*). 9. Цэ́лы пла́ст се́на су́нуў грабля́мі, і грабліско злама́ласо (*Бабіна Гродз.*). 10. Сёні ма́ці зно́ў на ме́льніско па мел пайшла́ (*Бабpоўнікі Свісл.*). 11. Як дзе́ці па́ляць аго́нь у ле́се, астае́цца паляні́ско [вогнішча] (*Міратычы Карэл.*). 12. Ту́т на ку́хні маё прыпы́ніско: і ла́ўкі, і сто́л, і ло́шкі, і ўсё (*Кіралі Шчуч.*). 13. На гэ́даку сям'ю́ патпірыско до́бро ме́ў (*Старое Сяло Зэльв.*). 14. Пры́мавіска ёсць такі: «Та́к памо́жа, як гарба́тага магіла параўня́я» (*Крэва Смарг.*). 15. Сходзі на дрыво́ціско, набяры́ дрэ́ўкаў (*Вугальнікі Шчуч.*). 16. Пагна́лі сёньня каро́ў на канюшы́ніско (*Грынявічы Свісл.*). 17. На капу́сьніску хадзіла не́чая каро́ва, то прагна́ла (*Малая Бераставіца Бераст.*). 18. Пайду́ касіць льня́ніско, та́м тра́ва до́брая (*Берниты Шчуч.*). 19. На марквя́ніску ўжо́ нічо́га німа́, мо́ркву засы́палі на зіму. Дзе́ці лю́бяць ба́віцца на ха́тніску, с ха́тніска іх ні адвядзе́ш нія́к (*Макараўцы Бераст.*).

### *1.7.3. Асаблівасці сярэднебеларускіх гаворак на тэрыторыі Гродзеншчыны*

Як ужо адзначалася, гаворкі Гродзеншчыны характарызуюцца пэўнай аднастайнасцю сваёй структуры. Толькі паўночнай часткай яны трапляюць у паласу змешаных сярэднебеларускіх гаворак. Акрамя сваіх асноўных рыс, тут яны атрымліваюць пранікненне некаторых элементаў паўночнаўсходняга дыялекту, напрыклад такіх, як формы дзеясловаў трэцяй асобы адзіночнага ліку цяперашняга і простага будучага часу першага спражэння тыпу *ідз'эц', б'арэц', ка́жыц', с'эйіц'*, двухскладовыя канчаткі прыметнікаў і неасабовых займеннікаў жаночага і ніякага роду (*но́вайа, йэ́тайа, с'ін'айэ, йэ́йнайэ*).

Сярэднебеларускія гаворкі выпрацавалі і свае толькі ім уласцівыя прыметы:

1. Поўнае недысіміляцыйнае аканне і яканне: *маладо́га, халаднава́та, прыйэ́дз'ац'а, з'ал'анава́ты.*

2. Ненацісны канчатак -а ў назоўнікаў давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку: *каро́в'а, ав'э́чца, у ха́ц'а, у са́дз'а, на ла́ўца, у ша́фца, у калга́с'а.*

3. Назвы дзіцянят жывых істот з канцавым націскным галосным |о|: *ц'ал'о́, йагн'о́, парас'о́, жараб'о́, шчан'о́.*

4. Формы інфінітыва з асновай на зычны і формы дзеясловаў прошлага часу – з націскам на аснове: *н'э́с'ц'і, в'э́с'ц'і, трэ́с'ц'і, грэ́пц'і, н'э́с'л'і, в'э́з'л'і, трэ́с'л'і, грэ́бл'і.*

5. Адсутнасць канцавога -ц' у дзеясловах другога спражэння трэцяй асобы адзіночнага ліку з націскам на аснове: *йон хо́дз'а, ро́б'а, л'у́б'а.*

6. Дзеясловы першага спражэння ў трэцяй асобе цяперашняга і будучага простага часу множнага ліку маюць ненацiскны канчатак -ац': *йаны́ б'э́рац', ка́жац', шы́йац'.*

*31. Растлумачце дыялектную прыроду канчаткаў у назоўніках адзіночнага ліку давальнага і меснага склонаў.*

1. Сярадня́ яg дава́ла каро́вя, то яшчэ́ ні хадзіла даха́ты (*Янканцы Ашм.*). 2. Зьмяці́ ўсе́ пілаві́ны ў ку́чу, занясі ў хле́ў на по́тсьціл каро́вя, бу́дзя ёй сушэ́й у хляве́ (*Кладнікі Іўеў.*). 3. У іхняй ха́ця не́к уся́ мэ́бля па́т пяско́вы цьве́т (*Геранёны Іўеў.*). 4. Сьцямне́ла ў ле́ся, пара́ ісьці́ даха́ты, каб но́ч ні ахапіла (*Урцішкі Іўеў.*). 5. Но́жык у грыбы́ ісьці́ да́м, алі глядзіця, каб ні зба́слававалі [змарнавалі] дзе́ ў ле́ся. Сядзіць сабе́, перапіры́ндываіць [бавіць час пустымі размовамі], зь Віктусям; ні скаці́ня ні дава́на, ні вады́ ні прыне́сяна, а яму́ ні ў галаве́. У гэ́тай стало́ўца нічо́га лю́цкага німа́, вы́піла шкля́нку напітку, дык аш стармасну́ла [страсянула] усю́ – му́сі ўжо́ сапсу́ты. Узьдзябу́рыць [надзене] гэ́тыя джы́нсы і спацыру́іць па вёсца (*Косцевічы Астр.*). 6. Аднаму́ чалаве́ку на́тта хаце́лася гра́ць на скры́пца. І хто́ ве́дая, daку́ль гэ́та было́ бы, ажно́ запяя́ў пяту́х у вёсца (*Слабены Смарг.*).

*32. Знайдзіце і ахарактарызуйце дзеяслоўныя формы, спецыфічныя для сярэднебеларускіх гаворак.*

1. А ён мнé гавóра: «Прайдзіце налéва, пóтым напрáво, увідзіце магазін каўбáсны» (*Крапіўна Смарг.*). 2. Чалавéк прызнáўся, што нáтта люібя грáць, але нямá за штó купіць скрыпку (*Слабены Смарг.*). 3. Бáцька нясéць хлеп-сóль, а мáці сьцéліць кажýх вóўнай увéрх, кудьí маладáя злáзя з вóза (*Вішнева Смарг.*). 4. Некатóрыя гавóраць, што іх тáм памýчалі, паабразáлі насьí, а Янусь гавóра, што прóста забілі (*Асіпаны Смарг.*). 5. Бýльба тóлькі ўзышлá, а салдáт прыхóдзя, капáя, бýльбы шукáя (*Дзягаўцы Ашм.*). 6. Ну падýмалі, што вóўк харóшы, ну сільны і выганя (*Ашмяны Ашм.*). 7. Пóмню, мáці бýльбы звáра, халаднічóк трóхі сьмятáнкай забéля, яйкó сьпячэ́ (*Гальшаны Ашм.*). 8. Бáцька, бывáла, рóбя, рóбя, а грóшай усё рóўна нямá (*Жупраны Ашм.*). 9. Як накýра ў хáце, то й не ўсéдзіш. Ізнóў янá рóбя дрэ́нно (*Мур-Ашмянка Ашм.*). 10. Васіль цэ́лы дзéнь на сенажáці травý кóся (*Навасёлкі Ашм.*). 11. Марыля што ні кýпя, усё хвáліцца, такáя пахваліўка, любіць, каб дóбра апранýцца (*Гейстуны Ашм.*). 12. Хóдзя с сáмай рáніцы раскýдланая, расчасáлася п хоць (*Варняны Астр.*). 13. Пóмню, як дарылі. Пасáдзяць маладýю за стóл, янá галóся, а радзіна падáркі прэ́, свáт у бэ́льку качаргóй б'é (*Дайлідкі Астр.*). 14. Дзéд у нáс такі парýпны, усё ўпарý зрóбя (*Валеўцы Ашм.*). 15. Нáш Пятрýсь нігды ні змáня чалавéка (*Магуны Воран.*). 16. Марэ́чнік даюць піць, як сабáка шалёны ўкýся (*Жылі Іўеў.*).

*33. Прасачыце, якія канчатак маюць дзеясловы першага спражэння абвеснага ладу трэцяй асобы множнага ліку ў гаворцы вёскі Косцевічы Астравецкага раёна.*

1. Нéйкую зáбаўку прыдýмалі сабé. Нарысýяць клéткі на зямлі, бляшáнку кінаць і скакáяць цэ́лы дзéнь. 2. Скóлька ні éсь, усё ямý мáла. Затóе й грýбы, як бóчка, трублóм і празывáяць. 3. У нáс і мурóк і пячýрка называ́яць, гэ́та тóя сáмая. 4. Дзéці нóг ні выцірáяць прышóўшы. Насьлядýяць... Ізнóў станавіся мый падлóгу. 5. Магілёвых малыіх ні пéршы рáс віджу пад нáшай малінаўкай. Нéкалі патцікáюся [падкрадуся] і тáк атпсюру, што дзісятаму закáжаць. 6. Бывáла, як панáдзяцца сабáкі ў хлéў, усé яйкі павыпівáяць. 7. Унýчкі во ні вéраць, што бáба калісьці маладáя былá, дýмаяць, што такáя марскáтая і сівáя й нарадзілася. 8. Як

даплазу́яцца [дабяруцца] да гэ́тых цуке́рак, то ўсе́ зьяду́ць, хоць кілю. 9. Віддо́ма, дзе́ці ні слу́хаяць. Налётаяцца, а тады́ зі́мнай вады́ хва́цяць – і ўсё: бухікаяць праз усю́ но́ч, а ты́, ма́тка, сто́й над імі.

### *1.7.4. Занальныя асаблівасці гаворак Гродзеншчыны*

Разгледжаныя тыпы гаворак Гродзеншчыны ў складзе беларускай дыялектнай мовы адлюстроўваюць іх этнагенетычную прыроду. Яны, як сістэма, самаразвіваліся ў гістарычным часе эвалюцыйным шляхам. Акрамя гэтага, гаворкі Гродзеншчыны трапляюць у сетку дыялектных утварэнняў, якія называюцца дыялектнымі зонамі.

Дыялектная зона – тэрытарыяльна-моўнае адзінства, якому ўласцівы шэраг рыс, што атрымалі сваё распаўсюджанне ў выніку культурна-гістарычнага ўзаемадзеяння груп гаворак і дыялектаў у пазнейшы час. Яны не выступаюць ўнутрыдыялектнымі структурнымі кампанентамі, а складаюць асобны ярус арэальнага падзелу моўных з'яў, як бы накладваюцца на этналінгвістычную карту Беларусі і размяркоўваюцца ў зусім іншых межах, чым дыялекты. Некалькі зон могуць перасякацца паміж сабой, могуць праходзіць праз тэрыторыю розных дыялектаў.

У прасторы бытавання беларускай дыялектнай мовы вылучаюць пяць дыялектных зон: цэнтральную, заходнюю, паўночна-заходнюю, усходнюю, паўднёва-ўсходнюю. Праз тэрыторыю Гродзеншчыны праходзяць тры дыялектныя зоны: заходняя, цэнтральная і паўночна-заходняя (на поўначы). Кожнай з іх уласцівы вызначальныя рысы, адны з якіх вядомы і літаратурнай мове, а другія маюць рэгіянальны характар.

#### *1.7.4.1. Заходняя дыялектная зона*

1. Рэалізацыя цвёрдых зычных часцей перад галосным |э|, як правіла, у запазычаных словах: *мэ́тар, набэ́дрык'і, газэ́та, дэ́ка, шкарпэ́тка, Зэ́л'ва, Маладэ́чна, Сэ́рвэч, Ск'і́даль, Бэ́ршты, швэ́дра, чвэ́рыц', фэ́йчар, трупэ́рн'а, Савэ́лко, павадзэ́н'а, апара́цыйа, вандл'іна, вандл'а́рн'а.*

2. Ужыванне мяккага |л'| у запазычаных словах: *кл'а́са, к'і́л'а, дал'а́р, за́л'а, бл'о́к, гл'о́бус.*

3. Паслядоўная рэалізацыя спалучэння зычных |чн|, |чн'| (а не |шн|, |шн'|): *ручн'і́к, кан'э́чн'е, сма́чна, йайэ́чн'а.*

4. Формы вышэйшай ступені параўнання прыметніка з суфіксам -ш-: *выйшы, н'ішшы, глыпшы, даро́шшы, гру́пшы, дз'ашо́ўшы, то́ншы, с'іншы, чырво́ншы, до́ўшы, шыршы, здаро́ўшы, каро́тшы*.

5. Наяўнасць дробавых лічэбнікаў тыпу *паўтрац'а́, паўп'ата́, паўшаста́, паўс'ама́, паўвас'ма́*.

6. Ужыванне словазлучэнняў з прыназоўнікам *да*: *прыйшл'і да м'ан'э́, пайэ́хаў да Гро́дна*.

7. Побач са зборнымі лічэбнікамі тыпу *двое – дзесяцёра* выкарыстоўваюцца з такім самым значэннем формы *двох – дзесяцёх*: *было́ тро́х брато́ў, ваўко́ў прыйшло́ тро́х*.

8. Выкарыстанне рэгіянальнай лексікі, пераважна польскамоўнага паходжання: *абу́в'а, вал'іска, вангдо́р, вандзэ́лак, во́рак, вэ́нтка, гавандўл'ск'і, гру́дз'ан', длу́г'і, дз'іс', загда́рак, за́ўша, кайэ́т, кал'э́йка, крэ́данс, кс'о́ншка, купэ́рт, мана́рка, ма́рац, мато́цык, на́ўл'эчка, н'ігды, паўтал'э́жык, прэ́нтка, раба́к, ро́вар, рок, тарэ́пка, тэ́рас, фатыга, цу́рка* і інш.

*34. Знайдзіце словы, у якіх адбылося зацвярдзенне мяккіх зычных.*

1. Ме́лі сваі́х музыка́нтаў, васало́ было́, танцава́лі (*Кавалеўшчына Воран.*). 2. Хоць было́ бе́дна, але было́ васо́ла (*Варняны Астр.*). 3. Зра́зу рва́лі, смо́ргалі, а тады́ выво́зілі на по́лі, сла́лі на санажа́ці (*Воўкаўцы Лід.*). 4. Даўне́й надзе́лы былі з уся́кай зямлі: і ле́с, і бало́та, і санажа́ць, і грунто́вая зямля (*Косцевічы Астр.*). 5. Се́лі каля свайго́ стала́ і пе́сьні паём (*Сланева Навагр.*). 6. Гэ́та ат на́с было́ два́ццаць тры́ кіло́матры (*Канявічы Гродз.*). 7. Не глядзіць, ці красіва, але кап бага́та была́, кап до́бры паса́х быіў, каро́ва, гакта́р по́ля (*Старое Сяло Зэльв.*). 8. Му́жу рабілі апара́цыю (*Курчоўцы Воран.*). 9. Жывёлку гадава́ла, усё чыста, а тэ́рас пайшла́ ў нарсу́т, то й пэ́нсіі ні дава́лі (*Акмянеі Ашм.*). 10. Ні адзін ён такі нішчасьлівы. Пэ́нсіі на хле́п хваціла п і жыіў ба п (*Косцевічы Астр.*). 11. Яку́ю-не́буць вандліну ці кусо́к кумпяка́ які запяка́лі ў це́сьці, я́йца, хто́ мо сы́ра дава́ў, хто́ мо ма́сла (*Шылавічы Сл.*). 12. А мэ́тар сіццу сто́іў во́сімсят гро́шай (*Галубы Маст.*). 13. У на́с у вёсцы адзін хло́пяц дэфакто́вы, дык яго́ ў во́йска ні ўзялі (*Васілевічы Сл.*). 14. Нэ́рф папо́рчаны. У мяне́ ўду́шша, найго́ршы нэ́рф (*Чуркі Ашм.*). 15. Пе́рш папе́ры с сальсаве́ту трэ́бавалі, а цяпе́рака німа нача́льніка гэ́тага – у

во́тпуску (*Косцевічы Астр.*). 16. Бо́жачкі, ты́ ш та́к мо́цно пэ́рхаяш! (*Гута Дзятл.*). 17. Насадзіла гарбузо́ў, кап зямля́ ні пустава́ла. От, хо́ць се́мачак дзе́цям бу́дзя (*Зубра́ўка Шчуч.*). 18. У во́сем часо́ў магазы́н аткрыва́яцца (*Парэчча Гродз.*). 19. Да касьцёлу ні дава́лі хадзіць, пілнава́лі (*Красулі Шчуч.*). 20. А яго́ [торфу] глыбіно́й было́ чатэ́ры і пя́ць [метраў] (*Кавалі Бераст.*). 21. Кнігаў ро́зных было́ ў па́на, і піяні́на, што на паліцы, і асо́пчык быі́ў рабэ́нькі (*Новая Спуша Шчуч.*). 22. Па́н, па́ні ў капалюшы́, а я́ касы́нку надзе́ну, то́лькі вазьміце да касьцёла (*Кронькі Шчуч.*). 23. Калі́ вы́йшла з бальні́цы, трэ́была йсьці ў Місьцібава за мэ́трыкай (*Андрэева Ваўк.*). 24. До́чкі мне́ прыво́зяць ко́жны ра́з газэ́ты, кап пе́чку распаліць (*Рудзевічы Зэльв.*). 25. Маладо́му му́жу трэ́ба до́бра глядзе́ць, бо няве́сту кра́лі асыстэ́нты, хава́лі яе́, зага́двалі вы́куп (*Гальшаны Ашм.*). 26. Гэ́тыя бума́шкі называ́ліся вэ́ксаль. На ёй ста́віўся гэ́рп (*Малдуці Дзятл.*). 27. А бо́мба дала́ ў ха́ту, та́к і ўсё пагарэ́ла тут, ты́лька на́ша цэ́лая, там та́я во, дзе Гэ́нюсь (*Квасоўка Гродз.*). 28. До́бра ні прыпо́мню, хіба да Бэ́льскіх пайшлі́ (*Лушчыкі Воран.*). 29. Не́калі е́гдзілі ў Амэ́рыку, і хто́ е́хаў у Амэ́рыку, трэ́ба было́ ў жыду́ў пажыча́ць (*Малдуці Дзятл.*).

*35. Вызначце, з дапамогай якога суфікса ўтвараецца вышэйшая ступень параўнання прыметнікаў у наступных сказах.*

1. А по́тым ужо́ патро́шку ста́лі калхо́зы ўжо́ бага́тшыя, ста́лі на но́гі (*Геранёны Іўеў.*). 2. А кап ні было́ бага́чшых хло́пцаў, так былі́ п ра́дыя, хто́ бра́ў бы, за таго́ і аддава́лі п (*Гуды Лід.*). 3. Трэ́ба по́мніць, што ёсьць над на́мі вы́шша ўла́да (*Правыя Масты Маст.*). 4. По́лка то вы́шша, то ні́шша (*Пацаўшчына Дзятл.*). 5. Браты́ старэ́йшыя і сястра́ старэ́йша, а я́ са́ма мало́тша (*Гуды Лід.*). 6. Хто́ ду́шшы, то і пру́тшы, таго́ ні зва́лі (*Забераззь Іўеў.*). 7. Мо́й хло́пяц сла́пшы за таго́ задзіра́ку (*Дубароўшчына Дзятл.*). 8. Мо́й рушні́к намно́га шы́ршы за яе́ ўхвалёны, але ж я́ та́к не хвалю́ся, як яна́ (*Раманавічы Шчуч.*). 9. Цвікель [клін, устаўка] уста́віла пат па́ху, бу́дзя шы́ршы рука́ў (*Каробчыцы Гродз.*). 10. Апчаса́ў са́ма гру́пша бервяно́ (*Гальшаны Ашм.*). 11. У на́с найхаро́шшы вазо́н лічыцца фікус (*Навасёлкі Ашм.*). 12. У каго́ дачо́к у ха́ці мно́га, то сваё пажну́ць прэ́нтка, іду́ць на шы́ршую ні́ву да гаспадара́, дзе́ адна́ гаспады́ня (*Замасцяны Шчуч.*). 13. Але ш во́ цу́т, я́к ён упе́рат іх да ле́са дашо́ў, бо каро́чшай даро́гі няма́ (*Цідовічы Гродз.*). 14. Ба́цька быі́ў найбага́тшы на цэ́лу вёску, на цэ́лы Ѳеранёны, на цэ́ла мястэ́чка (*Геранёны Іўеў.*).

*36. Знайдзіце словы з мяккім гукам |л'| у запазычаных словах, параўнайце вымаўленне такіх слоў у беларускай літаратурнай мове.*

1. Во́сь у ва́с няве́стка зьдзелу́ха [рукадзельніца], такі́я пе́кныя блю́скі вя́жыць (*Войстам Смарг.*). 2. Ната́ша прыягджа́ла ў вёску, каза́ла, што ў Стару́м Сяле́ кьсёнц дава́ў шыкала́днаё пячэ́нё з мармаля́дам (*Бібікі Зэльв.*). 3. Так стару́ю сква́рку прадаю́ пакрысе́, сёня вот дзьве́ кі́лі [кілаграмы] прадала́ (*Буняны Ашм.*). 4. Ён лга́р пе́ршай кля́сы (*Мсцібава Ваўк.*).

*37. Прачытайце, знайдзіце прыклады выкарыстання колькасных лічэбнікаў у значэнні зборных.*

1. А ў мяне́ тро́х дзяце́й было́: Са́ша, Ната́ша, А́ня (*Няверавічы Ваўк.*). 2. Забілі яны́, не́мцы, і ба́цька на́шага, і ма́ма тро́х дачо́к гадава́ла (*Сямёнаўцы Бераст.*). 3. Тро́х жаніліся на праваслаўных, а тро́х на каталі́чках (*Монтацішкі Смарг.*). 4. Адзі́н капта́н на ўсі́х бы́ў, адны́я бо́ты на тро́х (*Шыганы Сл.*). 5. У на́с у ма́цяры было́ пяцёх: тро́х старэ́йшых брато́ў і мы́ дзьве́ дзяўчы́нкі (*Жукевічы Бераст.*). 6. Сабра́лася чалаве́к пяцёх, тро́х уцяклі́, дву́х забра́лі (*Жыдзевічы Іўеў.*). 7. Было́ на́с у ма́мы дзіяцёра, тро́х пашло́ служы́ць (*Седліска Воран.*). 8. Вы́ дво́х не купі́це (*Караневічы Гродз.*). 9. А тро́х засталі́са на дварэ́ (*Васілевічы Гродз.*). 10. Ма́тка бярэ́ на́с тро́х, а на мяне́ ка́жа: «Ідзі́, дачу́шка, даха́ты» (*Вострава Зэльв.*). 11. На́с у сямы́ было́ тро́х, і ў мяне́ тро́х дзяце́й было́ (*Калядзічы Ваўк.*).

*38. Знайдзіце канструкцыі з прыназоўнікам да, падбярыце да іх літаратурныя адпаведнікі.*

1. Пасьля́ вайны́ мы́ дайшлі́ на́пытам [пытаючы] да Мінска, як каро́вы купля́лі (*Сімакава Карэл.*). 2. На гэ́тым ты́дні пае́дзе да Мінска (*Вострава Маст.*). Дайшо́ў да залама́ньня [паварату] і вярну́ўся, ні мо́г да́ляй ісьці́ (*Шаўдзіні Лід.*). 3. Калі́ прадлу́жа Бо́х ве́ку мне́, то пае́ду да Масквы́, да сы́на (*Граўжышкі Ашм.*). 4. Ты́ яшчэ́ по́йдзяш да во́йска, на чарта́ та́я нарачо́ная (*Парэчча Гродз.*). 5. Я радзі́ўся ў трыццаць пе́ршум ро́ку ў вёсцы Кавалеўшчы́зна, пасьля́ ста́ў хадзі́ць да шко́лы, але ху́тка зачала́ся вайна́ (*Кавалеўшчына Воран.*). 6. У шко́лу хадзілі да Бу́драўцаў (*Будраўцы Шчуч.*). 7. Учо́ра

хадзіла ў цэ́ркву да спо́ведзі. Людзе́й было́ німно́га (*Бібікі Зэльв.*). 8. Як на́шы ні былі́ пае́хаўшы да Аме́рыкі, то я́ ў Таўрэ́лі ча́сто хадзіла на та́нцы ці на васэ́ля (*Лушчыкі Воран.*).

### *1.7.4.2. Паўночна-заходняя дыялектная зона*

У паўночна-заходнюю дыялектную зону трапляюць гаворкі паўночнай Гродзеншчыны. Ім уласцівы наступныя спецыфічныя рысы.

1. Паралельнае выкарыстанне ў асобных групах лексікі прыстаўных зычных |в| і |г|: *го́чы – во́чы, го́с'ан' – во́с'ан', го́з'эра – во́з'эра, гу́тлы – ву́тлы, гу́чан' – ву́чан', гачэ́й – вачэ́й, гастры́ц' – вастры́ц'*. Падобная паралельнасць па аналогіі часам пераносіцца на словы, у якіх адзначаныя гукі па сваёй прыродзе не з'яўляюцца прыстаўнымі: *гу́с'і – ву́с'і, гу́тарка – ву́тарка, ганав'іцы – ванав'іцы, гаро́х – варо́х, агуро́к – авуро́к, гул'а́ц' – вул'а́ц', го́йдацца – во́йдацца, гастры́т – вастры́т.*

Зрэдку да гукаў |г| і |в| паралельным выступае зычны |й|: *в'ін'ій – г'ін'ій – йін'ій, в'іншы – г'іншы – йіншы, в'ін'ц'арэ́сна – г'ін'ц'арэ́сна – йін'ц'арэ́сна, в'адро́ны – йадро́ны, в'арба́ – йарба́, вав'о́рка – гав'о́рка – йайо́рка, пра́в'іл'на – пра́йіл'на.*

Сустракаюцца таксама паралельныя ўжыванні слоў з прыстаўным і без яго: *гав'о́с – ав'о́с, гато́са – ато́са, гас'ц'у́к – ас'ц'у́к, гала́тк'і – ала́тк'і, гас'э́н'н'і – ас'э́н'н'і, габру́ч – абру́ч, во́з'эра – о́з'эра, ву́тлы – у́тлы.*

Неабавязковасць прыстаўнога спарадзіла факультатыўнасць пачатковага этымалагічнага |г| або |в|: *гаро́х – аро́х, газ'э́та – аз'э́та, гара́чы – ара́чы, гарба́ты – арба́ты, гармо́н'ік – армо́н'ік, гаршчо́к – аршчо́к, гарэ́ць – арэ́ць, гато́ва – ато́ва, гас'ц'ін'эц – ас'ц'ін'эц, гаспада́р – аспада́р, гакта́р – акта́р, галава́ – алава́, гало́дны – ало́дны, гул'а́ц' – ул'а́ц', густы́ – усты́, гул'та́й – ул'та́й, гумно́ – умно́, вав'о́рка – ав'о́рка, вантраб'э́йка – антраб'э́йка, ванго́р – анго́р, го́спадз'і – о́спадз'і, го́лы – о́лы, го́рла – о́рла, го́лад – о́лад, го́луб – о́луб, густы́ – усты́.*

2. Больш рэгулярнае, чым у іншых гаворках, выкарыстанне выбухнога зычнага |g|, пераважна ў іншамоўных словах: *gagу́л', gа́за, gазэ́та, gайданы́, gаргgа́ра, gардз'э́л', gва́лт, g'іg'э́л', g'іл', g'ірса́, g'іцал', gл'у́gа, gо́gа, gо́нт, gры́ка, gуда́к, gу́з'ал, gа́за, gнэ́мб'іц', gу́ма, жаgна́цца, саgа́н, фастрыgава́ц', злы́gац'.*

3 Ужыванне зычнага |к| замест |х| і наадварот: *кл'эп, кваро́ба, каро́шы, квал'іц', калко́с, ку́ста, кара́кц'ар, каравот, клус; ху́ртка, хрэ́ст, хс'ц'іны, хо́хл'уш, ха́хл'а, хан'у́х, хватэ́ра.*

4. Больш паслядоўнае, чым у іншых гаворках, вымаўленне |ф| і |ф'| у запазычаных словах: *аф'іцэ́р, фасо́л'а, ф'э́рма, ф'ікус, фл'а́нцы*. Назіраюцца выпадкі гіперычнага ўжывання губных |ф| і |ф'| у адпаведнасці з |хв|, |хв'|, |х|, |х'|, |п|, |п'|: *фа́л'а, ф'іл'іна, ф'ім'ічаск'і, фост, фу́стка, фу́тар, фла́нка, фрас, кана́фа*.

5. Націск на галосным канцавога складу, пераважна ў назоўніках жаночага роду: *муха́, вуда́, л'іпа́, скура́, буда́, выдра́, гал'іна́, груда́, груша́, вако́, вухо́*.

6. Ужыванне канчаткаў -оў (-аў) у родным склоне множнага ліку назоўнікаў не толькі мужчынскага, але жаночага і ніякага роду: *гру́шаў, бо́чкаў, ко́заў, каро́ваў, ла́паў, в'о́драў, з'імаў, пал'э́наў*.

7. Пашырэнне ва ўсёй зоне займенніка *гэ́ны*.

8. Ужыванне дзеепрыслоўя ў ролі выказніка: *йана́ ўжо з гот як за́муш вы́шаўшы; сын з' В'іл'н'і прыйэ́хаўшы; с'о́н'н'а йон каро́вы пагна́ўшы*.

9. Выкарыстанне канструкцый з давальным склонам аб'екта прыналежнасці: *йаму́ ха́та згарэ́ла, мн'э бал'іц' нага́*.

10. Лексічныя асаблівасці, характар якіх вызначаюць адметныя словы літоўскамоўнага і польскамоўнага паходжання: *бру́нкала* 'ворчык', *вашава́ц'* 'многа працаваць; прыносіць у вялікай колькасці', *в'а́пла* 'разявака', *g'іл'* 'авадзень', *жабурэ́н'н'э* 'раска', *ісква* 'асака; аса', *к'э́нтацца* 'няньчыцца', *к'ілпа́* 'пятля на звера', *кул'о́н'ік* 'запанка', *лапшы́вы* 'пражэрлівы', *мастальі́га* 'галёнка ў жывёлы', *м'ілта* 'страва з аўсянай мукі', *па́стыр* 'пастух', *по́шур* 'сухі корм для жывёлы', *ска́ба* 'рабро', *стум'ікла* 'ціхмяны, залішне стрыманы чалавек', *шал'бабо́н* 'фасоля'.

*39. Прааналізуйце паралельныя ўжыванні гукаў |в|, |г|, |й|.*

1. Сьвінуры́ – е́то карто́флі, якія ва́рацца для сьвіне́й, няскрэ́баныя карто́флі (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 2. А ба́цька ляжа́ў на пе́чы, ён не змо́х бо́лей это́ відзяць, вы́скачыў і закрыча́ў (*Вайкунцы Воран.*). 3. Ле́там кла́лі на яе́ ліст капу́сты, а як пяклі́ на сёмуху, то кла́лі яе́р (*Вераскава Навагр.*). 4. Ае́р на́тто па́хня, до́бры патсьціл з ае́ру (*Шчорсы Навагр.*). 5. То́лькі зачыня́й бра́мку, ба каза́ як уляці́ць, та ўсю́ яргі́ню зьні́шчыць (*Бабіна Гродз.*). 6. Ты́ юргі́ню пад акно́м пасадзі́, так красі́ва, як цьвіце́ юргі́ня (*Жамайтукі Іўеў.*). 7. Быі́ў маро́с, та вяргі́ня зьме́рзла (*Данілавічы Дзятл.*). 8. У агаро́дзе расьце́ gярgі́ня (*Канюхі Гродз.*). 9. У на́с у гаро́дзі ру́жа і арgі́ня (*Есенавіца Ваўк.*). 10. На другу́ю вясну́ табе́ ку́пім но́ву

ясёнку, а гэ́ту яшчэ́ ў старо́й атхо́дзіш (*Гнезна Ваўк.*). 11. Мне́ купілі но́вую вясёнку (*Чуні Свісл.*). 12. На ёй така́я фа́йна асёнка (*Бабіна Гродз.*). 13. У гэ́тум гаду́ гэ́тулькі мно́га я́грысту (*Жамайтукі Іўеў.*). 14. У на́с зама́ла агрэ́сту паса́джана, во́ кап пасадзіць яшчэ́ паміж я́блынямі (*Чэхі Астр.*). 15. Ідзе́м па ажы́ны, яны́ ве́лькія, аш блішча́ць, чо́рныя (*Кіралі Шчуч.*). 16. Хадзе́м нарве́м яжы́ны (*Лаўна Маст.*). 17. У вайну́ як што́ прыве́сьці трэ́ба было́, то каро́вы запрага́лі ў ярмо́ (*Шчорсы Навагр.*). 18. У вярме́ бы́ў патпа́лак ці прызьмо́, ён падзяля́ў вярмо́ на дзьве́ ча́сткі (*Макароўцы Бераст.*). 19. Ву́нь ужо́ на́шы тарахця́цца на шашэ́, за́рас прые́дуць (*Прывалка Гродз.*). 20. Ля́нь, а гы́нь мно́га салда́т, пае́халі па прыса́днай [абсаджанай дрэвамі] даро́зе (*Вайневічы Дзятл.*). 21. Унь Зо́ська жанчы́на стара́я, сама́ сабе́ прыстра́пая што́ і жыве́ (*Літвінкі Гродз.*).

*40. Зрабіце вывад адносна рэалізацыі пачатковых галосных |в|, |г|, |й| у наступных прыкладах.*

1. А за Ро́сьцевічамі вы́ступ такі ў о́зяры, ба́чыш? (*Росцевічы Зэльв.*). 2. Адно́ ў цібе́ гэто́ дзіця́ як о́ко ў ло́бі, і ты́ яго́ не́дзя ат сябе́ пусьціла (*Хамічы Зэльв.*). 3. Стрэ́хі былі́ с садо́мы, о́кна мале́нькія, у ха́ці было́ цёмно (*Старая Дубавая Гродз.*). 4. Яны́ за то́го каня́ і – схава́ць, і завялі́ да шва́гра Оляся (*Косцевічы Ваўк.*). 5. О́сь тако́ё маё жы́цё, не да́й каму́ па́не Бо́жа (*Марцінавіы Зэльв.*). 6. Бярэ́ на́с о́сяню, като́рым па дзе́сяць, па двана́ццаць го́т (*Пятакі Ваўк.*). 7. Ту ш няма́ла, бо ў адну́ старану́ кіло́матраў о́семдзесят (*Пераганцы Воран.*). 8. Во́сь жыву́ ўжэ́ ты́ля ле́т, о́сьмы дзеся́так разьміня́ла (*Юшкавічы Свісл.*). 9. А ў го́радзі ўсю́ды о́чарадзі, і хадзілі міліцыяне́ры, праганя́лі ты́х, хто́ зь вёскі (*Шурычы Свісл.*). 10. Мы́ да ве́чара прасядзе́лі на у́ліцы (*Свіслач Свісл.*). 11. Су́мку кніжак но́сіць, а ні у́чыцца (*Кавалі Бераст.*). 12. Дак ма́чыха сваі́х павыу́чывала, а мы́ та́к і былі́ (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 13. І ўжэ́ ту́т тры́ ме́сяцы я́ пабы́ў у э́туй а́рміі, у страйба́ці э́тум на аэрадро́мі (*Бібікі Зэльв.*). 14. Мы́, быва́ла, у асемна́сьця адо́ў ляце́лі (*Пераганцы Воран.*). 15. Ён хло́пяц анаро́вы, купі́ў ро́вар матаро́вы (*Карэвічы Шчуч.*). 16. У на́с было́ палавіна аспада́ркі – два́ццаць акта́раў (*Якубаўцы Воран.*). 17. Музыка́нт у на́с бы́ў, гра́ў на армо́ніку (*Якубаўцы Воран.*). 18. Во ба́чыш, якія аспадары́ пашлі́, ка́ня нігды ня ба́чыўшы, а мы́ былі́ аспадары́, і я ўжо́ ўшчы́тана ў рабо́ту, ме́ла му́сі едына́сьця гадо́ў (*Дзягаўцы Ашм.*). 19. Се́ялі на зіму жы́та, вясно́ю – пшаніцу, рачы́ху, гавёс (*Якубаўцы Воран.*).

20. Чужо́е ён згарэ́ табе́ гэ́дэк, як сво́й спада́р (*Зарудаўе Маст.*). 21. Алі ш на́тто ён уме́ў інцярэ́сно ўсяля́кія істо́рыі раска́зваць (*Малая Бераставіца Бераст.*). 22. Запынілі ту́т у Ду́бніцы, акра́с каля мо́сьціка (*Дубна Маст.*). 23. Ака́я та́м тады́ мала́я была́, а трэ́ба малаціць (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 24. Ак не е́ў, то не мо́х, ак пад'е́ў, то не ру́к не но́х (*Пацаўшчына Дзятл.*). 25. Учы́цца мы́ ні вучы́ліся, шко́л не было́, а пато́м і учы́цца ні было́ за што́. А ціпе́р от ужэ́ як ста́ла саве́цка вла́сьць, фсё ста́ло, учо́ба, ста́лі дзяце́й учы́ць бяспла́тна. Учацца, хто́ яку́ю мо́жа сьпецыя́льнасьць, так і ўчыцца, паступа́юць – ўчацца (*Бяляўшчына Ваўк.*). 26. О́ркі пе́рац, о́ркі, пахню́шчы; О́сьці прышлі́ ў адве́ткі (Быстрыца Астр.). 27. Ульта́й яшчэ́ сьпіць; Бяры́ ве́нкшанькую у́сь (*Паляцкішкі Воран.*).

*41. Знайдзіце словы, у якіх назіраецца гіперычнае ўжыванне гука |ф|. Растлумачце прычыну гэтай з'явы.*

1. Учо́ра палілі сьве́нчы, маліліся, у царкве́ панафіду ба́цюшка рабіў (*Ашмяны Ашм.*). 2. Аднаго́ ра́зу, калі ён быў у Зе́льві, то яму́ патра́філо купіць мне́ гэ́дыкія па́цяркі, як я́ хаце́ла (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 3. Паста́віць па́н на́с, маладых, ра́зам з даро́слымі да рабо́ты, а са́м назіра́я, ці патрафля́юць ра́зам з усімі (*Кемяны Шчуч.*). 4. Ну але ш былі сы́тыя, і ні было́ фуліга́нства гэ́такого (*Шчорсы Навагр.*). 5. Во́сь што зна́чыць маладо́сьць: бе́галі, шука́лі не́чага, бо глу́ш на фу́тары была́ (*Азярніца Сл.*). 6. Нарабіўся сёніка, хоць боньдзь-я́к даха́ты п патра́фіць (*Шылавічы Сл.*). 7. Насыпа́юць у бутылку сьмярдзюхі. Та́к – флёрка, а па-белару́ску – сьмярдзюха́ (*Чуркі Ашм.*). 8. Шафіёны пат спо́дам цёмныя, па канюшыні расту́ць (*Солы Смарг.*). 9. Чаро́мфа ў на́с расьце́ (*Гальшаны Ашм.*). 10. То́фаль набра́ці і заліць во́ткай – і па́ляц заліць (*Быстрыца Астр.*). 11. Ля́ш на кана́фу, я́ та́м по́душку палажы́ла, тро́хі атпачы́нь (*Бабіна Гродз.*). 12. Я́ купіла ва́м фа́флі (*Алешкаўцы Шчуч.*).

*42. Прачытайце сказы, знайдзіце канструкцыі з давальным склонам аб'екта прыналежнасці.*

1. Мне́ прасту́джанае го́рла, во́ду хало́дну піла́ (*Каменка Гродз.*). 2. Баліць мне́ сухя́нка [мазоль] на назе́, і як яе́ зьве́сьці. Баліць мне́ ў сто́ках [у паясніцы], ці ня зру́шыла я́ (*Сонічы Гродз.*). 3. Баліць мне́ нага́, наро́стак [мазоль] на па́льцы вялікі (*Прывалка Гродз.*). 4. Німа́ мне́ ніякага парату́нку, усё хварэ́ю (*Міцкавічы

*Смарг.*). 5. Усé ніці мнé пабэ́рсаў, адыдзí ты́ ад мянé (*Морына Іўеў.*). 6. Нóгі мнé парэ́паліся, хóдзячы па балóце (*Вугальнікі Шчуч.*). 7. Вот тýт вóўк нáм свіньню́ схапíў (*Старыя Смільгіні Воран.*). 8. Ямý бýльба дáрма пасáджана (*Паляцкішкі Воран.*). 9. Мнé стрýшкі пáхнуць, тáк я́ люблю́ сталя́рнічаць (*Збляны Лід.*). 10. А мнé сьлёзы кóцяцца (*Мсцібава Ваўк.*). 11. А мнé не ўдалáся грýша (*Альхоўка Навагр.*). 12. Задушы́ў мнé сабáка кýрыцу і пітухá (*Граўжышкі Ашм.*). 13. А мнé кóнь падóх, і заплацíў дóрага за каня́ (*Паляцкішкі Воран.*). 14. Трэ́ба мнé бадзюкóў нарвáць (*Малі Астр.*). 15. Мнé стáлі рýкі пýхнуць (*Даўбенкі Шчуч.*). 16. Дзікé бýльбу пары́лі нáм (*Парэчча Гродз.*). 17. А нáм хáта маглá згарэ́ць (*Паляцкішкі Воран.*). 18. Каб табé вýшы вы́расьлі, бы́ў бы настая́шчы асёл (*Малі Астр.*).

*43. Знайдзіце прыклады ўжывання дзеепрыслоўяў у ролі выказніка.*

1. Буракóў салóткіх мáма былá нарабíўшы (*Морына Іўеў.*). 2. Ужó трóха лю́дзі разбагацéўшы, штó прóдалі, купля́юць (*Ваверка Лід.*). 3. А я́ вы́шаўшы былá, узя́ўшы дрáпцы (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 4. Ну штó ж, хтó бы́ў карóву ўзя́ўшы, паадбірáлі (*Лаздуны Іўеў.*). 5. Нéмцы былí забрáўшы карóву (*Лежневічы Іўеў.*). 6. І пазьнéй папóў гэ́тых сваíх пазьбірáўшы, панéнкаў і ат'éхалі аны́ (*Лаздуны Іўеў.*). 7. Тáм прышóўшы кáцяр бы́ў, і вýгуль да завóда (*Даўбенкі Шчуч.*). 8. Я такíх швэ́драў, як у магазíне, самá сваíмі рукáмі навязáўшы (*Урцішкі Іўеў.*). 9. Маладзíца нядáўна прышóўшы (*Ністанішкі Смарг.*). 10. Я былá пасадзíўшы капýсты загóнчык (*Кальчуны Ашм.*). 11. Я й дзяцéй вы́гадаваўшы, траíх мáю, а ўсё аднó аднá (*Баруны Ашм.*). 12. Мáтка былá ямý пакíнуўшы скры́ню зóлата (*Кальчуны Ашм.*). 13. А Тадзю́к нáват на рóвар бы́ў забы́ўшыся, успóмніў пра ягó нóчай (*Попішкі Астр.*). 14. Цяпéр, катóры не рабíўшы, пэ́ньсію палучáе бóльшую, чым катóры рабíўшы (*Волькавічы Ашм.*). 15. Мýзыка прыéхаўшы ўжó ат нáс і сюды́ спатыкáць нáс. Хáта замкнёна, паляцéўшы гаспадáр ужó, ягó швáгер, да сусéда (*Геранёны Іўеў.*).

### 1.7.4.3. Цэнтральная дыялектная зона

Цэнтральная дыялектная зона з'яўляецца вынікам узаемадзеяння розных груп гаворак і дыялектаў у працэсе нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа. Тут сканцэнтраваны найбольш тыповыя рысы беларускай мовы, адзіныя ў яе дыялект-

най і літаратурнай разнавіднасцях, напрыклад, моцнае аканне, ужыванне толькі цвёрдага |р|, формы прыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону без канцавога |й| (*добры, в'ал'ік'і*).

### *1.7.5. Рэгіянальныя асаблівасці гаворак Гродзеншчыны*

Уласцівасці буйных лінгвагеаграфічных груповак (дыялектаў, груп гаворак, дыялектных зон) вызначаюць адзінства, цэласнасць і сістэмнасць дыялектнай мовы Гродзеншчыны. Разам з тым існуе нямала спецыфічных мясцовых з'яў, пашыраных у межах сельсавета, раёна, некалькіх раёнаў. Адны з іх сустракаюцца толькі на Гродзеншчыне, другія – спарадычна і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Пакуль што яны недастаткова вывучаны. Маюцца нешматлікія даследаванні гаворак асобных раёнаў: Ваўкавыскага (Т.Ф.Сцяшковіч) [61], Зэльвенскага (П.У.Сцяцко) [56, с. 4 – 23; 46 – 54], Навагрудскага (І.Р.Бурлыка) [9], Мастоўскага (А.Р.Хромчанка) [69], Гродзенскага (М.А.Даніловіч) [13], [15].

Абапіраючыся пераважна на матэрыялы сваіх уласных пошукаў, праведзеных ў апошняе дваццацігоддзе, паспрабуем паказаць найбольш яркія рэгіянальныя дыялектныя факты, многія з якіх тут будуць дэманстравацца ўпершыню. Звесткі пра тэрытарыяльныя межы некаторых з іх пакуль што няпоўныя, таму геаграфічная пашпартызацыя іх грунтуецца толькі на наяўным фактычным матэрыяле. Канчатковае вызначэнне дакладных межаў ці пунктаў бытавання іх патрабуе дадатковага палявога абследавання гаворак Гродзеншчыны.

#### *1.7.5.1. Фанетыка*

У галіне націскнога вакалізму трэба адзначыць такую з'яву, як лабіялізацыя |а|, зрэдку |э| перад губным |ў|. Зафіксавана яна ў асобных гаворках Гродзенскага, Шчучынскага, Мастоўскага, Дзятлаўскага, Навагрудскага і Слонімскага раёнаў, не маючы суцэльнай ізаглосы: *казо́ў, доў, про́ўда, узо́ўтра, злапо́ў, насто́ўн'ік, хл'о́ў, капо́ў, пачо́ў, дз'аржо́ў, упо́ў*.

Пад уплывам суседняга губнога зычнага, а таксама пасля |т| націскныя галосныя |о|, |ô|, |а| у некаторых словах вымаўляюцца як |у|: *дру́ў, пу́йдз'э, в'атру́ўк'і, ту́л'к'і, трыву́ло*.

Якасць гука |у| набываюць і ненаціскныя галосныя, калі знаходзяцца пасля ці перад губным зычным: *була́, трума́ц', по́тум, чумада́н*.

Пераважна ў маўленні прадстаўнікоў старэйшага пакалення назіраецца сцяжэнне гукаў у спалучэнні |оў|, вымаўленне гэтага спалучэння як |у|: *у жо́ўтым – у жу́тым, по́ўн'ан'к'і – пу́н'ан'к'і, ро́ўным – ру́ным, зноў – зну*.

У адзінкавых словах замест націскных |і|, |ы| вымаўляецца галосны |э|: *дз'э́рка, зац'э́рка, к'э́пц'і, рабац'э́н'а, павуц'э́н'а ц'в'э́к, чатэ́ры, халадз'э́л'н'ік*. Гэтая асаблівасць сустракаецца таксама ў лексічна-граматычных групах слоў: а) ў займеннікавых прыслоўях: *тадэ́, тудэ́, кудэ́, с'удэ*; б) у формах дзеясловаў прошлага часу множнага ліку: *был'э́, пашл'э́, уз'ал'э́*.

Адносна ненаціскнога вакалізму варта адзначыць, што хоць на Гродзеншчыне пасля мяккіх зычных пануе ўстойлівае недысіміляцыйнае яканне, вымаўленне асобнай групы слоў не адпавядае гэтай фанетычнай заканамернасці і мае прыметы дысіміляцыйнага якання. Так, на месцы этымалагічнага |э| у пераднаціскных складах вымаўляецца гук |і| у словах *м'ін'э́, ц'іб'э́, с'іб'э́, ц'іп'э́р, н'ім'э́цк'і, н'іма́, н'і* (замест н'е, н'а), *дз'ів'а́ты, дз'іс'а́ты, вас'імна́ццац', ц'ітра́ц', н'ів'э́ста, н'ідз'э́л'а, н'ів'э́л'к'і, ішчэ́, ц'іл'іфо́н, м'іда́л'* і інш.

У некаторых словах, пераважна іншамоўнага паходжання, узнік прыстаўны галосны гук а: *аб'аз'м'э́н, агра́фка, аф'іра́нка, ап'іво́н'а*.

З'ява аферэзісу (страты пачатковых галосных) адзначана ў асобных спрадвечнабеларускіх і запазычаных словах і закранае такія гукі, як |а|, |у|, |і|, |э|: *гаро́т, гурк'і́, сав'а́к (асав'а́к, асо́в'ік), М'э́рыка, стру́мант, дастав'арэ́н'а, дз'ікало́н, нігдо́т, рышта́нт, н'ірс'іц'э́т, н'ів'эрма́х, на́кшы, кано́м'іц'*. Яе разглядаюць як перыферыйную інавацыю, што развілася ў выніку рэдукцыі ненаціскных гукаў ў абсалютным пачатку слова па аналогіі са старажытнымі ўтварэннямі *мети, меновати* або ў выніку ўплыву паўночна-ўсходняга дысіміляцыйнага акання, калі пачатковыя |а|, |і|, |у| маюць тэндэнцыю да звужэння і поўнага знікнення. Дэфармацыя пачатковых гукаў магчыма і ў працэсе прыстасоўвання іншамоўных слоў адпаведна ўласнабеларускім мадэлям [69, с. 18].

На канцы іншамоўных слоў, якія заканчваюцца на -ыя, -ія, пасля націскнога складу ў назоўніках жаночага, радзей ніякага роду адзіночнага і множнага ліку адбываецца сцяжэнне гукаў:

*ап'ара́ца, ста́нца, м'іл'іца, пэ́н'с'а, л'ін'а.* Сцяжэнне захоўваецца і ва ўскосных склонах: *ап'ара́цы, ап'ара́цу, ап'ара́цай.*

Шмат асаблівасцей звязана з функцыянаваннем зычных гукаў, з характарам іх узаемадзеяння з іншымі гукамі ў слове.

У вёсках Парэцкага сельсавета Гродзенскага раёна (вв. Парэчча, Новая Руда, Старая Руда, Глушнева і інш.) сустракаюцца выпадкі ўжывання дзеясловаў 3-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу з цвёрдым |ц| у канчатку: *ро́б'ац, ка́жуц, зна́йуц, стрыгу́ц, пав'азу́ц, раск'іда́йуц, з'л'э́п'ац, раскапа́йуц, жнуц, сту́кайуц.* Зрэдку гэта назіраецца і ў формах дзеясловаў адзіночнага ліку, а таксама ў формах інфінітыва: *л'ажы́ц, б'ажы́ц, с'п'іц, л'ажа́ц, раб'іц.* Носьбітамі суседніх гаворак такая асаблівасць успрымаецца як незвычайная, што выходзіць за межы моўнай нормы. Адносіны да яе знайшлі выражэнне ў дражнілцы гумарыстычна-іранічнага характару: *На́шы йэ́дуць, ва́шы йдуц, на́шы ва́шых падв'азу́ц* (Бабіна Гродз.). У беларускай дыялектнай мове гэтая з'ява рэдкая. У «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» [18], на карце № 156, адзначаны яшчэ чатыры пункты бытавання яе: Шылавічы Сл., Люсіна Ганц., Снедзін Петр., Запясочча Жыт. У гаворках Гродзенскага раёна яна знаходзіцца на стадыі знікнення, уласціва маўленню самых старых жыхароў.

Гук |ш| на месцы |с| ужываецца ў словах *за́шмарга, шпа́цыр, брушн'іца, пашку́да* і інш.

Гук |ў| ужываецца замест |л| у сярэдзіне слова: *саўда́т, паўко́ўні'к, таўку́шка, са́жаўка.*

У канчатку займеннікаў, зрэдку прыметнікаў вымаўляецца зычны гук |в|: *майаво́ (маво́), твайаво́ (твbooво́), свайаво́ (сваво́), н'ікаво́, н'ічаво́, каво́, чаво́, йаво́, таво́, гэ́таво, до́браво, спако́йнаво.*

У абсалютным пачатку слова адбываецца падаўжэнне гука |з|: *ззарва́ц', ззагна́ц', ззэ́сну, ззапрытна́, з'з'э́с'ц'і, з'з'э́хац'.*

Вынікам узаемадзення гукаў у словах сталі рознага характару асіміляцыйныя працэсы, адны з якіх рэгулярныя, а другія закранаюць толькі асобныя словы, напрыклад: *мо́нны, с'арэ́н'н'і, сус'э́н'н'і, спан'н'іца, тру́нно, пас'л'э́н'н'і, дро́мны, б'э́нны, хо́ланно, ба́б'ік (вабік), Варыво́н, пажы́чыц', л'о́кка (лёгка), шчых'э́тка, В'ал'іgдз'эн', з'г'інуц', с'к'інуц', пап'інну́й, ам'м'іну́ц'.*

Прыкметнай асаблівасцю з'яўляецца азванчэнне глухіх зычных у пазіцыі перад галоснымі і санорнымі ў асобных словах: *gалду́н, gрэ́с'во, пашчэ́нgа, разg'іра́ка, адл'ічно, адв'ача́ц', забра́н'а, gамзо́л'* (камзол), *Грыб'іна* (Агрыпіна), *гэ́дак, гэ́дык'і,*

*ту́дака, каўду́н* (каўтун), *калаўро́дак, g'ізнуць* (кіснуць), *g'іжа́ц'* (кішэць), *gо́мжыц'* (комчыць), *цвырgу́н*.

У гаворках выяўлена і адваротная тэндэнцыя: ужыванне глухіх зычных перад санорнымі, часам перад звонкімі зычнымі і галоснымі. Часцей гэтая з'ява назіраецца ў злучніку *каб*, прыназоўніках *пад, ад, з*: Казоў, *кап* яна вышла на двор (*Мікелеўшчына Маст.*). Прыходжу *пат* вечар, заходжу ў сенцы (*Пагарэлка Карэл.*). А потым прыехалі і забралі яшчэ *ат* іх стох сена (*Першамайск Шчуч.*). Лапці *с* аборамі пападвязваем, і на канёх, значыць, гуляць (*Некрашэвічы Карэл.*).

Адзначаецца яна таксама ў прыстаўках і часам у корані слова: Кажуць, *атдавай* руж'ё, а то заб'ём; А потым *расьбіралі* панскі магазін (*Морына Іўеў.*). Як тылько дошч ідзе ці сьнех растае, дык адразу ў *патвалі* вады поўно (*Малая Бераставіца Берас.*).

Назіраюцца дысіміляцыйныя змены ў спалучэннях зычных: |дд| – |нд| (*анда́ц', андал'о́к*), |нн| – |дн| (*с'о́дн'а, с'адн'ік, тадны́, сало́дны, п'іднава́ц'*), |кт| – |хт| (*тра́хтар, до́хтар*), |мп| – |нп| (*ла́нпа, канпа́н'ійа*), |мб| – |нб| (*канба́йн, бо́нба, а́нба*), |чн| – |шн| (*сма́шна, йайэ́шн'а*), |цк| – |ск| (*наскава́ц'*), |кв| – |хв| (*мо́рхва*), |тл| – |кл| (*клу́сты*). Пашыраны розныя віды дыстанцыйнай дысіміляцыі: *алто́бус, анто́бус, бу́л'ва (*бульба*), в'ас'э́да (*бяседа*), жв'ал'э́й* (жвавей), *лы́м'а* (вымя), *патро́буй, пал'ікма́х'эр, пантрэ́т, слабо́дны, трасца́* (траста́), *шала́с, шаса́*.

Прыстаўны зычны |в| ужываецца і перад пачатковым |а|: вакно́, ваго́н', вадры́на. Часцей гэтая з'ява развіваецца пасля прыназоўніка у: *у вакн'э́, у ваго́н', у вадры́ну.* Адзначаюцца выпадкі сцяжэння прыназоўніка і прыстаўнога |в|: *у вадны́х – вадны́х, у ваб'э́т – ваб'э́т, у вакн'э́ – вакн'э́*.

З'ява сінкопы – выпадзення гукаў у сярэдзіне слова – найчасцей праяўляецца ў такіх словах: *н'эк, н'э́к'і, вы́с'ц'і, ба́ло, п'іс'а́т, вы́грац', то́к'і* (толькі), *ско́ко, па́с'іц'* (пасвіць), *палака́ц'* (паласкаць) *і інш.*

У канчатках прыналежных займеннікаў мужчынскага і ніякага роду ў родным, вінавальным і давальным склонах гук |й| выпадае: *маго́, тваго́, сваго́, маму́, твааму́, сваму́*.

У гаворках Ваўкавыскага раёна часам назіраецца выпадзенне зычнага |г| у займеннікавых і прыметнікавых формах тыпу *йао́, э́тао, то́о, тако́о, в'э́л'као.*

Словы *біць, піць, віць, ліць* у асобных гаворках Гродзенскага і Шчучынскага раёнаў страцілі гук |й| ва ўсіх асабовых формах, па гэтай прычыне ў першых трох словах губны зычны памякчыўся: *б'у, п'у, в'у, л'у, б'эш, п'эш, в'эш, л'эш, б'э, п'э, в'э, л'э, б'эм, п'эм, в'эм, л'эм, б'э́ц'а, п'э́ц'а, в'э́ц'а, л'э́ц'а, б'уц', п'уц', в'уц', л'уц'*. Гук |й| адсутнічае і ў аднакаранёвых утварэннях тыпу *наб'э́ш, нап'э́са, п'а́н'іца, п'а́ны, п'а́ўка*. Цікава, што ў слове *аб'ездчык* гук |й| пасля прыставачнага губнога таксама страціўся: *аб'э́шчык* (але: *абйэ́ст, абйэ́хац'*). Падобная асаблівасць часам пашыраецца на іншыя словы, некаторыя з іх нетрадыцыйныя, прыйшлі ў гаворкі адносна нядаўна: *Дз'ам'а́н, с'ам'а́, п'э́са, п'э́ска, Адз'іта П'э́ха.*

З'ява апокапы – адпадзення канцавога гука ці спалучэнняў гукаў – уласціва шэрагу слоў, прыналежных да розных часцін мовы: *бач, в'э* (ведае), *жыс', шэс', му́с'і, за́ра, зно, у ха́ц', заран'о́, мо, трэ* (трэба).

У гаворках Гродзеншчыны значна пашырана такая з'ява, як сцяжэнне зычных гукаў. Яно рэалізуецца ў розных выпадках, адны з якіх – тыповыя, другія – адзінкавыя. Разгледзім найбольш рэгулярныя прыклады сцяжэння:

а. Сцяжэнне *цц – ц* у постфіксе зваротных дзеясловаў: *вучы́ца, жан'іца, бра́ца, с'мійа́ца, угл'ада́ца, зна́чыца.*

б. Сцяжэнне *дд – д* на стыку прыстаўкі і кораня: *ада́ц', адз'ал'іц', адз'э́л, адз'ал'э́н'а, адз'а́чыц', ады́хацца.*

в. Сцяжэнне *цц – ц* ў суфіксе лічэбнікаў ад адзінаццаці да дваццаці і трыццаць: *адз'іна́цац', двана́цац', тры́на́цац'.*

г. Сцяжэнне *нн – н* у корані слова ці на стыку кораня і суфікса: *тан'э́й, пл'э́ныйа, с'о́н'а.*

Гаворкам вядома з'ява метатэзы – перастаноўкі месцамі гукаў ці складоў у слове. Яна заўважана як у запазычаных, так і ў спрадвечнабеларускіх словах, напрыклад: *абса́ц* (абцас), *адымка́цца* (адмыкацца), *апачэ́* (ачэпы), *гало́бл'і* (аглоблі), *гамазы́н* (магазін), *ганав'іцы* (нагавіцы), *калу́пашак* (палукашак), *карш п'э́ты* (шкарпеты), *кашо́лы* (калошы), *н'эзнав'ідз'эзў* (зненавідзеў), *н'іжын'э́р, нізамагла́* (занемагла), *н'іс'ц'іту́т, н'ітарна́т, н'іц'арэ́сны, рало́к* (ларок), *скрыл'о́с* (шклярос), *Сло́м'ін* (Слонім).

Сярод эпентычных гукаў можна адзначыць наступныя: |й| (*нарэ́йс'ц'і* (нарэшце), *ва́йждацца, гаро́йд, парэ́йпаны, шэ́йс'ц'*); |н| (*м'э́нсца, м'інда́л'* (медаль) *імпэ́нт, кантл'э́та*); |в| (*запо́в'іны, стадз'іво́н, ра́дзіво, тратува́р*); |р| (*карн'істра, ту́рзац'*).

*44. Знайдзіце словы, у якіх адбыўся пераход націскных галосных |а|, |э| у |о|, растлумачце прычыны гэтага пераходу.*

1. На Куцю́ са́мы аспада́р сядзе́ў за стало́м, пе́ршы аспада́р начыно́ў, во́т. Пато́м э́та се́на назо́ўтра насілі каро́вам у хлёў, аддава́лі е́сьці (*Парэчча Гродз.*). 2. Узо́ўтра зайдзі да міне́, то пагаво́рым пра гэ́то (*Малятычы Шчуч.*). 3. Стo̓ў на на́с крыча́ць, чаго́ е́халі ўно́чы, трэ́было пачака́ць да зо́ўтра і прые́хаць днём. Ну ту та́та старо́ўся, кап дзе́ зарабі́ць (*Свірыды Шчуч.*). 4. Падро́с тро́ху, заста́віў ба́цька па́сьвіць каро́вы, па́сьвіў каро́ву на паме́шыцкуй зямлі, а за гэ́та ба́цька адраблёў за паслу́гу яму́ (*Дамаўцы Шчуч.*). 5. Ён мяне́ пакі́нуў, па́шоў на вайну́ і папо́ў да не́мцаў (*Правыя Масты Маст.*). 6. Я на ла́ву лахма́нчык паткінула і на ло́ўцы прале́жала (*Гуды Лід.*). 7. А сы́н Антак вы́вучыўся, дарэ́ктарам шко́лы сто́ў. Бацьке́, про́ўда, сла́лі пасы́лкі (*Панямонцы Лід.*). 8. Хме́лю, хме́лю, дзе́ ты ро́с, што́ ні разьвіво́ўся (*Дзеткі Воран.*). 9. Чаму́ ты́ ні сказо́ў, што Мары́на прые́дзе? (*Падлабенне Гродз.*). 10. Ніхто́ й не відзяў, як во́ўк гаве́чку ўкро́ў (*Мэйры Лід.*). 11. На прыгуме́ньні Бабры́цкія паста́вілі но́вы хлёў (*Першамайск Шчуч.*). 12. У хлёў загна́лі каро́ву (*Ляпёшкі Іўеў.*). 13. Насто́ўнік яшчэ́ зусім малады́ (*Падзітва Воран.*). 14. Гэ́та чы́ста про́ўда, я́ ве́ру ка́ждаму яго́ сло́ву (*Бабіна Гродз.*). 15. Благі́ зусі́м, каб не гро́ў у пілку, не бы́ў бы такі́м (*Галубы Маст.*). 16. Дзе́ ты пакло́ў шкарпе́ткі? (*Пацаўшчына Дзятл*). 17. А мо́й дзя́цька бы́ў во́йтам, бы́ў сло́ўны на ўсе́ мазге́ (*Правыя Масты Маст.*).

*45. Знайдзіце ў сказах выпадкі пераходу |о|, |ô|, |а|, |ы| у гук |у|, растлумачце прычыну гэтай з'явы.*

1. Загато́віў тры́ццаць два́ во́зы дру́ў (*Камяніца Ваўк.*). 2. У ко́жнай ха́це было́ ту́лькі па дзе́сяць і бо́льш дзяце́й (*Правыя Масты Маст.*). 3. Ту́лько купі́ла гэ́таму сваймý арышта́нту мало́му но́выя чаравікі, і ўжо́ падра́ў ушкуманты́ (*Цярэшкі Ваўк.*). 4. Пу́йдзе ўжэ́ ма́ці што́ купі́ць на́м зь яко́га ўжэ́ адзе́жду (*Зарудаўе Маст.*). 5. Патхо́дзіць ён табе́, як вятру́ўкі да сьне́гу (*Арцюшы Шчуч.*). 6. Напякла́ сту́с бліно́ў, адно́ е́сьці німа́ каму́, усе́ ро́бяць у по́лі (*Зарой Дзятл.*). 7. Мы́ ў стало́вай трыву́ло пасьне́далі, як пае́м ра́но ала́ткаў с са́лам, то трыву́ло, трыву́льную яду́ ўсе́ лю́бяць (*Сонічы Гродз.*). 8. До́хтура прыве́сьці было́ на́тто ця́шко (*Шыганы Сл.*). 9. Фэ́лянька ўве́сь у агні кача́ецца па пудло́зі (*Пелкаўшчына Іўеў.*).

10. По́тум ззабра́ліся ўсе́ сває́ і выпіва́юць (*Мікелеўшчына Маст.*). 11. Ма́ма була́ каталі́чкай, а та́та праваслаўны, але ўдву́х парашы́лі, кап шлю́п бра́лі ў касьцёлі (*Студзенікі Свісл.*). 12. Я ўзя́ў закуры́ў, бо гэ́тыя не́мцы, като́рыя вла́сьць трума́лі, та разраша́лі куры́ць (*Камяніца Ваўк.*). 13. Як ты́ по́йдзяш? Папрасу́й суке́нку, яна́ ў цябе́ ве́льмі скуме́чаная (*Гудзінішкі Воран.*). 14. Зьляпіў кумя́к сьне́гу і кінуў у дзе́вачку, а яна́, бе́дна, стаі́ць і пла́ча (*Бабіна Гродз.*). 15. Памажы́ яму́, чумада́н ця́шкі (*Амбражылевічы Дзятл.*). 16. Па пя́ць кару́ў трыма́лі, а са́мы гало́дныя хадзі́лі (*Васілевічы Сл.*). 17. Прыйшо́ў малады́, скланіўся е́й, яе́ з-за-пад руку́ і павёў. Асустэ́нты пайшлі́ ззаду (*Малі Астр.*). 18. А по́тым гляджу́ – і другі́ выхо́дзя, і абу́два напе́рад мяне́ до́ляюцца (*Лысая Гара Ашм.*). 19. По́сьля вайны́ ў ку́жнай вёсцы хадзі́ла ва́рта (*Бяцюны Ашм.*).

*46. Знайдзіце словы з нетрадыцыйным вымаўленнем гука |у|. На месцы якіх спалучэнняў гукаў ён вымаўляецца?*

1. Скіта́ласа па лю́дзях, с маладо́га дзіце́й забуля́ла, пасьля́ караві́ па́сьвіла ў людзе́й (*Улезлы Ваўк.*). 2. Я́ яшчэ́ мала́я была́, забуля́юся на тра́ве на сло́нцы й ві́жу, як самалёты ляця́ць (*Мастаўляны Лід.*). 3. А зну́ ш выхо́дзяць яны́ (*Старына Маст.*). 4. Ён на ру́кі ўзя́ў, нясе́, а я́ сама́ зну́ пла́чу (*Зарудаўе Маст.*). 5. Я яму́ саве́тую і про́ста ўгава́рую, што разы́дземся мы́, бо што́ мы́ бу́дзем рабі́ць (*Гуды Лід.*). 6. У на́с ву́к укра́ў гаве́чку (*Руда Яварская Дзятл.*). 7. Есьці было́ чаго́, напякла́ яёк, кубасы́ парэ́зала (*Наваельня Дзятл.*). 8. У ты́м ле́се бы́ў ву́к (*Мігдалы Воран*).

*47. Знайдзіце словы з дыялектным ужываннем гука |э|. Якія гукі адпавядаюць яму ў літаратурным вымаўленні?*

I. 1. Цяпе́рака адзі́н пасе́ такую кампа́ню каро́ў, і ўсе́мка до́бра, каро́вы панаяда́ўшыса (*Каменка Гродз.*). 2. Усе́х гна́лі за сяло́ (*Дзеравянчыцы Сл.*). 3. Цьве́к бы́ў тупы́ (*Вераб'евічы Навагр.*). 4. Прыбі́ цьве́к, а то чапля́ецца (*Аколіца Лепі Воран.*). 5. На́с было́ чатэ́ры ба́бы (*Ардашы Смарг.*). 6. Чацьве́рты бы́ў Іва́н (*Канюхі Ваўк.*). 7. Хадзе́ця дзе́ці заце́рку е́сьці (*Клайшы Воран.*). 8. Схадзі́ ў сьве́ран прынясі́ бу́льбы (*Ішчална Шчуч.*). 9. Даро́га зусі́м бле́ска (*Няцеча Лід.*). 10. Схадзі́ ў гаро́ччык нарві́ кме́ну (*Бердаўка Лід.*). 11. Ду́маю зрабі́ць падна́ве́ску [павець], бо німа́ куды́ ста́віць начэ́ньне (*Рудзевічы Зэльв.*). 12. На́ш стары́ ўжо́

не́куды падэ́баў (*Дашкавічы Свісл.*). 13. На́ш ба́цька ўсі́м ро́біць так шчэ́ра, хто́ папро́сіць (*Берашты Шчуч.*). 14. Ве́чарам звару́ заце́рку, чу́ць падбялю́ – яду́ць, за ву́шы ня атця́гняш (*Вялікая Кракотка Сл.*). 15. Ляжы́ць у халадзе́льніку, і калі хо́чацца, тадэ́ і ясьцё (*Асіпаўцы Воран.*). 16. Купілі но́вы халадзе́льнік (*Гераснёны Іўеў.*). 17. А што́ ў калга́се дава́лі, дава́лі па дзьве́сьця гра́м зярна́ за трудадзе́нь, і ма́ма зарабіла шэ́сьць пудо́ў за го́т, і было́ то́лькі на бліны́ і паткалаці́ць заце́рку (*Куцавічы Карэл.*). 18. Паву́к ро́біць павуце́ня (*Вялікія Баяры Шчуч.*). 19. Ла́стаўкі такія е́ст, ад іх рабаце́ня на тва́ры (*Парэчча Гродз.*). 20. Ідучы́ і пака́ на рабо́ту, зье́лі мы́ гэ́тыя я́блыкі. Яму́ нічо́га, а мне́ дзізеньцерэ́я (*Альхоўка Астр.*). 21. Па́ні была́ бельгі́йка (*Кальчуны Ашм.*). 22. Бальшавікі́ забілі му́жа, яе́ паве́зьлі ў Расе́ю, з Расе́і забра́ла По́льшча, Чырво́ны Кры́іш (*Кальчуны Ашм.*).

II. 1. І тадэ́ ўжэ́ на́с дава́й пасла́лі на а́рбайцант (*Даўбенкі Шчуч.*). 2. А як про́йдзя капа́ня бу́льбы, тадэ́ трэ́м лён це́рніцамі, су́шым на пе́чы (*Якубаўцы Воран.*). 3. Распарцэлява́лі [падзялілі] былі́ даўне́й іме́ня ў па́на, калі прагуля́ў у ка́рты, тадэ́ на́ш дзе́т купі́ў парцэ́лю [невялікі надзел] зямле́ (*Каробчыцы Гродз.*). 4. Кап ціпе́р ту́ю лучы́нку, дык цямно́та была́ п, а на́м тадэ́ сьве́тла было́ (*Альхоўка Лід.*). 5. Тудэ́ давязьлі́ плугі́, баро́ны і пачына́лі рабі́ць (*Старынкі Шчуч.*). 6. Але во́т так ішо́ў, кудэ́ міне́ во́чы нясьлі́ (*Даўбенкі Шчуч.*). 7. Хо́ць сюдэ́, Анютка (*Берашты Шчуч.*).

III. 1. Дару́ сьвіню́ рабе́ньку, каб жыле́ памале́ньку. Дару́ аве́чку і ягня́та, каб жыле́ бага́та. Дару́ каро́ву з адны́м ро́гам, каб жыле́ с па́нам Бо́гам (*Багушоўка Гродз.*). 2. Ме́рале яшчэ́ ту́флі, да ці такі які во́буй ме́лі (*Парэчча Гродз.*). 3. Даўне́й ку́рныя ха́ты быле́, сядзе́лі ў ха́це ў прысяду́шкі, ако́няйкі быле́ мале́нькія (Касцянева Шчуч.). 4. Быле́ панэ́, пры іх служы́ла (*Кронькі Шчуч.*). 5. Ту́т ха́ты быле́ – аго́нь хапі́ў (*Амбілеўцы Шчуч.*). 6. Пало́валкі [надзел зямлі ў 32 баразны] быле́ ў тры́ццаць дзьве́ баразны́, а два́ заго́ны ў шы́р быле́ дзьве́ чвэ́рці по́ля, то даўне́йшая ме́ра по́ля (*Каробчыцы Гродз.*). 7. Мо бе́шкі і даго́нім і́х, бо ніда́ўно яны́ пашле́ (*Каробчыцы Гродз.*). 8. Ну, пашле́? Пашле́ на рабо́ту (*Вялікія Баяры Шчуч.*).

*48. Выпішыце словы з элементамі дысіміляцыйнага якання.*

1. Як забра́лі цібе́ ў во́йско, то на́м ця́шко жы́ць зрабіласё бісь цібе́ (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 2. Ну, ду́маю, пастраля́юць і дзіце́й,

і міне́ (*Пыра Гродз.*). 3. Было́ на́с у ма́мы дзівяцёра (*Седліска Воран.*). 4. Мая́ ма́ма была́ ішчэ́ ні на пэ́нсіі (*Ваверка Лід.*). 5. Міне́ ма́ма аддала́ за яго́ за́муш (*Волкавічы Ваўк.*). 6. А Стэ́пка гало́сіць: «А дзе́ткі мае́, як шко́да! Ні да́й Бо́жа Го́спадзі тако́га нішча́сьця» (*Сурынка Сл.*). 7. А дзьве́ нідзе́лі то́лькі вяза́ць мо́жна на Шчадра́ (*Сухая Даліна Гродз.*). 8. Німа́ чаго́ табе́ выду́рвацца, бяры́ запрага́й каня́ і е́ць па дро́ва (*Бабіна Гродз.*). 9. Бо́льш ніхто́ ні бра́ў (*Мікелеўшчына Маст.*). 10. Малады́ саўсім бы́ў, двое́ малы́х дзе́так і жо́нку маладу́ю пакі́нуў, алі й гэ́та го́ра піражыла́ (*Раневічы Свісл.*). 11. Та́к то́лькі карто́шкі круго́м сібе́ набра́ў на по́лі сыро́й (*Даўбенкі Шчуч.*). 12. Ціпе́рашнё ўсё забыва́ю, а дзе́цтва ўсё по́мніцца (*Малыя Азёркі Маст.*). 13. Страляні́ны ні было́, та́нgаў німе́цкіх цэ́ла вёска была́ (*Шурычы Свісл.*). 14. Купіла сабе́ шаліно́ўку – така́я до́бра, краси́ва (*Рось Ваўк.*). 15. Сёня прысьніла яе́. Здэ́цца, прышла́ яна́ ў ха́ту да міне́ і ка́жа: «Даўно́ я́ ў ціба́ ні была́, пара́дак у ціба́, фа́йно, а ў міне́ німа́ пара́тку». Гэ́то хі́бо с таго́, што яшчэ́ па́мятнік па ёй ні паста́вілі. Пасядзе́ла тро́шку і ка́жа: «Пайду́, та́м міне́ чака́юць. Ты́ ту́т адна́, а на́с та́м мно́го, цэ́ла кампа́ня». Я кажу́ ёй: «Ты́ ш хадзі́ць ні мо́жаш, ты́ ш хво́ра». А яна́: «Не́, ціпе́р ужо́ магу́, бес кійка́ хажу́» (*Губінка Гродз.*).

*49. Выпішыце словы з прыстаўным галосным. Якія з іх спрадвечнабеларускія, а якія запазычаныя?*

1. Да́й абязьме́н бу́льбу зва́жыць (*Нёўда Навагр.*). 2. Трэ́ба ўжо́ з акало́ніі пераяжджа́ць у вёску (*Нача Воран.*). 3. Хоць абало́тнік прыкруці́ ў ро́вары, каб ні сту́каў (*Міжэвічы Сл.*). 4. У цябе́ ў бо́тах аза́днікі асе́лі (*Біскупцы Лід.*). 5. Аржа́ніско тако́я травяні́стае, каро́вы на і́м до́бра хо́дзяць (*Салтанішкі Воран.*). 6. У цябе́ прыго́жыя апіво́ні каля акна́ расту́ць (*Забалоцце Карэл.*). 7. Прышлі́ мы́ ў апасьле́днюю ха́ту, пасядзе́лі, атпачы́лі і пайшлі́ (*Міхалішкі Астр.*). 8. Рандэ́ляк пацёк, бо апаліту́ра зьлёзла (*Куклі Воран.*). 9. У ма́мы зу́бы баля́ць, бо апаліту́ры няма́ ўжо́ (*Паляны Ашм.*). 10. У мяне́ двух аку́тніх зубо́ў ужо́ няма́ (*Мілявічы Маст.*). 11. Ба́цька накла́ў амана́рак і пайшо́ў па́сьвіць ко́ні на Алясо́ўшчыну (*Негрымава Навагр.*). 12. Но́выя афіра́нgі яшчэ́ нізару́бляныя, а стары́я памы́лі, то во́кны засталі́ся го́лыя (*Клешнякі Шчуч.*) 13. Гу́зіка няма́, то зашпілі́ аgра́фкай (*Майсевічы Ваўк.*). 14. Паку́ль ско́нчылі дако́пкі, то ўжо́ й апо́цямкі наста́лі (*Урцішкі Іўеў.*). 15. Апро́шлы го́т бы́ў ту́т (*Кямелішкі Астр.*). 16. Запальні́чку маю́, да абяльзіну

ні наліў, запáліш (*Грабава Зэльв.*). 17. Як хáту будуюць, апсякáюць бервянó па бакáх, тóўстыя шчэ́пкі – аплáнкі (*Бакшты Іўеў.*). 18. З жы́рнаго малакá атварóх даўжэ́й ні кісьня (*Беражна Карэл.*). 19. Апарэ́чкі і чарніцы рáзам вáраць (*Крэва Смарг.*).

*50. Выпішыце словы, у якіх адбылося адпадзенне пачатковых галосных гукаў. Назавіце гэтыя гукі.*

1. Але нáм на нáшым сухініцкім грышчы былó намнóга весялéй (*Сухінічы Маст.*). 2. Я ні вéдаю, скóлько то ўжэ́ прайшлó чáсу, ужэ́ прысылáюць зьвяшчэ́не (*Зарудаўе Маст.*). 3. Адвáш паўкілю зю́му, ба гэ́тыя малы́я ні атстáнуць (*Бабіна Гродз.*). 4. Нéмцы зьдзявáліся с салдáтаў савéцкіх (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 5. І лю́дзі нáчай жыву́ць – усягó хватáя (*Старая Дубавая Гродз.*). 6. Калі звáла, ты не шóў (*Плябанаўцы Ваўк.*). 7. Кáжа, дай дзікалóну, нéкі пры́шчык вы́скачыў, памáзаць трэ́ба (*Бабіна Гродз.*). 8. Антóсь цяпéр у Мéрыцы (*Лежневічы Іўеў.*). 9. Но ён красіво грáў на кардзіóне і на скры́пцы (*Райца Карэл.*). 10. Набрáла ў мазíні штáпялю рáнжаваго, мóжа, сукéначку малóй пашы́ю (*Ляткі Маст.*). 11. Шкадавáлі, аднóсіліся дóбро, у кагó нямá чагó, дзяліліся стáтнім (*Вострава Зэльв.*). 12. Вóўк напаўскóм паткрáўся і схапíў барáна, карóва за íм і рагáмі яму́ ў хля́бы – і дабрáла (*Кіралі Шчуч.*). 13. Пры́шчаць [пражаць] жы́то каласáмі, пастухé накладу́ць агóнь, нарву́ць каласóў жы́та ў пучóк і пры́шчаць на гні (*Міратычы Карэл.*). 14. Люмінявая пасу́да дóбро шшарóўваяцца (*Заберазь Іўеў.*). 15. Ціпéр гэ́дык ні іду́ць жáць ручну́ю, ручну́ю ні жну́ць, а ўсё машы́намі рóбяць (*Паляжсын Зэльв.*). 16. Лáсаўцы нéйкія хадзілі, я́йкі выбірáлі (*Тарнова Лід.*). 17. Трэ́ба цякáць, паку́ль ні пóзна (*Пальніца Гродз.*). 18. Вот яны́ прыхóдзілі і пытáліся, ці мóжна ў хáту вайсьці (*Парэчча Гродз.*). 19. Патóм вайшлі мы́ ў калхóс (*Залацеева Зэльв.*). 20. Запáлкі былí дарагія, канóмілі іх (*Аляксандраўшчына Зэльв.*).

*51. Знайдзіце назоўнікі, у якіх адбылося сцяжэнне галосных гукаў у канчатку. Якія гэта назоўнікі паводле паходжання?*

1. Ну мінé адаслáлі ўжэ́ ў абшчажы́ця (*Даўбенкі Шчуч.*). 2. Нéмцы с ару́дзямі, с тáнгамі, а панічы́ха ў рóве сядзéла і папаўзлá янá калéньмі (*Монькавічы Маст.*). 3. Нéмцы забірáлі ўсіх дзяўчáт ат пятнáццаці гóт, якіх прадавáў сóлтус у Гермáню (*Гарнастаевічы Свісл.*). 4. Гнáлі нéмца прáс Літву́, Пóльшч і ўвайшлí ў Гермáню

(*Кордзікі Бераст.*). 5. Каб апіса́ць ці напіса́ў пра ты́я рабо́ты, цэ́ла гісто́ра палучы́лася п (*Мядзвінавічы Дзятл.*). 6. Ужэ́ тады́ на́ша хадзя́йства былі́ пало́скі, затым – калёні (*Старынкі Шчуч.*). 7. Тво́й дзя́цько Зю́нё прысла́ў пасы́лку з Пятразаво́цку, з Карэ́лі (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 8. За гэ́та на́м далі́ прэ́мя – тры́ то́ны бу́льбы (*Старынкі Шчуч.*). 9. Я ўсё жыцьцё працава́ла, на пэ́ньсю пайшла́ і яшчэ́ се́м го́т працава́ла (*Агароднікі Дзятл.*). 10. Прышлі́ на ста́нцу пад ве́чар, пашлі́ біле́ты купілі (*Ганчары Лід.*). 11. За́ўтра пае́дзем да ната́руса (*Дварэц Дзятл.*). 12. Дзяўча́та пашлі́ ў го́рат вучы́цца, а Мішу ў а́рмю забра́лі. Пасьля́ а́рмі бы́стро жані́ўса (*Дубна Маст.*). 13. Паляргóню [герань] то́лькі сёлета пасадзіла, а ўжо́ яка́я вялі́кая вы́расла (*Падгаі Ашм.*). 14. Уся́ку рабо́ту хадзіла рабіць, прэ́мі палуча́ла, меда́ль палучы́ла і на даскі́ пачо́та была́ (*Лелюкі Іўеў.*). 15. Дзе́ткі сьціхатварэ́ні раска́звалі, пе́сьні сьпява́лі (*Стокі Свісл.*). 16. Прышла́ нядзе́ля, маладзіко́ва нядзе́ля. Пайшлі́ мы́ с та́там у касьцёл. Я ў працэ́сі была́ (*Юрацішкі Іўеў.*). 17. Пабы́ў ён у на́з два́ дні́, заста́віў у на́с таку́ю фатагра́фю (*Дамейкі Лід.*).

*52. Прасачыце, у якіх словах адбылася замена гука |с| гукам |ш|.*

1. Дык яны́, пашку́ды, во́ што прыду́малі (*Шутавічы Смарг.*). 2. Казю́лькі, машка́ – уся́кага пашку́ства хапа́я (*Дакудава Лід.*). 3. Запраглі́ каня́, на са́ні пакла́лі ве́лькага паршука́, да сане́й прывяза́лі каро́ву (*Першамайск Шчуч.*). 4. По́шля хло́пцы зьбіра́ліся на вечары́нкі (*Мацвееўцы Ваўк.*). 5. Прыяжджа́йця на яга́ды. Сто́лькі брушні́ц у гэ́тум го́дзі, каб вы́ то́лькі ба́чылі (*Бабіна Гродз.*). 6. Навы́цяну сабе́ шпіцаў зь дзеркача́ і вяжу́, та́к сама́ пра сябе́ і наўчы́лася (*Індура Гродз.*). 7. Дава́й сюды́ шпі́цу, бу́ду патпляце́ньнікам [вяровачкай падплятаць абутак] патплята́ць тваё пасталэ́ (*Церахавічы Свісл.*). 8. Вы́ пыта́яцяся, я́к у на́с ка́жуць, – размаві́та [па-рознаму]: до́шкі і до́скі (*Прывалка Гродз.*). 9. Надыхо́дзяць Каля́ды, а ў ха́це адна́ скарамі́нка засталá́ся, трэ́ба паршука́ кало́ць (*Ладзенікі Навагр.*). 10. Іх уся́ фамі́ля [радня] така́я: шма́ġлыя, як мурэ́ (*Бабіна Гродз.*). 11. Дзе́ці дзе́-та шлізгаюцца, не ву́чаць уро́кі (*Гальшаны Ашм.*). 12. А худзю́шча яка́я – адны́ шка́бы (*Адэльск Гродз.*). 13. Мне́ прызна́лі шкляро́с сэ́рца (*Парэчча Гродз.*). 14. Па́по за гэ́та атпла́чваў ёй то шква́ркай, то я́йкам, то яшчэ́ чы́м (*Пагарэлка Карэл.*). 15. Так по́мню адну́ суке́начку, таку́ю шэ́рую, цётыначка дала́. А по́сьля й шарафа́нчык, такі ядва́бны, і блю́зачку (*Лушчыкі Воран.*). швэдар

*53. Прааналізуйце замену гука |л| гукам |ў|.*

1. Казáкі, саўдáты выганя́лі нáс с хáтаў (*Гуды Лід.*). 2. Дзíсь Юра с Сáшай на таўкýшку паéхалі (*Караневічы Гродз.*). 3. Паўкóўнікі драпанýлі срáзу, аш пы́л курэ́ў (*Кордзікі Бераст.*). 4. Дзé там купáцца: вадá ў сáжаўцы чóрная (*Сонічы Гродз.*). 5. У нáшай сажáўцы ранéй аднó жáбы вяліся, а цяпéр у сáжаўку запусьцілі кáрпа (*Каробчыцы Гродз.*). 6. Трэ́ба кіўбáсу павéсіць пат стóль вышэ́й, вы́сахня тады́ да сьвя́таў (*Янапаль Воран.*).

*54. Ахарактарызуйце дыялектныя фанетычныя асаблівасці канчаткаў займеннікаў і прыметнікаў.*

1. Радзілася ў Слабадзé Смаргóнскава раёна (*Ашмяны Ашм.*). 2. Мянé вязьлí, а з другóга бóку – явó, у царквé сустрэ́ліся (*Ашмяны Ашм.*). 3. У шкóлу мáма мінé ні нáтта хацéла пускáць, ні былó адзéць і абýць нічавó (*Залацеева Зэльв.*). 4. Ну нічавó ні былó, тóлькі карóпка сьпíчак (*Даўбенкі Шчуч.*). 5. Ну ўжо яны́ сядзя́ць, тады́ вóзьме там хтó чыё, бярэ́ць ат кáждаво якóе тáм штó і пытáюцца: «Адгадáй, які́ фáнт» (*Вялікія Яцыны Астр.*). 6. Прáўду кáжуц: з вéлькава грóму малы́ дóшч (*Старая Руда Гродз.*). 7. Ксéнц вы́шаў, спатыкнýў нáс, малады́х, дрýжбу. Прэ́ці вéлькао олтáжа бы́ў шлю́п (*Дайнава Воран.*). 8. Аднагó ваéннао плéннао та мы́ нáват і хавáлі. Ён уцёк з асфáльту, як гнáлі ўжэ́ нéмцы (*Сухары Гродз.*). 9. А браты́ маé, старэ́йшы і малóчшы, пачалі́ крычáць, што мы́ такóга не хóчам, выганя́й яó, мы́ не дамó за яó сястрý (*Вайкунцы Воран.*). 10. Ён не змóх бóлей э́тао відзяць (*Вайкунцы Воран.*). 11. На гарóдзі ўжэ ні сажý нічóо (*Індура Гродз.*).

*55. Знайдзіце прыклады азванчэння глухіх зычных гукаў перад галоснымі і санорнымі гукамі.*

1. У катá шпóны [кіпцюры] бóйкія, мóжа вéлькага бацукá аблажы́ць (*Кіралі Шчуч.*). 2. Хадзіла гэдыксáмо прасіла, кап хтó мнé згарáў (*Зарудаўе Маст.*). 3. Хадзілі гэ́дак людзям рабілі за міску гарóху ці картóплі (*Навасёлкі Сл.*). 4. Дарылі ня гэ́дак, як цяпéр, хтó нéкалі гэ́дулькі дары́ў (*Нёўда Навагр.*). 5. Свэ́дар нóвы купіла (*Дварэц Дзятл.*). 6. Удзéнь прадзём, а увéчары зьбірáемся ў аднý хáту і грáем у фáнда (*Таркачы Дзятл.*). 7. На Ушэ́сьцё бы́ў у Шчóрсах фэ́ст, абó гермáш называ́лі (*Лозкі Навагр.*). 8. Страляні́ны

ні было́, та́нgаў німе́цкіх цэ́ла вёска была́ (*Шурычы Свісл.*). 9. Ён зарва́ў адну́ галінку ме́ньшую (*Старынцы Бераст.*). 10. У шэ́йдзісят сёмум го́дзі зарганізава́лі зьвяно́ памо́цнікаў, а як ужэ́ зарганізава́лі, адразу́ правялі́ забра́ня (*Старынкі Шчуч.*). 11. Я загла́сна за яго́ выхо́дзіць. На субо́ту сваты́, а я́ ш баю́ся (*Гуды Лід.*). 12. А даўне́й гэ́таго ні было́, жылі́ па тры́ сямі́, і тражкія дзе́ці бы́лі і міргава́ліся (*Паляжын Зэльв.*). 13. Ва́ш Вале́ра як хо́дзіць, на́тто валюга́яцца [хістаецца], і ба́цька та́к хо́дзіць (*Падгаі Ашм.*). 14. Скінь ты гэ́тыя тра́нды ды адзе́нь но́вую суке́нку, што ты́ гэ́тыя тра́нды адзяе́ш? (*Турэц Карэл.*). 15. У на́с у скле́пе така́я цеснатá, што то́лькі адно́ ра́gача [ракача, сагнуўшыся] мо́жна та́м чаго́ набра́ць (*Беняконі Воран.*). 16. Васіль заўсёды ша́пку набаgе́р но́сіць, хоць і нізда́тна та́к насі́ць (*Верцялішкі Гродз.*). 17. Я аж зуме́лася, ду́мала, згубіла гро́шы, ажно́ яны́ во́ дзе былі́ (*Стукалы Маст.*). 18. Усе́ сьвя́ты ра́зам адмячáлі, у ха́тах зьбіра́ліся, сьпява́лі (*Смаргонь Смарг.*). 19. А по́бач шэ́йсьць ха́т называ́лі Батракі́, та́м адліча́ліся бядняки́ (*Чуркі Ашм.*). 20. Ту́т ба́чым, застра́gла німе́цкая машы́на, і яны́ ні мо́гуць ніяк выяхаць (*Малая Берастaвіца Бераст.*). 21. Хіба зраўні́ш ту́ю жы́зьню сь цяпе́рашняй (*Малахавічы Гродз.*). 22. Ну, сяго́ня хадзілі, то сказа́лі, каб мы́ малако́ вазі́лі, але ж на́м бо́язно на сібе́ гасуда́рсьцьвянны адве́т бра́ць (*Калядзічы Ваўк.*). 23. Асма́ляць, і гэ́ту ку́рыцу то́жэ на кало́к, і, хто́ нёс яе́, то́й нясе́ яе абра́дно аж на сва́дзьбу (*Жорнаўка Гродз.*). 24. Зачáла фа́йны хло́пяц, ду́маласа, бу́ў, красі́вы, стро́йны (*Адэльск Гродз.*).

*56. Знайдзіце прыклады адсутнасці азванчэння глухіх перад галоснымі, санорнымі і звонкімі зычнымі гукамі ў прыназоўніках, прыстаўках і злучніках.*

1. А по́тым прые́халі і забра́лі яшчэ́ ат і́х сто́х се́на (*Першамайск Шчуч.*). 2. Пачырване́ла, апусьцíла во́чы, не атва́жвалася зірну́ць на су́джанага (*Нёўда Навагр.*). 3. Ка́жуць, атдава́й руж'ё, а то заб'ём (*Морына Іўеў.*). 4. Мы́дла купíла, але дзе́ ш ты́ атмы́еш (*Пераганцы Воран.*). 5. На́ш стары́ зусíм зьдзяці́неў, у во́тмаладзь ідзе́, ма́е во́сімдзісят го́т, а на вясе́льлі ска́ча з малады́мі (*Чэхі Астр.*). 6. Казо́ў, кап яна́ вы́шла на дво́р (*Мікелеўшчына Маст.*). 7. Ма́ма ве́льмі пераҗыва́ла, кап на́с не́мцы за яку́ю шко́ду ні пазабіва́лі (*Семяноўка Бераст.*). 8. Ту́т му́сі дзе́ці не́шта рву́ць, кап не пакале́чыліся (*Геранёны Іўеў.*). 9. О, гэ́та са́мае гла́ўнае бага́цтва, і кап здаро́ўе было́. Трэ́ба, кап ме́жду сабо́ю до́бра жылі́

і адно́ аднаму́ ўступа́лі (*Ражкі Свісл.*). 10. Сказа́лі, кап бе́г і ні агля́двкаўсё (*Ляхавічы Зэльв.*). 11. Бая́ліся, кап не́мцы зно́ў не прышлі. Яны́ і ка́жуць, кап мы́ ўхадзілі (*Парэчча Гродз.*). 12. Яго́ цётка пасва́тала яго́ мне́, ка́п я́ за яго́ ішла́ за́муш, што бу́дзя до́бро жы́ця (*Ляхавічы Зэльв.*). 13. Сусе́дзі до́брыя ў мяне́, во я́ хадзіць ні магу́, зрабіць сабе́ пат'е́сьці ні магу́, то прыхо́дзяць, прынясу́ць мне́ міску су́пу ці кусо́к яко́е бу́лкі (*Калядзічы Ваўк.*). 14. Усе́ скака́лі пат яго́ му́зыку (*Слабены Смарг.*). 15. Як тыльо до́шч ідзе́ ці сьне́х растае́, дык адра́зу ў патва́лі вады́ по́ўно (*Малая Берастравіца Бераст.*). 16. А с цэ́ркві е́дуць на вясельё, патво́даў мно́га (*Цырын Карэл.*). 17. Прыхо́джу пат ве́чар, захо́джу ў се́нцы (*Пагарэлка Карэл.*). 18. Калі́ патлічы́ць, то на цяпе́рашні ча́с дзе́сьці каля се́мсят каро́ў ве́лькіх выхо́дзіць. Ма́ма ма́я на́с утво́х сь сястро́ю вы́гадавала (*Енчы Воран.*). 19. Даўне́й у сямі на́тто дзяце́й памно́гу было́, чалаве́к се́м – дзе́сяць, усе́ с бацька́мі жылі́ (*Монтацішкі Смарг.*). 20. Насіла вядро́ агурко́ў с расо́лам (*Вялікая Мыса Смарг.*). 21. Но́ччу хадзілі мы́ карто́шку ту́ю с я́мы дастава́ць (*Граўжышкі Ашм.*). 22. Заяжа́ла маладзёш дый с ро́зных вёсак (*Навасады Воран.*). 23. Я загла́сна сь ім разысьціся, хо́ць і любіла (*Гуды Лід.*). 24. Нава́рым чугу́н карто́плі с лупінамі, насы́плем на сто́л, глядзіш – мігам разабра́лі (*Востухава Карэл.*). 25. Лапці с або́рамі пападвя́зваем, і на канёх, зна́чыць, гуля́ць (*Некрашэвічы Карэл.*). 26. І рабілі такі ква́с с грыбо́ў, като́ры ва́раны бы́ў, як кру́пнік (*Парэчча Гродз.*). 27. Ну што́, мы́ паду́малі, пасаве́таваліся с ма́май усе́ ўме́сьце (*Лаздуны Іўеў.*). 28. Мы́ ўдзьвёх с Лідай прышлі туды́ (*Граўжышкі Ашм.*). 29. Хадзілі па ха́тах сьбіра́лі е́жу: курэ́й, я́йкі, малако́ (*Рымцелі Смарг.*). 30. Усе́ злыя, заня́тыя, не ма́юць ча́су сьбіра́цца (*Навасады Воран.*). 31. На́м гумно́ спалілі, і во́с сгарэ́ў, і бярве́ньні, усё пагарэ́ла, што́ было́ (*Геранёны Іўеў.*). 32. А по́тым расьбіра́лі па́нскі магазін (*Морына Іўеў.*).

*57. Выпішыце словы з асіміляцыйнымі зменамі гукаў, дайце поўную характарыстыку асіміляцыі ў выпісаных словах.*

1. Адны́я ськіда́лі снапы́, другія падно́сілі да малацілкі (*Кавалеўшчына Воран.*). 2. Быва́е, што і за маладу́ю гэ́такую ба́бу паса́дзяць, убяру́ць у што́ бе́лая, пакры́ўку на галаву́ ўськінуць, а настая́шчая малада́я му́ся ме́сца выкупля́ць (*Дайлідкі Астр.*). 3. А я́ тыльо галаву́ зьгіна́ла, кап ні дало́ па галаве́ снара́дам, ні было́ сілаў ухіля́цца (*Стральцы Маст.*). 4. У хаці ўбіра́лі пат Вялігдзень, а тады́ ўжо на Вялігдзень хадзілі па ха́тах (*Ёдкі Лід.*). 5. Пайшла́ я са

сваёй малóчшай сястрóй Тáняй (*Сямёнаўка Бераст.*). 6. Нарэ́сьце пачакóўшы прыхóдзяць савéты (*Лаздуны Іўеў.*). 7. То ш і íм яшчэ́ як пóмац нáша патрэ́мна (*Меляхі Іўеў.*). 8. Лён мачылі ў рэ́ццы, слáлі на балóці (*Мацвееўцы Ваўк.*). 9. Ідзі папінну́й сьвіня, каб на двóр ні выскачылі (*Бабіна Гродз.*). 10. Спазьніласа таму́, штó на дарóзі нéка авáрыя зрабілаca, ні маглі аммінуць (*Навікі Свісл.*). 11. Навáрым картóплі сóлянай, накрышым цыбу́лі і ямó сь селяццáмі, пёнткам пасьцілі (*Праважа Воран.*). 12. Ой, зóлацца маё, з Іўя прыяжжáлі нядáўна двá галóўныя чалавéкі да мянé (*Лаздуны Іўеў.*). 13. А яшчэ́ ў гарóччык ісьці трэ́ба (*Пасека Дварчаны Воран.*). 14. Галóнныя ні былі (*Нацкава Маст.*). 15. Пóтым нéмцы прыхóдзілі двá разы на тыдзянь, забірáлі хлéп, сáла, сaганы́, пасьлéньнія бóты (*Іўе Іўеў.*). 16. Да Велікеньня далжны́ палучыць (*Бібікі Зэльв.*). 17. А тады́ былó тру́нно (*Малыя Азёркі Маст.*). 18. Даўнéй у спаньніцах па пя́ты хóдзімо (*Малькавічы Маст.*). 19. У я́му хавáліся, у сусéньнюю вёску ўцякáлі (*Урцішкі Іўеў.*). 20. Багáтыя іду́ць, а ты трóхі сярэ́ньні (*Урцішкі Іўеў.*). 21. Ужó ўну́к з Грóнна як прыéдзя, як уклю́чыць свóй хнітахóн, та хóць ты с хáты цякáй (*Вялікая Берастaвіца Бераст.*). 22. Жылі дóбро, дру́жно, хоць і бéнно (*Навасёлкі Сл.*). 23. Бéглі парцізáны праз рэ́ку, а вóсень былá, хóланно жо былó (*Агароднікі Дзятл.*). 24. Дзéці малыя, аннэ́ аннагó ні падымáе, а хáту закрыяш і éдзяш на цáлы дзéнь за Нёмнам кóпы насіць (*Пагарэлка Карэл.*). 25. Ту́т такі быў Варывóн, дóбра с пáнам у кáрты грáў (*Лаздуны Іўеў.*). 26. Бáбік [вабік] невялікі рóбяць, пáру рáмачак стáвяць, áбы злавіць сям'ю́ пчóл (*Каробчыцы Гродз.*). 27. Да шлю́бу то касьцю́м пажычáлі (*Монтацішкі Смарг.*). 28. Паламáла шчыхéтнік з гарóду, патаптáла ўсю́ капу́сту (*Рудзевічы Зэльв.*). 29. А вéсяло былó, як на вёссы вясéле (*Сурынка Сл.*). 30. Дый дзяўчáты нéйкія не такія пашлі, распу́сныя, з выбрыкамі нéйкімі, хлóпцы лёкка іх звóдзяць (*Пасека Дварчаны Воран.*). 31. Дахáты éхалі леххавымі, і аднá грузавáя былá (*Дайнава Воран.*). 32. Такі быў балбáн дурны, што ні раскáзаць (*Правыя Масты Маст.*).

*58. Ахарактарызуйце дысіміляцыйныя змены гукаў у выдзеленых словах.*

1. Былі двá жалéзныя лóшкі с саламя́нымі *сяльнікáмі* (*Пасінічы Сл.*). 2. Патанцавáлі, жанчыны іх падзя́кавалі, далі *бру́шкі* с мóркаўю (*Пасінічы Сл.*). 3. Хадзілі мы, прáўда, усю́ды *канпáніяй* (*Гута Іўеў.*). 4. Мы, малыя, праз aкнó ў гáнку глядзéлі, пытáліся

не́шта, а по́тым саба́ку на яго́ *наскава́лі* (*Янчукі Шчуч.*). 5. Запрага́лі тро́я ко́няй у жняя́рку, тады́ ш *кайба́йнаў* ні было́ (*Ходараўцы Лід.*). 6. *Мо́рхвай* лячы́ў калі́ стары́, а я́ гану́чу намачу́ і спа́ць ля́гу (*Пераганцы Воран.*). 7. На ўве́сь калхо́з бы́ў то́лька адзі́н тра́хтар і адзі́н *трахтары́ст* (*Чуркі Ашм.*). 8. Я́ паве́зла яго́ ў Віра́цішкі да *до́хтара* (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 9. Вада́ *сма́шна* была́, крыні́чна, паку́ль ні асушы́лі крыні́цы (*Падбалоцце Зэльв.*). 10. Аш дзевятна́ццаць *бо́нбаў* скі́нулі (*Панікарты Дзятл.*). 11. Што́ са́мае ле́пшае, *андава́ла* сваі́м дзе́цям, го́ршае *андава́ла* мне́ (*Замасцяны Шчуч.*). 12. Даўно́ зьбіра́юся да Лі́ды *зь'е́гдзіць* (*Вялікія Канюшаны Лід.*). 13. Мне́ гэ́тыя ту́флі яшчэ́ *слабо́дныя*, а ты́ каза́ла, што бу́дуць це́сныя (*Ісаевічы Сл.*). 14. Ку́хня была́ *зьля* па́на і *зьля* рабо́чых (*Новая Спуша Шчуч.*). 15. Ат капу́сты хло́пцы *клу́сты*, ад бацьві́ня дзе́ўкі сьві́ня (*Бабіна Гродз.*). 16. *Папідну́й* курэ́й, кап у га́нак ні ўле́зьлі (*Новая Руда Гродз.*). 17. Збро́хаўся [стаміўся] я́ *сёдня*, як Фэ́ля пры́ бы́дле (*Васеўцы Ашм.*). 18. *Та́дно* ты́ ўзя́ў за парася́ (*Валосаўка Навагр.*). 19. На́тто *сало́дны* тво́й булён (*Берліты Шчуч.*). 20. Ву́нь машы́на пале́пала [паехала па гразі] пад *анба́р*, пабяжы́ папыта́й шо́фяра, ці ско́ра бу́дзя наза́т (*Нязнанава Навагр.*). 21. Се́ла ў *анто́бус*, а *анто́бус* – ту́нды-сю́нды, ту́нды-сю́нды (*Крапіўна Смарг.*). 22. Калі́сь усю́ды напяхо́та хадзі́лі, гэто́ ціпе́р прывы́клі на *алто́бусах* е́гдзіць і на машы́нах (*Шурычы Свісл.*). 23. Мы́ былі́ *слабо́дныя*, ка́жды ве́чар сабіра́ліся на у́ліцу (*Бяляўшчына Ваўк.*). 24. Цяпе́р та чо́рт *аслабадзі́ў* бы таго́ стала́, та́к наста́вяць (*Клепачы Бераст.*). 25. По́тум забра́ліся ўсе́ сваé і выпіва́юць, называ́ецца *вясе́да*, па *вясе́дзі* то́й прас тры́ нядзе́лі вянча́юцца (*Мікелеўшчына Маст.*). 26. Бра́та старэ́йшага забра́лі, аста́ўся я́ адзі́н у ха́ці, трэ́ба было́ *хадзя́йства* рабі́ць, а я́ паня́ця ні ме́ў, як плу́х дзяржа́ць (*Старынкі Шчуч.*). 27. Во за́рас пакажу́ і́х *пантрэ́ты* (*Сухінічы Маст.*). 28. На дварэ́ маро́с-маро́с, а *бу́льва* цьвіце́-цьвіце́ (*Малая Бераставіца Бераст.*). 29. Су́шаны лён бра́лі дзялі́лі на паве́сма, бі́лі на зямлі́ пра́нікамі, кап *трасца́* памя́кла (*Пляцянічы Зэльв.*). 30. Ха́та да *шасы́* блі́ско стаі́ць (*Малая Бераставіца Бераст.*). 31. Калі́ пачала́ся вайна́, то ты́, сыно́к, бы́ў *ме́льшы*, чым за́рас Мары́нка (*Ражкі Свісл.*). 32. Падбяжы́ тро́шкі *жвяле́й*, ні памрэ́ш, цэ́л бу́дзяш (*Дубаўцы Ваўк.*). 33. *Жвяле́йшаму* ўсю́ды ле́пяй жы́ць (*Збляны Лід.*). 34. Занясі́ саке́ру ў *шала́с* [прыбудоўку для гаспадарчых прыладаў] (*Белякі Дзятл.*). 35. Ніця́шко, нівялі́кі *клумак* (*Тужаўляны Гродз.*). 36. Прышла́ каро́ва с па́шы с по́ўным *лы́мям* малака́ (*Бабіна Гродз.*). 37. *Патро́буй* то́лька вазьмі́ мато́цык! Даха́ты тады́ ні

варача́йся (*Косцевічы Астр.*). 38. Пайду́ да *палікма́хера*, ха́й астрыжэ́ (*Кіралі Шчуч.*). 39. По́каска така́я е́ст: «Пакуль *клу́сты* ссо́хня, худы́ здо́хня» (*Новікі Гродз.*).

*59. Прааналізуйце выкарыстанне ў гаворках прыстаўнога гука |в|, неўласцівае беларускай літаратурнай мове.*

1. Вакура́т ты́ ў до́бры ча́с прышо́ў, на́шы ўсе́ ўжо́ ў ха́це, то пагаво́рым (*Кальчычы Карэл.*). 2. По́куль Стэ́пка ўпра́вілася, ваго́нь ужэ́ на сьце́ны перашо́ў (*Сурынка Сл.*). 3. Адзі́н сядзі́ць у вакне́, пінну́е, ці міліца ні йдзе́ (*Залацеева Зэльв.*). 4. Мо́й хло́пяц прывало́к не́йкую лага́зіну [галіну] і пасадзі́ў ля вакна́ (*Валеўка Навагр.*). 5. Дзяўча́т ні хаце́лі вучы́ць, каза́лі, дзяўча́там ня патрэ́бна бы́ць гра́матным, то́лькі хло́пцам, кап уме́лі, як по́йдуць у ва́рмію, расьпіса́цца (*Востухава Карэл.*). 6. Пасьвіла я́ во́ўца каля гасьці́нца (*Косцевічы Ваўк.*). 7. Яшчэ́ сярэ́дзіна зімы́, а ўжэ́ вясёнку мо́жна адзява́ць (*Мяшэтнікі Маст.*). 8. Бярэ́ ма́ці віко́ну, малада́я йдзе́ наўкру́га ста́ла за ма́цераю (*Цырын Карэл.*). 9. Дзяце́й і жанчы́н атабра́лі ў вадзі́н бо́к, мушчы́н – у другі́ (*Леснікі Лід.*). 10. У вадну́ ха́ту зо́йдзе, у дру́гую – ніхто́ ні дава́ў (*Ашнаравічы Сл.*). 11. Ко́жны дзе́нь у ваднае дзе́ўкі во́чараць, другі́ дзе́нь у друго́е ўсе́ пасьбіра́юцца (*Востухава Карэл.*). 12. Пайдзі́ йшчэ́ ў вадры́ну за дзяру́гай: трэ́ба гэ́ту бума́гу вы́несьці атсю́ль ды спалі́ць (*Равіны Карэл.*). 13. Аглє́дзілася ў хляве́, гляджу́ ў вакно́ – сябру́шка йдзе́ (*Гароднікі Ашм.*). 14. Гэто́ ў вапрэ́лі ме́сяцы паса́тка ле́су была́ (*Шчорсы Навагр.*). 15. Дае́хала да Гро́дна – адна́ ў ваўто́бусі (*Карпаўцы Бераст.*). 16. Пі́ша мо́й куміішча мне́ пісьмі́шча: прыягжа́й да міне́ ў Маскву́, я́ цяпе́рача ў ватпуску́ (*Крапіўна Смарг.*). 17. А по́тым, у вабе́т, ужэ́ ўсе́ зьбіра́ліся ў адну́ ку́чу, і ўжэ́ хто́ на што́ спасо́бны (*Сухінічы Маст.*).

*60. Растлумачце працэс сцяжэння гукаў у выдзеленых словах.*

1. *Вабе́т* прышлі́ абе́даць, а то́рбы саба́кі ўкра́лі (*Шчорсы Навагр.*). 2. А як ле́с садзі́лі, каштурава́лі, па тры́ста дзяўча́т і тры́ста хло́пцаў *ваднóм* гумне́ начава́лі (*Шчорсы Навагр.*). 3. Заяхджа́ем – гэ́та было́ пад ве́чар – та́м *вадно́* сяло́ (*Дабраволя Свісл.*). 4. Рэ́йка зазво́ніць на абе́т, а мы́ *водны́х* пла́цішках бяжымо́ (*Шчорсы Навагр.*). 5. Паста́вілі ў бутэ́льцы сваяго́ першаку́, і начала́ся гаво́рка пра жы́цце ў гэ́тае, я́к яна́, *вакупа́цыі* (*Пагарэлка Карэл.*). 6.

Акружылі, загналі *ванну* хату, усе думалі, што мо пастраляюць, аля тады яшчэ растрэлу ні было (*Сухары Гродз.*).

*61. Выпішыце словы з сінкопай. Якія гукі і спалучэнні гукаў страціліся ў сярэдзіне слоў і чым гэта абумоўлена?*

1. Доктар мяне палядзеў, даў нечым шмараваць вока (*Эймінаўцы Бераст.*). 2. Прыбегла наша Гэля. Вы, кажа, сядзіце, паляньця, што робіцца (*Шурычы Свісл.*). 3. Нек мой бацько аччыніў дзьверы с хаты, а на парозі стаіць воўк (*Пасінічы Сл.*). 4. Зноў мы неку хату паставілі з анным акенцам (*Малыя Азёркі Маст.*). 5. Выдзя ў сені, скіня сарочку, выкруціць, зноў на сібе і зноў у танцы (*Мігдалы Воран.*). 6. Насадзіць гародніны варыць: буракі, цыбуля, часнок, пасоля, морка – гэта прыварка (*Альхоўка Навагр.*). 7. У Калінінград мы ў аснооўнам езьдзілі, с цыбуляй, с моркай (*Сухінічы Маст.*). 8. Летам ён плаціў па пісят злотых, а зімой па трыццаць (*Вялікая Мыса Смарг.*). 9. Хто ні паехаў, той выграў (*Гуды Лід.*). 10. Працаваць ня хочуць, а смачно есьці токі давай (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 11. Ціпер маю ўсё: і скаціну, і дзяцей маю, і жывёлу маю, фсё маю, токо здароўя нету (*Камяніца Ваўк.*). 12. Але не набраў тых адзнакаў там скоко трэ было (*Сухінічы Маст.*). 13. Бало, прыдзя вясна, трэба сьці на полё, а дзіця малоё (*Паўлава Сл.*). 14. Бало, за паншчынаю баба твая ўстаня ранянко, падоіць каровы, дасьць сьвіням, паставіць сагані ў печ з вадою ці сьвінураю (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 15. Гэта цяперака добра кароўкі пасіць, а раней што было: пасіць не было дзе (*Пасека Дварчаны Воран.*). 16. Выпалакакала бялізну ў трох водах (*Мацвееўцы Ваўк.*). 17. Вон, гару, падляцы! Кап я вас тут ні відзяла! (*Індура Гродз.*). 18. Сьвінча захварэло, то зафундавала віцінару, кап прышоў палячыў (*Каробчыцы Гродз.*). 19. А бывало такой, што і есьці ні було што, алі на сьвята, асобенно на Вялікань, було трошкі, нават смашнаго сала (*Правыя Масты Маст.*). 20. Калі саветы заступілі, та сказалі маму старому, кап быў прэцядацялям у калхозі, але ш ён не пайшоў (*Енчы Воран.*).

*62. Прааналізуйце прыклады страты гука |й| пасля губных і |л'|.*

1. Сьцеражыся ты гэтага Дзямяна, ён адно й думая, кап каго зьюдзіць (*Багданаўцы Шчуч.*). 2. Яму кажуць, што, мусіць, Дзямян павесіўсё (*Пагарэлка Карэл.*). 3. Налюць нейкага аднаго

булёну (*Некрашэвічы Карэл.*). 4. Вы́пюць бутэ́льку, як малады́ хо́ча, то сва́т пыта́е, што́ даду́ць, ці гро́шай, ці каня́ *(Цырын Карэл.)*. 5. Зáты́м сьвяткава́лі Яна, Пятра́, асе́ньнія сьвя́ты – гэ́та Ілля́, Спа́с, Успле́ня, Вазві́жаня (*Клепачы Бераст.*). 6. Быва́ла, як пае́дзя куды́, дык пра сямю́ забу́дзяцца, а сямя́ пака́ жыла́ ту́т у маёнтку (*Ляхавічы Зэльв.*). 7. У сямі́ на́с бы́ла чацьвяры́х: тры́ сястры́ і бра́т (*Дубна Маст.*). 8. Аля й гра́т, усе́ гаро́ды табе́ пабе́, нічо́го ні пакіня (*Бабіна Гродз.*). 9. У чыгу́н мукі́, хало́днай вады́ нале́ш (*Праважа Воран.*). 10. Калі́ ты́ ўжэ́ напе́са, кап ты́ смалы́ напі́ўса! (*Бершты Шчуч.*). 11. Мы́ сь сямёю пасьці́лі се́м нядзе́ль (*Праважа Воран.*). 12. Зе́лі дзьве́ баха́нкі хле́ба, нахлёбаліся макаро́наў, і адна́ ка́жа, што́ ўжо́ ні нагну́ся (*Залацеева Зэльв.*).

*63. Знайдзіце ў наступных сказах тыповыя ў гаворках Гродзеншчыны выпадкі адпадзення канцавых гукаў і спалучэняў гукаў у словах.*

1. Я́ такса́ма хачу́, кап паступа́лі ў вы́шая абразава́ньня, кане́шне, як Бо́г да́сь, але́ ўсяро́ўна (*Ардашы Смарг.*). 2. Та́м, ка́жуць, е́сь пад зямлёй прахо́д (*Дайлідкі Астр.*). 3. Му́сі, чу́ць ні два́ гады́ дружы́лі (*Чуркі Дзятл.*). 4. Прывязьлі́ шэ́сь вазо́ў сало́мы (*Рышыняты Смарг.*). 5. А за́ра і по́езд, ка́жа, пу́йдзімо (*Карпаўцы Бераст.*). 6. Яна́ застала́ся зно́ та́м жы́ць (*Мікелеўшчына Маст.*). 7. Я́ ня́нка, я́ ні бы́ла на по́лі, я́ ў ха́ць (*Верцялішкі Гродз.*). 8. А як хму́рно, жану́, альбо́ по́зно прыжану́, альбо́ заранё прыжану́ (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 9. У ба́цькі папро́сяць, то мо́ да́сьць, а мо́ й не́ (*Азёры Гродз.*). 10. А хто́ яго́ ве́, я́ ды ўжо́ і ні по́мню (*Трокенікі Астр.*). 11. Тапе́рачка ўжо до́бра жыве́м, у ко́жнага – у ха́це і ў хляве́, і жыві́ны хапа́я, усяго́, дзя́куй Бо́гу, до́ (*Куклічы Свісл.*). 12. Дзе́вачка выгэ́льцвая [гуляе, падскоквае] зь вяро́вачкай па цэ́лых днях, але ж я́ ёй кажу́: до табе́ выгэ́льцваць, ідзі́ ся́ць за кнігі (*Дакудава Лід.*). 13. Трэ́ жы́та разду́ць [змалоць], мука́ вы́шла (*Стукалы Маст.*). 14. На́ш та́то ўсё се́но зьвёз, за́ра до́шч сы́пня (*Шылавічы Сл.*). 15. Чаго́ ты́ ску́ксіўся [збянтэжыўся, разгубіўся] та́м у куто́чку, ідзі́ сюды́, ба́ч, цётка пры́ехала, гасьці́нцаў табе́ прыве́зла (*Лукошына Іўеў.*). 16. Варэ́ця найпе́р вы́ (*Паляцкішкі Воран.*).

*64. Знайдзіце словы, у якіх адбылося сцяжэнне зычных гукаў. Выпішыце іх групамі паводле характару сцяжэння: цц – ц у постфіксе зваротных дзеясловаў; цц – ц у суфіксе лічэбнікаў;*

*дд – д на стыку прыстаўкі і кораня; нн – н у корані слова і на стыку кораня і суфікса.*

1. Але́ ш і на рабо́це цэ́лы дзе́нь, і ў ха́це трэ́ба рабі́ць, і хо́чаца атдыхну́ць (*Ражкі Свісл.*). 2. Калі́ адзі́н хто́ вы́дарыцца разумне́йшы, то памо́жа жо́нт вучы́ца (*Вялікае Сяло Шчуч.*). 3. Прае́хаў Ляшча́нку, ка́жа, пагля́ну наза́т – аго́нь ко́ціца (Амбілеўцы Шчуч.). 4. Ну, я́к жыве́м? Як пры́дзеца (*Рыча Шчуч.*). 5. А ў нідзе́льку, ба́ло, ба́цько мо́й зьбіра́яца е́хаць у Зе́льву на кірма́ш сьвіне́й про́даць, мале́нкіх парася́ткаў (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 6. Вянча́ліся ў цэ́ркві, ніяко́й ро́сьпісі ні было́, павянча́юцо і вясе́ле ро́бяць (*Шурычы Свісл.*). 7. Каго́ сустрака́е, усі́м кла́няеца (*Дабраволя Свісл.*). 8. Жані́ца на мужы́ццы было́ ніганаро́во, а жані́ца на пане́нцы баяўся (*Рось Ваўк.*). 9. А я́ хачу́ забе́хчы паўгляда́ца, ці хло́пцы не пью́ць (*Студзянец Ваўк.*). 10. Як та́м ты́я дзе́ці та́м жыву́ць, ма́юца? (*Ваверка Лід.*). 11. Усе́ бая́ца, гэ́тыя старэ́нькія людзі́чкі, сідзя́ць ма́ткі, ба́пкі, дзяду́лі ўсе́ па ха́тах (*Ваверка Лід.*). 12. Усе́ злы́я, заня́тыя, ні ма́юць ча́су сабра́ца (*Салтанішкі Воран.*). 13. Ве́чарам уся́ радзі́на зьбіра́лася за сто́л вячэ́раць, а ба́цьку насі́лі асо́бна, гэ́та зна́чыца, што паважа́лі (*Енчы Воран.*). 14. Не це́рпіца зна́ць, што́ та́м (*Збляны Лід.*). 15. Зярно́ адзялялі і ко́ньмі адво́зілі сало́му (*Кавалеўшчына Воран.*). 16. Лёх гэ́ты хло́пец адыхну́ць пат ку́стом і заснуў (*Чычыноўшчына Іўеў.*). 17. Ця́шка было́ жы́ць, што́ адабра́лі, то́е, хо́ць по́йдзеш у калхо́с, то не адава́лі (*Першамайск Шчуч.*). 18. Пато́м пачалі ма́ла плаці́ць – тры́цаць ты́сяч. Да семна́цаці ле́т каро́ў па́сьвіла. Ста́ла таргава́ць у магазі́не, чатырна́цаць гадо́ў таргава́ла (*Жытомля Гродз.*). 19. Як с пенсіёнскай кні́шкай, то ўсё тане́й (*Радунь Воран.*). 20. По́тым пасьцяпе́на рабі́лі і зьнялі́ до́бры ўраджа́й (*Старынкі Шчуч.*). 21. Ра́зам с пле́нымі няме́цкімі двана́цаць дне́й капа́лі ако́пы (*Жытомля Гродз.*). 22. Во сёня макаро́ны пашла́ купі́ла, ты́сячу дала́ (*Малая Берастaвіца Бераст.*). 23. Сёня макля́вы дзе́нь, тако́я макля́вае надво́р'е (*Новы Двор Шчуч.*). 24. Цэ́лы по́ст тка́лі, да Вялі́каня (*Мацвееўцы Ваўк.*). 25. Далі́ка́тненька падрэ́зваю кве́ткі і саба́цы кіда́ю, а ён і папёр у пала́ц (*Новая Спуша Шчуч.*). 26. І тады́ хучэ́й хло́п зе́ркало, і сама́ ўцяка́яш (*Калядзічы Ваўк.*). 27. Вазэ́ былі́ дзерав́яныя, калёса то́нкія і прарэ́звалі гэ́ту зямлю́, і ко́ням было́ ця́шко (*Кавалі Бераст.*). 28. І та́к я́ хаце́ла яго́ ўві́дзяць, што здае́ца, кап ве́дала даро́гу да яго́ ха́ты, то пашла́ пяшко́м (*Вайкунцы Воран.*).

*65. Параўнайце вымаўленне выдзеленых слоў у гаворках і літаратурнай мове. Растлумачце пазіцыйныя змены гукаў у гэтых словах.*

I. 1. Сёньня ўжэ́ *апачэ́* [ачэпы] лажыі́ць бу́дуць (*Прывалка Гродз.*). 2. І штаны́ ў *гамазы́не* купілі (*Караневічы Гродз.*). 3. Ну а ціпе́р ужэ́ *нізамаглá*, прышлá стáрасьць (*Алешавічы Маст.*). 4. Ён нáс вапшчэ́ *незнавідзеў* пасьля́ гэ́тага (*Пеляса Воран.*). 5. Кручу́, кручу́ ключо́м, і ніяк ні *адымкáяцца* замóк (*Бабіна Гродз.*). 6. Стары́я *каршпе́ты* [шкарпэткі] ўжэ́ пранасіліся (*Каробчыцы Гродз.*). 7. У *ралку́* сёдня цэ́лы дзе́нь прадавáлі кілбáсы (*Багушы Шчуч.*). 8. Кідáй сваé вéдра ў *калу́пашак* [палукашак], паéдзям дадóму (*Рэпля Ваўк.*). 9. Сáма такáя спры́тна, ту́фялькі на *абсáцах* (*Новая Руда Гродз.*). 10. Пайдзі́ *пашу́гай* [пагушкай] дзіця́ на *шу́галцы* [гушкалцы], тáк яму́ хóчацца (*Муравана Бераст.*). 11. Старэ́йшы Антóніхін сы́н у *Слóміне* жыве́ (*Казловічы Зэльв.*). 12. Капу́ста, мóжа, з *манае́зам* ле́пша, чы́м сь сьмятáнай (*Данілаўцы Ваўк.*). 13. Дачкá кóнчыла шкóлу і паступіла, ціпе́р ву́чыцца ў *нісьціту́ці* (*Бабіна Гродз.*). 14. Сы́н у гóрадзе *ніжыне́рам* рóбіць (*Палашкі Воран.*). 15. Такáя *ніцярэ́сна* кні́га, кап ні рабі́ць, та цэ́лы дзе́нь чытáла п (*Бабіна Гродз.*). 16. Тры́ гады́ ў *нітарнáце* рабіла (*Пераганцы Воран.*). 17. У маé бáбы яшчэ́ і цяпе́р не́дзе *караўлóдак* ляжы́ць (*Бракава Сл.*). 18. Штóсь ні йдзе́ кóнь у *галóблі*, мóжа, пamажы́ завясьці́ (*Старчаняты Іўеў.*). 19. На і́х *ганавіцаў* ні набярэ́сься, усё ляці́ць як на чарця́х (*Гарны Гродз.*). 20. Даўне́й пóрткі свабóдныя насілі, *кашóлы* [калошы] шырóкія (*Косцевічы Астр.*). 21. *Скрылёс*, галавá дурня́я (*Дакудава Лід.*).

II. 1. Чагó яé *бэ́йсьціш*, янá ж і тáк старáяцца? (*Прудзяны Шчуч.*). 2. Тáм гармóнік, тáк натóпчася, што ўсé *мяйсцы́* баля́ць (*Віганцы Воран.*). 3. *Нарэ́йсьці* [нарэшце] ты́ прышóў, ні маглá дачакáцца (*Бабіна Гродз.*). 4. А пóбач *шэ́йсьць* хáт называ́лі Батракі, тáм адлічáліся бядня́кі (*Чуркі Ашм.*). 5. Ніхтó ні малакá, ні скарóмнага ні е́сьць, тóлькі расóлік с цыбу́лькай, *се́мія* наме́люць (*Радзівілаўцы Лід.*). 6. *Разбэ́йшчаны* ты́, хлóпчык, як жыдóўска пу́га (*Бердаўка Навагр.*). 7. *Парэ́йпаліся* пя́ты (*Мсцібава Ваўк.*). 8. *Гарóйд* катóра парá ні пóлаты, усё ру́кі ні дахóдзяць (*Алішкаўцы Шчуч.*). 9. Чагó ты́ *вáйждаясься*, як хвóры, мо балі́ць штó? (*Вярэйкі Ваўк.*). 10. На вясе́лі былі́ *кантле́ты* цьвёрдыя; якáя гаспады́ня, такія і *кантле́ты* (*Малыя Пугачы Шчуч.*). 11. Тáм на *ме́нсцы* сушы́лі се́на, ужó гатóвая вазі́лі ў гу́мны (*Граўжышкі Ашм.*). 12. Вы́яхаў

на сярадзіну гу́ліцы і с такім *імпэ́нтам* ста́ў на педа́лі ціснуць (*Голдава Лід.*). 13. Парабілі на́м такія *мінда́лі* [медалі] па́мятныя (*Сухінічы Маст.*). 14. Ка́жду нідзе́лю слу́хаю, як ксёнц Завальню́к па *ра́дзіві* слу́жбу пра́віць (*Бабіна Гродз.*). 15. Вазьмі паста́ў *сло́вік* на паліцу (*Зачэпічы Шчуч.*). 16. Пасьля́ ўжо́ *запо́віны*, на *запо́вінах* дамаўля́ліся пра паса́х (*Нёўда Навагр.*). 17. Я здалёк ішла́ па *тратува́ры*, дзе́ ве́лькі магазін бы́ў (*Урцішкі Іўеў.*). 18. Ён крэ́пка страхану́ўся, кап вада́ ляце́ла на кажу́х, і пача́ў яго́ *ту́рзаць* у ро́зныя бакі (*Суцькава Смарг.*). 19. Зьбіра́лі я́гады ў кашы́ зьбіра́лкамі – гэ́та невялікая *дзяраўля́ная* скры́нка ж жале́знымі зуба́мі (*Студзенікі Свісл.*). 20. Ма́ма напя́кла по́ўну міску *аглáдак* (*Струга Маст.*). 21. Напячэ́м *агла́дкаў* такіх вялікіх на э́туй, на патэ́льні (*Навасёлкі Гродз.*). 22. Каро́ў як падо́яць, то малако́ наліва́юць у *карністры* (*Драгуці Воран.*). 23. А мо́й сы́н *але́кстрыкам* ро́бя. Даўне́й ніхто́ гэ́тай *але́кстрыкі* ні зна́ў (*Варняны Астр.*).

### *1.7.5.2. Назоўнік*

1. У гаворках маюць месца варыянтныя формы граматычнага роду назоўнікаў. Можна вылучыць наступныя тыпы варыянтных родавых адносін: а) жаночы род назоўніка з нулявым канчаткам – мужчынскі род: *ус'а́ маладз'о́ш – ув'э́с' маладз'о́ш, густа́йа пыл' – густы́ пыл, дал'о́ка С'іб'ір – дал'о́к'і С'іб'ір*; б) мужчынскі род з нулявым канчаткам – жаночы род з канчаткам -а: *адры́нак – адры́нка, ас'о́лак – ас'о́лка, гры́п – гры́па, бонк – бо́нка, караб'ін – караб'іна, пап'э́р – пап'э́ра, карас'ін – карас'іна, настол'н'ік – насто́л'н'іца, рэ́спуст – распу́ста, шу́ф'эл' – шу́фл'а, шампу́н' – шампу́н'а*; в) мужчынскі род – ніякі род: *падво́рак – падво́рко, пудэ́лак – пудэ́лко, рука́ў – рукаво́, йа́блык – йа́блыко*; г) жаночы род назоўніка трэцяга скланення – жаночы род назоўніка другога скланення: *бал'э́з'н' – бал'э́з'н'а, гармо́н' – гармо́н'а, жыз'н' – жы́з'н'а*; д) жаночы род – ніякі род: *ко́ўдра – ко́ўдро, гэ́та крэ́сла – гэ́то крэ́сло*; е) мужчынскі – жаночы – ніякі род: *аб'э́чак – аб'э́чка – аб'э́чко, ло́жак – ло́шка – ло́шко, цадз'ілак – цадз'ілка – цадзі'лко.*

2. Ужываюцца назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага і множнага ліку з фармантам -істы (-ысты), якія скланяюцца па тыпе прыметнікаў на -істы: *гарман'істы, гарман'істага, гарман'істаму, гармані'стым, аб гармані'стым, гармані'стыя, гармані'стых* і г. д. Такіх назоўнікаў нямнога. Сярод іх вылучаюцца тры семантычныя групы: а) назвы музыкаў у залежнасці ад інструмента: *аргані'сты, кл'арн'этысты, бубн'істы, гармані'сты*; б) назвы спецыялістаў у

залежнасці ад роду дзейнасці: *трахтарысты, машын'істы* 'той, хто кіруе паравозам', *сыгнал'істы* 'той, хто падае сігнал'; в) назвы асоб паводле ідэалагічнай, партыйнай, рэлігійнай прыналежнасці: *камун'істы, баптысты.*

3. У Гродзенскім, Шчучынскім, Мастоўскім раёнах некаторыя зборныя назоўнікі – назвы лесу па наяўнасці пэўнага віду дрэў у ім – утвараюцца інакш, чым у літаратурнай мове: *ас'іна́, ал'шына́, б'араз'іна́, хвайна́* (параўн. літаратурныя *асіннік, алешнік, бярэзнік, хвойнік*). Дадатковым элементам выражэння зборнасці ў гэтых словах з'яўляецца націск на канчатку. Аналагічныя формы з націскам на аснове маюць ужо значэнне не зборнасці, а адзінкавасці: *ас'і́на, ал'шы́на, бярэ́з'іна, хваі́на.* Падобнае дыялектнае словаўтварэнне ўласціва і асобным назоўнікам, не звязаным з паняццем 'лес', напрыклад: *з'в'арына́* 'звяр'ё', *тал'іна́* 'праталіны'.

4. У гаворках Зэльвеншчыны назоўнікі ніякага роду на -мя маюць устаўку -ен- не толькі ва ўскосных склонах, але і ў назоўным склоне: *вумян'о́, ц'эм'ан'о́, с'эм'ан'о́, стрэм'ан'о́, імян'о́, полым'ан'о́, б'арэм'ан'о́.*

5. Клічная форма, як адзначаецца ў навуковай і навучальнай літаратуры, утвараецца пры дапамозе канчаткаў -э (-а), -у, -о ад назоўнікаў мужчынскага роду і канчаткаў -о, -э ад назоўнікаў жаночага роду: *бра́ц'э, дз'э́ду, дз'а́дз'ухно; ма́мо, Ва́л'э.* У гаворках Гродзенскага, Шчучынскага, Мастоўскага раёнаў побач з названымі спрадвечнымі формамі клічнага склону назоўнікаў жаночага роду на -о, -э бытуе таксама форма клічнага склону назоўнікаў жаночага роду з канчаткам -у: *ма́му, ба́бу, ц'о́тку.* М.А.Жыдовіч мяркуе, што такая форма з'явілася пад уплывам польскай мовы [21, с. 162]. На наш погляд, выкарыстанне форм назоўнікаў жаночага роду клічнага склону з канчаткам -у варта разглядаць як яшчэ адну старажытную рысу паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. Яна тлумачыцца ўплывам форм клічнага склону назоўнікаў мужчынскага роду былога тыпу скланення на *у (сыну) і назоўнікаў мяккай разнавіднасці былога тыпу скланення на *о (коню). Як вядома, такая форма клічнага склону ў старажытнабеларускі перыяд пашыралася і на назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай былога тыпу скланення на *о, асабліва на назоўнікі з асновай на заднеязычны: *наместънику, пахолку* [8, с. 58]. Можна дапусціць, што ў апісваемых гаворках канчаткак -у ў формах клічнага склону пашырыўся і на назоўнікі жаночага роду з цвёрдай асновай.

6. Нескланяльныя назоўнікі іншамоўнага паходжання тыпу *дз'апо́, б'уро́, пал'то́, к'іно́* ў гаворках сталі зменнымі і скланя-

юцца так, як і назоўнікі першага скланення ніякага роду: *пал'то́, пал'та́, пал'ту́, пал'то́м, аб пал'ц'э́.*

7. Жаночыя імёны па бацьку скланяюцца не як назоўнікі, а як прыметнікі: ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага, маюць канчатак -ай: *у Марыйі Антонаўнай, Гал'ін'э М'ітрафа́наўнай, Гал'інай Іва́наўнай, аб Н'ін'э М'іха́йлаўнай.*

8. Множналікавыя назвы населеных пунктаў у родным, часам у месным склоне ўжываюцца з нулявым канчаткам: *Б'э́ршты – да Б'э́ршт, Са́в'ічы – у Са́в'іч, Парэ́ччы – з Парэ́ч, Даращк'э́в'ічы – у Даращк'э́в'іч, Галавачы́ – да Галава́ч.*

9. Назоўнікі жаночага роду другога скланення у родным склоне маюць націскны канчатак -э: *да бядэ́, у с'астрэ́, да з'амл'э́, да дачк'э́, кал'а шашэ́.* Гэты ж канчатак рэалізуецца ў давальным і месным склонах назоўнікаў з мяккай і зацвярдзелай асновай: *на з'амл'э́, дай с'в'ін'э́ йэ́с'ц'і, йак на с'в'ін'э́ прайэ́хаў, пазычыў с'астрэ́ гро́шы, запын'іл'і на шашэ́.* Націскны канчатак -э выяўляюць таксама назоўнікі трэцяга скланення з зацвярдзелай і мяккай асновай: *у граз'э́, у начэ́, на пячэ́.*

Не пад націскам назоўнікі жаночага роду на -а з рознымі тыпамі асноў у давальным і месным склонах выступаюць з канчаткам -і(-ы): *ба́б'і, у шко́л'і, аб до́л'і, на хва́л'і, на ску́ры, Са́шы, на ла́ўцы.*

10. Назоўнікі трэцяга скланення ў творным склоне адзіночнага ліку рэалізуюць канчаткі па аналогіі з назоўнікамі другога скланення: *граз'о́йу, мы́шайу, п'э́чайу, му́драс'ц'айу, ма́з'айу, гус'о́йу.*

11. Назоўнікі мужчынскага роду з мяккай і зацвярдзелай асновай у месным склоне ўжываюцца з націскным канчаткам -э: *на пн'э́, на кан'э́, у камл'э́, на даждж́э́, у шалашэ́.* Не пад націскам назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з цвёрдай асновай у месным склоне маюць канчатак -і: *у л'э́с'і, у бало́ц'і, у кла́с'і, у магаз'ін'і.*

12. Прозвішчы на -овіч (-евіч) маюць фінальную частку -ойч (-ейч): *Тумано́йч, Мацк'э́йч.*

*66. Прааналізуйце варыянтныя родавыя формы назоўнікаў у наступых сказах, супастаўце канчаткі назоўнікаў.*

1. А чаму́ ты́ таку́ю ве́льку абе́чку залажы́ла? (*Нача Воран.*). 2. Абе́чак пры рэ́шаце (*Вялікія Баяры Шчуч.*). 3. У адры́нку ко́т і начу́е, бо та́м завялі́ся мы́шы (*Алякшышкі Воран.*). 4. Ня прыня́ў адры́нку, пустая́ (*Паляцкішкі Воран.*). 5. Атпачыва́ў то́лькі тады́,

калі тачы́ў асёлкаю касу́ (*Асташа Гродз.*). 6. Да́й мне́ твайго́ асёлка, бо гэ́ты зусім ні то́чыць (*Маісеевічы Ваўк.*). 7. Хварэ́ў на гры́пу ця́шко, і дала́ аслажне́ня, на ву́шы ўпа́ла (*Тумашаўцы Шчуч.*). 8. Скажы́ мало́му, ха́й ні гуля́я зь ім, бо ў яго́ гры́п (Путрышкі Гродз.). 9. Прыне́сьлі бла́нку і сказа́лі, што́ ў ёй напіса́ць (*Катрымаўшчына Воран.*). 10. Далі́ бла́нк, а я́к яго́ запіса́ць, паня́ця ні ма́ю (*Азёры Гродз.*). 11. Але жы́зьня гэ́та та́к інцярэ́сно прайшла́ (*Новая Спуша Шчуч.*). 12. Мо́ладасьць была́ харо́ша, а жы́зьнь плаха́я (*Корнадзь Свісл.*). 13. Далі́ карабі́ну і ста́нкавы кулямёт (*Замошша Шчуч.*). 14. Не́калі салда́т у во́тпуск з а́рміі с карабі́нам прыхо́дзіў (*Бабіна Гродз.*). 15. Німа́шака за што́ купіць со́лі, німа́ за што́ купіць карасі́ну (*Радзівілаўцы Лід.*). 16. У Маскве́ за адну́ ры́жую валасі́ну даю́ць два́ літры керасі́ну (*Лунна Маст.*). 17. Дава́лі карасі́ны адзін літар (*Кавалеўшчызна Воран.*). 18. Вазьмі́ цяпле́йшу ко́ўдру, бо ў ха́ці ні па́ляно (*Гнесічы Навагр.*). 19. Егдзілі да Нава́гратка, купілі но́ваё ко́ўдро (*Хвалава Карэл.*). 20. На ло́шку мо́ зь дзе́сяць по́душкаў стая́ло (*Хамічы Зэльв.*). 21. А на сьвя́та ве́лька ло́шку ле́пшым чы́м засьціла́лі, часьце́й ты́м, што дзяўчы́на вы́ткала (*Слесары Іўеў.*). 22. Ідзі́ расьціла́й ло́шко, за́рас по́йдзям спа́ць (*Каменка Бераст.*). 23. По́мню, як прые́дзя сва́дзьба да царквы́, то ўся́ маладзёш зьбіра́лася (*Каралін Зэльв.*). 24. Але́ во гэ́ты маладзёш вучы́ць гла́ўно, што́ ім трэ́ба (*Малыя Азёркі Маст.*). 25. Засьцялі́ но́ву насто́льніцу, красіве́й бу́дзя (*Ятвезь Свісл.*). 26. Ці ш німо́жно падасла́ць газе́ту? Зага́дзіў уве́сь насто́льнік (*Бабіна Гродз.*). 27. По́йдзям на падво́рак пасядзімо́ (*Жылічы Гродз.*). 28. Нага́ мая́ не сту́піць на тваё падво́рка (*Жамайтукі Іўеў.*). 29. Зраньня́ ма́ткі дабудзіцца не мо́гуць, крыча́ць на ўсё падво́ра (*Гальшаны Ашм.*). 30. Уну́чачка, прынясі мне́ папе́р, бу́дзям піса́ць пісьмо́ (*Стральцы Гродз.*). 31. Спало́хаўса мо́цно, стаіць бе́лы, як папе́р (*Бабіна Гродз.*). 32. Іко́ну прыбіра́лі цьвята́мі с папе́ры і ве́шалі харо́шы рушнік на іко́ну (*Парэчча Гродз.*). 33. Я палажы́ў ніткі ў пудэ́лак (*Белалозы Дзятл.*). 34. Аткры́й пудэ́лко, та́м по́ўно гу́зікаў (*Ятвезь Ваўк.*). 35. Сы́н бы́ў на́тта ш зьдзі́улены, вы́цер ло́п аб рукаво́ і ка́жа (*Любча Навагр.*). 36. Вы́тры рука́ў, урабі́ў не́дзі (Новая Руда Гродз.). 37. А мо й до́бро, што праграў, бо як саве́цка ўла́сьць прышла́, то пае́халі п у Сібі́ру (*Бераставічаны Бераст.*). 38. Усё пааддава́лі, бо Сібі́рам стра́шылі (*Баруны Ашм.*). 39. Чаго́ ты́ вісіш нада мно́ю як цадзілак на пло́ці!.. Атчапі́са ты́ ад міне́! Да́й пасядзе́ць спако́йно (*Падбершты Шчуч.*). 40. Мары́на, памы́й цадзілку і паве́сь, каб вы́сахла (*Вераб'і Астр.*). 41. Зрабіла но́во цадзілко, бо то́е ўжэ

парва́лася (*Бракава Сл.*). 42. Шу́фель, як лапа́та, то́лькі берагі́ захіленыя (*Завельцы Астр.*). 43. Злама́ласа рыдлёўка, та прышло́со шу́фляй яму́ капа́ць (*Новая Руда Гродз.*). 44. Шампу́няй як памы́яш галаву́, то валасы́ аш рассыпа́юцца (*Аколіца Лепі Воран.*). 45. Купі́ мне шампу́нь, то́лькі нідарагі́ (*Бабіна Гродз.*). 46. На́ вазьмі́ я́блыко, тако́го сма́шнаго ты́ яшчэ́ ні е́ў (*Жадзейкі Шчуч.*). 47. Вазьмі́ гэ́ны я́блык, аліўны́, ён смачне́йшы за гэ́ту анто́наўку (*Косцевічы Астр.*). 48. Ля́снуўся, аш э́ха пайшла́ (*Збляны Лід.*). 49. Мы́ крычы́м, а эхо́ сяраўно́ як ат сьцяны́ адбіва́яцца (*Бабіна Гродз.*). 50. Пе́чань бальны́, даўле́ня высо́кая (*Вялікія Баяры Шчуч.*). 51. Пе́чань ні е́лі, у я́му вы́кінулі, не́ка дэфакто́ва, ску́ламі пашла́ (*Новая Руда Гродз.*). 52. Рышто́кам [цурком] пацёк кро́ў (Старыя Смільгіні Воран.). 53. Як до́ў кулако́м, та кро́ў адра́зу й палiла́са (*Зубраўка Шчуч.*).

*67. Прачытайце, адзначце дыялектныя марфалагічныя асаблівасці назоўнікаў, якія ў беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца нескланяльнымі.*

1. Я́к гэ́та ты́ хо́дзіш у гэ́тым пальце́, адны́ тра́мця [транты] вiся́ць, ідзі́ апраніся до́бра (*Савані Свісл.*). 2. Ідзе́м за́раз жа ў магазі́н, прыве́зьлі до́брыя пальты́, я ўжо́ нагле́дзела прыпатко́ва [прыблізна], і табе́ тако́ё пальто́ трэ́ба (*Кадзішкі Лід.*). 3. Ніхто́ тада́ ні разабра́ўса, ці то па́на дачка́ йдзе́, ці то калхо́зьніка: усе́ ў шапка́х і ў харо́шых па́льтах (*Струга Маст.*). 4. Як уба́чыла сто́лькі мэ́нкі людзе́й у кіне́, то аж жжахну́лася ат стра́ху (*Гагарына Навагр.*). 5. Па ра́дзіві каза́лі, што пэ́ньсю падвы́сяць (*Бабіна Гродз.*). 6. Ка́жа, да́й мне́ ка́ртачку, я́ ў Мі́нску па ра́дзіву перада́м, мо́жа знайду́ ро́дных (*Монькавічы Маст.*). 7. Кіна́ ў на́с ні было́, ні было́ ў на́с ні цілівíзараў, ні ціліфо́наў (*Белякоўшчына Гродз.*).

*68. Вызначце дыялектныя канчаткі назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку меснага склону.*

1. Пасьля́ ты́дня вынiма́лі лён і сла́лі на балоці́ (*Пляцянічы Зэльв.*). 2. Паве́сяць ка́лыску на чэ́раві і жну́ць (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 3. Паразьяжджа́ліся па ўсём бе́лум сьве́ці: і ў Смале́нск, і ў Та́лін, і на цаліну́ (*Навасёлкі Сл.*). 4. У ле́сі на́с дагна́лі дво́е чалаве́к зь вінто́ўкамі (*Семяноўка Бераст.*). 5. Спа́лі ў ле́сі, хто́ на во́зі, хто́ на зямлі́ (*Коматава Гродз.*). 6. Пры по́льскум ча́сі вучы́лі ваучыцяле́, і было́ шэ́сьць кла́саў (*Залацеева Зэльв.*). 7. А ў дзе́йстві

падаро́жнік вёў яго́ па кусто́х і па балоці (*Слабены Смарг.*). 8. Адзі́н з партыза́наў сту́кнуў па ву́сі мяне́ (*Лежневічы Іўеў.*). 9. Адзі́н прые́хаў ко́нна, на кане́ (*Мікелеўшчына Маст.*). 10. Гатава́лі е́сьці ў невялі́кім чыгунку́ на агне́ (*Студзенікі Свісл.*). 11. Хадзі́лі малаці́ць пры фанарэ́ (*Малахавічы Гродз.*). 12. А людзі сядзе́лі пат канто́раю, нікато́рыя на дажджэ́, мо су́так дво́я (*Мількаўшчына Гродз.*). 13. Я то яко́сьці ні баёўся, адно́ ко́ні па́сьвіў но́чай, і мо́гілкі, по́мнікі ў барэ́ (*Амбілеўцы Шчуч.*).

*69. Вызначце дыялектную спецыфіку форм назоўнікаў другога і трэцяга скланенняў адзіночнага ліку ў родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонах.*

1. Пастро́ілі ха́ту по́сьля вайнэ́ (*Верцялішкі Гродз.*). 2. У каго́ зямле́ было́ бо́льш, то́й бы́ў багаце́йшы, то́й найма́ў сабе́ рабо́тнікаў (*Замасцяны Шчуч.*). 3. Пяклі́ с муке́ пірагі́ (*Парэчча Гродз.*). 4. Даўне́й ла́пці с пало́сінаў [лыка з ліпы] плялі або́ з лазэ́ (*Прывалка Гродз.*). 5. Калі́ з до́брай муке́, то бу́дзя падро́сьцісты хле́п, а як дрэ́нная мука́, то хле́п ацэ́сьлівы, садзі́цца хлеп (*Шылавічы Сл.*). 6. Юшнік с крыве́ ва́раць (*Парэчча Гродз.*). 7. Алі́ні было́ го́т і во́сім ме́сяцаў, а Мары́сі ўжо́ пя́ць было́ (*Чураі Дзятл.*). 8. Трэбо́ было́ памага́ць ма́мі гадава́ць мало́чшых, рабі́ць у хаці́, на по́лі, бо ма́ма на́ша была́ хво́ра (*Крапіўніца Свісл.*). 9. Ба́бі ка́шку вары́ць і дзе́да карміць (*Ляхавічы Зэльв.*). 10. Кава́ль накава́ў язы́к ве́дзьмі (*Голдава Лід.*). 11. За́муш вы́шла то́жа за сірату́, жы́ў пры ма́часі, памахчы́ ні было́ каму́, усё с сваі́х пяці́ па́льцаў нажыва́лі (*Навасёлкі Сл.*). 12. Ні да́й Бо́х тако́га жы́цьця, як дастало́ся мне́ й маі́м сястрэ́ й бра́ту (*Шыганы Сл.*). 13. У ха́ці цёмно, лучы́нку якую смальне́йшу запа́ляць ды й танцу́юць (*Новы Двор Свісл.*). 14. По́тым рабі́ла ціхні́чкай у на́с у шко́лі (*Ардашы Смарг.*). 15. І яшэ́ гавары́ла ёй па́ні, што паві́нна як мага́ акура́тней рашчаса́ць валасы́ і тады́ па драбі́ні зале́сьці на га́ру (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 16. Ра́ней, як я шчэ́ маладо́й была́, та мы́ па ўсе́й акру́зі адзі́н аднаго́ ве́далі (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 17. Пае́хаў я́ на грузаво́й машы́ні, а́лі ш ні ў кабі́ні, а на ку́заві (*Малая Бераставіца Бераст.*). 18. Па даро́зі зае́халі ў Сапо́цкіна (*Васілевічы Гродз.*). 19. Мы́ ча́ста сядзе́лі ў я́мі за га́ем (*Янчукі Шчуч.*). 20. Мы́ на то́й зямле́ ўсё гэ́то рабі́лі (*Свіслач Свісл.*). 21. На душэ́ мне́ не́шта ніспако́йна, та́к ніспако́йна на душэ́ (*Лаздуны Іўеў.*). 22. Да карто́плі разатро́м цыбу́лю, улье́м вадэ́, со́лі і ямо́ – называ́яцца раза́ля (*Кіралі Шчуч.*). 23. А во́сяняй дэмабілізава́лі (*Замошша Шчуч.*). 24. Мы́ ўсе́

з ра́дасьцяй пайшлі спатыка́ць с хле́бам-со́льлю (*Лаздуны Іўеў.*). 25. Та́та ў хле́ў пашо́ў с со́ляю (*Пасека Дварчаны Воран.*). 26. За маёй па́мяцяй ту́т пра́с Вя́льлю было́ аш тры́ масты́ (*Рымшынен-ты Смарг.*). 27. А ў міне́ ўсе́нка руба́шка ў крыве́, плячо́ разьбі́та, у крыве́, пацякла́ (*Даўбенкі Шчуч.*). 28. Залажы́ць ко́мін, кап дым ні прайшо́ў у пячэ́ (*Дружная Ваўк.*). 29. Прыбрэ́ндаў сярэ́дначы ўве́сь у гразе́, ту́лько во́чы блішча́ць, машы́на сапсава́лася, то по́куль завёў, то хапі́ла яму́ рабо́ты (*Новы Двор Свісл.*). 30. Вялікдзень, хадзілі ў цэ́ркаў (*ЧураіДзятл.*). 31. По́тым е́дуць у цэ́ркаў вянча́цца (*Пасінічы Сл.*). 32. Я і ў го́лаў ні бра́ла гэ́ту наву́ку (*Гарнастаевічы Свісл.*). 33. Як за́муш выхо́дзілі, купля́лі чэ́пак на го́лаў – бе́лы (*Кіралі Шчуч.*). 34. Ну але́ ты́, Мары́ля, та́к прышпэ́рыла [прыструніла] свайго́ дзяўчука́, што нідзе́ с ха́ты ня йдзе́ (*Стукалы Маст.*). 35. Шма́т вужо́ў пат пе́чай (*Солы Смарг.*).

*70. Вызначце дыялектныя канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду на -а (о) у розных склонах, параўнайце з адпаведнымі канчаткамі ў літаратурнай мове.*

1. Ба́чу, гэ́ты дзя́цько ідзе́ (*Дружная Ваўк.*). 2. Прышо́ў ва Усе́люп і папыта́ў у дзя́цька, што́ гэ́та за го́рат (*Уселюб Навагр.*). 3. Было́, зна́чыцца, у ба́цька два́ сынэ́ (*Любча Навагр.*). 4. Майму́ та́таві пашанцава́ла, пе́ршы зьвярну́ўся даха́ты (*Пагарэлка Карэл.*). 5. Малада́я пакла́нялася ма́церы, ба́цькаві ў по́куць (*Грынкі Свісл.*). 6. Жыло́ся нам до́бро, на́с было́ сямёра дзяце́й у ба́цька (*Карпаноўцы Шчуч.*). 7. Забілі яны́ і ба́цька на́шаго, і ма́ма тро́х дачо́к гадава́ла (*Сямёнаўка Бераст.*). 8. Заста́ўся ён адзін, ма́ці з ба́цькай паўміра́лі, а яшчэ́ бра́т ме́ньшы ды гаспада́рка (*Дарані Свісл.*). 9. Есьлі ба́цько з ма́цераю не даду́ць дзіця́ці са́мы ра́ды, пра учыцяле́й німа́ што гавары́ць (*Скідзель Гродз.*). 10. Кап сказа́ць ба́цькаві ці ма́цераві – не тваё дзе́ло, дзе́ я́ іду́ і што́ я́ раблю́. Не́, тако́га ра́ньшэ не было́. (*Скідзель Гродз*). 11. Дачака́ўся ён ба́цька, і пашлі ра́зам сь це́лям даха́ты (*Любча Навагр.*). 12. Цётка мало́чша за та́та во́сем ле́т (*Мсцібава Ваўк.*).

*71. Прачытайце, пазнаёмцеся з рэгіянальнымі неафіцыйнымі назвамі некаторых населеных пунктаў Гродзенскай вобласці.*

1. Ён прыйшо́ў да на́с і ка́жа, што по́йдзе ў Ашмяну́ прасі́ць маю́ ма́тку, кап пусьці́ла мяне́ зь ім (*Дукойні Ашм.*). 2. Слу́хай

мяне́ – бу́дзяш у Ашмяне́ (*Гродзі Ашм.*). 3. А як прынясе́ш бу́лачку хле́ба з Варано́ва, то па лу́стаццы ўсё падзе́ліш (*Поліпніца Воран.*). 4. Дачка́ і́х, Ма́ня, ву́чыцца ў Гро́дні, ка́жуць, на дахто́рку (*Засецце Дзятл.*). 5. Ясюка́ у́нь по́куль вы́учылі ў Гро́дні за наста́ўніка (*Енчы Воран.*). 6. А я́ тады́ ў Зе́льві вучы́лася (*Дружная Ваўк.*). 7. Гэ́то па-гарацко́му Лю́пчо, а мы́, стары́я, усё завём, як даўне́й, – Лю́бач (*Любча Навагр.*). 8. Пае́хаў мо́й ба́цько ў Нава́градак, купі́ў пятна́сьця буталёк гарэ́лкі, ды гэ́так і вяселё зрабі́лі, бе́дно вяселё (*Нёўда Навагр.*). 9. Мо та́м ба́цько ў Нава́гратак на база́р пае́дзе? (*Равіны Карэл.*). 10. У Смурго́нях перадава́я, а ту́т, у на́шай вёсцы, перадаво́й няма́ (*Дзягаўцы Ашм.*). 11. Былі́ схро́ны пад Смурго́ню (*Быстрыца Астр.*). 12. Тады́ пае́халі ў Шчу́цін да до́хтара (*Свірыды Шчуч.*). 13. Пае́хаў у Шчу́цін на база́р, купі́ў парася́ (*Мікелеўшчына Маст.*). 14. Ране́й ад на́с пяхто́м да Зе́цяла [Дзятлава] хадзілі (*Накрышкі Дзятл.*). 15. А пасьля́ вайны́ бе́дна лю́дзі жылі́, хадзілі да Масту́, сюды́ пад Гро́дна, да Масту́ хадзі́лі па чырво́ную гэ́ту сале́тру (*Лявонавічы Дзятл.*).

*72. Вызначце дыялектныя марфалагічныя асаблівасці множналікавых назваў населеных пунктаў у родным і месным склонах.*

1. У нядзе́льку зьбіра́ліся ў Ду́бічы да касьцёла, а да Ду́біч аш двана́сьця вёрст (*Дзеткі Воран.*). 2. О́й, прыво́зім музыка́нтаў с Крапі́ўніцы, с Шу́рыч (*Ражкі Свісл.*). 3. Нарадзілася я́ ў Це́рахавіч (*Масушыны Свісл.*). 4. Я жы́та жа́ла, бу́льбу капа́ла, а по́тым служы́ла ў Парэ́ч, у Дру́згіне (*Карпаноўцы Шчуч.*). 5. Бы́ў музыка́нт у Хамі́ч (*Стральцы Маст.*). 6. А яны́ не зна́лі дру́г аб дру́гу, што гэ́та сваé, ру́скія, у Даро́глянь, а ў Міляві́ч то́жа ру́скія. Адны́я па другі́х бі́лі (*Нацкава Маст.*).

*73. Знайдзіце прозвішчы, падбярыце да іх адпаведныя літаратурныя формы, параўнайце і вызначце спецыфіку дыялектных форм.*

1. Вясно́й было́, цьвіла́ чаро́мха, Макарэ́йч рабі́ў та́нцы (*Лысая Гара Ашм.*). 2. Тады́ аддава́лі мяне́ за́муж за Тумано́йча, а́лі ні пайшла́, бо ра́на, ні было́ яшчэ́ васімна́ццаці гадо́ў (*Лысая Гара Ашм.*). 3. По́тым зьле́тала да Мацке́йча па каня́ і паве́зла да до́хтара (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 4. Ну ш і спра́ўны мало́чшы Гэ́нюка, ні́чо́га

безь яго́ не абыхо́дзіцца, дасьці́пны як Дашке́йча бычо́к, што ўзя́ў у сту́дню ўвалі́ўся (*Бастуны Воран.*). 5. Маце́йча дзяво́дна та́к згэ́йшала суке́нку, што бры́тко глядзе́ць (*Стукалы Маст.*).

### *1.7.5.3. Прыметнік*

1. Прыметнікі (дзеепрыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, неасабовыя займеннікі) жаночага роду ў давальным і месным склонах пад націскам выступаюць з канчаткам -ой, не пад націскам – з канчаткам -уй: *у старо́й, у сухо́й, у гн'іло́й; у до́бруй, у в'э́л'куй, у с'ін'уй, у п'а́туй.*

2. Простая форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараецца пры дапамозе ненаціскнога суфікса -айш-: *бл'іжайшы, гара́чайшы, ду́жайшы, зял'о́н'айшы, каро́ц'айшы, н'іжайшы, харо́шайшы, чырво́н'айшы.*

3. Захоўваюцца старажытныя суфіксы -ушч-, -ашч-, якія служаць для ўтварэння якасных прыметнікаў ад дзеясловных асноў: *бару́шча каро́ва, валача́шчы чалав'э́к, в'іду́шчы чалав'э́к, кал'у́шчо рыжы́шчо, кусу́шчы саба́ка, н'асу́шча ку́рыца, прапа́шчы чалав'э́к, п'аку́шча крап'іва́.*

4. Прыметнікі (адпрыметнікавыя прыслоўі) у суфіксах -эньк-, -аньк- маюць зацвярдзелы зычны |н|: *до́бранк'і (до́бранко), мал'э́нк'і, м'іл'анк'і, плах'э́нк'і, старэ́нк'і, чы́с'ц'анк'і (чы́с'ц'анко).*

*74. Знайдзіце прыметнікі жаночага роду давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку і вызначце ў іх дыялектны ненаціскны канчатак. Падбярыце некалькі форм прыметнікаў з націскным канчаткам. Пракаментуйце розніцу канчаткаў у залежнасці ад месца націску.*

1. Па вадзе́ хало́днуй дайшлі́ да ро́ва, а ро́ў глыбо́кі-глыбо́кі (*Вострава Зэльв.*). 2. А ў ма́мінуй хваро́бі паправу́нку ні было́ (*Свірыды Шчуч.*). 3. До́бры наро́т бу́дзе па пра́вуй старане́, нідо́бры – па ле́вуй (*Старынцы Бераст.*). 4. По́тым, як кры́ху падрасла́ бо́льша пры По́льшчы па́нскуй, пашла́ зарабля́ць гро́шы (*Ражкі Свісл.*). 5. А ніда́ўно ста́ршуй даццэ́ апіра́цыю рабі́лі, то то́жа трэ́ба гро́шмі памахчы́ (*Правыя Масты Маст.*). 6. Ра́птам но́гі ў міне́ адняліся – з жы́та ідзе́ чалаве́к у німе́цкуй фо́рмі (*Пыра Гродз.*). 7. Фра́нка Ёськава хвалі́лася ба́бам, што тчэ́ по́сьцялку на ма́кавуй [чырвонай] асно́ве (*Малое Сяло Шчуч.*). 8. На́ша Мары́на

ў нóвуй панёве [жаночым цёплым піджаку] пайшлá ў клýп (*Зарачаны Дзятл.*). 9. У íхнюй хáце камéшнік [вугал каля печы, дзе стаяць кочаргі] завáлены тáк, што аш пéч патпірáя (*Дубна Маст.*). 10. У аднóй бліскуй вёсцы жылá ня тáк даўнó аднá багатыíрка-пáні (*Аляксандраўшчына Зэльв.*).

*75. Выпішыце старажытныя формы прыметнікаў з суфіксамі -ушч-, -ашч-. Кіруючыся пашпартнымі дадзенымі пры ілюстрацыйных сказах, зрабіце выснову аб ступені распаўсюджанасці іх на Гродзеншчыне.*

1. Яджгáр [ёрш] рыíба смáшная, тóлькі нáтто калю́шча, дрэ́нна яé чыíсьціць (*Касцянева Шчуч.*). 2. Вóт éсьлі зóрніста нéба, та казáлі, кýры бýдуць нясýшчыя (*Парэчча Гродз.*). 3. Я гарýшчая бáба, страшэ́нна гарýшчая (*Пераганцы Воран.*). 4. Ён быíў фáйны, алé ш нáтта кусýшчы (*Жупраны Ашм.*). 5. Хлóпяц да дзяўчыíны як прыíйдзя, так лядáшчага слóва нíгды ні скáжа (*Правыя Масты Маст.*). 6. Карóва барýшча, бо драчыíліся з малóю і прывучыíлі барóцца рагáмі (*Каробчыцы Гродз.*). 7. У нáс быíў брыкáшчы кóнь, а то такáя ўжо брыкáшчая карóва цяпéр, рáды німá (*Парачаны Лід.*). 8. Зеразьня́нка [чырвоная мурашка] нáтто балю́шчо кусáяцца (*Бершты Шчуч.*). 9. Мóй дзя́цько клянýшчы, ні гóрш бáбы мóжа клясьцí кагó хóчаш (*Біскупцы Лід.*). 10. У íх кусáшчы сабáка, ні падыíйдзяш да хáты (*Каробчыцы Гродз.*). 11. У нáс лавýшчы кóт, дóбра лапáя мышэ́й (*Прывалка Гродз.*). 12. У нáс быíў лятýшчы [збродлівы] кóнь, залéзя дзé ў шкóду, наéсца, тадыí дадóму прыíдзя (*Прывалка Гродз.*). 13. Тыí ні кармí іх паласýнкамі, а давáй картóплі ды сáла пабóльш, то бýдуць бóльш трывýшчыя тваé дзéці (*Міцкавічы Смарг.*). 14. Гэ́такі памятýшчы нáш малыí, усё перакáжа, штó ў шкóле пачýя (*Макараўцы Бераст.*).

### *1.7.5.4. Лічэбнік*

1. У канчатках ускосных склонаў лічэбнікаў *два, дз'в'э* захаваўся галосны |о| ці яго фанетчны варыянт |а|: *двох, дз'в'ох, двамá, дз'в'амá.*

2. Лічэбнікі *адныí, аб'э́дз'в'э* маюць займеннікавую форму *адныíйа, аб'э́дз'в'íйа* і скланяюцца паводле займеннікавага скланення (*аб'э́дз'в'іх, аб'э́дз'в'ім, аб'э́дз'в'ім'і*). Часам у падобнай форме выкарыстоўваецца лічэбнік *аднá – аднáйа.*

3. Часта ўжываюцца сцягнутыя формы лічэбнікаў: *п'адз'іс'áт, п'ідз'іс'áт, п'ійс'áт, п'іс'áт, шэ́йдз'іс'ат, шыйс'áт, с'э́мс'ат, вóс'імс'ат*.

4. Складаныя лічэбнікі ад 200 да 900 не скланяюцца.

5. Зборныя лічэбнікі тыпу *двое, трое* ў назоўным і вінавальным склонах маюць канчатак -і (-ы): *двóйі, трóйі, чац'в'óры*.

6. Актыўна ўжываюцца лічэбнікі, утвораныя па мадэлях польскай мовы: *йэдынáс'ц'а, дванáс'ц'а, с'амнáс'ц'а, двадз'э́с'ц'а, трыдз'э́с'ц'а*.

7. Сустракаюцца розныя фанетычныя варыянты лічэбнікаў, неўласцівыя літаратурнай мове: *чатэ́ры, чтэ́ры, чыты́ры, чэтэ́ры, вóс'ім, дз'ів'анóсто, дз'іс'áты* і інш.

*76. Растлумачце дыялектны характар лічэбнікавых форм адная, адныя.*

1. Былá малáя – карóвы пáсьвіла ў лéсі, аднáя (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 2. Я аднáя мýчылася, éзьдзіла ў Вільня за мукóй, за хлéбам, туды́ вязý кóш я́йкоў, тáм прадáм і куплю́ дзéткам паéсьці (*Гольманцішкі Воран.*). 3. А стáла я́ дзéўкаю, а я́ аднáя ў сямы́ дзéўкаю былá, лéпш са ўсíх у патсóбным выдзявáлася (*Гнезна Ваўк.*). 4. А як запáльвалася пéршая гвяздá, сé сядáлі за стóл, аднóе мéсца пакідáлі для пáна Езýса (*Павіланцы Воран.*). 5. Пайшóў на вайнý, мяне́ с трымá малы́мі пакíнуў. Аднóе тóлькі нарадзілася былó (*Гнезна Ваўк.*). 6. Адзінáццаць парася́так прывялá, але аднóя прыдушы́ла, дзéсяць тóлькі засталóся (*Навікі Свісл.*). 7. Усё жы́та кéпско зышлó, адны́я плéшкі на пóлі (*Салeнікі Карэл.*). 8. Стóлькі марнáцыі парóбляна ў лéсе за ўчарáшні буралóм, адны́я вы́вараты ляжáць (*Чэхі Астр.*). 9. А ў нáс у хáці былó дзéсяць галóў, ні тó што ціпéр бацькí адны́я жывýць (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 10. А я́ ні дáм, бо мінé адны́я дахтары́ да другíх пасылáюць (*Малая Бераставіца Бераст.*). 11. Упрáўлюся, ідý ў хáту – адны́я сьцéны (*Ражкі Свісл.*). 12. Адзíн каптáн на ўсíх бы́ў, адны́я бóты на трóх (*Шыганы Сл.*).

*77. Выпішыце лічэбнікі, растлумачце, чым яны адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў.*

1. Пóтым мы́ ўжó рашы́лі будавáцца на стó підзіся́т рублéй (*Стральцы Маст.*). 2. І жывём ужó паўвéка, підзіся́т гадóў во зáра

бу́дзя (*Ганчары Лід.*). 3. Вярну́ўся дахáты ў Замóшы ў пійся́тым гóдзі, у калхóс пашóў (*Замошша Шчуч.*). 4. А плацілі за дзéнь рабóты за капáнё пíся́т капéяк (*Самуйлавічы Маст.*). 5. Сáшы хýтка пядзíся́т лéт, сьвíню́ бýдзям калóць (*Ражкі Свісл.*). 6. Мнé пійся́т пя́ць гадóў, а бáцьку ўжэ́ шыйся́т ракóў (*Сухінічы Маст.*). 7. З пійся́т вóсьмага бы́ў брыгадзíрам аж да шэ́йдзісят чацьвёртага, ш шэ́йдзісят чацьвёртага быў кóнюхам (*Замошша Шчуч.*). 8. Я мáю шэ́йсят чатэ́ры шчэ́, здарóве мáю і шчэ́ здýжаю рабíць (*Ваверка Лід.*). 9. От ціпéрака мы́ картóплю капáем – шася́т мяхóў, і ўсё мáла (*Бердзікі Ваўк.*). 10. А мэ́тар сíццу стóіў вóсімсят грóшай (*Галубы Маст.*). 11. Я ш ужэ́ старáя, вóсімсят чаты́ры гадóчкі мáю, мóжа чагó íхняга не разумéю (*Кушляны Смарг.*). 12. С мужыкóм ты́лько чтэ́ры гады́ пражылí рáзам (*Малая Бераставіца Бераст.*). 13. У сямí былó вóсім штýк дзяцéй, чатэ́ры дзéўчыны і чатэ́ры хлóпцы (*Асіпаўцы Воран.*). 14. Алі вó дабáвілі ў гэ́тум мéсяцы, то вó ўжó вóсемдзесят чтэ́рэ стáло (*Малая Бераставіца Бераст.*).

*78. Вызначце дыялектныя канчаткі зборных лічэбнікаў.*

1. Двóі сýткі то нія́к ні éўшы пасьці́ ішóў. Ішóў мýсі трóі сýткі я́ (*Даўбенкі Шчуч.*). 2. Нý й прыéхалі да яé ў адзíн дзéнь чацьвёры censusатóў (*Мікелеўшчына Маст.*). 3. А гэ́ты дзéці, пяцёры былó (*Кронькі Шчуч.*). 4. Дзіця́ пéршае рáнілі, а пóтым і мáці забілі. Нáс засталóся пяцёры – тры́ дзяўчáты (*Кронькі Шчуч.*).

*79. Знайдзіце лічэбнікі іншамоўнага паходжання, растлумачце прычыны іх бытавання ў гаворках Гродзеншчыны.*

1. Во бáчыш, які́я аспадары́ пашлí, каня́ нíгды ня бáчыўшы, а мы́ былí аспадары́, і я́ ўжо ўшчы́тана ў рабóту мéла мýсі едынáсьця гадóў (*Дзягаўцы Ашм.*). 2. Нáша сям'я́ сéяла лёну дзéсяць, дванáсьця загóнаў (*Чаплі Лід.*). 3. Пóтым мáтка вы́шла зáмуш, я тшынáшце мéла (*Перстунь Гродз.*). 4. Паéхаў мóй бáцька ў Навáградак, купíў пятнáсьця буталёк гарэ́лкі, ды гэ́так і вясéлё зрабілі, бéдно вясéлё (*Нёўда Навагр.*). 5. Мнé былó тады́ гадóў шаснáсьця, як мáма нáша захварэ́ла (*Свірыды Шчуч.*). 6. Алé зáмуш не зьбірáлася, сядымнáсьця гадóў ты́лька мéла (*Навасады Воран.*). 7. Тэ́рас яшчэ́ малы́я дзéці, смарчкí яшчэ́, а ўжó на тáнцы лятáюць. Мы́, бывáла, у асемнáсьця адóў ляцéлі (*Пераганцы Воран.*). 8. Зáмуш шлá я́, калí мéла двадзéсьця (*Енчы Воран.*). 9. Але пасьля́ вайны́, гэ́та ў пяць-

дзесёнт пе́ршум го́дзі было́, галадо́ўка ве́лька была́ (*Андрэевічы Ваўк.*). 10. І пажаніліся мы́. *Я* прышла́ ў ро́дзіну іхнію чына́стая (*Енчы Воран.*). 11. Ёй, бе́днай, ужо́ осемдзеся́т о́сьмы ро́к (*Радунь Воран.*).

### *1.7.5.5. Займеннік*

1. Некаторыя займеннікі ў маўленні набываюць канкрэтную семантыку, ужываюцца ў ролі назоўнікаў. Так, займеннік *мой* абазначае мужа, гаспадара, калі пра яго гаворыць жонка ў размове з кім-небудзь: *Нешто маго сёдня доўго німа, мо дзе задзяржалі на другую зьмену* (Лычкаўцы Шчуч.). *Мой ніколі ні бярэ с сабой падабедак, так і робіць да палудня* (Грачанішкі Астр.). Значэнне ‘мая жонка, гаспадыня’ мае займеннік *майа́* ў падобнай маўленчай сітуацыі, калі пра жонку гаворыць муж: *Я з маёй з адной вёскі былі, дружылі, тады пажаніліся* (Дукойні Ашм.). Канкрэтызацыя значэння назіраецца і ў займеннікаў *твой* ‘твой муж, гаспадар’, *твайа́* ‘твая жонка, гаспадыня’: *Твайго нешто ні відаць, хіба ў Гродно паехаў?* (Бабіна Гродз.). *А твая ў хаці?* (Каменка Навагр.). Займеннік *той* (*та́йа*) служыць для абазначэння суседзяў: *Глядзі, ужэ тая другі рас сьвіням дае есьці, а ты і першы ні зьбіраесься* (Нябайкі Зэльв.). Займеннікі *йон, йана́* ўжываюцца ў значэнні кіраўніка, калі пра яго гавораць падначаленыя: *Вызывая ён, мусі, будзя чысьціць за ўчарашнё* (Гумбачы Гродз.). Займеннік *на́шыйа* абазначае членаў сваёй сям’і, *ва́шыйа* – членаў чыёй-небудзь сям’і: *Нашыя паехалі на базар, то я адзін у хаці* (Камяніца Ваўк.). *Вашыя думаюць, што ты ўжэ ні верняса* (Новая Руда Гродз.). *Прышоў ты, браце, у скрутны* [нязручны, напружаны] *час, нашы ўсе паехалі на сенаване* (Міцкавічы Смарг.).

2. Займеннікі *ты, с’аб’э́* ва ўскосных склонах выступаюць у старажытных варыянтах *ц’э, с’э*: *Каб на це паморак напаў, так хацела це бачыць, але ж якраз удома тады ты не была* (Цярэшкі Ваўк.). *Для се ты ня будзь скупою, еш як належыць, ты се ў абіду ні давай* (Кухары Маст.).

3. Займеннік *сам* захоўвае цвёрдую аснову ва ўсіх склонах множнага ліку. Прычым у назоўным склоне замест варыянтаў *са́мы, самы́* часта выкарыстоўваецца займенная форма *самы́йа*: *Самы вырошчвалі бульбу* (Мядзвінавічы Дзятл.); *Абраблялі самыя зямлю* (Ліпнішкі Іўеў.).

4. Сярод азначальных займеннікаў пашыранымі з’яўляюцца дыялектныя лексемы *ус’э́й, ус’э́н’к’і (ус’э́нк’і)*: *Дзе ты плентаясь-*

*ся ўсей дзень?* (Сіманы Лід.). *Тата прыехаў усенькі задарожаны, хай атпачыня* (Навасады Воран.).

5. У дыялектнай мове Гродзеншчыны няпэўныя займеннікі і займеннікавыя прыслоўі ўтвараюцца пры дапамозе розных прэфіксаў і постфіксаў ад пытальна-адносных займеннікаў. Да прэфіксальных словаўтваральных сродкаў належаць часціцы-прыстаўкі *н'э-, абы-, был'а-, бон'ц'-*, да постфіксальных – *-с'ц'і, -н'эбудз', -то, -кол'в'эк.*

Постфікс *-н'эбудз'* (*-н'ібудз'*) выкарыстоўваецца абмежавана. Не вызначаецца актыўнасцю і постфікс *-с'ц'і*. Яго варыянт *-с'* адзначаны ў Ваўкавыскім, Бераставіцкім, Свіслацкім, Воранаўскім раёнах: *йак'іс', хтос', чыйс'.*

Акрамя агульнаўжывальных прыставак *н'э-, абы-*, актыўна ўжываюцца дыялектныя словаўтваральныя сродкі *-та, бы́л'а-, бон'ц-', -ко́л'в'эк.*

Пад уздзеяннем няпоўнага недысіміляцыйнага акання постфікс *-та* часта рэалізуецца ў варыянце *-то*: *хто́-то, чы́й-то, як'і-то.*

Значнае распаўсюджанне на тэрыторыі Гродзеншчыны атрымала прыстаўка *бы́л'а-* (*абы́л'а-*), якая паходзіць з польскай мовы: *был'а-хто́, был'а-што́, был'а-йак'і, был'а-чы́й.*

Пераважна ў Гродзенскім і Шчучынскім раёнах пашырана часціца-прыстаўка *бон'ц'-*. Яе фанетычныя варыянты – *бын'ц'-, бун'ц'-: бон'ц'-хто́, бын'ц'-йак'і, бун'ц'-чаго́.* Наяўнасць гэтай марфемы тлумачыцца кантактаваннем гаворак з польскай мовай (параўн. польск. *bądź* 'або'). Як сродак утварэння няпэўных займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў, яна вядома і ўкраінскай мове, але крыху ў іншым фанетычным афармленні: *будь-хто, будь-чий, будь-що, будь-коли.*

Постфікс *-ко́л'в'эк* мае яшчэ такія варыянтныя разнавіднасці, як *-ко́л'в'эчы, -ко́л'ак, -ко́л'ачак*: *што-ко́л'в'эчы, чаго-ко́л'ак, што-ко́л'ачак.*

Сустракаецца ўжыванне адносных займеннікаў у значэнні няпэўных. Гэтая дыялектная асаблівасць рэалізуецца найчасцей у займенніках, калі ім сэнсава найбольш адпавядаюць літаратурныя ўтварэнні з марфемай *-небудзь*: *Можа чаго хацеў?* (Бабіна Гродз.); *Паеду куды, каб ні чуць гэтаго, ні бачыць* (Рэпля Ваўк.).

Нярэдка кампаненту *-небудзь* адпавядае слова *дзе*: *дз'э-хто́, дз'э-што́, дз'э-як'і, дз'э-чы́й.*

Адзначаны нешматлікія выпадкі прэфіксальна-постфіксальнага ўтварэння няпэўных займеннікаў: *н'эк'ійас'ц'і, н'эчыйс'ц'і.*

*80. Пракаментуйце дыялектныя формы займенніка сам.*

1. Са́мы пра́лі, са́мы тка́лі, са́мы саро́чкі шы́лі ўручну́ю (*Малахавічы Гродз.*). 2. Ко́ньмі гара́лі, се́ялі са́мы і баранава́лі, сярпа́мі жа́лі, цапа́мі малацілі (*Яруцічы Зэльв.*) 3. Ні забыва́йця са́мы сваіх бацько́ў (*Сухінічы Маст.*). 4. Як не́калі мы́ кудзе́лю пра́лі, тка́лі кро́сны, палатно́, дыванэ́, усё рабілі са́мы (*Уселюб Навагр.*). 5. Та́к, дзе́ткі, вы́ дачака́ецеся, да́сьць Бо́х, старэ́йшых гатко́ў, бу́дзеце самы́я ма́ткамі (*Астрына Шчуч.*). 6. Паку́ль здаро́ўё было́, у калхо́с хадзілі, нажылі дво́ё дзе́так, вы́гадавалі, стара́ліся вучы́лі іх, кап іх до́ля была́ ле́пшай, бо самы́м ні было́ за кім вучы́цца, хаце́ласё, кап дзе́ці былі гра́матнымі (*Навасёлкі Сл.*). 7. На вы́гані бы́ло ты́ля птушо́к: bagáсы (ціпе́р німа́), кулікі, былі чы́сто с каўняра́мі чо́рнянькімі, пер'ё кудлава́то, самы́я сівянькія з ры́жанькім – кнігі (*Падбалоцце Зэльв.*). 8. Бацькі самы́я за гэ́ту зямлю́ душы́ліся (*Малыя Азёркі Маст.*). 9. Самы́я се́лі і е́дзям (*Малая Бераставіца Бераст*). 10. Пчо́лы са́мы нацягваюць на ра́мцы вашчы́ну (*Каробчыцы Гродз.*). 11. Пасьля́ вайны́ як трэ́ба было́ радлава́ць [акучваць] карто́плю, а каня́ ня было́, то ба́бы цяга́лі ра́дло [плуг акучваць бульбу] са́мы (*Кальчычы Карэл.*). 12. Мы́ са́мыя зро́бім што́ трэ́ба, са́мыя вы́йдзям на даро́гу, ту́т нідалёка (*Ваверка Лід.*).

*81. Выпішыце і ахарактарызуйце дыялектныя варыянты займенніка ўвесь.*

1. Пералекацэ́ў усе́й, паку́ль перабе́х то́й грудо́к, гэ́так стралялі (*Нагародавічы Дзятл.*). 2. Сёньня Васіль прышо́ў у клу́б усе́й расхале́плены, як ні пры сваіх мы́сьлях (*Варанкі Шчуч.*). 3. Ля́нь, с кра́ю усе́й гавёс скапы́чаны – каро́вы прагна́лі каля́ гаўса́ (*Майсеевічы Ваўк.*). 4. Вы́дзелаўся ўсе́й у тарпу́, вы́дзелаў усю́ ясёнку (*Грыбаўцы Ваўк.*). 5. Па́ляц усе́й пачарне́ў, напэ́ўна, валасьніца ў мяне́ (*Тоўсцікі Маст.*). 6. Усе́нька змо́кла, до́шч краплісты за міну́ту змачы́ў (*Лелюкі Іўеў.*). 7. По́суд, сто́л, усё мая́ дзе́ўчына нашлюхтава́ла [пачысціла, памыла], усе́нько бліхацінь (*Берішты Шчуч.*). 8. Ні спа́ла зусім, то ж мне́ ўсе́ньку но́ч зу́п пры́ньдзіў [балеў] (*Крапіўніца Свісл.*). 9. Націсьням со́ку

зь я́блыкаў, паста́вім с цу́крам цэ́лую бу́тлю, то ўсе́ньку зі́му п'е́м гэ́ты ква́с, і не сп'яне́ям, і здо́рава (*Цырын Карэл.*). 10. Усе́нькі яго́ тва́р памэ́дзганы (*Навасады Воран.*). 11. О́т мы то напрацава́ліся за ўсе́нькі ве́к. Як успо́мніш, аш ні ве́рыцца (*Енчы Воран.*). 12. А бацькі́ ўсё каза́лі, каб елі́ хле́п усе́й сухі́, то не бу́дзяця грымо́таў бая́цца (*Вялікая Бераставіца Бераст.*).

*82. Выпішыце няпэўныя займеннікі, ахарактарызуйце спосабы і сродкі іх утварэння.*

1. Про́йдзе яко́есьці ўрэ́мя, і вы́ то́е са́мае ска́жаце (*Бельцы Гродз.*). 2. Гэ́та ціпе́р ту́т грані́цу яку́юсьці вы́думалі, а ране́й мо́жна было́ хадзі́ць (*Сямёнаўка Бераст.*). 3. По́мню пазатакро́к ці мо шчэ́ ране́й прые́халі бы́лі які́ясьці капа́льшчыкі ў маёнтак (*Любча Навагр.*). 4. А я́ ме́ла які́хсьціх шэ́сьць ле́т (*Каменка Гродз.*). 5. Ма́ма мая́ які́сь ка́мянь націра́ла ў во́тцы (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 6. Прыду́маў праку́ду яку́юсь, хто́ цяпе́р гэ́таму ве́ры дае́? (*Макараўцы Бераст.*). 7. Які́сь но́вы чалаве́к прые́хаў да на́с у вёску (*Якубаўцы Воран.*). 8. Лю́дзі які́ясь ільго́ты палуча́юць (*Вялікае Сяло Ваўк.*). 9. Што́сь та́м зрабі́ласо, цэ́лу но́ч страхата́, што́ было́ (*Галубы Маст.*). 10. Калі́ по́ст зака́нчваецца, пачына́яцца міса́ет – ко́лькісь та́м, шэ́сьць – се́м нядзе́ль (*Клепачы Бераст.*). 11. Ён падзе́ляны на ко́лькісь ко́мнат (*Юшкавічы Свісл.*). 12. Та́к чалаве́к жыве́, што́-та́ ду́мая, на што́-та надзе́яцца (*Астрына Шчуч.*). 13. Ка́жды ўсё што́-то ду́мае, усё чы́м-то недаво́льны (*Перстунь Гродз.*). 14. А по́тым і яшчэ́ які́я-та сьвятьі́я, усі́х та́м не запо́мніш (*Шылавічы Сл.*). 15. А прас ко́лькі-то міну́т е́хаў яго́ сасе́т с кірмашу́ (*Студзенікі Свісл.*). 16. Ду́рань ён, балбо́ча бы́ля-што́ (*Гарны Шчуч.*). 17. Ні выбіра́йця, сюды́ по́йдуць дро́ва быля-які́я (*Бабіна Гродз.*). 18. Цяпе́рака ў людзе́й губа́ не ду́ра, абыля́-чаго́ е́сьці не хо́чуць (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 19. От, гаво́рыш боньць-што́ (*Сонічы Гродз.*). 20. Ты́ што́, ужо зглу́зьдзіў, гаво́рыш боньць-што́ (*Лунна Маст.*). 21. Рабі́ць усё трэ́ба до́бра і акура́тна, а то зрабі́ў боньць-яку́ю каду́шку (*Даніла́ўцы Ваўк.*). 22. Ні глядзі́, памы́й падло́гу быньць-яко́й гану́чай (*Карэвічы Шчуч.*). 23. Бяры́ буньць-каго́, а то ца́ло жы́ця бу́дзяш перабіра́ць і та́к адзі́н застане́са (*Новая Руда Гродз.*). 24. До́бра купі́ць што-ко́львек (*Крэва Смарг.*). 25. Хто́ прас каго́ ірву́ць, пра́гнуць чаго-ко́львек, пала́юць ачы́ма, а така́я куле́йка да ко́жнага пры́йдзе (*Радунь Воран.*). 26. А я́ цалю́ткімі дня́мі кручу́ся, ні ру́к ні но́х

не чу́ю, сярэ́дзіну ву́н усю́ адабра́ла, але́ ш зато́е што-ко́львек ма́ю за душо́ю (*Буняны Ашм.*). 27. Прынясі чаго-ко́ляк закусіць (*Прыдоўгае Шчуч.*). 28. То́лькі но́чу некато́рыя прыхо́дзілі чаго-ко́львечы ў вёску (*Парэчча Гродз.*). 29. Трэ́ба, каб было́ што-ко́ліка (*Дакудава Лід.*). 30. Што-ко́ліка вырабля́е гэ́тым дзе́цям, сабра́ўшы іх: малю́я, ле́пя. Я утну́ цябе́ за́ра чым-ко́ліка! (*Солы Смарг.*). 31. А што́ ру́скія, то яны́ ні́чо́га ні прызнаю́ць, не́кіясьці, хто́ іх ве́дае (*Поліпніца Воран.*). 32. Не́йксьці чалаве́к цябе́ пыта́я (*Самаравічы Зэльв.*). 33. Не́касьць цётка чужа́я пашла́ да ва́с (*Калеснікі Бераст.*)

*83. Прасачыце выкарыстанне адносных займеннікаў у значэнні няпэўных. Якім няпэўным займеннікам літаратурнай мовы яны адпавядаюць найбольш?*

1. Та́м быва́е, то з бутэ́ляк стрыля́юць, то с чаго́ (*Геранёны Іўеў.*). 2. Хадзілі да па́на ў дво́р, каб зарабіць якую капе́йку (*Голдава Лід.*). 3. Як хло́пяц яку́ю хо́ча дзе́ўку ўзяць, то бярэ́ мала́ды́ сва́та, бутэ́льку і ідзе́ да то́е дзе́ўкі (*Цырын Карэл.*). 4. Да Нава́гратка пад'е́хаць каму́ трэ́бо, купіць чаго́. А мо на́ват і сьвінчо́ якоё зако́лямо (*Шчорсы Навагр.*). 5. Быва́е, ма́ма й зазлуе́цца чаго́ на на́с, але ні ка́жа (*Салтанішкі Воран.*). 6. Хто́ яго́ зна́я, мо́жа хто́ ішо́ў курыы́ў ды кінуў аку́рак, і загарэ́ўся гэты́ сто́х (*Лозкі Дзятл.*). 7. Набяру́, быва́е, кастры́цы, нясу́ дзе́ хо́ць каму́, каму́ дзе, каму́, хто́ хо́ча (*Лаздуны Іўеў.*). 8. Анно́ цягну́лі, пагра́білі ў каго́ што́ па ха́тах, павыганя́ўшы на́с (*Малыя Азёркі Маст.*).

*84. Ахарактарызуйце дыялектную асаблівасць ва ўтварэнні няпэўных займеннікаў.*

1. А калі́ што́ й трэ́ба было́, ні рабава́лі людзе́й, хадзілі, прасілі дзе-што́ (*Мастаўляны Лід.*). 2. Мы́ жылі́ то́лкі са свайго́ труда́: што́-дзе се́ялі тро́хі, дзе-яка́я гра́тка была́ (*Ладзенікі Навагр.*). 3. Ма́тка паста́віць на сто́л сялёткі яко́ё ці йшчэ́ дзе-чаго́, і ўсё (*Сакалы Воран.*). 4. А на́с за парціза́наў і вы́вязьлі. Мо́жа хто-дзе́ й шапяну́ў, хто́ ве́дае (*Сухары Гродз.*). 5. Ціпе́р ужэ́ мо́жно жы́ць, кап то́лько мір, спако́й бы́ў. Ха́й сабе ну, калі́ нідаста́ча дзе-чаго́ (*Сухары Гродз.*). 6. Найма́лі ха́ту дзе-чыю́ і та́м гуля́лі (*Мігдалы Воран.*). 7. Пры́дзя вясна́, аш разляга́яцца па вёсцы, харашо́ як сьпява́юць. А по́тым дзе-яко́га палю́біш і за́муш вы́йдзяш (*Заполле Лід.*). 8. До́бра, што дзе́ці часьце́й прыяжджа́юць, то прывязу́ць дзе-чаго́

(*Меляхі Іўеў.*). 9. Зьбіра́ліса мы́ заўсягды́ канпа́ніяй дзе ў каго́ ў ха́це (*Галавічполе Шчуч.*).

### *1.7.5.6. Дзеяслоў*

1. У інфінітыве, які заканчваўся этымалагічным *-кти*, захоўваецца гукаспалучэнне *-кчы*: *с'э́кчы, таўкчы́, ц'акчы́, п'акчы́, валакчы́, заракчы́с'а.*

2. Націск у інфінітыве на *-ці*, як правіла, прыпадае на апошні склад: *пляс'ц'і́, м'ас'ц'і́, в'ас'ц'і́, н'ас'ц'і́.*

3. Зваротныя дзеясловы, пераважна ў форме прошлага часу множнага ліку, заканчваюцца постфіксам *-с'*: *мы с'м'айа́л'іс', йаны́ купа́л'іс', йа байа́лас'.*

4. У асобных гаворках сустракаецца будучы незакончаны час, які складаецца з дапаможнага дзеяслова *быц'* і дзеяслова прошлага часу, напрыклад: *А што я заўтра буду рабіла, як сёні ўсё зраблю* (Дзярэчын Зэльв.).

5. Пашыранай выступае форма будучага складанага часу з дапаможным дзеясловам *м'эц'* (*м'э́ца*): *Скажы кап Сашык прышоў, я маю яму нешто даць* (Бабіна Гродз.).

6. Форма другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу часта ўжываецца без канчатка *-і* (*-ы*): *вы́вяс', вы́н'ас', вы́жан', піка́ж, пало́ш, пагл'а́н'* (*пал'а́н'*), *зажэ́н', пан'а́нч, выдз', н'і ўпа́ц'.*

7. Дзеясловы другой асобы множнага ліку загаднага ладу, аснова якіх канчаецца на шыпячы, маюць формы на *-ча*: *л'а́шча, нарэ́шча, йэ́шча, нама́шча, ні́ пла́чча.*

8. Назіраюцца выпадкі ўжывання дзеясловаў трэцяй асобы першага, другога спражэння і рознаспрагальнага дзеяслова *есьці* з канцавым *-ц'і* на месцы *-ц'* у літаратурнай мове: *йон л'ажы́ц'і, гаво́рыц'і, прыхо́дз'іц'і, хо́чац'і, прыб'ага́йац'і; йаны́ бйу́ц'і, ушта́нуц'і, л'ажа́ц'і, жывуц'і, бу́дуц'і, йаду́ц'і, с'п'ава́йуц'і.*

9. Некаторыя дзеясловы другой асобы множнага ліку цяперашняга і часцей будучага простага часу прымаюць да сябе дадатковы элемент *-ц'а* (*-ц'э*): *вы л'ажыц'эц'а, крычыц'э́ц'а, маўчыц'э́ц'а, с'адз'іц'э́ц'а, байіц'э́ц'аса, аддас'ц'э́ц'а, падйас'ц'э́ц'а, пал'ажыц'э́ц'а, пастайіц'э́ц'а, пагл'адз'іц'э́ц'а, падв'аз'іц'э́ц'а.* Формы дзеясловаў будучага часу, як правіла, ускладняюцца імператыўным значэннем, дадаткова выражаюць адценне некатэгарычнага загаду: *Вазьмеця во дзісятку, сустрэняця, та аддасьцеця яму* (Берšты Шчуч.). *Каровы ў Геці добро ходзяць; зажанеця туды і паляжыцеця на фуфайках* (Бабіна Гродз.).

10. Дзеясловы часам маюць марфемную будову, ускладненую суфіксальнымі кампанентамі *-ов-, -ав-, -оў-, -аў-*: *кладав'іцца, с'адав'іцца, выдумо́ўвац', аддо́ўвац'*.

*85. Выпішыце формы інфінітыва з асновай на заднеязычны гук, параўнайце з адпаведнымі формамі літаратурнай мовы, вызначце адрозненні.*

1. І з тако́е мукі́ прыхо́дзілася пякчы́ хле́п (*Вераскава Навагр.*). 2. Для таго́, кап сьпякчы́ хле́п, трэ́ба ш была́ мука́ (*Перстунь Гродз.*). 3. Нагрузілі, што ніхто́ се́хчы не мо́х, усе́ стая́лі (*Эймінаўцы Бераст.*). 4. Яны́ хаце́лі ўцякчы́ зно́ў на Азёркі, а і́х акружы́лі, і яны́ – на вы́ган (*Монькавічы Маст.*). 5. Ішо́ў я́ ішо́ў, захаце́ў се́хчы, сёх пры даро́зе, мо́жа, ду́маю, хто́ бу́дзя е́хаць і падвязе́ (*Стрыеўка Гродз.*).

*86. Растлумачце дыялектную спецыфіку зваротных форм дзеясловаў.*

1. Мно́го маладзёжы сабіра́лась, по́тым та́нцы ўстра́йвалі да сама́га ра́нку (*Гарнастаевічы Свісл.*). 2. Як са сваі́м пазнако́мілась, то на́тта ш мне́ валасы́ яго́ панара́віліс̌ь (*Раневічы Свісл.*). 3. По́тым, як адзялі́ліс̌ь, было лякчэ́й (*Плябанаўцы Ваўк.*). 4. Адны́ вы́лятуць, другі́я прыся́дуць, жыло́сь ве́льмі ке́пско (*Асташына Навагр.*). 5. Шаластуны́ склада́ліс̌ь з бубе́нчыкаў з нікялю, і ў сярэ́дзіне памяшча́лі ша́рачак, прыкрапля́ліся да скурано́га па́ска двана́ццаць шту́к (*Альхоўка Навагр.*). 6. Учы́лась я́ сла́ба, маціма́цiку саўсі́м ле́два цягну́ла (*Ранявічы Свісл.*). 7. Я дак ні на́тта й за малако́м ганя́лась, усе́ не́як чае́ да чае́ (*Пагарэлка Карэл.*). 8. Я ж ду́мала: вярну́ўсь мо́й бра́т, дый кажу́, што калі́ зва́ла, ты́ не шо́ў (*Плябанаўцы Ваўк.*).

*87. Знайдзіце і ахарактарызуйце дыялектныя формы будучага складанага часу дзеясловаў.*

1. Пае́ду да сва́та, трэ́ба зыска́ць зь яго́ гро́шы, даўно́ пазы́чыў, мо́жа ўжо́ ма́я адда́ць (*Каробчыцы Гродз.*). 2. Як даве́даўся, што за́муш выхо́дзіць, тады́ ён узя́ў о́тпуску і прые́хаў на то́й ча́с, як яны́ ма́юць вянча́цца (*Панарка Смарг.*). 3. Шва́гер ма́яцца па сы́ну ста́віць па́мянтку [помнік] (*Меляхі Іўеў.*). 4. Што́ рабіць ма́еш?

(*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 5. Ма́юся купіць парася́т (*Вялікія Канюшаны Лід.*). 6. Во кап ба́ба твая́ яшчэ́ жыла́, то бо́лей табе́ чаго́ каза́ць ме́ла (*Навасёлкі Лід.*). 7. Спры́ту таго́ няма́шука, ма́емся паміра́ць ужо́ (*Валеўка Навагр.*).

*88. Знайдзіце дзеясловы другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу і растлумачце іх дыялектную асаблівасць.*

1. Вы́жань каро́ву с пярэ́гараткі і зажэ́нь на па́шу (*Шылавічы Сл.*). 2. Дзе́ду, прыла́п [зашый, падрамантуй] мне́ ва́лянкі (*Міцкавічы Смарг.*). 3. Міша з а́рміі чамада́н прывёс, дзе́сь ішо́ў з а́рміі і купі́ў. То ў то́й чамада́н ўсё скла́лі, і с ты́м за́муш пайшла́. А ціпе́р паля́нь, ко́лькі ўсяго́! (*Ражкі Свісл.*)

*89. Прааналізуйце ўскладненую марфемную будову дзеясловаў незакончанага трывання.*

1. Каб была́ лажавілася ме́сяц наза́т у шпіта́ль, то ўжо́ п апара́цыю зрабіла п (*Грандзічы Гродз.*). 2. А сьві́ньні вы́лязьлі з але́шніку, і не́мцы забра́лі, а мы́ ізну́ў галадава́лі (*Гольманцішкі Воран.*). 3. Адны́м ця́шка было́, галадава́лі (*Красулі Шчуч.*). 4. Садаві́ся, чаго́ ты́ стаі́ш? Садаві́ся на зэ́даль (*Новы Двор Свісл.*). 5. Така́я яго́ ба́ба, што на ўсі́х выдумо́ўвае (*Вялікая Палонка Дзятл.*). 6. Сусе́т мне́ ні аддо́ўваў гро́шы цэ́лы го́т (*Дзераўная Сл.*). 7. Як ты́ разваліў мо́й пло́т, то табе́ й атшкадо́ўваць [разлічвацца за шкоду] пры́дзецца (*Шчорсы Навагр.*). 8. Пат курыцай гусяня́ты вы́вяліся, то ўчо́ра, паку́ль атшуко́ўвалі гусяня́т, ку́рыца не атхо́дзіла ат бе́рага (*Шылавічы Сл.*). 9. Я й кладавілася, і ўстава́ла с платко́м, кап ма́ма ні ба́чыла, што́ я́ зрабіла (*Андрэеевічы Ваўк.*). 10. А калі́ ўжэ́ павянча́юцца, та малады́ маладу́ю, а ча́шнік дру́шку сядавіць на кале́ні (*Клепачы Бераст.*). 11. Ды хле́б аддава́е табе́ і ка́жа, кап саба́ку адала́, кап саба́ка зьеў (*Шылавічы Сл.*). 12. Та́к і жылі́: сваі́м дзе́цям ма́чаха ўсё ле́пшо дава́я, а на́м – го́ршо (*Мікелеўшчына Маст.*). 13. Ста́лі дарава́ць [дарыць], ко́жнаму падно́сілі тале́рку (*Малі Астр.*). 14. Нясе́ш саган, на пры́пячак стано́віш, з двума́ ўшкамі такі́ кру́гленькі (*Вялікія Яцыны Астр.*). 15. Жы́та жа́лі ручну́ю, снапы́ вяза́лі, насі́лі, дзісяткі́ станавілі (*Калядзічы Ваўк.*). 16. Харо́шыя лю́дзі – нельзя́ крыўдава́цца на і́х (Парэчча Гродз.).

### *1.7.5.7. Прыслоўе*

Дыялектныя асаблівасці выяўляюцца ў марфемна-словаўтваральнай структуры прыслоўяў. Вылучаюцца цэлыя групы лексем, якія адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў прыстаўкамі, суфіксамі, структурай складаных слоў.

1. Прыслоўі, як правіла, з часавым значэннем выкарыстоўваюцца з прыстаўкай *у*: *уво́с'ан', ул'э́та, узда́ўтра, ура́но*.

2. Група прыслоўяў выкарыстоўваецца з суфіксам *-я* (*-е, -ё*), якому ў літаратурнай мове адпавядае суфікс *-а*: *в'э́рн'а, ма́рн'а, факты́чн'а, ску́шн'а, в'ідо́чн'а, п'іл'н'а, наўмы́с'н'а, в'э́чн'а, пэ́ўн'а*.

3. Некаторыя прыслоўі і прыслоўныя займеннікі са значэннем колькасці, меры і ступені выкарыстоўваюцца з суфіксам *-а* (*-о*) замест літаратурнага суфікса *-і*: *тро́ха, в'э́л'мо, то́л'ко, ко́л'ко, сто́л'ка*.

4. Прыслоўі са значэннем часу ўжываюцца з суфіксам *-ы* (*-і*) адпаведна літаратурнаму суфіксу *-а*: *учо́ры, узда́ўтры, с'о́н'н'і*.

5. Да шэрагу прыслоўяў далучаюцца суфіксы, якія не нясуць якой-небудзь сэнсавай, словаўтваральнай ці стылістычнай нагрузкі:

*-й*: *учо́рай, та́май, ту́тай;*

*-ка*: *учо́рака, с'о́н'н'ака, та́мака, ту́така, во́с'ака, во́нака, адс'у́л'ака;*

*-й+-ка*: *учо́райка, с'о́н'айка, та́майка, ту́тайка, по́тымайка;*

*-чы*: *учо́рачы, с'о́н'н'ачы, ту́тачы, та́мачы, ц'ап'э́рачы;*

*-а (-о)*: *ту́та, та́ма, зно́ва, по́тымо;*

*-ся*: *в'э́л'м'іс'а, кал'іс'ц'іс'а.*

6. Дыялектнай асаблівасцю вызначаюцца прыслоўі ад слоў, якія па такой мадэлі ў літаратурнай мове прыслоўяў не ўтвараюць: *пазагаро́йу, загу́мнам'і, пазаадры́ні'чу*.

7. Многія складаныя прыслоўі характарызуюцца адметнасцю свайго лексічнага складу і кампанентнай структуры: *пас'л'аўчо́ра, во́йдз'а, с'эрадн'а́, с'араўно́*.

*90. Выпішыце словы з канцавым суфіксам -ка. У якіх групах прыслоўяў паводле значэння ўжыванне гэтага суфікса пераважае?*

1. Ажня́ко ба́чыць яна́ ту́така ту́ю сваю́ стару́ю, за яко́й ганя́яцца, ды пасу́нулася к ёй (*Аляксандраўшчына Зэльв.*). 2. Атту́ляка го́сьці прые́халі. Яны́ атсю́ляка ро́дам (*Алякшышкі Воран.*). 3. Гэ́та было́

во́сьдзека, ту́т, ля Скрундзёў (*Ананічы Дзятл.*). 4. Мы́ дзісяка хацёлі дро́вы руба́ць, аля до́шч пашо́ў (*Лияткі Маст.*). 5. Дзісяйка та́к галава́ балёла, што ду́мала, ні вы́трываю (*Новая Руда Гродз.*). 6. За́ўтрака ён абавяско́ва павінен прыехаць (*Заполле Маст.*). 7. А яко́я калісьціка што́ было́? Нічо́го ні было́, самы́я тка́лі, вяза́лі, дзёрлі, пра́лі (*Ражкі Свісл.*). 8. Як ку́піць ба́цька ту́флі, та адно́ каліішака ідзямо́ ў цэ́ркву бо́сыя, а ту́флі ў рука́х нясёмо (*Васілевічы Сл.*). 9. Лёдзьвяка да́жа наямо́ся, калі васкрасёнё найдзе́ (*Малькавічы Маст.*). 10. Ідзі́, жанчы́на, са сваі́м дзі́цем па даро́зе і не абара́чвайся, хоць невёдамака што́ бу́дзяш чу́ць за сьпіно́ю (*Ашнаравічы Сл.*). 11. Пасадзіла, ка́жа яна́, квахтуху́, чака́ла, чака́ла, а кураня́т няма́шака (*Пагарэлка Карэл.*). 12. А жа́лі о́ране́й ні то́ што сёньнямка, сярпо́м, і ру́кі, быва́я, пара́жаш (*Малькавічы Маст.*). 13. Ажно́ пато́мака міліцыя ўжэ́ з'іска́лася міне́, што я́ ўцёк дамо́й (*Даўбенкі Шчуч.*). 14. Яны́ по́тымака ўзялі́ ў аго́нь накі́далі іх (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 15. По́тымка прыхо́дзілі даха́ты сваі́м раска́звалі (*Суботнікі Іўеў.*). Сёньняка я́ яшчэ́ нічо́га ня ёла, а ўста́ла ра́на, бо рабіла ў гаро́дзе (*Мінойты Лід.*). 16. Выраза́лі с папёру за́йчыкі, та́мака ваёрачкі і вёшалі на ёлку (*Парэчча Гродз.*). 17. Гэ́та было́ тады́ка, калі́ цябе́ яшчэ́ ні было́ на сьвёці (*Пруды Гродз.*) 18. А то ўну́кі ўсё зьбіра́лі сабе́ ту́т не́йкую макулату́ры ды таквёляка ту́т яе́ назьбіра́лі, а ў шко́лу ды не занёсьлі (*Равіны Карэл.*). 19. Ту́така чу́я не́йкі сто́гн, ля́мант, кры́к і абярну́лася (*Ашнаравічы Сл.*). 20. От ба́цько памёр дзёвяць лёт наза́т, а мне́ здаёцца, што ніда́ўно, што ўчо́рака яшчэ́ (*Каменка Бераст.*). 21. Гэ́то ва́м ціпёрака до́бро жывёцца, а мы́ нічо́го до́браго ні ба́чылі (*Бераставічаны Бераст.*). 22. Тудэ́йка ты́ ня за́йдзяш пяшко́м, далёка (*Старая Дубавая Гродз.*).

*91. Прачытайце, знайдзіце словы з фінальнымі суфіксамі, якія не маюць семантычнай нагрузкі. Абазначце гэтыя суфіксы.*

1. Узо́ўтрачы мне́ трэ́ба ко́нчыць сваю́ дзя́лку пало́ць, а пазо́ўтрачы схадзі́ць у сусёдню вёску памахчы́ сястры́ (*Данілавічы Дзятл.*). 2. Сыно́к Васілёк прыплывáе, паёсьць і зно́ячы ёдзя лавіць (*Труханавічы Дзятл.*). 3. Цяпёрачы лю́дзі злы́я ста́лі, неспага́длівыя (*Крэва Смарг.*). 4. Ту́тачы нёкалі мі́ны стая́лі (*Бердаўка Лід.*). 5. Учо́рачы бы́ў на ры́нку (*Вензавец Дзятл.*). 6. Ву́нячы й на́ша каро́ва йдзе́ (*Хорашава Навагр.*). 7. Атку́лячы гэ́тыя гу́сі прышлі́? (*Сімкава Карэл.*). 8. І ста́лі зно́ва яны́ сваё шы́і мёраць (*Любча Навагр.*). 9. А хло́пцы набяру́ць у кяшэ́ні хрушчо́ў, жуко́ў маёвых і

дзяўча́там за па́зуху як накіда́юць, тады піску, е́нку на ўсю ха́ту; ба́бы по́тымо ла́яць (*Пераганцы Воран.*). 10. Во́т прышлі ў вёску адну́, а та́ма ку́зьніца была́ (*Любча Навагр.*). 11. Па тры́ разы́ хадзіла да яго́, паку́ль ту́та жы́ў, алі по́тым забра́лі ў Гро́дно (*Малая Бераставіца Бераст.*). 12. Вясе́лё тагды́ было́ ня гэ́дак, як цяпе́ра, ня ме́лі гэ́такіх суке́нак, як за́рас ма́юць (*Нёўда Навагр.*). 13. Пабо́чся тро́хі, а то мне́ ве́льміся це́сно (*Міхайлы Свісл.*). 14. Адно́ лю́дзі каза́лі: ве́льміся ўжэ́ ніхаро́шы, лёхкія ру́кі ме́ў (*Бераставічаны Бераст.*). 15. Памага́ю ўну́каў гадава́ць, ба грашы́ма ні ве́льміся магу́ (*Раневічы Свісл.*). 16. Во́ як мы́ жылі калісьціся (*Сідоркі Свісл.*). 17. Та́макава павінны бы́ць грыбы́ (*Рагозніца Маст.*). 18. Та́макай зусім ня та́к жыву́ць, як у на́с (*Чыжуны Воран.*). 19. Чаго́ прышлі́ кабе́ты ту́тай? (*Алешавічы Маст.*). 20. А по́сьляй ужэ́ я́ туды́ зайшла́, і та́мака, у альшыне́, дзінітка не́дезе стая́ла (*Лазы Ваўк.*). 21. Тады́ ўжо наза́ўтраё маладу́ю забіра́юць (*Лозкі Навагр.*).

*92. Знайдзіце прыслоўі з суфіксам -е (-я). Уплывам якой мовы тлумачыцца наяўнасць гэтага суфікса ў гаворках Гродзеншчыны?*

1. Стра́шне злы́ бы́ў гэ́ты вы́падак адэ́льскі, ні ме́ў літасьці, ні сэ́рца (*Каробчыцы Гродз.*). 2. За па́шу плацілі асо́бня, а за зямлю́ асо́бня (*Якубаўцы Воран.*). 3. А то ш ве́льме ўжэ́ стра́шно было́ (*Сурынка Сл.*). 4. Я астала́ся адна́, а яна́ была́ зь дзе́цьмі, ёй мусо́ве было́ да дзяце́й (*Ражкі Свісл.*). 5. Куды́ ты́ та́м пацягнесься, у са́мую Белагру́ду? І аўто́бусы ла́дня не хо́дзяць (*Янаўляны Лід.*). 6. А калі́ мы́ атступа́лі ды на́с ве́зьлі дадо́му, то было́ та́к стра́шне (*Эймінаўцы Бераст.*). 7. Ва́жня пашы́та твая́ суке́нка (*Нача Воран.*). 8. Анто́ну ўжо ла́дне гадо́ў, а яшчэ́ ніжана́ты (*Малінаўка Ашм.*). 9. Ма́рне прапа́ла раса́да, бо ні палілі ў ча́с (*Зноскі Ашм.*). 10. На́шы дзе́ці пагавары́лі ду́жа ўлаго́дне, не́кія но́выя сакрэ́ты ў іх знайшліся (*Павіланцы Воран.*). 11. Прые́хаў сы́н з жо́нкай і дзе́цьмі, та́к хлапо́тне ўсё лето́, хутчэ́й бы пераж́ыць гэ́ты ча́с (*Сіняўшчына Іўеў.*). 12. У майго́ чалаве́ка звы́кля до́брая рабо́та (*Клешнякі Шчуч.*). 13. Ма́ці на́рачне ад на́с пайшла́, бо ў дачкі́ мало́я дзіця́ (*Лунна Маст.*). 14. Мары́ля, дачка́ мая́, у ве́лько сьвя́то ро́джана. Стары́нныя лю́дзі гавары́лі, што ў яго́ на́т ні мо́жне пачаса́цца (*Андрэевічы Ваўк.*). 15. А ў калхо́з былі́ та́к, што са́м дабраво́льне, каза́лі піса́ці тако́е заяўле́ня, што прыня́ць у калхо́с (*Квасоўка Гродз.*).

*93. Знайдзіце словы, якія ў гаворках і ў літаратурнай мове адрозніваюцца суфіксамі -а (-о) і -і (-ы). У якіх семантычных групах слоў такое адрозненне назіраецца?*

1. Учóры купíў жарóўку [электралямпачку], а надвячóрак згубíў, нідзé ні знайдý (*Самаравічы Зэльв.*). 2. Пéршы я́ за ёю дзьвéры закрывáла, а цяпéр янá знóў параскрывáла (*Дубароўшчына Дзятл.*). 3. Ранéй і прáўды гэ́та вялíкае сьвя́та былó (*Навасёлкі Лід.*). 4. Нáды былó сусéдзям памагáць (*Камяніца Ваўк.*). 5. Зацéрка трóхі гóлат спатóліць ды сóн змóрыць. Назáўтры знóў дбáў пра ядý (*Вялікая Кракотка Сл.*). 6. Зáўтры бýдуць у хáці пад абéт (*Дубраўка Маст.*). 7. Учóры ў крáму прывязьлí нáтта здáтныя чахлы́ (*Гнезна Ваўк.*). 8. Зáўшы ранéй ўсíх прыхóдзіў на рабóту (*Дубна Маст.*). 9. Сёні янá павíнна прыйсьці (*Агароднікі Свісл.*). 10. Вясéлё ігрáлі не гэ́дако, як сёні, адзíн стóл быíў, а лю́дзі сядзéлі кругóм на сланáх (*Залацеева Зэльв.*). 11. Зіна сёні ў крапля́сты [стракаты, рознакаляровы] кафтáн прыбрáлася (*Ханявічы Свісл.*). 12. А кóлька рублéй заплаціла? (*Ністанішкі Смарг.*). 13. Хрысьцíлі дзяцéй тóлька кумы́ (*Пелкаўшчына Іўеў.*). 14. Трóхо цýкру туды́, і ганýчу зрóбіць і гэ́таму дзіця́ці ў рóт вапхнé (*Крывічы Зэльв.*). 15. Як чалавéк, так трóшка вéрыць трэ́бо, бо безь вéры ніц ні бýдзе (*Перступь Гродз.*). 16. Ты́ вéльма тýт ні выдзыгáй, ба зáрас палýчыш па нóсі і пайдзéш скавы́чучы (*Новая Руда Гродз.*). 17. Я вéльмо люблю́ палічáстае [квас з грыбамі], як мáма звáрыць (*Варонча Карэл.*). 18. Тóлька ў лéс заéхалі, як паляцéлі самалёты (*Рышыняты Смарг.*). 19. Хоць і ця́шко былó, а ўся́ ш прыдзеш дахáты – дзéткі гаманкýюць, і трóхо як і ляхчэ́й стáне (*Сурынка Сл.*).

*94. Ахарактарызуйце асаблівасць дыялектнай прэфіксальнай структуры прыслоўяў.*

1. Увóсені лён трýць у сýшні, бярэ́ гаспадáр пятнáццаць дзéвак, і трýць цáлы дзéнь, націрáюць па дзьвé капы́ (*Вялікае Сяло Шчуч.*). 2. Мы́ ўдóма былí, як бáцька на вайнý забрáлі (*Райца Карэл.*). 3. Пабýць ты́ ўдóма, бо яшчэ́ як улéзуць дзéці ў агарóт, усю́ цыбýлю павылýпваюць (*Дубна Маст.*). 4. А яшчэ́, калí былí малады́я, хадзíлі ўзімóю на вечаркí (*Бібікі Зэльв.*). 5. Узімóю мужыкí малацíлі жы́та ў гýмнах цэ́пам, бáбы ўзімóю лён цéрлі на цéрніцу (*Студзенікі Свісл.*). 6. Узáўтра пóйдзем у крáму па хлéп (*Жомайдзі Лід.*). 7. А тады́ быíў стóраш, узя́ў вы́няў гэ́ту стрэ́мку, пакуры́ў пóршам, нагý

гэ́ту ўкруціў, ну ўсё. Ду́малі, што удо́бра бу́дзе (*Лаздуны Іўеў.*). 8. Упе́рш усё пажа́лі, а тады́ вазілі сало́му (*Міжэвічы Сл.*). 9. То была́ я́ ўпе́рш у Зе́львi на по́чцi, кап палучы́ць пасы́лку (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 10. Се́м ле́т хло́пцу, а ўжэ́ трэ́ба, каб каравэ́ хло́пяц па́сьвіў, а жане́ ўра́но (*Крывічы Зэльв.*). 11. Аднаго́ на́шага сусе́да ўнара́нку, як то́лькі разьзядня́ла, акружы́лі ха́ту і ста́лі ад яго́ ўсё выво́зіць (*Першамайск Шчуч.*).

*95. Прааналізуйце словаўтваральную аснову складаных слоў.*

1. Я пасьляўчо́ра прыхо́дзіла, а ты́ ка́жаш, ні была́ (*Ражкі Свісл.*). 2. Заві́сімо ат таго́, у ско́лькі па́сак было́ бе́рдо ў кро́снах, такве́ле [столькі] трэ́ба было́ снава́ць ні́так (*Пляцянічы Зэльв.*). 3. Стакве́ля [многа, шмат] ягáт насабіра́ла (*Міцкавічы Смарг.*). 4. Такро́к зусі́м сады́ ні цьвілі́ (*Старынкі Воран.*). 5. Затакро́к былі́ вялі́кія маразы́, што сады́ павымярза́лі (*Бярэзіна Іўеў.*). 6. Но́сіцца па ву́ліцы як злыду́х (*Мэйры Лід.*). 7. Сярадо́льні сы́н мо́й у Мінску ро́біць (*Майсеевічы Ваўк.*). 8. Яшчэ́ каро́ву серадня́ ні даі́ла (*Цыбары Лід.*). 9. Одгэ́ты матэрыя́л найле́пшы (*Масушыны Свісл.*). 10. Пагля́нь, у́ньдзя не́хто стаі́ць (*Лdaткі Маст.*). 11. Ву́ньдзя віда́ць мае́ пале́ткі (*Вішнеўка Бераст.*). 12. Во́дзека яна́ стая́ла, а по́тым пайшла́ (*Навасады Іўеў.*). 13. У́ньдзека хле́б ляжы́ць, а ты́ ні ба́чыш (*Лунна Маст.*). 14. Ойдзя памідо́ры паса́дзіш, ту́т і́м зацішне́й бу́дзя (*Ляткі Маст.*). 15. Янэ́ во́йдзі ўжэ́ даўно́ сядзя́ць (*Падазёркі Гродз.*). 16. Аво́йдзяка й паміра́ць бу́ду, куды́ мне́ з гэ́тай ха́ты (*Дзераўная Сл.*). 17. Каб было́ сяраўно́, то ла́зілі б у акно́ (*Завадзічы Гродз.*). 18. Яму́ ні кажы́, а сянно́ на сво́й ла́т ця́гня (*Ятвезь Свісл.*). Агы́ньдзяка йду́ць каравэ́ (*Паўлава Сл.*).

*96. Ахарактарызуйце марфемную будову прыслоўяў, утвораных ад слоў, якія ў літаратурнай мове прыслоўяў аналагічнай мадэлі не ўтвараюць.*

1. Ён усё загу́мнамі хо́дзіць, бліжэ́й, ка́жа (*Тракелі Воран.*). 2. Ні ла́сь, кажу́, пападво́кнiччу, каб акна́ ні разьбі́ў (*Старыя Паддубы Шчуч.*). 3. Ідзе́ ў ле́с пазаадры́нічу, каб лю́дзі ні ба́чылі (*Бабіна Гродз.*). 4. Усе́ сядзя́ць на ваза́х, а маладыя з двара́ выяжджа́юць усто́ячкі (*Сланева Навагр.*). 5. А со́сенкі былі́ ў на́шым ляску́ яшчэ́ невялі́кія, а пазанізу со́снаў – баравіко́ў! (*ЁдкіЛід.*). 6. Тэ́кліны дзе́ці ўсё пазавуго́лічу таўку́цца (*Ліпнікі Шчуч.*). 7. Смалі́ць сьві́ньню

бýдзям у пазахлéўі, мáла хтó ўбáчыць пазахлéўем (*Нагорнікі Дзятл.*). 8. Ýнь дзяцька нáш нясéцца праспаля нéчага да нáс (*Сенцяняты Смарг.*). 9. Цярэззаганы́ кóнь ні пацягня, выяжджáй на дарóгу (*Заляшаны Ваўк.*).

### *1.7.5.8. Службовыя часціны мовы і выклічнік*

Дыялектны характар слоў, прыналежных да службовых часцінаў мовы, вызначаецца тым, што адны з іх выступаюць як рэгіянальныя, невядомыя літаратурнай мове, а другія з'яўляюцца агульнавядомымі, але ў гаворках Гродзеншчыны набылі дыялектныя значэнні.

Сярод апошніх нямала прыназоўнікаў. У якасці семантычных дыялектызмаў ужываюцца наступныя прыназоўнікі:

*аб* – з месным склонам указвае на прадмет харчавання як сродак жыццядзейнасці: *ап картóшцы н'а бýдз'а жыц', скац'іна сыта ап травэ́*; з вінавальным склонам указвае на прадмет гаворкі, думкі: *ап штó йаны́ гавóрац', ап карóву дýмайа, ап с'в'э́жыйа гурк'і пытáла.*

*ад* – з родным склонам указвае на адносіны перавагі па якасці, велічыні, узросту і інш.: *асá мн'э́йшайа ат пчалы́, старэ́йша ат с'астры́.*

*з* – з творным склонам указвае на прадмет перамяшчэння: *пайэ́хал'і с пóйаздам, прыйэ́хал'і с трáктарам, пайэ́хаў з вóзам па с'э́но.*

*на* – з вінавальным склонам указвае на музычны інструмент, на якім іграюць: *ігрáў на скрыпачку, ігрáў на гармóн', ігáраў на байáн*; з вінавальным склонам абазначае накіраванасць дзеяння на аб'ект прызначэння: *пашóў на óтпуск, пайэ́хал'і на гóс'ц'і, сходз'іл'і на адв'э́тк'і.*

*пад* – з вінавальным склонам указвае на набліжэнне да пэўнай мяжы ці стану: *йанá стáла пад дз'э́ўку, б'арэ́цца пат кавал'э́ра*; з вінавальным склонам указвае на прыладу, з дапамогай якой адбываецца дзеянне: *с'э́йал'і пад баранý, пат трáхтар бýл'бу садз'іл'і.*

*перад* – з вінавальным склонам ужываецца для вызначэння падзеі або моманту, за некаторы час да якіх што-небудзь адбываецца: *пóснайа кýц'а п'эрат Кóл'ады, п'эрат с'в'áто трэ́ба памыц' адз'э́н'а, пэ́рад л'э́то карóва ац'ал'íласа.*

*праз* – з вінавальным склонам указвае на адрэзак часу, у межах якога што-небудзь адбываецца: *праш чатыры гады́ л'ілá с'л'óзы, праз двá дн'і бал'э́ла галавá, прас тры́ гатк'і с'адз'э́ў*;

з вінавальным склонам указвае на прадмет, з дапамогай якога што-небудзь адбываецца: *п'эрайэ́хала праз ло́тку, паслу́хайаш праз ра́дз'ійа, прас ц'іл'іфо́н гавары́л'і*; з вінавальным склонам указвае на дзеянне, якое адбываецца больш як адзін раз: *праз два́ разы́ йэ́з'дз'іла, прас тры́ захо́ды злав'і́л'і*; з вінавальным склонам указвае на прадмет размовы, думкі, пачуцця: *п'іса́'ў праз йайэ́, забы́ла прас цук'э́рк'і, раскажы́ праз g'іл'а́.*

*у* – з вінавальным склонам указвае на прадпрыемства, куды хто-небудзь паступае ці паступіў на працу: *паступ'і́ў рабіц' у заво́т.*

Акрамя семантычных дыялектызмаў, у складзе прыназоўнікаў сустракаюцца таксама дыялектызмы іншых тыпаў – лексічна-фанетычныя, лексічна-словаўтваральныя. Так, у многіх гаворках ужываецца прыназоўнік *кала*, які захаваў стражытную цвёрдую аснову: *Кала нас бліска жыве* (Паляцкішкі Воран.). *Гумно кала хаты стаяла* (Стральцы Гродз.). *Кала мосту сядзелі* (Вялікія Баяры Шчуч.). *Так і пасьвілі дзеці каровы кала лесу* (Дубічы Ваўк.).

Прыназоўнік *край* суадносіцца з літаратурным *ускрай*: *Яе хата край дубровы* (Плябанаўцы Ваўк.).

Прыназоўнік *са* выкарыстоўваецца абмежавана. На месцы яго ўжываюцца варыянты *за, з (дру́жыцъ за мно́й, за с'мэ́ху, з стра́ху)*. Каб пазбегнуць аманімічнасці сінтаксічнай канструкцыі *за мной*, у некаторых гаворках узнік падвойны прыназоўнік *за-за*, які ўказвае на рух аб'екта за кім-небудзь. Параўн. *іс'ц'і* (*з кім?*) *за мно́й* і *іс'ц'і* (*за кім?*) *за-за мно́й: Зь ім ні йдзі, а йдзі за мной*; *Ай, я такая капальшчыца, пайдзі за-за мной, та яшчэ кошык бульбы назьбіраяш* (Бабіна Гродз.).

Дыялектныя асаблівасці злучнікаў праяўляюцца ў іх варыянтнасці. Так, злучнік *бо* ў розных гаворках рэалізуецца ў трох варыянтах: *бо, ба, бу*. Падобная варыянтнасць назіраецца і ў выкарыстанні злучніка *то*: *то, та, ту*. У чатырох разнавіднасцях ужываецца супраціўны злучнік *але*, прычым тут на фанетычную варыянтнасць наслойваецца яшчэ і акцэнтная варыянтнасць – націск або на першым, або на другім складзе: *а́л'э́, а́л'а́, а́л'і, ал'.*

Шырока выкарыстоўваюцца злучнікі *чы* 'ці, або', *бы́тта* 'быццам', *а то́* (*та́*) 'бо, таму што', *азно́ў* 'ажно'.

Лексемы *чы́ста* і *ры́хтык* функцыянуюць і як прыслоўі, і як утвораныя на іх базе параўнальныя злучнікі.

Сярод часціц варта назваць часціцу *не*, якая на Гродзеншчыне ўжываецца ў трох варыянтах. Самым пашыраным з'яўляецца

варыянт *ні*: *н'і пайду́, н'і ду́маў, н'і хачу́*. У гаворках, дзе пераважае поўнае якаянне, выкарыстоўваецца варыянт *ня*: *н'а́ в'э́даў, н'а да́м*. Прамежкавае становішча займае варыянт *не*, вымаўленне яго няўстойлівае, часта набліжанае да *ні*.

Сярод выклічнікаў уяўляюць цікавасць рэгіянальныя словы, невядомыя літаратурнай мове. У якасці прыкладаў можна прывесці эмацыянальныя выклічнікі *вэ* (Новая Руда Гродз.), *йо* (Бершты Шчуч.), *л'а* (*л'а́-пал'а*) (Мастоўскі, Ваўкавыскі, Зэльвенскі, Свіслацкі, Слонімскі, Бераставіцкі, Гродзенскі, Іўеўскі раёны), якія выражаюць розныя пачуцці, пераважна здзіўленне, захапленне. Шмат дыялектных выклічнікаў, якія выражаюць волевыяўленне – пабуджэнне жывёл да дзеяння: *чкэ-чкэ-чкэ́* (пры падзыванні свінней), *шк'іры дз'э* 'пры адгоне авечак', *кы́з'а* (пры паганянні каня).

*97. Знайдзіце прыназоўнікі, якія ў спалучэнні са склонавымі формамі назоўнікаў маюць дыялектнае значэнне. Замяніце іх адпаведнымі прыназоўнікамі літаратурнай мовы.*

1. По́тым забра́лі друго́га бра́та, мало́чшага ад мяне́ (*Асіпаны Смарг.*). 2. Ён мяне́ бо́льш ад усі́х любі́ў (*Гнезна Ваўк.*). 3. Цэ́лы дзе́нь аб сухі́м сядзе́лі (*Крэва Смарг.*). 4. Ско́лькі перапілá пігу́лак, цяпе́р аб мле́ку жыву́ (*Альхоўка Навагр.*). 5. Пятру́к с канём пае́хаў у Азёры, да машы́ны мо бінзі́ны ні было́ (*Бабіна Гродз.*). 6. Як пры́ехаў да маладо́й, ба́цька не запро́х, сказа́ў, пасьля́ сва́дзьбы, як пры́едуць на госьці́; така́я варо́шка, што ня мо́жна е́хаць на жарапцы́ да вянца́ (*Вішнева Смарг.*). 7. Сы́нку, а ці до́бро ва́с та́м ко́рмяць. Ці пуска́юць пайсьці́ на го́рат (*Лаўрыновічы Зэльв.*). 8. Пагна́лі на́с у заво́т рабі́ць, та́м апілкі насі́ла (*Масушыны Свісл.*). 9. Ён рабі́ў у заво́дзі сьціклава́рам (*Пудзіна Лід.*). 10. Пасьля́ мы́ пера́ехалі ў другі́ заво́т, да друго́га хадзя́іна (*Даўбенкі Шчуч.*). 11. Ціпе́р у калхо́зі мало́ хто́ бу́льбу пат каня́ са́дзіць, усе́ стара́юцца пат са́жалку (*Барбарычы Гродз.*). 12. Прас чаты́ры дні́ бру́чку пало́ла (*Жылі Іўеў.*). 13. Малы́ ня сьпі́ць, як ня чу́я ўскалы́ху [калыханьня], то праз усю́ но́ч не сплю́, калышу́ яго́ (*Міцкавічы Смарг.*). 14. Яе́ праз два́ разы́ бі́лі – ха́й на міне́ руку́ падымя (*Кіралі Шчуч.*). 15. Я ва́м раскажу́, ну во́сь прас даўне́йшае, як я́ была́ малада́я (*Таркачы Дзятл.*). 16. Яна́ яшчэ́ праз зраро́ўё маё распыта́лася, пагавары́лі кры́ху, і дале́й пае́хала на ро́вары (*Рудзевічы Зэльв.*). 17. Пра́ехалі край ле́су (*Альхоўка Навагр.*). 18. Лажы́са ўжэ́ спа́ць: узо́ўтра нара́нку пайдзе́ш за мно́й па грыбы́ (*Бершты Шчуч.*). 19. Хо́дзіць за-за мно́й, як цяля́ за каро́вай (*Бабіна Гродз.*). 20. Як ста́ў ляце́ць самалёт за-за мно́ю ды ўсё ляці́ць ды ляці́ць (*Лазы Ваўк.*).

*98. Прааналізуйце варыянтнасць злучнікаў бо і то ў гаворках Гродзеншчыны.*

І. 1. Прадалí карóву, бо не давáлася даíцца (*Ністанішкі Смарг.*). 2. Пайдý памыíюса, ба зафэ́ндаласа каля пéчы (*Бабіна Гродз.*). 3. Памагáю ўнýкаў гадавáць, ба грашыíма ні вéльміся мáю (*Раневічы Свісл.*). 4. А хазяйства ў нáс былó вéлькая, бу сямья́ вéлькая (*Дзеткі Воран.*). 5. Прыхóдзілася хавáць, бу за агéнтамі німóжна былó жыíць (*Кавалеўшчына Воран.*). 6. Хтóсьці купíў тóй плýг, то сходзíліса і глядзéлі (*Васілевічы Гродз.*). 7. Калí не éдзеш са мнóй, то сідáй в маю́ хáту (*Гальшаны Ашм.*). 8. Стáлі варажыíць на Шчóдрыка: та тýфлі кідáлі церас хáты, та платыí абнімáлі, та йзнóў Андрэ́й быíў прáзьнік – канóплі сéялі (*Сідоркі Свісл.*). 9. А як ні былó чыíм палíць, та хадзíлі ў лéс (*Кавалі Бераст.*). 10. А як пашлá я на рабóту ў пятнáццаць лéт, та хоць нéкія грóшы мéла (*Рудзевічы Зэльв.*). 11. А я, дýмаю сабé, штó, ну штó я заснý, а цётка та ўцячэ́ ад мінé (*Лаздуны Іўеў.*). 12. Ну а вучыцяля́ та нáс ганя́лі, не пускáлі, кап хадзíлі на вясéля. Мáла што ганя́лі, та яшчэ́ па хáтах хадзíлі (*Маскалі Маст.*). 13. Як німá хлóпца, ту нáтта брыíтка былó ісьцí (*Дзеткі Воран.*). 14. Калí дóбрая былó жыíта, ту нажынáлі па трыí капыí ў дзéнь (*Віганцы Воран.*). 15. Як найхóдзілі нéмцы, ту лю́дзі ўсё павыгрýжвалі з дамóў, дзé якоё былó зярнó ў камóрцы, усё панасíлі ў жыíто (*Пруд Дзятл.*). 16. Калí тáта пампэ́, ту мáчыха мнé ні дáсьць нічóга пасáгу (*Голдава Лід.*). 17. Зáмуш трэ́ба былó аддавáць, па-лю́цку хацéла, ту й бая́лася, вядóма, які ў маладыíх рóзум (*Янчукі Шчуч.*).

ІІ. Прышлá ўчóра да мянé Гэ́ля пазыíчыць сíтка. Я́ нóво сíтко купíла, бу старóя падрáлася. Усé брáлі, ту падрáлі. Янá пытáя: «Мáня, а таваё сíтко цэ́ла? Хачý кісéль працадзíць» – «Няўжó ш, цэ́ла. Я́ ш нóва купíла, бу тóя падрáлася. Купíла на рыíнку, фáйна такóя». Пашлá я брáць тóя сíта, а ягó німá. Пытáю ў дзяцéй, мо брáлі. Кáжуць, што нé. А пóтым мужыíк мóй кáжа, што ўжó Кóстусь забрóў сíта, бу ягó Рэ́ня кісéль рашчынíла, а сёня бýдзя варыíць. Сьвя́та, ту ўсё сíтка йдýць бярýць адзíн ад аднагó. Кап у магазíні былó, ту кáжды купíў бы, а тáк пазычáюць. Трóха шкóда, бу прэ́нтка падзярýць, алі ні магý атказáць. Ціпéр тáк гóла ў тыíх магазíнах. Нівядóма ш, як жыíць дáляй. А маладыíм ту йшчэ́ цяжэ́й.

*М.І.Бурак, 1918 г. н.*
*в. Шаўдзіні Лід., 1992 г.*

*99. Знайдзіце ў сказах і прааналізуйце варыянты злучніка але.*

1. На́м было́ весяле́й, хоць цяжало́ было́ за такі́м трудо́м, але зато́ весяло́. (*Бяляўшчына Ваўк.*). 2. Бу́льба ма́рнянка была́, а́ля пашо́ў до́шч – атпіла́са (*Бабіна Гродз.*). 3. Усяля́к было́, аля́ жылі́ лю́дзі, е́лі зацірку, скваа́рку, карто́плю (*Віганцы Воран.*). 4. Аля́ рабі́лі ўсе́: і па́рапкі, і мы́, дзе́ці, і та́та (*Петрымаўшчына Іўеў.*). 5. Дзе́т на вайне́ не́калькі ра́с пара́нены бы́ў, а́лі вярну́ўся жывы́ (*Гезна Ваўк.*). 6. Хоць нарo̒бімся, алі́ й павасалі́мся (*Дзеткі Воран.*). 7. По́сьля й саве́ты паўхо́дзілі, а́лі лю́дзі апя́ць хава́ліся (*Пруд Дзятл.*). 8. У дзе́ўках бу́ду сядзе́ць, а́лі за яго́ ні пайду́ (*Урцішкі Іўеў.*). 9. Уся́к, дзе́ткі, прыхо́дзіласё, а́лі ма́ці твая́ хі́трая была́ (*Райца Карэл.*). 10. Хоць скаці́ны тады́ не было́ – не́мцы сабе́ забіра́лі – а́лі каро́ўка яшчэ́ была́ (*Малыя Азёркі Маст.*). 11. Сто́іло тады́ кіно́ мо з два́ццаць капе́як, а́лі ўсё ро́ўна ма́ма рэ́тко дава́ла, бо жылі́ бе́дно (*Гарнастаевічы Свісл.*). 12. Хоць мала́я была́, а́лі ўжо́ по́мню: усе́ е́дуць ко́нна зь не́йкімі пі́камі і гарго́чаць (*Рымтыненты Смарг.*). 13. Прыхо́дзілі ні то́лькі хло́пцы з другі́х вёсак, а́лі й дзяўча́та (*Замасцяны Шчуч.*). 14. Тро́хі пазабы́ла Расі́ю, ну аль яшчэ́ ў па́мяці. Ну я́, была́ галада́ла, ні я́ адна́, аль на́ша ўся́ сям'я́ (*Алекшыцы Бераст.*).

*100. Знайдзіце дыялектныя злучнікі. Да якога разраду яны адносяцца, якое сінтаксічнае значэнне маюць?*

1. Табе́ ні́ґды няма́ ча́су, ты́ чы́сто вада́ (*Мсцібава Ваўк.*). 2. Го́лас, чы́сто ў майго́ дзе́да (*Грабава Зэльв.*). 3. На вы́гані было́ ты́ля птушо́к, баґа́сы (ціпер німа), кулікі́ былі́ чы́сто с каўне́рыкамі чо́рнянькімі (*Падбалоцце Зэльв.*). 4. Ска́ча, ры́хтык малады́ (*Казловічы Зэльв.*). 5. Прыбіра́ецца, ры́хтык на вясе́лё ці да вянцу́ пае́дзя (*Старое Сяло Зэльв.*). 6. Гэ́таё футэ́рко ры́хтык на яго́ шы́та (*Юшкавічы Свісл.*). 7. По́йдзеш за́муш чы не́? (*Гальшаны Ашм.*). 8. Дзе́т пыта́ецца: «Ко́зачка, ко́зачка, чы нае́лася ты́?» (*Ашмяны Ашм.*). 9. Пэ́нсю андала́ і пыта́лася, чы бу́ду газэ́ты выпі́сваць (*Рудзевічы Зэльв.*). 10. Алі я́ ні магу́ сказа́ць, чы гэ́та пра́ўда, ну мне́ каза́лі, што яна́ была́ графі́ня (*Лаздуны Іўеў.*). 11. Чэ́рас ча́с чы два́ дастава́лі бо́ханы (*Вялікая Бераставіца Бераст.*). 12. Чаму́ ты́ такі́ сухабрэ́цкі [худы], чы нічо́га не ясі́, чы та́к яко́я табе́ лі́ха, трэ́ба ш тро́хі ап сабе́ паклапаці́цца (*Сінкіняты Іўеў.*). 13. Былі́ пусьці́лі бу́йду, што ён разво́днік, азно́ў ніпро́ўда (*Бабіна Гродз.*). 14. Пазы́чыла п ты́ мне́ бо́йкі, а та малака́ назьбіра́ласо, трэ́бо

ка́плю ма́сла зьбіць (*Старына Маст.*). 15. Трэ́ба паражніць кату́х для каро́вы, а то німа́ ўжо́ ёй дзе́ стая́ць (*Багудзенка Навагр.*). 16. Ну ўсё, ду́маю, забяру́ць, ану́м нічо́го (*Шурычы Свісл.*). 17 Як плазава́лі [абчэсвалі] бярвéньні, то трасо́к мно́га на патпа́л бу́дзя, адно́ трэ́ба сабра́ць і занясьці́ даха́ты (*Багданаўцы Шчуч.*).

*101. Прачытайце тэксты. Знайдзіце дыялектныя варыянты часціцы не і растлумачце, якім тыпам ненацікнога вакалізму адпавядае іх вымаўленне.*

I. Але ш і та́нцы былі́, ні раўня́ цяпе́рашнім. Ко́лькі разо́ў я цяпе́рачы ў клу́п хаджу́, як вясе́ля якóя, на мо́лаць паглядзе́ць, а ўсё ш ні тыя́ та́нцы, што калі́сь. Цяпе́р усё бо́льш гу́рбамі мо́лаць стаі́ць. Калі́ ся́баркі няма́, дык і на та́нцы ні по́йдзяш. А ране́й усе ра́зам былі́. Прыго́жа гуля́лі. Як зайгра́юць музыка́нты, дык аш душа́ раздава́лася, да само́га ра́ньня скака́лі, аш по́куль пе́ўні сьпява́ць ні ста́нуць. А наза́ўтра зно́ў за рабо́ту бра́ліся. Ні спа́лі, як вы́ цяпе́рачы сьпіцё пасьля́ дзіскацэ́кі да палу́дня. А як сьвя́то яко́я было́ вялі́кая, то тады́ днём ні працава́лі. На сьвя́та рабі́ць нічо́га німо́жна. Ужэ́ тады́ крыі́шку бо́льш сьпі́м, але такса́ма нідо́ўга. Ве́села бы́ло, ні то́е, што за́рас: па сьвя́тах нівóднага чалаве́чка на дварэ́ ні ўба́чыш, усё бо́льш па ха́тах.

*М.М.Марцюк, 1920 г. н.*
*в. Жомайдзі Лід., 1992 г.*

II. Я́к даўне́й жылі́? Се́мі былі́ ве́лькія, па двана́ццаць дзяце́й. Як рашчы́ніш дзяжу́ ў аўто́рак, дак друго́е пе́чыва ўжо́ ў панядзе́лак рашчыня́ць трэ́бо, бо да аўто́рка ня даця́гняш. Усе ш ядунэ́ былі́ до́брыя. І рабі́лі бяс чысла́, бяс ме́ры, ле́пш, як ціпе́р. Трыма́лі па тры́ каро́ве. Карміць ня было́ чы́м, па́сьвілі пат Капца́мі, бо́льш ня было́ дзе́. Сьвярэ́пу цяга́лі, кап пакармі́ць. І малака́ ня было́, усе́ тры́ каро́ве тыя разы́ ў адно́ вядро́ падо́іш. Сьве́ту ня было́, цёскі палі́лі. Усяля́к было́. Мно́го хто́ бе́дно жыі́ў. Ба́ба адна́ жыла́ ў сяле́, дак яе́ дзе́ці сваé ня любі́лі й е́сьці ня дава́лі. Паўс плато́х хо́дзіць, а ба́цько мо́й адрэ́жа во таквéля камяку́ й дае́ мне́, каб я́ ёй зане́сла. Я́ ёй пада́м прас пло́т, яна́ й зье́сьць.

*Е.Ф.Сасім, 1916 г. н.*
*в. Маласельцы Карэл., 2003 г.*

*102. Прачытайце сказы, знайдзіце выклічнік ля. Да якога разраду ён адносіцца, у якіх раёнах Гродзенскай вобласці бытуе?*

1. Умéя дóбра скакáць, ля, расцы́гаўся [расскакаўся] хлóпяц на ўсю́ хáту (*Васілевічы Сл.*). 2. Ля́, як мяцéліць стары́, другí малады́ тáк ні павéрняцца (*Путрышкі Гродз.*). 3. Ну шчэ́ пакá да таé вайны́, ну то, ля́, дóбро жылí (*Зарудаўе Маст.*). 4. А я аднáя ў сям'і дзéўкаю былá, лéпш са ўсíх выдзявáлася, тут, ля́, і прымéціў мянé мóй Фэ́ля (*Гнезна Ваўк.*). 5. Хварóбы, ля, былí ўжэ́ ўсяля́кія, зарáзныя, а тады́ ш íх яшчэ́ ні лячы́лі, та ён бая́ўса, кап ні заразíца (*Рось Ваўк.*). 6. Мáці плáча: калхóс прыйшóў, жы́то ўжэ́, ля́, забірáюць да жну́ць (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 7. Рэ́чка ту́т, ля́, цяклá, ры́бы былó ўся́кая, я́ гэ́то й самá пóмлю (*Падбалоцце Зэльв.*). 8. Ужó пíшуць бáцьку пісьмó: ля́, Валóдзё жэ́ніцца ды бéдну бярэ́ (*Чырвонае Сяло Зэльв.*). 9. Тáм язьмíн рóс. Ён зарвáў адну́ галíнку, мéньшую, – гэ́та я́, другу́ю, бóльшую, – гэ́та ён, пацалавáў ты́я галінкі, падары́ў на дóўгую вéчную пáмяць. Во, ля́, якáя былá культу́ра (*Старынцы Бераст.*). 10. Éдзя дзéт на базáр, вязé ту́ю рэ́пу прóдаць, каб, ля́, ужэ́ хлéба купíць, та капу́сты купíць, та сáла (*Сідоркі Свісл.*). 11. Пайшлí ў калхóс, там рабíць сíлаю застаўля́лі, бо й былó, ля́, гэ́дак: дзяцéй аднá гадавáла, халасьця́цко плацíла, а самóй ні былó ску́ль рубля́ ўзя́ць (*Масушыны Свісл.*). 12. Ля́, тáта выдыбáя [выходзіць] с кантóры, атрымáў грóшы, то дóбра (*Куклічы Свісл.*). 13. Нéшта трóньціць [пахне] ту́т каля нáс, ля́, гэ́та ш язьмя́нь цьвіцé (*Трабы Іўеў.*).

*103. Прачытайце, знайдзіце памяншальна-ацэначныя формы слоў розных часцін мовы. Якія з гэтых форм не ўжываюцца ў літаратурнай мове? Якую сэнсава-стылістычную нагрузку маюць памяншальна-ацэначныя формы?*

I. 1. Але ўсягó аднéнькі гіктáрык ля́ды пасьпéлі прыдбáць (*Бялькоўшчына Смарг.*). 2. Усё жы́цейка атпрацавáла (*Жупраны Ашм.*). 3. Трэ́ былó цэ́лую зімíчку прáсьць, а цэ́лую вясьнíчку ткáць тóе няшчáснае зрэ́бе (*Ваверка Лід.*). 4. Прышлí дахáты галаднютія (*Пруды Гродз.*). 5. Сядзі́ паціхю́тку і маўчы́ (*Моцеўцы Шчуч.*). 6. Сы́н падабню́ткі да бáцькі (*Гальшаны Ашм.*). 7. Кругóм усё былó галю́тка: ні трáўкі, ні ку́сьціка (*Енчы Воран.*). 8. Да мянé кажню́ткі вéчар зьбірáюцца і жанчы́ны, і мушчы́ны (*Правыя Масты Маст.*). 9. Я ш нівучóна, нівóднага мéсячыка да шкóлы ні хадзíла (*Лазду-

*ны Іўеў.*). 10. Навю́ткі касьцю́м парва́ў (*Індура Гродз.*). 11. Ране́й селяні́н ме́ў ніве́льчанку ха́ту (*Зялёны Бор Ашм.*). 12. Пае́хаць ні шту́ка, але німа́ нічагу́тко злажы́ць, а та́м бу́дуць усе́ убра́ныя ў швэ́драх (*Падбалоцце Зэльв.*). 13. Пяро́т на Куцю́ аве́с зме́лям, кісе́ль вару́, пячэ́нчыкі пяку́, куцю́ вару́ (*Баранавічы Карэл.*). 14. Я́ ча́ста сы́рчыкі насі́ла ў Юра́цішкі прадава́ць (*Лаздуны Іўеў.*). 15. Жа́лі мы́ цалю́скі дзе́нь, а паку́ль снапы́ ў ба́пкі пастаўля́лі, то ўжэ́ бы́ў до́бры суто́нак (*Крапіўніца Свісл.*).

II. А Бо́жа, дзе́ткі, я́к та́мака было́. Нацярпе́лася я́ за сваю́ жы́ця. Як пачала́ся вайна́, дык дзе́т усё ў а́рміі ды ў а́рміі. Я́ і касі́ла, і малаці́ла. Жы́ць жа трэ́ба было́. А дзяце́й у мяне́ было́ шасьцёра. Фэ́ляньку было́ шасна́ццаць гатко́ў. Дык ён усё рабіў. Анагда́й прыне́сла я карасі́ны, а ён узя́ўся ля́мпачку запалі́ць. І я́к так яму́ папа́ла? Уся́ карасі́на вы́лілася на яго́ й ад лучы́ны загарэ́лася. А я́ вы́шаўшы была́, узя́ўшы дра́пцы, ду́мала, бу́льбачкі ўкапа́ю на вячэ́рку. Чу́ю, е́нчыць! Я́ – кулём у ха́ту А Бо́жа ш мо́й, Фэ́лянька ўве́сь у агні́ кача́ецца па падло́зі. Ту́така я́ на яго́ ко́ўдру – стушы́ла аго́нь. А ён, бе́дняньнкі, та́к е́нчыў: «Маму́ська, рату́й!» Я́ аж валасы́ на сабе́ рва́ла. По́тым зле́тала да Мацке́йча па каня́ і паве́зла да до́хтара. Владучы́ха, нябо́шчыца, шмэ́льцу прыне́сла, дык я́ ўсё ма́зала яго́ е́дучы. А ў бальні́цы дахтары́ зачыні́ліся, мяне́ ні ўпуска́юць. Мо́жа дзе паскрабалі яго́, бо на́тта ён е́нчыў. А прас пя́ць дзён мо́й Фэ́лянька й памёр. Памярлі́ Гэ́нюська, і Я́ська, і Юзачка, а по́тым ужо́ й Паўлю́сь. Я́ська і Юзачка дык не́кіх та́мака патро́наў не́дзя нашлі́. По́тымака ўзялі́ і ў аго́нь кіда́лі, пасучы́ каро́ўкі. І даха́ткі ўжо́ самы́я ні прышлі́. На́тта шма́т гатко́ў ужо прашло́, а дзе́так сваі́х цёнгля сьню́. Да высьвянчэ́ньня я́блычка ні зье́м, бо тады́, ка́жуць, на ты́м сьве́ці маі́м дзе́ткам ні даду́ць.

*Мацкевіч А.Ю., 1907 г. н.*
*в. Пелкаўшчына Іўеў., 1989 г.*

## *1.8. Вывучэнне біяграфіі і навуковай спадчыны лінгвістаў Гродзеншчыны*

Адзін з напрамкаў лінгвістычнага краязнаўства – вывучэнне жыцця і дзейнасці лінгвістаў, якія нарадзіліся і жылі, працавалі ці працуюць у пэўным рэгіёне. Гэта могуць быць даследчыкі, якія вывучалі розныя аспекты як літаратурнай, так і

дыялектнай мовы ці займаліся збіраннем і сістэматызацыяй мясцовага дыялектнага матэрыялу. Гродзеншчына ведае шэраг такіх асоб. Ніжэй для прыкладу прыводзяцца звесткі пра найбольш знакамітых даследчыкаў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускай лінгвістыкі і якімі можа ганарыцца Гродзеншчына. Інфармацыя пра іх даецца сціслая, але прыкладаецца спіс літаратуры, зварот да якой дасць больш поўнае ўяўленне пра жыццё і навуковую справу гэтых даследчыкаў.

### *Рысінскі Саламон*

Нарадзіўся С.Рысінскі ў 60-я гады XVI стагоддзя ў в. Рысін на Полаччыне (цяпер Пскоўская вобласць Расіі). Пачатковую адукацыю атрымаў у доме дробнага шляхціча. Быў заўважаны прыдворнымі гетмана Георгія Радзівіла і накіраваны на вучобу.

Пазней С.Рысінскі стаў настаўнікам шляхецкіх дзяцей у вёсках Вялікага Княства Літоўскага, а таксама суправаджаў сваіх выхаванцаў за мяжу.

Служыў пры двары Радзівілаў, быў прыдворным паэтам, вучоным, выкладчыкам, перакладчыкам, асветнікам Хрыстафора Радзівіла.

Удзельнічаў у друкаванні кніг у Любчанскім друкарскім двары. Сам пісаў працы філасофскага, царкоўнага, асветніцкага характару. Надрукаваў некалькі сваіх кніг. Галоўнай кнігай, над якой працаваў больш за 30 гадоў, з'яўляецца «Зборнік прыказак», выдадзены ў Любчы ў 1618 годзе. У зборнік уключана 1800 прыказак, сабраных у наваколлі Любчы. С.Рысінскі слухаў прыказкі на мясцовай беларускай мове, перакладаў іх на польскую, тлумачыў па-лацінску. Часта прыводзіў лацінскія, старажытнарымскія і грэчаскія прыказкавыя паралелі.

«Зборнік прыказак» меў вялікую папулярнасць у Еўропе. За паўтара дзесяцігоддзя перавыдаваўся шэсць разоў у розных гарадах Рэчы Паспалітай. Зборнік меў вялікае значэнне, паказаў, што беларуская мова простых людзей вельмі багатая.

Памёр С.Рысінскі 13 лістапада 1625 г. Пахаваны ў в. Дзяляцічы Навагрудскага раёна.

*Літаратура пра С.Рысінскага:*

1. Порецкий, Я.И. Соломон Рысинский / Я.И.Порецкий. – Минск, 1983.

2. Рысінскі Саламон // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – 1987. – Т. 4. – С. 552.
3. Рысінскі Саламон Фёдаравіч // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 1995. – С. 118.

### *Карскі Яўхім Фёдаравіч*

Нарадзіўся 1 студзеня 1861 г. у в. Лаша (цяпер Гродзенскага раёна) у сям'і настаўніка. Пачатковую адукацыю атрымаў у народным вучылішчы (в. Ятра Навагрудскага раёна), сярэднюю адукацыю – у Мінскім духоўным вучылішчы і Мінскай духоўнай семінарыі. У 1881 – 1885 гг. – студэнт Нежынскага гістарычна-філалагічнага інстытута. Пасля сканчэння яго выкладаў рускую мову і літаратуру ў 2-й Віленскай гімназіі. З 1893 г. – выкладчык рускай мовы Варшаўскага універсітэта. У 1894 г. прысвоена званне прафесара. У 1896 г. у Маскве абараніў доктарскую дысертацыю. У 1901 г. выбраны членам-карэспандэнтам Расійскай АН. З 1905 г. рэдагаваў аўтарытэтны навуковы часопіс «Русский филологический вестник». 1905 – 1910 гг. – рэктар Варшаўскага універсітэта. У 1916 г. прысвоена званне акадэміка. З гэтага года жыве ў Петраградзе (Ленінградзе). Я.Ф.Карскі – вядомы філолаг-славіст, беларускі мовазнавец, літаратуразнавец, фалькларыст і этнограф, палеограф, археограф, бібліёграф, педагог. Апублікаваў больш за 1000 прац, у тым ліку 96 кніг і брашур. Сярод асноўных прац можна назваць наступныя: «Агляд гукаў і форм беларускай мовы» (М., 1885), «Народныя беларускія вяселлі ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні...» (Вільня, 1888), «Граматыка старажытнай царкоўнаславянскай мовы параўнальна з рускай» (Вільня, 1888 – вытрымала 19 выданняў), «Да пытання пра распрацоўку старой заходнерускай гаворкі» (Вільня, 1893), «Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы» (Варшава, 1893), «Пра мову гэтак званых літоўскіх летапісаў» (Варшава, 1894), «Заходнерускія пераклады псалтыра ў XV – XVII ст.» (Варшава, 1896), «Праграма для збірання асаблівасцей беларускай гаворкі» (СПб., 1896, 1916), «З лекцый па славянскай кірылаўскай палеаграфіі» (Варшава, 1897), «Матэрыялы для вывучэння паўночнамаларускіх гаворак, а таксама пераходных ад беларускіх да маларускіх: Вып. 1-2» (СПб., 1898 – 1903), «Беларусы: У 3 т.» (Варшава, М., Петраград, 1903 – 1922), «Да пытання пра этнаграфічную карту беларускага племені» (СПб., 1903), «Этнаграфічная карта беларускага племені» (Пг.,

1917), «Беларуская гаворка: нарысы народнай мовы з гістарычным асвятленнем» (Пг., 1918), «Руская дыялекталогія» (Л.,1921), «Пра некаторыя асаблівасці беларускай мовы» (Кракаў, 1927), «Славянская кірылаўская палеаграфія» (Л., 1928). Самым значным вынікам навуковай дзейнасці Я.Ф.Карскага стала яго трохтомнае выданне ў сямі выпусках «Беларусы», у якім вучоны ўсебакова і грунтоўна паказаў свету самабытнасць, нацыянальную адметнасць беларускага народа, багацце яго культуры і мовы.

29 красавіка 1931 г. акадэмік Я.Ф.Карскі памёр. Пахаваны на Смаленскіх могілках у Ленінградзе (Пецярбургу).

*Літаратура пра Я.Ф.Карскага:*

1. Крывіцкі, А.А. Я.Ф.Карскі – выдатны беларускі вучоны (Да 100-годдзя з дня нараджэння) / А.А.Крывіцкі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1961. – № 1. – С. 5 – 14.

2. Булахов, М.Г. Ефимий Федорович Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность / М.Г.Булахов. – Минск, 1981.

3. Новікава, Т. Прамень сонца над нашай нівай / Т.Новікава // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 12. – С. 17 – 21.

4. Плыгаўка, Л. Вялікі вучоны-патрыёт зямлі беларускай / Л.Плыгаўка // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1991. – № 1. – С. 12 – 20.

5. Янушкевіч, Я. Яўхім Карскі і яго «Беларусы» / Я.Янушкевіч, К.Цвірка // Карскі Я. Беларусы. – Мінск, 2001. – С. 5 – 30.

6. Цыхун, А.П. Акадэмік з вёскі Лаша Я.Ф.Карскі: Краязнаўча-бібліяграфічны нарыс / А.П.Цыхун. – Гродна, 1992.

## *Федароўскі Міхал*

Нарадзіўся М.Федароўскі 1 верасня 1853 г. ў Варшаве ў мяшчанскай сям'і. У 1870 г. скончыў Варшаўскую мужчынскую прагімназію. У 1873 г. стаў вольным слухачом агранамічнага факультэта Пятроўска-Разумоўскай акадэміі (пад Масквой), але па прычыне хваробы быў вымушаны пакінуць яе. У 1877 г. пераехаў жыць на Пружаншчыну, пасяліўся ў маёнтку маршалка В.Швыркоўскага, што каля в. Шарашова. Прысвяціў сябе вывучэнню мясцовага краю. Стаў збіральнікам. Збіраў прадметы матэрыяльнай і духоўнай культуры. Размах збіральніцкай працы М.Федароўскага здзіўляе сваёй грандыёзнасцю. Ён цікавіўся фізіяграфіяй, антрапалогіяй, вывучаў флору, помнікі культуры і мастацтва, збіраў кнігі, дакументы са

старых архіваў, раскопваў курганы, старажытныя стаянкі чалавека. Найбольшую ўвагу М.Федароўскі праявіў да мовы і фальклору беларусаў. Запісваў паданні і казкі, вераванні і забабоны, жарты і анекдоты, прыказкі і загадкі, песні і прыпеўкі, не цураўся нават фрывольных твораў. Аб'ездзіў і абышоў заходнюю частку Беларусі ўздоўж і ўпоперак. Пачынаючы з 1877 г. абследаваў Пружанскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Слонімскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Аўгустоўскі, Гродзенскі, Вілейскі, Навагрудскі і Слуцкі паветы. У кожным павеце меў сваіх памочнікаў. Пры любым зручным выпадку сам стараўся трапіць да сялян на вяселле, хрысціны, Каляды, Вялікдзень, Сёмуху, дажынкі і інш. Усе даходы, якія давала гаспадарка, траціў на паездкі, набыццё экспанатаў.

У 1897 г. М.Федароўскі пераехаў у маёнтак Падоль, што ў Слонімскім павеце. Ён глыбей вывучае мясцовыя і суседнія ваколіцы, апісвае ткацтва і ганчарства, народныя музычныя інструменты, рыбалоўства, паляванне, цяслярства, гадоўлю свойскай жывёлы, кавальства, вясковае будаўніцтва, занатоўвае лексіку мясцовых гаворак, якую намерваецца выдаць у будучым як дадатак да слоўніка І.Насовіча, запісвае некалькі батлеечных спектакляў, выступае ў друку з артыкуламі.

Пачатак XX ст. – нялёгкі час у жыцці М.Федароўскага. Памерлі яго трое дзяцей. Да таго ж спасцiглі сур'ёзныя гаспадарчыя няўдачы: вада заліла палі і сенажаці маёнтка Падоль. Узнікла пагроза эканамічнага разарэння. У гады першай сусветнай вайны М.Федароўскі ўцягваецца ў супярэчлівае палітычнае жыццё.

Усё гэта паслужыла прычынай таго, што М.Федароўскі пэўным чынам аддаліўся ад збіральніцкай справы, якой прысвяціў трыццаць гадоў жыцця. Толькі ў 1921 г. ён зноў вяртаецца да сваіх сабраных калекцый з мэтай іх навуковай апрацоўкі і выдання. Становіцца навуковым супрацоўнікам аддзела этналогіі Інстытута антрапалагічных навук у Польшчы. Аднак стан здароўя М.Федароўскага пагоршыўся. 10 чэрвеня 1923 г. яго не стала. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве.

Яшчэ ў канцы XIX ст. М.Федароўскі пачаў ствараць на падставе сваіх сабраных калекцый грандыёзную фундаментальную манаграфію пад назвай «Люд беларускі на Русі Літоўскай». Планавалася выдаць яе прыкладна ў 20 тамах. Першыя тры тамы апублікаваны пры жыцці даследчыка: I т.: вераванні, прымхі, забабоны (1897 г.); II т.: казкі, паданні пра мясцовасці (1902 г.); III т.: гістарычныя і мясцовыя паданні, гумарыстычныя апавяданні,

казкі, анекдоты (1903 г.). Наступныя пяць тамоў выдадзены пасля смерці М.Федароўскага: Так, IV т., у якім адлюстраваны пераважна прыказкі і фразеалагізмы, выйшаў 1935 г. У V – VIII тт. (1958 – 1981) падаюцца ў асноўным песні.

Для лінгвістычнага краязнаўства найбольшае значэнне мае IV т. «Люду беларускага». У яго ўвайшло больш за 13000 выслоўяў, сярод якіх больш за 9000 прыказак, 3300 фразеалагізмаў.

Шматлікія матэрыялы, сабраныя М.Федароўскім, засталіся неапублікаванымі. Частка іх загінула ў гады вайны, а частка знаходзіцца ў архівах Польшчы.

Фальклорна-дыялекталагічная спадчына М.Федароўскага, сабраная адным чалавекам, па колькасці адзінак пакуль што не мае сабе роўных у Беларусі. Шматтомнае фундаментальнае даследаванне «Люд беларускі» належыць да найлепшых нацыянальна-культурных каштоўнасцей, якія з годнасцю паказваюць самабытнасць, унікальнасць беларусаў у свеце.

*Літаратура пра М.Федароўскага:*

1. Саламевіч, Я. Міхал Федароўскі / Я.Саламевіч. – Мінск, 1972.

2. Федароўскі, М. // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / М.Федароўскі. – Мінск, 1987. – Т. 5. – С. 393 – 394.

3. Федароўскі Міхал // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мінск, 1995. – С. 585 – 587.

4. Даніловіч, М. Фразеалагічная спадчына Міхала Федароўскага / М.Даніловіч // Роднае слова. – 2003. – № 9. – С. 39–41.

### *Сцяшковіч Тацяна Філіпаўна*

Нарадзілася Т.Ф.Сцяшковіч ў г. Чэрвені Мінскай вобласці 25 снежня 1904 г. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі скончыла прыхадскую школу і два класы вышэйшага пачатковага вучылішча. Пасля рэвалюцыі вучылася ў школе другой ступені. У 1921 г. паступіла ў Чэрвеньскі педтэхнікум, а пасля яго закрыцця перавялася ў Мінскі педтэхнікум і скончыла яго ў 1925 г. Працавала педагогам ў школах Віцебскай вобласці. У 1927 г. паступіла на 2 курс літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педфака Белдзяржуніверсітэта ў г. Мінску і скончыла яго ў 1930 г. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны працавала педагогам ў сярэдніх школах БССР, настаўніцай рускай і беларускай мовы і літаратуры ў г. Магілёве.

У ваенным ліпені 1941 г. эвакуіравалася ў Арлоўскую вобласць, дзе прабыла да лістапада 1941 г. З набліжэннем нямецкіх акупантаў пераехала ў Саратаўскую вобласць. У снежні 1941 г. ў адной з раённых бальніц Саратаўскай вобласці ад хваробы на адзёр памерлі трое яе непаўналетніх дзяцей (муж загінуў раней пад бамбёжкай у Мінску).

З-за адсутнасці месца працы ў школах Т.Ф.Сцяшковіч паступіла на курсы шафёраў у г. Пятроўску, а пасля сканчэння іх працавала па 1943 г. шафёрам Макраускаўскай МТС Фёдараўскага раёна Саратаўскай вобласці. З 1943 па 1945 г. працавала завучам, выкладчыкам мовы і літаратуры ў сямігадовай, а затым у сярэдняй школе.

Па выкліку Міністэрства асветы БССР рээвакуіравана на радзіму ў 1945 г. Два гады працавала інспектарам Гродзенскага аблана, а з 1947 г. і да выхаду на пенсію – у Гродзенскім дзяржаўным педінстытуце (універсітэце імя Янкі Купалы) спачатку старшым выкладчыкам, затым – дацэнтам, загадчыкам кафедраў рускай і беларускай моў, беларускай мовы.

Навучальна-выхаваўчая і навуковая праца Т.Ф.Сцяшковіч адзначана шэрагам узнагарод: ордэнам «Знак Пашаны», Залатым ганаровым знакам польска-савецкай дружбы, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета рэспублікі, Міністэрства асветы; ёй прысвоена званне Заслужанага настаўніка школы БССР.

Як вучоны Т.Ф.Сцяшковіч значны ўклад унесла ў развіццё беларускай лінгвістычнай навукі. Кандыдацкую дысертацыю «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці» абараніла ў 1955 г. Апублікавала дзесяткі артыкулаў. Тры кнігі прысвяціла даследаванню мовы твораў беларускіх пісьменнікаў: «З назіранняў над мовай К.Крапівы» (1961), «Мова твораў Міхася Лынькова» (1965), «Мова эпапеі Міхася Лынькова «Векапомныя дні» (1965), «Займеннік у беларускай мове» (1977). Яе найбольшыя навуковыя дасягненні звязаны з лінгвістычным краязнаўствам Гродзеншчыны. Яна многа гадоў кіравала дыялекталагічнай практыкай студэнтаў, удзельнічала ў дыялекталагічных экспедыцыях. Вынікам збіральніцка-даследчай працы Т.Ф.Сцяшковіч сталі такія кнігі, як «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці Беларускай ССР» (1959), «Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, выслоўі народных гаворак Гродзенскай вобласці» (1968), «Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (1972), «Слоўнік Гродзенскай вобласці» (1983). Імя Т.Ф.Сцяшковіч значыцца ў спісе

збіральнікаў фактычнага матэрыялу да такіх фундаментальных прац: «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т.» (1993 – 1998).

Не стала Т.Ф. Сцяшковіч 6 лістапада 1986 г. Пахавана на Гродзенскіх гарадскіх могілках.

*Літаратура пра Т.Ф.Сцяшковіч:*

1. Крыўко, М.Н. Сцяшковіч Таццяна Піліпаўна / М.Н.Крыўко // Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 546 – 547.

2. Лепешаў, І. Успомнім добрым словам / І.Лепешаў // Гродзенская праўда. – 23 снежня 2004.

### *Цыхун Апанас Пятровіч*

Вядомы беларускі настаўнік і краязнавец А.П.Цыхун нарадзіўся 5 траўня 1910 г. у вёсцы Кунцаўшчына Гродзенскага раёна ў сялянскай сям'і. У восем гадоў спазнаў сірочую долю, застаўся без маці. Пачатковую адукацыю атрымаў у суседняй вёсцы Лаша. Сямігодку скончыў у вёсцы Індура Гродзенскага раёна. За выключныя здольнасці да вучобы і музыкі ён, адзін з нямногіх беларусаў, быў залічаны ў Гродзенскую польскую настаўніцкую семінарыю. Але скончыць яе не ўдалося: забралі ў войска, а пасля войска не было грошай заплаціць за вучобу. Заставаўся адзіны спосаб самарэалізацыі – працаваць на гаспадарцы ў роднай вёсцы. У 1939 г. – зноў служба ў польскім войску ў якасці рэзервіста. Не раз знаходзіўся паміж жыццём і смерцю. Гэта было ў вайну і пры абароне Варшавы, і ў нямецкім палоне, і калі этапавалі з нямецкага лагера ў савецкі, і ў пасляваенны час, калі пагражалі расправай лясныя банды. Але лёс быў літасцівы. Бог бярог А.П.Цыхуна для высакароднай справы, якая чакала яго ў роднай старонцы.

Прафесійная дзейнасць А.П.Цыхуна звязана з асветай, школьніцтвам. Працуючы настаўнікам Лашанскай сямігодкі, польскай сярэдняй школы № 2 г. Гродна, дырэктарам Капцёўскай, Калбасінскай, Батароўскай школ, школьным інспектарам у Гродзенскім раёне, ён цалкам аддаваў сябе таму, каб дзеці шанавалі і ведалі родную мову. У выніку выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў раёне было пастаўлена на высокі ўзровень. Самаадданая праца была адзначана ў 1967 г. прысваеннем А.П.Цыхуну звання «Заслужаны настаўнік БССР».

А.П.Цыхун не проста настаўнік беларускай мовы і літаратуры, а філолаг шырокага профілю ў найлепшым сэнсе гэтага слова. Дваццаць гадоў ён узначальваў літаратурнае аб'яднанне пры гродзенскай раённай газеце, яго вершы, апавяданні часта друкаваліся ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах, а ў 1995 г. выйшла кніга паэзіі «Легенды і балады Гродзеншчыны».

Сэнсам жыцця, унутранай неабходнасцю стала для А.П.Цыхуна краязнаўства. Дзякуючы дзесяткам яго артыкулаў, шырокая грамадскасць даведалася пра многіх выдатных сыноў Гродзеншчыны (М.Пачобута-Адляніцкага, І.Легатовіча, А.Баліцкага, К.Якаўчыка, А.Грыгаровіча, М.Краўцова, Г.Капыцкага і інш.). Энтузіяст і нястомны шукальнік, ён зрабіў вельмі шмат у розных напрамках лінгвістычнага краязнаўства. У вёсцы Лаша стварыў унікальны музей Я.Ф.Карскага, пра які ведалі далёка за межамі Беларусі. Напісаў і выдаў кнігу «Акадэмік з вёскі Лаша Я.Ф.Карскі» (1992), падрыхтаваў да друку ілюстраваны альбом, прысвечаны гэтаму вучонаму. Надзвычай каштоўная кніга А.П.Цыхуна – слоўнік гаворак Гродзенскага раёна «Скарбы народнай мовы» (1994). Матэрыялы да яго аўтар пачаў збіраць яшчэ ў 1939 – 1940 гадах, але асноўная частка слоў была запісана ў пасляваенны час. Гэты слоўнік адзін з лепшых у беларускай дыялектнай лексікаграфіі. Невыпадкова Ніл Гілевіч ахарактарызаваў яго як навуковы і патрыятычны подзвіг настаўніка.

Чуйны да жывога матчынага слова, А.П.Цыхун не мог абысці вусную народную творчасць. Сабрана цэлая калекцыя фальклорных твораў, частка якіх склала зборнік «Песні з народных глыбіняў», апублікаваны ў 2000 г.

Летапісам жыцця можна назваць кнігу ўспамінаў А.П.Цыхуна «Пройдзеныя шляхі-пуцявіны» (2003). Гэта не проста біяграфічнае апісанне жыццёвай дарогі аднаго чалавека, а паказ таго, як цесна пераплецены, знітаваны лёс беларускага інтэлігента з лёсам усяго народа, што гэтак пакутліва перажыў XX стагоддзе.

А.П.Цыхун быў і застаецца вельмі шаноўным у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі. Асабістае сяброўства і творчыя кантакты звязваюць яго з вядомымі пісьменнікамі М.Васільком, А.Карпюком, В.Быкавым, Я.Брылём, Н.Гілевічам, Ю. Пшырковым, Г.Каханоўскім, мовазнаўцам Ф.Янкоўскім, гісторыкам М.Ткачовым, кампазітарам А.Шыдлоўскім, мастаком А.Ліпенем, заснавальнікам астранаўтыкі Б.Кітам і многімі іншымі знанымі людзьмі.

Нягледзячы на свой узрост, А.П.Цыхун заўсёды быў у руху. Яго часта можна было бачыць сярод студэнтаў, настаўнікаў, бібліятэкараў, святароў, дзе ён выступаў са сваімі вершамі, дзяліўся жыццёвым вопытам, заклікаў берагчы нацыянальныя каштоўнасці. Звычайная сялянская хатка А.П.Цыхуна на ўскрайку горада Гродна пабачыла многіх гасцей, прыхільнікаў беларушчыны. Гаспадар кожны раз быў рады такім гасцям. Сустракаў па-беларуску прыветна, з запрашэннем да стала, на якім абавязкова хлеб і да хлеба.

Улюбёны ў свой родны край, А.П.Цыхун балюча рэагаваў на тое, як разбураецца сучасная вёска – патрыярхальная аснова беларускай мовы і культуры: «Не верыцца, што жыццё прайшло і больш не вернецца. Яно перад маімі вачыма, асабліва юначае. Бачыш сваіх блізкіх, знаёмых, з якімі яно працякала. Часта сніцца мне мая Кунцаўшчына. Цяпер яна, на жаль, цяжка захварэла і ніякія лекары ёй ужо не дапамогуць. У вёсцы засталося ўсяго некалькі старэнькіх бабулек. Апошнія хаты зусім пустыя, знямелі. Для мяне ж яна такая, як і дзесяцігоддзі таму.

Кунцаўшчына-вёска, стала ты другою,
Анямеў ў прысадах тваіх пчолак гуд.
А мяне ўсё цягне ў босае дзяцінства,
У кунцаўскі імшалы дзедаў родны кут...»

10 сакавіка 2005 г. А.П.Цыхуна не стала. Пахаваны на Гродзенскіх гарадскіх могілках.

*Літаратура пра А.П.Цыхуна:*

1. Каханоўскі, Г. Педагог – краязнавец / Г.Каханоўскі // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 8. – С. 75 – 76.

2. Пяткевіч, А.М. Педагог, краязнавец, літаратар / А.М.Пяткевіч // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Гродзенскага раёна. – Мінск, 1993. – С. 414 – 416.

3. Пяткевіч, А. Цыхун Апанас Пятровіч / А. Пяткевіч // Людзі культуры з Гродзеншчыны. – Гродна, 2000. – С. 316 – 317.

4. Журавлёв, В. «Я сызнова живу, минувшее проходит предо мною» / В.Журавлёв // Биржа информации. – 15 июля 2004.

5. Даніловіч, М. Апанас Цыхун / М.Даніловіч // Роднае слова. – 2005. – № 5. – С. 48 – 49.

6. Цыхун, А. Пройдзеныя шляхі-пуцявіны: запіскі, успаміны, аўтабіграфія / А.Цыхун. – Горадня, 2003.

### *Лепешаў Іван Якаўлевіч*

Нарадзіўся І.Я.Лепешаў у вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці 23 кастрычніка 1924 г. У 1940 г. скончыў 8 класаў, здаў экстэрнам экзамены за 9 класаў і паступіў у Аршанскі настаўніцкі інстытут, вучоба ў якім была перапынена Вялікай Айчыннай вайной. З 1944 г. ваяваў на фронце, быў паранены пры вызваленні Кенінгсберга. Узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны II ступені, медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі» і інш. Пасля сканчэння Аршанскага настаўніцкага інстытута (1948) працаваў выкладчыкам беларускай мовы ў Свіслацкай СШ Гродзенскй вобласці. З 1956 па 1971 г. выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуры ў Машталерскай сямігадовай школе Скідзельскага раёна і ў Берштаўскай сярэдняй школе Шчучынскага раёна. Завочна скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута (1959).

Працуючы ў школе, І.Я.Лепешаў прымаў актыўны ўдзел у грамадскай дзейнасці, у якасці селькора часта друкаваў свае матэрыялы ў мясцовых, рэспубліканскіх і саюзных перыядычных выданнях. Сур'ёзна займаўся навукова-метадычнымі пытаннямі выкладання мовы і літаратуры. У выдавецтве «Народная асвета» настаўнік выдаў дзве свае кнігі «Изготовление и использование таблиц по русскому языку» (1966), «Литературно-краеведческий кружок» (1969), якія былі высока ацэнены тагачаснай метадычнай навукай.

У 1971 г. І.Я.Лепешава запрасілі працаваць на кафедру беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута (цяпер універсітэт). З гэтага часу пачынаецца надзвычай плённая навуковая дзейнасць вучонага ў галіне беларускай мовы. У 1973 г. абаронена кандыдацкая дысертацыя, у 1985 г. – доктарская. Амаль у пяцідзесяцігадовым узросце І.Я.Лепешаў з юнацкай энергіяй і апантанасцю кінуўся ў вір навуковай справы. Дэвізам яго жыцця з’яўляецца праца, дзень і ноч праца дзеля навукі, дзеля росквіту роднага слова. Яшчэ вельмі важная прафесійная рыса вучонага – выключная акуратнасць у рабоце. У любой яго публікацыі, ці то артыкуле, ці то манаграфіі, чытач не знойдзе павярхоўнасці, тут заўсёды глыбіня разважанняў, аргументы вынашаныя, вывераныя, кожнае слова – на сваім месцы, фраза – адшліфаваная.

За тры дзесяцігоддзі адным чалавекам створаны такі аб'ём навуковай прадукцыі, якім мог бы ганарыцца нават цэлы творчы калектыў. Гэта і манаграфіі, і слоўнікі, і навучальныя дапаможнікі, і

метадычныя распрацоўкі, і шматлікія навуковыя і публіцыстычныя артыкулы ў зборніках і перыядычных выданнях.

Заўсёднай творчай рысай вучонага было імкненне да навізны, навуковага адкрыцця. Ён ніколі не браўся за тэмы, ужо кім-небудзь распачатыя, «збітыя». Так, у 60 – 70-я гг. пачынаецца лексікаграфічнае і тэарэтычнае апісанне літаратурнай фразеалогіі. Першымі ластаўкамі ў гэтай галіне сталі працы І.Я.Лепешава «Фразеалагічны слоўнік» (1973), «Фразеалогія ў творах К.Крапівы» (1976). Толькі з'явіўся ў філалагічнай дыдактыцы такі кірунак, як лінгвістычны аналіз, – праз кароткі час выходзіць манаграфія І.Я.Лепешава «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (1981). Два выпускі «Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў» (1981; 1993) – таксама новае для беларусістыкі. Яшчэ не ўсюды ў ВНУ быў уведзены курс па культуры мовы, як выходзіць з друку дапаможнік «Асновы культуры мовы і стылістыкі» (1989). Доктарская манаграфія «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» (1984) – зноў жа распрацоўка цаліны ў стылістыцы. Першая спроба складання дыферэнцыяльнага слоўніка дыялектных фразеалагізмаў, сабраных у гаворках Гродзенскай і Віцебскай абласцей, таксама належыць І.Я.Лепешаву – «З народнай фразеалогіі» (1991). У 1996 г. у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» выходзіць створаны І.Я.Лепешавым першы ў беларускай лінгвістыцы тлумачальны «Слоўнік беларускіх прыказак».

Кола навуковых інтарэсаў вучонага шматграннае. Найперш трэба адзначыць даследаванні ў сферы фразеалогіі, якой аўтар прысвяціў больш за 10 кніг. Сярод іх самай значнай можна лічыць манаграфію-дапаможнік «Фразеалогія сучаснай беларускай мовы» (1998), якая з'яўляецца вынікам шматгадовых тэарэтычных напрацовак вучонага. Без перабольшання можна сказаць, што па глыбіні вырашэння шматлікіх, часта спрэчных пытанняў у сферы фразеалогіі яна самая грунтоўная ў славянскай фразеалагічнай навуцы.

Шмат увагі вучоны надае даследаванню іншых моўных з'яў, займаецца праблемамі парэміялогіі, лексікалогіі, граматыкі, культуры мовы, стылістыкі, мовы мастацкай літаратуры і інш. Свой навуковы багаж І.Я.Лепешаў шчодра перадае студэнтам на занятках праз навучальную літаратуру. Ім створана серыя навучальных дапаможнікаў для студэнтаў і вучняў школ: «Моўныя самацветы» (1985), «Прыказкі як моўныя адзінкі і іх стылістычнае выкарыстанне» (1995), «У слоўнікавую скарбонку» (1999; 2004), «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (2000), «Практыкум па беларускай

мове» (2001), «Практыкум па лексікалогіі і фразеалогіі» (2001), «Сучасная беларуская мова: Спрэчныя пытанні» (2002), «Чаму мы так гаворым» (2003), «Практыкум па фанетыцы беларускай мовы» (2006), «Культура маўлення» (2007) і інш.

Апошняе дзесяцігоддзе знамянальнае для І.Я.Лепешава тым, што яго навуковы вопыт сканцэнтраваўся ў працах фундаментальнага характару. Пра іх значнасць сведчыць ужо тое, што апублікаваны яны ў самым аўтарытэтным дзяржаўным выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя». Першая праца – «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» ў 2 тамах (1993; 2008) – плён трыццацігадовых пошукаў. Для стварэння яго аўтару давялося прачытаць амаль усю беларускую мастацкую літаратуру, каб адшукаць і выпісаць дзесяткі тысяч фразеалагічных цытат. Складзена картатэка акадэмічнага тыпу, якая дазволіла апісаць усю літаратурную фразеалогію. Выхад у свет гэтага слоўніка – значная падзея не толькі ў грамадска-культурным жыцці Беларусі, але і вялікі ўклад у славістыку наогул, апошняе слова сучаснай славянскай фразеаграфіі. Не менш значныя і дзве другія працы. У «Слоўніку беларускіх прыказак» (2002; 2006) растлумачана больш за паўтары тысячы найбольш ужывальных прыказак, дадзена іх living рознабаковая характарыстыка. У «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (2004) раскрываюцца паходжанне і ўтварэнне каля дзвюх тысяч фразеалагізмаў. Даведнікаў такога ўзроўню аднаго аўтара яшчэ не мае ні руская, ні ўкраінская філалогія. Манаграфію-дапаможнік «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства» (2006) можна назваць энцыклапедычнай. У ёй грунтоўна распрацавана тэорыя прыказак, упершыню прапануюцца шматлікія навуковыя ідэі, даюцца заўвагі і ўдакладненні да многіх ранейшых меркаванняў і высноў іншых аўтараў адносна прыказак.

Вядомы ў Беларусі і такія навукова-папулярныя кнігі І.Я.Лепешава, як «Дазнанні» (2000), «У пошуках ісціны» (2007).

Творчыя дасягненні І.Я.Лепешава можна назваць навуковым подзвігам. Галоўны дэвіз яго жыцця – тварыць, тварыць. Тварыць для таго, каб жыла і ўмацоўвалася родная мова, каб зберагчы яе для нашчадкаў у сваёй роднай краіне.

*Літаратура пра І.Я.Лепешава:*

1. Шэўчык, Н. Нагляднасць і развіццё мовы вучняў пры вывучэнні сінтаксісу / Н.Шэўчык // Народная асвета. – 1965. – № 3. – С. 36.

2. [Рэдакцыйны артыкул:] Навучаючы, вучыцца // Народная асвета. – 1965. – № 10. – С. 4.

3. Лепешаў Іван Якаўлевіч // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. – Т. 3. – Мінск, 1986. – С. 236.

4. Янкоўскі, Ф. Пра запаветнае / Ф.Янкоўскі // Полымя. – 1992. – № 9. – С. 204 – 205.

5. Сачанка, Б. Адраджэнне праз духоўнасць / Б.Сачанка // Літаратура і мастацтва. – 1993. – 29 мая.

6. Карачун, Р. І адзін у полі воін / Р.Карачун, Т.Тамашэвіч // Гродзенская праўда. – 1994. – 1 сакавіка.

7. Лепешаў Іван Якаўлевіч // Беларуская мова: Энцыклапедыя. – Мінск, 1994. – С. 304 – 305.

8. Даследчык фразеалагізмаў // Літаратура і мастацтва. – 1994. – 21 кастрычніка.

9. Віншуем юбіляра // Роднае слова. – 1994. – № 10. – С. 30.

10. Тамашэвіч, Т. Даследчык роднага слова / Т.Тамашэвіч // Свіцязь. – 1994. – № 3. – С. 129.

11. Крыўко, М. Зайздросны лёс вялікага працаўніка / М.Крыўко // Наша слова. – 1994. – № 45. – С. 6.

12. Сабасцян, Б. Шлях у навуку пачынаўся ў Берштах / Б.Сабасцян // Дзянніца. – 1994. – 10 снежня.

13. Лепешаў Іван Якаўлевіч // Беларусь: Энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 1995. – С. 422.

14. Даніловіч, М. Навука-98 на філалагічным / М.Даніловіч // Гродзенскі універсітэт. – 1999. – 5 мая.

15. Коўзкі, М. Доля праўды / М.Коўзкі // Літаратура і мастацтва. – 1997. – 10 кастрычніка.

16. Даніловіч, М.А. Слова пра Настаўніка / М.А.Даніловіч // Прафесар Іван Якаўлевіч Лепешаў: Бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці па беларускім мовазнаўстве. – Гродна, 1999. – С. 7 – 10.

17. Тамашэвіч, Т.І. На ніве роднага слова / Т.І.Тамашэвіч // Прафесар Іван Якаўлевіч Лепешаў: Бібліяграфічны агляд навукова-педагагічнай дзейнасці па беларускім мовазнаўстве. – Гродна, 1999. – С. 10 – 13.

18. Лепешаў Іван Якаўлевіч // Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы: Біябібліяграфічны даведнік. – Гродна, 1999. – С. 285 – 287.

19. Даніловіч, М. Віншуем юбіляра / М.Даніловіч // Роднае слова. – 1999. – № 10. – С. 68.

